## У НУМАРЫ:

*Марына ВАРАБЕЙ*

# КАЛІ ПАХНЕ ВІШНЯ

* * *

Цень абпаленых крылаў ляжыць на зямлі,
І жалобныя песні чуваць паміж шэрых
Тых дамоў, дзе раней мы схавацца маглі,
Дзе прайшоў дзён бяссонечных шэраг.
Тая птушка даўно не прыносіць дзяцей…
Яна плача ў гняздзе па сваіх, што забілі
Злыя людзі. Жыццё дзень у дзень карацей…
Мы маўчым… Тут сябе мы згубілі.

* * *

Людзі беглі. Ці ад паморка,
Ці каб паспець на чарговую рэвалюцыю.
Усе мелі зброю.
(Ці ім так здавалася!)
Калі вяроўку і мыла лічыць зброяй.
Пагражаць сваёй
Асабістай непрысутнасцю
У свеце. Пад святлом
Адвечнай лямпы.

**КАЛІ ПАХНЕ ВІШНЯ**

Збяры мяне па кавалках
У час, калі пахне вішня.
Вазьмі ты мяне ўсю цалкам,
Я буду табе не лішняй.
Вазьмі, калі навальніца,
Калі ўсе спяшацца будуць.
А я так хачу спыніцца.
Больш я не пайду нікуды.
Вазьмі — цішыня мне ежа.
І подых твой праз далоні —
І скон, і жыццё без межаў



***Марына Варабей нарадзілася ў 1988 годзе ў вёсцы Раманаўшчына Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж (фатограф). Цяпер — студэнтка трэцяга курса філалагічнага факультэта БДУ.***

У блякла-самотным сутонні.
Вазьмі тое сонца сонцаў,
Адзінае для планеты,
Дзе позірк яго бясконцы,
Вар'яцтвам чужым сагрэты.
Вазьмі, бо я ўжо не веру,
Што чырвань і пах у змроку
У свеце займеюць меру,
Што бачна любому воку.

* * *

Ляжаць і думаць, што ты ёсць.
І, столь прагледзеўшы да дзірак,
Трымаць пад скурай толькі злосць,
Лічыць, што ты — забіты лірык.

А твар не росны у цябе —
Сухі пагляд, такія ж вусны…
І думка змрочная шкрабе,
Тугой пятлі авал — спакусны.

**АНТЫПАЗІТЫЎ**

Голад не цётка.
Холад. Іголка. Сіненькі.
Бедны, дрыготкі.
Ўстане на золку. Вынікі.

Ціха, па сценцы.
Ў шэрай сукенцы. Выкраду.
Я не малюся.
Побач у скрусе. Павяду.

Рукі. Вяроўкі.
Ногі. Вандроўка. На мяжы.
Сонца на шыі.
Вочы закрыю. Завяжы.

Антыпазітыў — сны мае.
Антыпазітыў — дні мае.

* * *

Я твой Яма, я ваш Яма.
Я загіну першы тут.
Роўна стану, поўна яма,
Што мне лекі, што мне бруд?!

Я набуду страху-спуду
На запас, каб даць бяды.
Год на трыста, без прысуду.
Да наступнай серады.

Хай малыя вераць зману,
Хай збіраюцца ў гурты.
Хай гарматным мясам стануць —
Разяватыя раты….

Хай ідуць. Бездапаможны
Генерал пад голас труб.
І маўклівы… Ўсе і кожны…
Кожнага чакае слуп.

*Яўгенія РУЛЬ*

# ДАЛЁКА І ПОБАЧ

***Апавяданне***

Восеньскі ўспамін абудзіў дзяўчыну позняй раніцай. Яна ўсміхнулася. Штосьці да болю знаёмае раптам так сціснула сэрца, аж трываць немагчыма. Трэба было ратаваць сябе.

Колькі хвілін мінула, а яна ўжо шпарка крочыла да аўтобуснага прыпынку. Збіралася ў цэнтр горада. Вочы яе аж зіхацелі ад радасных думак, а на вейках пераліваліся кропелькі талага снегу, які толькі што пайшоў. Першы снег. Дзіцячая душа яе так доўга чакала гэтых сняжынак, марачы пра снегавіка. Снегавік… На гэтай думцы яна раптам спынілася. Гэта ж ён казаў пра снегавіка, гэта ж яго яна віншавала з першым снегам год таму.

Алеська, яе мілы Алеська… Яна так рэдка сустракалася з ім і шчыра прызнавалася самой сабе, што не заўсёды думала пра яго. Але, калі ўспамінала, ледзьве магла стрымаць слёзы. І вось цяпер... Навошта яна паехала ў цэнтр? І чаму ёй не сядзелася ў хаце?

З-за аблокаў вызірнула сонца, і першы лёгкі сняжок пачаў знікаць. Дваякія пачуцці перапаўнялі дзяўчыну: і радасць гэтаму дню ды сонейку, і нейкая страта, пакута, што не ўсемагутная яна. Не можа нават захаваць снег, якога так доўга чакала.

Нарэшце дабралася да цэнтра. Усё тут такое старое і адначасова нейкае новае. Не думаючы, пайшла туды, куды вялі яе ўспаміны. Вось і адна з любімых мясцін. Прыгожы фантан. Шкадавала, што ён даўно ўжо не працуе. Гэта тут Жэня аднойчы сустрэла анёла. Сапраўднага анёла, які сказаў ёй, што гэта месца чароўнае. Яно ж і праўда… Гэта тут яны сядзелі разам і размаўлялі пра мастацтва. А ён і не ведаў, якое глупства дзяўчына хацела здзейсніць у гэтым парку. Яна ўздумала надрапаць сваё імя ля фантана. Але не зрабіла гэтага, бо апошнім часам ейнае імя ёй падабалася толькі тады, калі злятала з яго вуснаў. Так проста, але вельмі ласкава і неяк самабытна ён прамаўляў яе імя.

Калі яны ўпершыню сустрэліся, то яна падумала, што абавязкова пабачыць яго яшчэ раз. Хаця не ведала ні прозвішча, ні адраса хлопца. Але для яе ж няма нічога немагчымага. Дзівачкай клічуць яе здаўна. Яна звыкла да гэтага.

І сустрэліся яны. Вось жа свет які маленькі. Дзівакоў зводзіць разам. Аказалася, і хадзіць нікуды не трэба.



***Яўгенія Руль нарадзілася ў горадзе Навагрудку. Студэнтка чацвёртага курса Інстытута журналістыкі БДУ. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах, супрацоўнічала з каналам «Культура» Беларускага радыё. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Услышь мой голос на заре…» Удзельніца і пераможца рознаўзроўневых алімпіяд па беларускай мове і літаратуры.***

Жылі яны ў адным інтэрнаце. Там і пазнаёміліся. Нічога іх не звязвала, акрамя некалькіх кароткіх сустрэч ды міні-вандровак непадалёк ад жытла. А тады нічога большага і не хацелася. Проста ён быў, і яна была. Нават і не сябравалі яны добра, але былі. Побач.

Калі ж з’ехалі абодва з інтэрната, то забалела нешта ў грудзях дзяўчыны. Што да хлопца, дык ён казаў, быццам рады. А яна? Яна толькі паспела набыць сяброў. І ён. Ён быў маленечкай часцінкай яе жыцця ў інтэрнаце.

* * *

Апантаная ідэяй, Жэня працавала ўсё лета. Ёй так закарцела стаць паэткай, бо яна працалюбівая і самакрытычная ды ўпартая да неверагоднасці. Толькі на адзінаццаць дзён здолела выбрацца адпачыць. Мора… Гарэза, яна так красамоўна распавядала знаёмым пра мора, быццам ведала там кожную кропельку салёнай вады. Ніхто і здагадацца не мог, што дзяўчына настолькі таленавітая, што адной сілай уяўлення, натхнення і жадання можа пабываць дзе заўгодна.

Жэня вырашыла канчаткова: паедзе на мора. Але з кім? Сашка, што кахаў яе з дзяцінства, не верыў ёй ды ўсё роўна кахаў. Але ж на мора ехаць з ёй не адважваўся. Вось дзівак. Яна тады па старой сваёй звычцы ўбіла сабе ў галаву, што павінна зрабіць некалькі важных учынкаў: выцягнуць матулю на мора, а самой больш пісаць, каб даказаць усяму свету, што той куточак зямлі, дзе яна нарадзілася, шмат чаго варты.

Першую задуму ажыццявіць аказалася няпроста, але яна знайшла выйсце. А вось пісаць... Усю дарогу яна думала, пра што напіша.

— Ты толькі больш пішы. Пішы, пакуль ёсць час, — казала па дарозе матуля.

— Я ведаю, мама. Я ўжо столькі ў галаве ўсяго перабрала і склала.

— Дык чаму не запісваеш? — не разумела маці.

— А я…

«А сапраўды? Колькі, магчыма, геніяльных вершаў загінула, — думала дзяўчына, соладка пацягваючыся ў такім няўтульным аўтобусе. — А ехаць яшчэ амаль суткі».

* * *

— Не колькасцю, а якасцю, мама! — дзелавіта выгукнула дзяўчына ў першы дзень адпачынку.

— Дык ты плавай, адпачывай, — ласкава падахвочвала матуля.

А што яшчэ скажа маці? Яна ж ведала сваю крыху дзіўнаватую дачку. Дый ганарылася ёй бязмерна. Не кожнай жа пашчасціць нарадзіць такую паэтку…

А вершы пісаліся. Спачатку трохі самотныя. Цяжка было на сэрцы ад таго, што мара здзейснілася, а нейкай узнёсласці ўсё ж няма. Тым больш, маці выглядала стомленай. Яна клалася спаць рана, а дзяўчына ціхенька плакала побач з ёй ад немагчымасці верыць у тое, што прыдумала…

* * *

Дні беглі сваёй чарадой. Маці павесялела. Набыла доўгачаканы крымскі загар.

Дзяўчына, весела ўсміхаючыся, збіралася ў ванны пакой. Яна радавалася таму, што застанецца адна ў белай пене і зможа падумаць…

Маці ж павольна збіралася на мора. Віталася з суседкамі, слухала, як хтосьці ў гасцінічным кафетэрыі зноў уключыў старую мелодыю. А гарэза-дачка назірала, як раўчукі мыльнай вады збягалі па яе доўгіх валасах. Валасы яе сапраўды былі прыгожыя, трошкі кучаравіліся, а на сонцы набывалі медзяное адценне. Яна лавіла рукамі кропелькі вады, а тым часам у галаве нараджаліся новыя радкі.

З ёй заўсёды было так. Вершы ішлі адзін за адным. Такія розныя, але аднолькава прасякнутыя каханнем. Думак было дастаткова, каб адчуваць сябе шчаслівай, каханай… Але кім каханай? Яна ведала, што там, у Мінску, яе чакае Мікола, а ў Гародні — Саша, ды і Сярожа ўсё марыць пра яе. Так, яна пра ўсё гэта ведала, але не гэта ёй трэба. Яна хацела таго, чаго яшчэ не зведала. Таму ўспомніла Алеся. Яна не кахала яго, нават не вельмі добра ведала. Таму ён і здаваўся ёй прывабным, незнаёмым і родным. Яна ж і хацела ўвесь час нейкай загадкі.

— Дачушка, ты хутка? Няўжо, не пойдзеш загараць? — паклікала матуля.

— Ідуууу, — адазвалася дзяўчына.

Некалькі хвілін — і яны крочылі на марское ўзбярэжжа ў светлых капелюшах.

Плавалі яны па чарзе. Надышла чарга маці. Але яна ляжала моўчкі на жываце, падставіўшы спіну палаючаму сонцу. Жэня ж назірала за маладымі парамі. Раптам у галаву прыйшла думка: чаму яна яшчэ ні з кім не пазнаёмілася? Супакойвала сябе тым, што ў Беларусі жыве яе каханне. А каго яна называла каханнем? Больш за ўсё, напэўна, Міколу, бо ён не рабіў ёй анічога кепскага. Яна ж любіла свабоду і менш за ўсё хацела, каб які-небудзь хлапчук ёй нешта забараняў. А чаму тады цяпер яна абмяжоўвае сябе ў жаданнях? Ёй, відаць, патрэбна было здавацца такой «правільнай», каб добрыя думкі перарасталі ў якасныя вершы.

Паразважаўшы так, дзяўчына з усіх ног пабегла ў марскія хвалі.

— Ну і куды ты знікла? — трохі раззлавалася маці.

— А я так… з дзецьмі ў моры гулялася.

— Сумна табе, мабыць. Іншым раз трэба яшчэ кагосьці ўзяць.

— Мне вельмі добра, мама. А там што-небудзь прыдумаем.

* * *

Раніцай Жэня прачнулася ад гучнага голасу. «Навошта ён так крычыць? Гэта ж сем гадзін яшчэ толькі…»

А потым падумала, што прыехала яна сюды не затым, каб спаць. Трэба рабіць добрыя справы.

— Мам, я столькі вершаў учора ноччу напісала, пакуль ты спала! — весела закрычала дзяўчына.

— Ага, а мне ж усё роўна нічога не паказваеш. Ужо каму-каму, а роднай маці магла б і пачытаць.

— Пачытаеш, калі іх надрукуюць.

— Вось так заўсёды…

— Ну, што ты, мамачка? Збірайся ў горад, сёння нас чакаюць новыя адкрыцці.

Цікавым і насычаным было падарожжа. Маці нарэшце зразумела: добра, што згадзілася паехаць. Гэта ж самыя незабыўныя моманты. Толькі яна, дачка, мора і блакітнае бязмежжа хваль ды нябеснага прасцягу.

— Мама, глядзі, вунь параход плыве! Здаецца, ён зусім побач, але так далёка…

— Так, далёка і побач, — у роздуме, неяк цягнучы словы адказала матуля.

— Праўда ж, гэта шчасце? Сапраўднае шчасце? — Жэня з захапленнем тузала маці за руку.

— Ш…шчасце, дачушка, шчасце…

Сонца хавалася ўжо за гарызонтам. Маці выглядала стомленай. Рана пайшла спаць. Што непакоіла яе? Дачка-то ведала. Яны абедзве лічылі, што без іх хтосьці або штосьці прападзе, што яны абавязаны ўсім дапамагаць. Не так і важана, што будзе з імі.

Жэня стаяла на балконе і пазірала на амаль чорнае ўжо неба. Думала, якое яно цяпер там, на радзіме. А яшчэ думала, што маці перажывае. Ляжыць і дакарае, што лепш дачцэ было б з моладдзю, а то ўсё разам ды разам — ніякіх знаёмстваў. Так, Жэня была вельмі камунікабельная, у яе знаёмых — хоць адбаўляй! І, можа, не хапала ёй цяпер размоў з новымі знаёмымі. Але яна радая таму, што пакуль яна з маці, то можа пагуляць у самаадданую дзяўчыну. Тую, якая не здрадзіць каханаму хлопцу.

Але хто яе хлопец? Гэта быў чарговы раз, калі яна ўспомніла Алеся. «Я магла б яго кахаць… Калі б яго кахала, то ўвесь свет перакульнуўся б з ног на галаву. Мне хацелася б вярнуцца хутчэй дамоў, абняць яго моцна-моцна… А магла б і з сабою забраць. Вось цудоўна было б!»

* * *

Жэня прачнулася, калі з яе разняволеных рук выпаў ліст паперы з недапісаным вершам. Роўнай хадой, нібы слухаючыся кагосьці, пайшла яна ў ложак, дзе ледзь чутна сапела маці.

— Ты побач са мной, але думкі твае далёка… — праз сон прашаптала жанчына.

* * *

І вось жа кажуць, што свет цесны. У крымскім горадзе, у гэтым адарваным ад Сусвету лапічку зямлі, сустрэла Жэня знаёмую. Яшчэ некалькі дзён таму дзяўчына ўзрадавалася б падзеі, але набліжаўся час ад’езду. Хацелася ўжо ў Мінск, ды ведала, што мора яшчэ як мінімум год не ўбачыць.

— Пойдзем на танцы з намі! — запрасіла Ірына.

Добрая дзяўчына, толькі ж сакатала без перадыху пра што трэба і пра што не трэба. Але за такую шчырасць Жэня яе і паважала. Папыталася ў сябе: чаму яны не сябравалі раней? А раней у кожнай свой клопат быў. Але адным вечарам яны добра пагулялі, нагаварыўшыся ад душы і ўдосталь.

А наступным вечарам дзяўчыны хутка сабраліся і пайшлі на танцы.

Вечар выдаўся вясёлы. Да дзвюх прыгожых дзяўчат бясконца падыходзілі хлопцы. Ім нават падаравалі па букеціку белых руж. Прыемна было, з аднаго боку. А з іншага — нават і не важна, што было з іншага. Жэня ведала, што праз дзень ад’язджае ў Беларусь. А за Ірыну шчыра радавалася. Да яе заляцаўся малады расіянін.

* * *

Ад’язджалі яны вечарам. Гэта было, як гавораць, на руку Жэні. Вырашыла: калі ўсе заснуць, то зможа падумаць, паразважаць, канчаткова ўсё ўзважыць. Дзяўчына прывыкла да самааналізу з дзяцінства. Ніхто яе гэтаму не вучыў. Любіла сабраць усю сям’ю ў зале, каб палюбавацца на створаную чысціню і дабрабыт, а потым

ціхенька сысці ў свой пакой і там пра ўсё падумаць. Часам чакала зручнага моманту, каб паплакаць. Проста так. Не ведала і навошта. Але, калі пачынала, успамінала ўсё набалелае. Хаця часцей плакала з-за немагчымасці змяніць жыццё людзей да лепшага. Яе лічылі дзівачкай, але любілі. Усе любілі, хто добра ведаў. І кахалі. А яна ўсё думала, што не заслугоўвае гэтага. І сама не магла шчыра пакахаць, бо ў яе ж была важная місія на зямлі — любіць усіх і дапамагаць кожнаму.

За вокнамі аўтобуса сцямнела. Гладка беглі колы па ўкраінскай шашы. Жэня пазірала ў шыбу і ўспамінала ўсё, што адбылося за дванаццаць дзён. Канешне, было цікава, але яна страціла галоўнае — мэту. Пабачыла і зрабіла ўсё, што хацела. Дык што цяпер? Не доўга яна заставалася ў разгубленым стане. Зразумела, што трэба вырашыць для сябе, навошта яна едзе ў Мінск.

— Я еду да свайго кахання, — прашаптала Жэня, прытуліўшыся да шыбы, каб ніхто не пачуў. — Яно яшчэ далёка, але ўжо побач. Яно ўжо існуе і будзе жыць.

З такімі словамі, што застылі на вуснах, неяк уладкавалася на нязручным сядзенні і паспрабавала забыцца на колькі хвілін.

Дзіўна, хутка аўтобус прыпыніўся. Людзі павысоўваліся на вуліцу. Кавуны, дыні пасажыры неслі ў руках.

— Вось дык шчасце выпала — кавуны, дыні… — Жэня пачала ўяўляць, як корміць кавуном свайго Алеся.

За гэтую доўгую ноч у аўтобусе ён ужо стаў сапраўды амаль ЯЕ Алесем. Жэня змагла (як заўсёды) паверыць самой сабе, сваім выдумкам. Яна хацела найхутчэйшага вяртання ў Беларусь. Бо там быў ён, яе Алесь.

* * *

Жэня даўно заўважыла, што дарога дамоў заўсёды карацейшая. Хутка апынуліся на радзіме.

Выйшлі на чыгуначным вакзале. Вялізную сумку трэба было б цягнуць, калі б не ён, Мікола. Хлопец ішоў насустрач з усмешкай, з залізанымі валасамі, у белай кашулі і чорных штанах. І навошта яна патэлефанавала? Зразумела, хацеў спадабацца. Але Жэні не даспадобы прыйшлася такая святочнасць. Яна думала толькі пра тое, што хутка іхні цягнік.

Маці прысела трошкі адпачыць, а Мікола прапанаваў Жэні схадзіць па марожанае ці газіроўку. Надвор'е стаяла не горшае за крымскае.

— Я так сумаваў. Кожны дзень хадзіў па тых месцах, дзе мы гулялі разам, не мог спаць… усё думаў, думаў пра цябе… — пачаў нарэшце Мікола. — І вось ты побач…

— Я далёка…

— Што? Я не пачуў.

— Я кажу, што мой цягнік ужо на платформе. Я зноў буду далёка ад цябе.

— Але ж у нашых сэрцах…

— Так, у тваім сэрцы я застануся назаўсёды, — перарвала Жэня, каб зусім не ўзарвацца ды не нагрубіць.

— Ну, да сустрэчы!

— Ага.

Жэня ехала дамоў шчаслівая. Яе радавала тое, што ў галаве хаця б думкі цвярозыя з'явіліся. А хутка яна ўбачыць тату, бабулю. Усё ім эмацыянальна раскажа. Ну, добра, хай не сёння, бо стомленая пасля дарогі. Але раскажа…

* * *

Прамінула некалькі месяцаў. Алеся яна бачыла толькі пару разоў. Жэня ўжо не сумнявалася, што кахае хлопца. Проста кахае, без усялякіх абавязкаў, якія так абцяжарваюць жыццё. Сустрэчы іх былі рэдкімі, але такімі чаканымі і незабыўнымі. Толькі Алесь разумеў яе творчасць. Толькі з яго вуснаў так прыгожа гучала ейнае імя. А яшчэ ён называў Жэню сонейкам. З Алесем яна магла адчуваць сябе гарэзайпадлеткам, абсалютна забыўшыся на ўсе праблемы. Ім было добра разам.

Алесь лічыў Жэню выдатнай дзяўчынкай, а сябе дрэнным хлопцам. Яна ж — з дакладнасцю ды наадварот. Можа, гэтыя заніжаныя самаацэнкі і заміналі ім у развіцці адносін. Ды было ў гэтым нешта вельмі чыстае, праўдзівае і добрае. Штосьці своеасаблівае, толькі для іх дваіх.

Жэня прыязджала да Алеся ў госці, ахвяруючы шматлікімі вячэрнімі справамі. І ён быў рады бачыць дзяўчыну ў сваім пакоі.

Такім было іхняе каханне…

* * *

Той позняй раніцай Жэня сядзела ў Александрыйскім парку. Чакала свайго анёла. Яго не было. Можа, ёй хапіла б і тых ведаў, што ён даў дзяўчыне раней.

Жэня прысела ля фантана і хацела ўсё ж такі надрапаць сваё імя. Навошта? Яна ж заўсёды не разумела тых падлеткаў, што распісвалі відныя месцы фразамі кшталту: «Тут быў …» Задумаўшыся, яна ледзь чутна вымавіла: «Сонейка…» А за ёй, як рэхам, адазваўся да болю знаёмы голас:

— Сонейка!

— Ты… Што ты тут робіш? — яе зеленаватыя вочы здаваліся блакітнымі на сонцы, а можа, яшчэ ад шчасця.

— Я… А я з працы іду, — адказаў Алесь.

— Здаецца, твая праца знаходзіцца далекавата адсюль.

— Як бачыш, я побач з табой.

— Ты ведаў, што я тут?

— Не, можа, толькі адчуваў. А ты што?

— А я проста гуляю, набіраюся энергіі.

— І мяне сюды пацягнула. Дзіўна.

Ён прытуліў Жэню да сябе.

— З першым снегам, Алеська!

— Я пад яго і патрапіў, пакуль ішоў. Цябе таксама віншую.

Невядома, колькі часу яны прастаялі ў абдымках на гэтым чароўным месцы. Стаялі моўчкі, зрэдку ўсміхаючыся самім сабе. Ці надвор’ю. Ці шчасцю. Ці каханню. А мо проста — жыццю.

— Ты ўсё ж такі дазволіш мне кахаць цябе? — не вытрывала Жэня.

Алесь паглядзеў на дзяўчыну, а потым мацней прытуліў да сябе і злёгку пацалаваў у нос.

* * *

Зацерусіў лёгкі сняжок. Ён мякка клаўся на шашу, дрэвы, кусты ды фантан. Пабяліў ён і тыя дзве асобы, што зліліся ў адну. Падзьмуў халодны ветрык.

Змянялася надвор’е. А яны заставаліся такімі ж маладымі і бесклапотнымі. І дзьмуў вецер. І церусіў снег...

*Алесь ТАНКЕВІЧ*

# КАЛЬЦАВАЯ СУСТРЭЧЫ



***Алесь Танкевіч нарадзіўся ў 1986 годзе ў горадзе Вілейка Мінскай вобласці. Скончыў факультэт прадпрымальніцтва і кіравання БДАТУ, пазней — там жа магістратуру. Цяпер працуе галоўным эканамістам на прадпрыемстве ў Гомелі. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».***

## МАЗЫРСКІ INDIE-POP

я чуў як нараджаецца музыка.
стыхійная. пад голас, роўна як Chili Peppers.
шпацырны горад няўклюдна напружваецца
спружынай. лопаецца і змаўкае. становіцца лепей

блукаючы вецер пад кепку хукнуў
прыпынку. і знік у пошуках неўтаймаваных скрыняў.
заўважаеш след ад яго і ў вуха
тваё адтапыранае трапляе гук ізаляванай вінілы.

пазней даходзіць што ты якраз малы кампазітар.
мяккімі пальцамі кранаеш драную арматуру.
сігналы аўто святлафоры крыкі з будоўлі твая голая світа.
розніца ціску ў паветры твой нябачны гуру.

авацый пазбегнеш. яны ідуць па раскладу
хвілінаў праз дзесяць калі не пазней.
аднадумцы шукаюць вачыма і тут без музычнага ладу
аніяк. вось пушкін недзе далей ванееў.

за пяць тэлеграфных слупоў ад прыпяці
уся панарама горада табе пад нос. да таго ж ледакол
трамбонам у грудзі. трошкі адыдзеш
туды дзе вецер накідвае хвалі з усіх чатырох бакоў.

## КАЛЬЦАВАЯ СУСТРЭЧЫ

за кальцавой адразу пачынаецца немавед што.
пасля дзесяці крокаў управа губляецца і канцавая.
хацеў драпануць у салодкі горад — атрымай усё
заместа ўсмешак вяскоўцаў, солі ды лустачкі каравая.

сонца так нізка на шыі, што больш няма дзе схавацца.
ды заместа надзеі ў вушах — парэпаныя батарэйкі.
таму апошні крок — назад, дзе плеяда біенальных авацый.

за якімі чаргуюцца здзекі і адзінота.
адзінота і здзекі, здзекі…

а далей — прыадчыненыя дзверы
і акрэслены дым ад сушаных траваў.
і надта ж прыемны сіндром пасля курчы й няспелага гераізму.
«я ішоў да вас пешшу ўслед за трамваем!
бо нехта сказаў
ўсе безбілетныя прылічаюцца да піянераў сацтэрарызму».

апошні прыпынак — яшчэ адзін вечар лета.
сцюдзёныя сэрцы хварэюць горай,
як ад лёгкіх пацалункаў узімку.
а ты — падганяеш сяброў, ляціце ўтрох за рагатым — і гэта
ёсць на адбітках лужынаў.
ці паслясонечных здымках…

## КАЛГАСНІЦА З ПУГАЮ

***А. Т.***

Яна вымятала старыя вуліцы ад хісткіх дамоў
і чакала цябе штовечар на раўнюткім полі.
Месяц не ведаў куды схавацца, таму і пасвіў кароў.
І вучыў іх не падымаць галавы, а яе навучыць не здолеў.

Хіба што тут рабіць, калі не заглядацца на месяц
за якім, як за кіпрым пяром, ганяюцца крывыя мухі.
Возера над табою, і ты як на лепшым клёвым месцы,
каб узяць кілішак, робіш самыя асцярожныя рухі.

І ты далібог Пантыфік, калі ідуць з вадапою статкі.
З мансарды цябе ледзь бачна, а іх абавязкова добра.
І рукі твае, дасюль асцярожныя, пачынаюць пляскаць у ладкі,
каб хоць неяк адпудзіць ад тваёй ідыліі гэтых хвастатых торбаў.

Назаўтра прачнешся ад гукаў вобземлю яе пугі
і на радасцях выскачыш насустрач у адных шкарпэтках.
Маўляў — я мімаходзь вымыць рукі
іду да вады, бо сам гарадскі, і такое здараецца рэдка.

Назаўтра і пасля яе не было, цябе пачынала валтузіць.
Магчыма дарэмна, бо былі вакацыі, танцы і святочныя лады.
Яе маці сказала яна ў Зялёным лузе —
ты аббегаў усе што вакол, а на золку спудзіў зорны статак.

**БРУДНА-БЛАКІТНЫ ГОРАД**

*А. Т.*

За вокнамі з паўсотні дамоў пад брудна-блакітнай адмецінай.
І я дакладна ведаю, што за наступным недзе чакаеш ты.
Як дзве чвэрці гадзіны таму чакала мяне ў сеціўным
парку,
дзе ўсё далёка не гэтак, але супадаюць гады.

А яшчэ раней спілкаваліся ў мандарынавым раі.
На працоўным месцы пакідаючы аранжавыя сляды,
я ўявіў, калі наступным разам зляцімся,
— тады і надалей
нам лепш ісці паасобку. Калі ж не, чакайце бяды!

Бяда прыйшла не адна, і ім не адчынялі.
І стала чуваць нешта цёплае ў гэтым пастэльным даху.
Мы былі тут толькі аднойчы і памяталі, як грымелі сандалі
па запыленых сходах, і раўлі, быццам здані,
без усялякай увагі.

А цяпер сядзелі цішком і на кукішках пілі каву,
толькі цені па сценах гулялі і знікалі ў дробных расколінах.
А мы рыфмавалі, як малпы, і спадзяваліся самі без аніводнай падставы,
пакуль след ад гушчы ў кубках не стаў выразна аголены.

Пакуль прайшло здранцвенне і вечар падпоўз з дазору,
і неўтаймоўныя рухі склікалі да споведзі сотні мільёнаў моваў —
і цемра ляпіла з валоссяў снапкі і хавала галінкі зорак!

*Андрэй ФЕДАРЭНКА*

# ДЗІКІ ЛУГ

*Аповесць*



***Андрэй Федарэнка нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна. Працуе ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Выдаў кнігі прозы «Гісторыя хваробы», «Смута», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа.***

## I

Урочышча называлася Дзікі Луг. Было да яго кіламетраў дваццаць ад вёскі, за Нароўляю, па другі бок Прыпяці. Кожны год у ліпені туды вербавалі касцоў і жанок, бо мясцовых рук не хапала, а травы перастойвалі.

Рыхтаваліся да паездкі грунтоўна. Брыгадзір паляк Маслоўскі нават рабіў абход кожнага двара, правяраў, ці ўсё ў парадку. Мужчыны кляпалі косы, устаўлялі зубы ў граблі, выразалі з сырых асін мянташкі, запасаліся новенькімі зярністымі брускамі. У кожнага мелася адмысловае паленца з убітай бабкай, каб там, на месцы, пакляпаць. Жанкі пакавалі ў клункі закуску, рыхтавалі флягі, бідоны, біклажкі — пад ваду, а некаторыя, самыя эканомныя — пад беражоны яшчэ з вясны бярозавы квас, перастаялы, сівушны на выгляд і на смак.

Асабліва радасці было малым. Дзікі Луг у іх уяўленні — рай зямны. Там начуюць у шалашах з сена, ядуць каля вогнішчаў, расказваюць розныя гісторыі, там Прыпяць, у якой столькі рыбы, што сама выскоквае з вады на бераг. Малыя рабілі вуды, плавілі ў лыжках волава для грузілаў, вучыліся на выгане закідваць донкі, збіралі пад калодамі тоўстых чарвякоў-выпаўзкаў і складвалі ў бляшанкі з-пад халвы, не забыўшы прабіць у накрыўцы дзірачкі, каб даставіць чарвякоў жывымі — шлях няблізкі!

Выязджалі зацемна, гадзіны ў чатыры раніцы, на дзвюх грузавых машынах. Людзі набіваліся ў кузавы: мужчыны, дзеці, бабы — каторая і з немаўлём. У пярэднюю кабіну побач з шафёрам сядаў Маслоўскі. Дома заставаліся толькі самыя старыя і падлеткі — глядзець гаспадарку.

Машыны ехалі з уключанымі фарамі. Дарога вяла праз поле з жытам, праз пясчаныя заносы, дзе колы буксавалі і трэба было выгружацца і штурхаць, праз лес з каранямі, ад якіх кішкі з цябе вытрэсвала, і нарэшце кацілася гладкай роўненькай шашою. У ліпені віднее хутка. Сонца яшчэ не ўстала, а ўжо каля Нароўлі светла, толькі над ракой белы туман, нібы вада кіпіць. Прыткнуты да берага, людзей чакаў маторны паром. На

беразе каля яго тапталіся ажно тры начальнікі, усе ў белых сарочках, без пінжакоў, штаны запраўлены ў боты і ва ўсіх трох на раменьчыках афіцэрскія планшэты. Калі пачалі грузіцца, убачылі на пароме бабулю з кароваю — вяроўка накінута на рогі. На нагах у старой кірзавыя чобаты з белымі працёртымі дзірачкамі на халявах, на плячах ваенны кіцель, за спінаю гарбом — хустка з прыпасамі, на твары суровая акамянеласць.

«Хворая карова, — пранеслася між людзей. — На травы вядзе...»

Гэта не было рэдкасцю — калі ў мяцовага люду хварэла скаціна і не памагаў ветэрынар, дык ішлі ў Дзікі Луг, з надзеяю, што жывёліна сама адшукае, што ёй трэба, і вылечыцца.

Застопарылі колы ў машын, адвязалі канат, завёўся матор. Карова павярнула галаву і пачала глядзець на свой бераг.

...Плыве, скрыпіць паром. Плюхае знізу ў дошкі вада. Над ракой туман. У тумане на сярэдзіне адзінокая лодка з рыбаком. І так прыемна пахне бензінчыкам і дымам ад цыгарак!..

## II

Паром з разгону тыцнуўся тупым носам у пясчаны пляж. Мужчыны перакінулі на бераг дашчаты насціл. Бабуля, ні на кога не зірнуўшы, сышла па ім са сваёй кароваю і пасунулася ў прырэчныя зараснікі, трушчачы ботамі сцяблiны балегалову. Выгрузіўся народ, з’ехалі машыны.

Нідзе не было ні пазнакі дарогі. Шырокая, доўгая затока з вербамі адыходзіла ад Прыпяці. За ёй у тумане на пагорку і быў Дзікі Луг. Людзі са сваімі клункамі, граблямі, косамі і віламі на плячах, у сутонні падобныя на паўстанцаў Каліноўскага, цугам пагрэбліся на пагорак, стараючыся ступаць след у след, каб лішне не таптаць траву. Пакуль дабраліся, пярэднія былі мокрыя з галавы да пят, а хітраму начальству, якое замыкала калону, — хоць бы што, толькі боты ад расы блішчэлі.

Адсюль пачыналіся ўчасткі. Уся прасторная абалонь ляжала перад вачыма. Клін нечапанай, белай ад мокрага павуціння травы шырэў на пагорку, звужаўся да затокі і ўпіраўся ў бераг. Злева, унізе, яго мяжу абазначала Прыпяць, а справа, на ўзвышку — няроўная сцяна кустоўя. Хмызняк то залазіў на травяное поле, то адступаў, утвараючы прагалы. А далей, за пагоркам і вакол распасціраліся суцэльныя палескія джунглі, непралазныя зараснікі, пышныя шаты лазняку і алешніку, крушын і вольхаў, шывельгі і вербалозу, і сярод усяго гэтага бяскрайняга зялёнага прастору рэдка вырэзваліся клінкі чыстай травы, ды яшчэ ўзвышаліся, як маякі, то там, то сям адзіночныя дубы з буслянкамі ў ралах.

Гэта было поўнае ўладарства дзікай прыроды, аддадзенай самой сабе, панаванне амаль не кранутай чалавекам першабытнасці, чароўнае запусценне, глушэча, непралазная нізінная дзіч. Толькі рака звязвала з цывілізацыяй, і адзіны спосаб сувязі, калі, не дай Бог, што здарыцца — было крычаць, гукаць цераз раку, каб прыслалі з таго берага паром ці лодку.

Даўно, гадоў дзесяць назад, людзей прывезлі сюды ўпершыню, кожнаму адмералі надзел, абазначылі ўбітымі ў зямлю калочкамі, на зачэсаным месцы хімічным алоўкам упісалі прозвішча касца. Калочкі даўно пусцілі карані, сталі добрымі вербалозінамі. Ужо не трэба было кожны год перамяраць па-новаму. Кожны ведаў свой куст і свой надзел да апошняй купінкі, як уласныя паплоўчыкі дома ў агародзе.

Пакуль людзі звыкла разбрыдаліся і разбіраліся, складвалі клункі, бабы ладзілі шалашыкі з посцілак, мужчыны пастуквалі малаткамі — асаджвалі косы, а каторы спрытнейшы ўжо і мянтачыў, — тры начальнікі таксама не гублялі часу. Адзін паказаў пальцам направа, другі рукой махнуў налева, трэці прыставіў далонь да ілба, хоць сонца было збоку ад яго і яшчэ не свяціла ў вочы... І на тым місія іх скончылася. Завярнуліся і спаважна пайшлі пратаптанай сцежкаю ўніз да парома. Маслоўскі на хаду даў апошняе неабавязковае распараджэнне Кулінічу, якога яшчэ ў вёсцы прызначыў замест сябе: «Ну, глядзіце тут», — і заспяшаўся следам. Замарочны дзень у яго наперадзе: мітусня, бегатня, кантора, бухгалтэрыя... Аднаму дагадзі, з другім падхалімнічай, на трэцяга прыкрыкні, з чацвёртым цераз сілу выпі... А ўсё для людзей, каб грошай больш выцыганіць.

Яшчэ цяжкая ад расы трава калыхалася за імі, а мужчыны ўжо шахалі адладжанымі косамі. Трава па пояс, роўная, не пераспелая, дажджом і ветрам не здратаваная, косіцца лёгка; толькі чутно: жых! жых! Фізічная асалода чуць гэты гук — як падсякае танюткая сталь падатлівыя сцябліны, скідвае іх справа налева. Туман апаў на зямлю. Роснае павуцінне блішчыць на сонцы. Хоць сонца ўжо добра ўгравае, а паміж касцоў не ўбачыш голага цела: адзіная вольнасць — адкасаць у кашулі рукавы. Маленькія жабкі так і пстрыкаюць з-пад кос. З бліжэйшых дубоў зляцелі буслы і ходзяць кожны за сваім касцом, дзюбаюць недарэзкаў. Уперамешку з буслямі ззаду бабы з большымі дзецьмі растрасаюць траву; меншыя не адыходзяць ад шалашыкаў — аказваецца, ім забаронена нават пазіраць у бок ракі, не тое, што да вады спускацца: Прыпяць такая непрадказальная, што, калі захоча, можа ўтапіць нават на сухім беразе. Вось табе і рыбалка, вось табе і чаканы Дзікі Луг! Хаця, калі шчыра, саміх туды не надта цягне, яны яшчэ на пароме ўбачылі, што гэта сапраўды небяспечная, глыбокая, шырокая, вялікая рака, асабліва тут, перад упадзеннем у Дняпро. Так што цяпер толькі і забаўкі, калі хто з касцоў захоча папіць і яму паднясеш, або знарок, па дабрыні душэўнай, папросіць прыкурыць папяросіну, — прыкурваеш, маці бачыць, а нічога не кажа.

Мужчыны косяць зверху ўніз. Пакосы доўгія, канчаюцца ля самай затокі. Пад вербамі, схаваўшыся ў цень, стаяць машыны. Вербы тут такія старыя і тоўстыя, што ў абхваце не саступяць дубам. У трэшчынах іх шурпатай кары лёгка хаваецца далонь. Самі дрэвы стаяць на беразе, а карані пераблытанымі вяроўкамі круцяцца па зямлі і залазяць у ваду. Вада каля гэтага берага глыбокая, цёмная, халодная, калі апусціць руку, і чыстая — ні травінкі, нават раскі няма. Затое процілеглы бераг — адкаты, нізкі, раскашуе раслiннасцю. Ён увесь зарос сітнікам, аерам, рагозам, а бліжэй да сярэдзіны — трохліснікам, і там на вадзе песцяцца жоўтыя гарлачыкі і незвычайнай белаты буйныя лілеі. І канешне ж, скрозь — і на беразе, і ў вадзе — знаёмы чарот са сваімі карычневымі і чорнымі катахамі; з яго сцяблін атрымліваюцца неблагія шпагі, на якіх можна біцца, пакуль ліпкі пух не пачне лезці ў вочы і ў рот, казытаць у носе; а яшчэ іх можна, каб паддобрыцца да маці, зрэзаць тры-пяць штук і паставіць у слоік на стале — прыгожа...

Там, каля таго берага, поўна рыбы. І ўздрыгвае ў касца сярэдзіна, калі даносіцца адтуль салодкі плёхат... Але ведаюць з горкага вопыту — нялёгка здабыць прыпяцкую рыбку, з-за чаратоў не кінеш ні вуду, ні донку, не ўлезеш з таптухай ці «кабылаю», якія прыдатны толькі для балацянак, копанак, стаўкоў глыбінёй жабе па калена, а тут трэба адмысловыя снасці, якіх яны нават назваў не ведаюць, толькі бачылі, як мясцовыя ловяць...

Застаецца толькі з зайздрасцю на той чаратовы рай пазіраць.

Дакошваючы да затокі, мужчыны боўтаюць з берага косамі ў вадзе. А хто спускаецца да Прыпяці, на пляж, куды прычальваў раніцай паром. Па свежых і высахлых зеленаватых палосках ціны, як па гадавых кольцах, можна вызначыць, якой велічыні бываюць хвалі ў непагадзь, ці калі расплюхае іх буксір з цяжкай баржай або пасажырская «Ракета» на сваіх крылах. Тут сярод living рознага нанесенага вадой друзу трапляюцца ракавіны — чорныя, цяжкія, а ўсярэдзіне, калі створкі такой расчапіць ножыкам, — з перламутравым адлівам і з вострым пахам свежай рыбы. Касцы мочаць у вадзе мянташкі, шлэпаюць імі па белым дробным пясочку, каб набіўся ў пазы, — і лепш за любы брусок.

## III

— Давай, давай, давай! — падганяе Куленіч, калі бачыць, што хто прыстаў, ці спыніўся выцерці пот, ці каса не так ходзіць у руках, або занадта марудна падымаецца на пагорак.

— Ніжай! ніжай! ніжай! — пакрыквае ён, калі няма да чаго прычапіцца. У роце яго паблісквае залаты цыганскі зуб, даўно дакураная, патухлая беламорына прыліпла да губы.

Сам ён худы — скура, косці ды мускулы. Такіх звычайна ніякая ўтома не бярэ. Лясніцкая фуражка з зялёным аколышам зухавата ссунута набок, з-пад брыля вылазіць чорны чуб з белымі павуцінкамі сівізны. З халявы звешваецца раменьчык мянташкі. Яму ўжо за сорак, але ён толькі нядаўна, у мінулым годзе, ажаніўся; узяў не са сваёй вёскі, а ажно з Махнавіч — таксама, праўда, немаладую, затое якую ўдалую! У свае трыццаць яна выглядае як дзяўчынка-падлетак. Такая вясёлая, спрытная, са зграбнай постаццю і з мілым наівам у твары. Ёсць у іх ужо маленькі сынок. І ён з імі тут, на лузе, спіць у шалашы пад полагам з марлі. Рахманы, хоць бы піскнуў. Махновачка час ад часу ўтыркае граблі ў мяккую зямлю і бяжыць глядзець, выдзьмухвае з шалаша камароў, якія шыюцца ў цень ад сонца. Яна сама ўся як сонца. Усё ёй у навіну — і яе роля замужняй кабеты, і маладой маці, і клапатлівай гаспадыні... Яна ніколі не ведала самастойнасці, век пражыла ў адной хаце разам з бацькамі, і цяпер прагна, з жарам аддаецца гэтым новым абставінам свайго жыцця, якое, аказваецца, можа быць такім поўным, аграмадным!.. Шчаслівая! І як ні стараецца прытушыць бляск у вачах, а ўсё роўна зыходзіць ад яе ззянне, аж наўкол разліваецца: толькі гляньце, людзі, якой я ўмею быць! — і хіба што зрэдку, як воблачка на сонца, набягае на твар вінаватасць — за тое, што ёй пашанцавала, і нават лёгкі спалох: а возьме ды здарыцца нешта, і знікне так раптоўна зваленае на яе шчасце?..

Куленіч да жаніцьбы быў ціхі, спакойны чалавек, «дабрачы», як яго малодшы брат Пятро характарызуе. Працаваў у лясніцтве. За парубкі дужа не ганяў, наадварот, калі натыкаўся ў лесе на свежы пень, дык закрываў мохам і прытоптваў тырсу. Толькі калі ўжо зусім нахабна, проста на вуліцы звальвалі машыну крадзеных дроў, дык папярэджваў, каб схавалі на задворкі, ды не шморгалі двухручкаю, а яго, Куленіча, з бензапілою пазвалі. Ніколі не браў ні грошай, ні магарычоў. «Аддасі які дзень», — буркаў, што значыла, каб баба памагла жаць, ці бульбу скапаць, ці памалаціць, ці сечкі нарэзаць, ці капусты ўвосень нашаткаваць. Прычым, як некаторыя з усходніх палешукоў, ён не змякчаў «ц» і ў яго гучала — «капац, рэзац, шаткавац». Удачлівы паляўнічы, ён часта прыносіў з лесу то зайца, то лісу, а бывала, глушца, цецерука, адзін раз нават янота. Да яго ў хату знарок прыходзілі падзівіцца,ківалі

галовамі, цмокалі языкамі ды так і не верылі, што здабыча з іхняга лесу. Мясцовы люд, вякамі жывучы ў сваіх лясах і балотах, па большасці нецікаўны, флору і фаўну ведае слаба: звычка бачыць вакол сябе адно й тое ж прытупляе ўвагу. Ім лягчэй паверыць, што ў Дальніх Ставах жыве нешта, вогненным шарам гарыць і *пужае*, чым у сапраўдныя, рэальныя рэчы, у тое, што пад носам.

«Не, то не ў нас... У нас не водзіцца, у нас бедненько... Кудысь ездзіў, але ж ён не скажа...»

Гэта праўда, ён нешматслоўны быў. Нават калі збіраліся зімою мужчыны выпіць, у карты пагуляць — выпіваў крышку, сядзеў маўчком, глядзеў, як іншыя гуляюць, сам адмахваўся: ай, яны сняцца ўночы!..

Варта ж было чалавеку ажаніцца, то быццам яго падмянілі. Задраў Кулініч нос! Набраў у галаву, што ён ужо немавед хто. Пачаў вылазіць наперад, умешвацца ў размовы, перабіваць, нават камандаваць... Як і цяпер, на лузе. Толькі чуваць:

— Давай-давай і ніжай-ніжай!..

Зрэшты, ніхто не крыўдуе. Самі зацікаўлены, каб зрабіць лепш, бо будзе ж праверка. Прыедуць чужыя людзі, убачаць абы-якую пакошу, скажуць — брак.

Суседзяў у Кулініча трое. Па правую руку малодшы брат Пятро, той самы «дабрачы»; па левую — два бабылі, стары і малады, дзед Мікалай Мірон і дзевятнаццацігадовы Грыша Ігнатаў. Яны ўдвух косяць адну дзялянку. За імі няма каму растрасаць, і ўвішная Махновачка паспявае і на сваёй паласе, і на іхняй — шчыруе, стараецца, толькі лыткі незагарэлыя з-пад спадніцы мільгаюць.

Гэты Грыгор Ігнатаў, пакуль яго аднагодкі служылі ў арміі, адсядзеў у турме за бойку год і паўтара месяцы. Цяпер ён адчувае сябе заразным, адрынутым, гнаным — і саромеецца ўсяго да непрыстойнасці. Нават косіць ён угнуўшы галаву, вачэй не падымае, нібы крадзе. На галаве ў яго пілотка з газеты, шэрыя ад старасці гумавыя боты заклеены кружкамі, выразанымі з веласіпеднай камеры, брусок у яго не цэлы, а палавіна, таму ён трымае яго не ў галянішчы, як нармальныя людзі, а запіхвае ў кішэню штанцоў... І ўсё ў яго неяк не па-даросламу, не па-гаспадарску, несур'ёзна.

Грыгор саромеецца свайго з маладых гадоў заплямленага лёсу, і таго, што косіць не адзін, а ўпрычэпку з дзедам, бо яму, як блазну, не далі свой уласны цэлы ўчастак... Сорамна, што ён ужо вялікі хлопец, а такі непрыгожы: круглы ў рабацінні твар, адтапыраныя вушы, кароткая шыя і нечакана доўгія — як выпрастацца, да каленяў — рукі. Да ўсяго ж ён сын сапраўднага ведзьмака. Яго бацька Ігнат быў аграмаднага росту мужчына, з барадой да пояса, зімой і летам хадзіў босы і толькі ў белым — як здань; большую частку жыцця пражыў адзін у лесе, у зямлянцы, зімаваў ледзь не разам з мядзведзямі ў адным берлагу, ведаў мову звяроў, птушак, дрэў (вядома ж, што бяроза і асіна па-рознаму шапацяць лісткамі пад ветрам), а калі паміраў — тры дні і тры ночы не мог адысці, пакуль не здагадаліся засланку ў печы зняць, дзверцы ў грубе адчыніць і юшкі паадкрываць — тады толькі ў коміне загуло, быццам у сталеплавільнай домне, і дух яго адляцеў.

— Грыша, сынок, не ляці так, ты ж старога зацягаў! — просіць Махновачка.

Пятро са сваёй паласы таксама падае голас:

— Грыгор, у травы ног няма, не ўцячэ!

Яны з дзедам разам працуюць на чыгунцы, і ў Пятра ўжо нібы абавязак ім апекавацца.

— Дзед, ідзі адпачні, я дакашу...

— А я не ўтаміўся! — маладым голасам, бадзёра адказвае Мікалай Мірон. Дзе ў чалавека імя, дзе прозвішча, не разбярэш, і яго завуць хто Мікалаем, хто Міронам, як языку зручней. Яму семдзесят гадоў. Узяты ён не так касіць, колькі на падхват: дзе падгрэбсці з бабамі, дзе касу памагчы падладзіць...

Аднак пакуль дзед ні ў чым не саступае маладому. На два Грыгоравых махі ён робіць адзін, а інтэрвал паміж імі не скарачаецца. Пры тым ён паспявае яшчэ перыядычна піць соду ад пякоткі, якую ён называе — *жога*; спыніцца, дастане пакуначак з газеты, высыпле ў жменю, зап’е вадой з салдацкай біклажкі... На ім чорная форма чыгуначніка. Алюміневые гузікі сцёрты да таго, што ўжо нават не адбіваюць сонца. Душна яму, і ён прыдумаў вентыляцыю: сарочку скінуў, а пінжак адзеў на голае цела, і цяпер з-пад пінжака кусціцца на грудзіне сівы мох. І сам ён падобны на сівы пень. Бываюць у лесе такія пні — стары, але яшчэ моцны, летняе сонца і зімовы мароз выпарылі з яго вільгаць, вятры высушылі, адпаліравалі, і зрабіўся ён цвёрды, як жалеза, стаіць, і будзе стаяць невядома колькі часу, перажыўшы і сваіх спарахнелых суродзічаў, і хілы маладняк.

— Дзед, папі яшчэ соды, — не ўнімаецца Пятро. — Я дакашу за цябе, памагу!..

— А ты ўсім памажы, — раіць ззаду Пятрова жонка Валя. — Ідзі яшчэ брату памажы — яго забыў. Пасля ідзі яшчэ цюрэмшчыку памажы...

Пятро і праўда ўжо цераз край да ўсіх «дабрачы». У яго саладжавая, нечаканая для вясковага мужчыны мянушка — Кветка. Гэта мясцовы прыгажунчык, які памылкова нарадзіўся ў сялянскай хаце. З такой знешнасцю яму трэба было б здымацца ў кіно ці працаваць спецагентам у якім-небудзь непрыкметным куточку буржуазнай Еўропы, пакрысе ўкараняцца, памалу збіраць патрэбныя звесткі... Армію ён адслужыў у Сярэдняй Азіі. У яго альбоме красуецца малады, прыгожы, як кветка, шляхцючок; на галаве замест шаблоннай фуражкі з кукардаю — фарсістая сімпатычная панама. Яна і цяпер на ім. У адрозненне ад Кулініча Пятро ажаніўся рана, адразу пасля службы, узяў старэйшую за сябе на пяць гадоў Валю — гэтую самую, што цяпер, працуючы ззаду граблямі, бурчыць пад нос, не сціхае. Хоць пражылі яны ўжо колькі часу, трое дзяцей-дзяўчынак у іх: Вера, Надзя і чатырохгадовая Любка, — а ладу не было і няма паміж імі. Справа ў тым, што Пятро — горкі п’яніца. Валя яго слабасць тлумачыць так: канешне, ён прыгожы, «кветка», а яна непрыгожая, ён малады, а яна, выматаная дзецьмі, старая, ён добры, асабліва да чужых, а яна паганая... З іншага боку і Пятро ў даўгу не застаецца. Ён ніколі не заве жонку па імені, а толькі *мая*.

«Ты *маёй* не бачыў?»

У п’янага ў яго звычка швэндацца па чужых хатах і расказваць, як Валя яго на сабе сілком жаніла:

«Каб *мая* тады не зацягнула на сябе, дык я б, можа, на машыніста пайшоў вучыцца», — яго няздзейсненая запаветная мара, ездзіць далёка на цягніку, глядзець новыя мясціны, знаёміцца з рознымі цікавымі людзьмі... І пах цеплавознага вугалька. Замест гэтага ён як прыйшоў з арміі, так вось ужо дзесяць гадоў у мазутнай спяцоўцы разам з пенсіянерам Мікалаем Міронам гайкі на чыгунцы круціць, мяняе рэйкі і шпалы, а калі міма праносіцца хуткасны, Пятро толькі пазірае ўслед, прытрымліваючы ад ветру панаму...

П’янаму, Валя помсціць яму езуіцкім спосабам — увечары выграбае ўсе грошы з кішэняў, а раніцай не дае пахмяліцца. І толькі калі бачыць, як яму кепска, ёй самой робіцца весялей, мякчэй на душы. «Баліць? — ласкава-зларадна пытае яна. — Хай пабаліць. А не бадзяйся па хатах. А не кажы, што ў цябе жонка паганая».

— Табе трэба той дзед, — бурчыць Валя. — Табе трэба той цюрэмшчык... Табе трэба чужыя людзі... У цябе свая сям'я, трое дзяцей, хата, жонка...

Замест адказу Пятро выцірае панамай мокрую шыю і глядзіць на сонца. Яго русыя валасы кольцамі прыліплі да лоба, а на падбародку падсыхае мутная кропля.

— О пячэ! Як у барханах!..

І праўда, даўно полудзень. Часцее шорганне бруском і мянташак аб стальное палатно. Вельмі гучна стракочуць конікі. Сытыя буслы то адзін, то другі закідваюць галовы на спіны і клякочуць. Ад сонца ў вачах на зялёнай траве белыя плямы; усё — абалонь, Прыпяць, затока, пракосы — бачыцца не акрэслена, а праз дрогкую смугу. Жоўта-чорныя сляпні віюцца над людзьмі роем; ад паху людскога поту яны адурэлі да таго, што некаторы сядае на касаўё ці грабільна і ўпіваецца замест цела ў гарачае дрэва.

## IV

У абед пацягнуліся ўсе ўніз, у цень, у прахалоду — туды, дзе затока, вербы і машыны. Некаторыя адразу пападалі ад утомы на мяккі мурог пад вербамі, большасць пачала спускацца да вады — як гэта быць на Прыпяці і не пакупацца?

Купанне людзей, што нарадзіліся, выраслі і жывуць сярод лесу і балот, далёка ад вялікай ракі — гэта нешта. Усе яны баяцца вялікай вады, якая рухаецца, плыве, ва ўсіх на генетычным узроўні страх перад ёю, тым больш такой, як Прыпяць. Яны прывыклі да вады стаячай, сажалкавай, кар'ернай, плаваць умеюць у лепшым выпадку па-сабачы і на неглыбокім месцы, каб у любы момант можна было дастаць нагамі дно. Ды і слова «купанне» яны ўжываюць неахвотна, гэта блюзнерства, для малых, а дарослы спаважны чалавек скажа «пайду мыцца».

У кожнага ў руцэ кавалачак мыла. Жанчыны не ідуць у ваду зусім, мыюцца з берага. Што да дзяцей, дык тым ужо і наказваць не трэба: самі асцерагаюцца, і купанне для іх — легчы ў прыбярэжную ваду на жывот, а галавой на мелкае, ці, як пішуць, на плыткае, — нібыта і купаешся, хвалі цябе з галавой накрываюць, нагамі ў вадзе боўтаеш — і разам з тым у вір не зацягне.

Мужчыны з чырвонымі загарэлымі шыямі, з белымі жыватамі і нагамі, усе ў аднолькавых чорных трусах мочаць сабе пад пахамі, жменямі чэрпаюць ваду, абмываюць трохі пот — і давай хутчэй церціся мылам. Мыла не хоча даваць пену ў рачной вадзе. Доўга і старанна, па некалькі разоў, шаруюць галовы. Усё гэта пасля будзе называцца:

«А што мне твая Прыпяць, я ў ёй сто разоў плаваў!»

Самыя смелыя заходзяць па шыю — пастаяць трохі, не ведаючы, што рабіць далей, галовы над вадою, самі крэкчуць, нібыта ад асалоды — «вух ты! харашо!» — а ў вачах трывога... Пастаяць — і назад, на бераг, а адтуль хутчэй за вербы, у лазняк, выкручваць трусы — абавязковы рытуал! — ці купаешся ты, ці мыешся, ці рыбу ловіш, гэта самая першая, неабходная справа.

Збоку ад купальшчыкаў, вышэй па рацэ Грыгор вельмі асцярожна, перастаўляючы ногі, як на лыжах, зайшоў па калені, потым па пояс, па шыю і паплыў наразмашку. З берага на яго глядзелі з асуджэннем. Ён заплыў на самую сярэдзіну, нырнуў, высунуўся па грудзі, пастаяў так, памагаючы сабе рукамі, затым, відаць, засаромеўся, што ўсе на яго пазіраюць, лёг на спіну і ціха паплыў назад да берага.

Тым часам на беразе затокі пад вербамі жанкі ладзілі полудзень. Цёплае малако ў бутэльках з газетнымі затычкамі, бляшанкі рыбных кансерваў, сала, мяса з коўбіка, гуркі, свежыя і вараныя яйкі, зялёная цыбуля, хлеб — у кожнай сям'і адно й тое ж, як салдацкі харчпаёк, а ўсё адно здаецца, што ў суседа смачнейшае. Не паспелі пад'есці, як на рацэ затарахцеў матор, паказалася сіняя лодка з трыма мужчынамі. Праехала паўз бераг і завярнула ў затоку. Падчаліла акурат да таго дальняга, чаратовага беражка.

Па беларускай завядзёнцы іх спачатку дружна абгаварылі — мы тут працуем, а яны сярод белага дня рыбку ловяць... Потым гэтак жа дружна апраўдалі:

— Хай ловяць на здароўе, яны шкоды не робяць...

— Хіба мы для іх косім? — для сабе...

— Бачыш, уночы іх ганяюць, дык яны ўдзень...

— Наловяць, у Кіеў завязуць...

— А што тут маторкаю да Кіева?

Дзеці сабраліся ў чародку і пайшлі глядзець. Кулініч, на хаду дажоўваючы, таксама.

Людзям з гэтага берага, з-пад навіслых над вадой вербаў, бачна, як яны там ловяць. Утрох, дзіўнай снасцю — такім шырокім трохкутным брэднем. Двое з бакоў за палкі цягнуць, трэці ззаду прыціскае камель да дна.

— Ніжай, ніжай, ніжай! — даносіцца адтуль знаёмае Кулінічава.

— Гэта «крыга», — тлумачаць недасведчаным знаўцы.

Бачна, як зводзяць разам палкі, выцягваюць тую «крыгу», ніз змыкаецца, і ўвесь улоў — твой. Як у вялізным мяху. Блішчыць срэбра ў сетцы, залацяцца ліні, лупяць хвастамі, выгінаюцца зялёныя шчупакі, ходырам усё ходзіць! Так, не перабіраючы, разам з малькамі і ракамі, нясуць і ссыпаюць у лодку.

Людзі зайздросцяць, дзівяцца:

— Во як лавіць трэба...

— А мы з «кабыламі»...

— Сядзім у балацянках, нічога не ведаем...

Цяпер ужо і дзецям зразумела — смешныя яны са сваімі прымітыўнымі донкамі, грузіламі і здохлымі ад спёкі чарвякамі ў бляшанках. Канешне ж, і яны да абеду спрабавалі — але нічога не закідваецца, не хоча ляцець, блытаецца, рвецца, а калі і выцягваецца, дык клубок «барады», корань аеру ці камяк прыдоннай травы. Цяпер яны ўсё ведаюць. Канешне ж, справа ў снасцях. Ды калі б нам... Дайце такую «крыгу», ды маторку, мы б!..

Усяго разы тры зацягнулі браканьерчыкі — і больш не трэба, паўлодкі рыбы. У каламутнай вадзе са дна падымаюцца бурбалкі, усплываюць на паверхню прытаптаныя расліны, напалоханыя рыбіны, якім пашанцавала выжыць, пускаюць кругі.

— Хоць бы дзецям далі па рыбінцы...

— Хто ж то дасць?

— Дзе ж тут усім напасешся...

— На нас на такую прорву дзве лодкі дай — мала будзе...

З павешанымі насамі дзеці пайшлі назад. Кулініч застаўся, пачаў прыкурваць — з выглядам чалавека, які свой абавязак выканаў, а вы ўжо тут самі разбірайцеся. На лодку ён нават не пазірае — рыбы я вашай не бачыў, шчасце такое...

— Эй, памочнік! Лаві!

Два шчупакі метровай даўжыні адзін за адным бухнуліся на бераг, як дзве паляняк, заскакалі ў траве, тоўстыя, у жоўта-зялёных крапінах, з белымі жыватамі і

*Соф'я ШАХ*

# РАЗУМЕЦЬ МІЛОСЦЬ ВЯСНЫ



***Соф'я Шах нарадзілася ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Працавала настаўніцай пачатковых класаў, лагапедам у школе-інтэрнаце. З 1980 года жыве ў Светлагорску. Аўтар шматлікіх паэтычных кніг, сярод якіх — вянкі вянкоў санетаў «Адухаўленне», «Прысвячэнне», зборнікі вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ», «Кругаспеў» і многіх іншых.***

* * *

А прайсці завіруху сваю —
гэта ўсё-такі дадзена Богам.
І становіцца першасным доўгам
не згубіць на шляху каляю.
Просты лёс — значыць, просты і шлях,
будні ў шэрасці нуднай — і толькі.
Ці хацела б такой ты палёгкі,
палічыўшы, што гэта — не страх?
Завірушліва? Скрушліва? Так.
Невыносна і слёзна? То праўда.
Але гэта за лад Боскі плата —
той, што некалі будзе, аднак.

* * *

Добры дзень Вам, добры ад світання,
ад найпершых праблiскаў святла, —
дзесьці хоць нябачная ў тумане,
а зара шырокая ўзышла.
І ў кватэры ўпэўнена святлее,
і святлее любасна ў вачах:
гэтым днём, што птушкамі званчэе,
Ваш калісьці распачаўся шлях.
Ў гэты дзень радзімаю навечнай
Чавусы Вам сталі — іх даў Бог,
каб Вы прагай, прагай невылечнай
палюбілі весці дыялог
з лесам, полем, лугам і ракою,
з ветрам, снегам, сонцам і дажджом,
і з уласнай спеўнаю душою,
што былое помніць скрозь дабром.
І са мною дай магчымасць, Божа,
дыялог пачаць, канца не знаць...
Гэты дзень ёсць Божая раскоша,
каб змагла і я сабою стаць.

* * *

Кожны дзень цяпер — іспыт на моцу,
дзякуючы ў рэшце рэшт якой
я штодня і радуюся сонцу
ды нябёсам родным над сабой.
Кожны дзень цяпер — праверка духу,
здольнага далей супрацьстаяць
думкам тым, што выклікаюць скруху
і якой ніяк не мінаваць.
Кожны дзень цяпер — нібы экзамен,
годна-ладна вытрымаць які
дапаможа толькі вобраз мамін,
спеў каханага, спакой дачкі.

* * *

Засумую, засумую — сум не ўлашчу:
ў кожнай постаці дзявочай цябе бачу.
Вось мільгнула між астатніх
тонкім станам —
і як быццам, і як бы не стала зманам.
Вось з'явілася, прайшла непадалёку —
ды так блізка ад мяне, навідавоку…
Вось махнула мне рукой, —
дальбог, махнула
і ў натоўп людскі знаёма павярнула.
Я памкнуся, я рвануся ўсім імпэтам,
ўсім раптоўным узрушэннем
тут жа следам,
крыкну-выдыхну: «Дачушка!»
нехлямяжа —
і чужы пачую голас: «Я — не ваша…»

* * *

Наколькі стала больш гадоў,
настолькі стала больш іспытаў,
і кожны з іх штодня гатоў
сваім выпытваць спрытам.
А мы і тыя, што былі,
дарэштачкі спазналі,
а мы і тыя, што сышлі,
усё ж перамагалі.
А гэтых, новых, хто чакаў?
Ні я, ні Вы, каханы.
А гэтых, стромых, хто іх знаў
у спеву днях адданых?
І вось прастору занялі,
шчэ светлую нядаўна,
і ценем зыбкім наплылі
на далячыні спраўна.
Забраць імкнуцца спеўны час,
святлу ўсё пагражаюць,
але прад лучнасцю штораз
прад нашай адступаюць.

* * *

Ёсць Вы — і значыць,
дзень харошы ёсць,
і значыць, зноў і зноў шырока можна
паветрам дыхаць, разумець мілосць
вясны ці восені раскошнай.
І можна зачаравана маўчаць
ці гэтак жа спяваць на поўны голас,
любую далеч зрокам даставаць,
любыя высі чуць раз-пораз.
І можна ўсе навалы працярпець,
і розныя трывогі, жахі-страхі,
ну а на злыя дробязі сумець
наогул не звяртаць увагі.
І можна моцна-моцненька ў душы
лучыць усход і захад, поўдзень,
поўнач.
І можна ўжо не адчуваць мяжы
і вечна жыць, калі Вы побач.

*Міхась ЮЖЫК*

# ХТО ТАМ, ЗА ДЗВЯРЫМА?

***Аповесць***



***Міхась Южык (Міхаіл Сотнікаў) нарадзіўся ў Мінску ў 1969 годзе. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут, працаваў на ВА «Гарызонт». З 1997 года — супрацоўнік літаратурна-публіцыстычнага часопіса «Акно». Аўтар кніг прозы «Мёртвае дрэва», «Перакулены час»; друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Нёман», штотыднёвіку «ЛіМ».***

## 1

Быў самы пачатак снежня, але адчувалася, што зіма наважылася легчы надоўга. З шэрага неба сыпалася драбнюткае халоднае крошыва. Яно паступова накрывала асфальт дарожак скверыка, лавы, кветнікі, голле дрэў ды шапкі і плечы людзей, што ішлі міма Антона.

Перад Антонам, маладым чалавекам дваццаці сямі год, стаяла яго жонка Наташа, і размова ўжо хвілін дваццаць вялася на павышаных танах. На іх азіраліся людзі.

— Слухай, давай заканчваць, га, — моршчыўся Антон, пазіраючы на прыдарожную сметніцу, што стаяла за спінай Наташы. — Здаецца, я табе ўсё растлумачыў.

— Што ты растлумачыў, што?! — напружана глядзела на яго маленькая, з выгляду не надта прывабная маладзіца.

— Ты проста ненармальная, калі нічога не зразумела. Табе лячыцца пара. — Антон гаварыў, ледзь стрымліваючыся, настолькі ненавісным стаў яму за апошнія месяцы гэты круглы бледны твар, вышчыпаныя тонкія бровы, сутулаватая фігурка сваёй абранніцы. І яшчэ гэтая недарэчная хустка на галаве!

— Я ўсё роўна ад цябе не адстану. Ты вернешся. І разводу табе не дам, — сказала Наташа, шукаючы мужавы вочы.

Антон упарта ўнікаў яе позірку. Раз-пораз аглядваўся па баках. Падкурыў і выкінуў недапаленай пятую ўжо цыгарэту. Вось і зноў ён палез у кішэню свайго доўгага паліто, намацаў пакамечаны пачак.

«Павярнуцца і пайсці? Дык папрэцца за мною, — пракруцілася думка. — Пабегчы? Пагоніцца з ровам… У, ненавісная!» — Антон скоса зірнуў на жонку.

— Слухай, Наташа, — ён вырашыў яшчэ раз паспрабаваць скончыць размову па-добраму. — Я мог бы зусім не сустракацца з табою. Але ж сам прызначыў табе спатканне. Заўваж, я не прашу ў цябе пакуль што разводу. Я проста хачу, каб ты зразумела, што я вольны чалавек і маю права выбіраць, жыць мне з табою ці не.

— Ты мой муж. Мы адзін дух і плоць. Мы вянчаліся, і нас нішто не разлучыць, — паўтарала Наташа.

Яе шэрую хустку пакрываў ужо таўставаты слой снегу. «Божа, як жа бясконца мы размаўляем, — падумалася Антону. — І ні на крок не прасунуліся!»

— О, ты яшчэ смееш гаварыць пра рэлігію! Ты, якая зрабіла аборт. Таемна ад мяне. Пасаромелася б.

Жонка маўчала, перабіраючы пасінелымі ад марозу пальчыкамі гузікі лёгкай куртачкі.

— Наташа, ішла б ты дадому. А то скончыш тым, што зляжаш з запаленнем лёгкіх, а потым зробіш у гэтым вінаватым мяне, выставіш зверам перад сваімі бацькамі. Гэта твой улюбёны прыём!

— Я пайду дадому толькі з табою. А калі не пойдзеш — лягу тут, — яна кіўнула на зацярушаную касабокую лаўку, — лягу і буду замярзаць.

— Вось! Гэта якраз тое, што я найбольш ненавіджу ў табе! — нават узрадаваўся Антон жончыным словам. — Гэта тое, за што я цябе пакінуў, за што больш ніколі да цябе не вярнуся.

— Не, ты вернешся, — упарта прашаптала Наташа.

— Вярнуся?! — усклікнуў Антон. — І як ты сабе гэта ўяўляеш, дурніца? Я што, твой раб, твая рэч, якую ты купіла? Наташа, ты нездаровая, табе трэба лячыцца, піць спецыяльны комплекс таблетак. А калі гэта не дапаможа, пашукай мужыка на свой ідыёцкі густ. Толькі сумняваюся, што знойдзецца яшчэ адзін такі цярплівец, як я.

— Мне ніхто не патрэбны. Я кахаю аднаго чалавека. І ты ведаеш каго.

— Ы-ы! — з вуснаў Антона вырваўся пакутлівы стогн. — Гэта робіцца невыносным. Так, мая дарагая, у мяне вельмі мала часу. Літаральна пару хвілін магу яшчэ выдзеліць, каб на трох пальцах растлумачыць табе, някемлівай, чаму наша размова апошняя. Дык вось: прычыны, па якіх я з табою разышоўся, табе добра вядомыя. На маё цела і душу ты не маеш аніякіх правоў. Кватэру, сумесна нажытую, я пакінуў табе і ў далейшым не буду прад'яўляць на яе правы. Я нічога, чуеш, ні-чо-га, — зняччэўку выкрыкнуў Антон на паўсквера, — ад цябе не патрабую, а адстойваю свае асабістае права, святое права не бачыць цябе аніколі.

— Ты не можаш мяне не бачыць, мы адно цэлае, мы вянчаліся, — Наташа нечакана падступілася да яго, схапіла за рукаво паліто.

Ад гэтага дотыку Антона перасмыкнула. Нешта злавеснае ўбачылася яму ў паглядзе Наташы, нешта нездаровае і адчайнае. Ён з сілай ірвануў руку і вызваліўся ад жонкі. Ад гэтага рыўка яе маленькая постаць хіснулася, страціла раўнавагу.

— Не смей, чуеш, не смей да мяне дакранацца, ніколі! — пракрычаў ён, сам здзіўляючыся істэрычным ноткам у голасе. — І каб ніколі больш не прыходзіла да мяне на працу, ніколі не дакучала маёй маці званкамі! Дарэчы, з сённяшняга дня табе бессэнсоўна туды тэлефанаваць — я пераехаў. Зняў кватэру, а маме загадаў пры адным гуку твайго голасу вешаць трубку. Я забараняю псаваць ёй нервы. Інакш за парушэнне спакою чужых людзей патрапіш пад суд.

— Мы не чужыя.

«У, халера цябе бяры! — Антон яшчэ раз паглядзеў на яе твар: страшэнна бледная скура, тонкія пасінелыя вусны, адна неахайная пасма выбілася з-пад хусткі і звісла да кончыка носа. — А яна ж пойдзе на ўсё, — падумаў хлопец. — Што ж, калі зробіць нешта з сабой — туды ёй і дарога, паскудніцы. Але я тут прычым?»

— Ты можаш сабе ўяўляць усё, што заўгодна. Не чужыя, лічыш, — хай будзе так! — гаварыў Антон, паспешліва дакурваючы цыгарэту. — Але гэта толькі ў тваёй хваравітай фантазіі. У рэальнасці ж ты больш мяне не пабачыш. Ніколі! — Ён пачаў адступаць ад яе, пяткуючы. — І не ўздумай за мною ісці. Я пабягу ад цябе, я хутка бегаю, чуеш!

Антон баязліва адыходзіў. Але жонка працягвала стаяць на тым самым месцы. Як статуя, аблепленая снегам, які штохвіліны ўзмацняўся і ўжо валіў вялікімі шматкамі. Яна стаяла нямым дакорам у ягоных вачах. У гэтым было нешта жахлівае. Як жа агорк яму шматгадовы непазбыўны, а галоўнае, цалкам беспадстаўны комплекс віны перад ёю. Як хочацца пажыць без гэтага нервовага, заўсёды пакрыўджанага, істэрычна-хваравітага твару. Ён хоча свабоды, элементарнага права вольна ўздыхнуць.

На праспекце Антон хутка злавіў таксоўку і, апошні раз зірнуўшы ў бок сквера, сеў у салон.

— На Уручча, — папрасіў ён вадзіцеля.

Той праехаў метраў дзвесце да бліжэйшага скрыжавання, развярнуўся і пагнаў машыну зноў міма сквера. Антон міжволі зірнуў на месца, дзе пакінуў Наташу. Яе постаць знікла. Ад гэтага зрабілася яшчэ больш ніякавата.

Таксі нырнула ў шчыльны паток машын і стала адольваць святлафор за святлафорам, прабіраючыся да мікраараёна Уручча, дзе ў новым доме зняў кватэру Антон. Зняў ён, праўда, толькі адну спальню ў двухпакаёўцы. Другі пакой пакуль пуставаў.

**2**

Чатыры гады сямейнага жыцця, а яшчэ два гады знаёмства перад шлюбам, — усяго гэтага Антону хапіла дарэшты, каб усвядоміць, што ён здзейсніў памылку. Прычым памылку недаравальную, лёсавызначальную, жудасную.

І асабліва крыўдна было, што ніколі ён Наташу, па сутнасці, не кахаў. І дзяўчат у яго ў дваццаць адзін год выбар быў багаты. І фігурыстыя, і з тварамі сімпатычнымі, і розумам некаторых Бог не пакрыўдзіў. А яго нібы чорт паблытаў звязацца з Наташкай. Хаця якое там звязацца, яна сама да яго падсуседзілася, падлагодзілася, без масла ў душу ўшчамілася. Няўзнак стала пастаяннай госцяй у бацькоўскім доме. То маці каля пліты дапамагае, то бацьку па цыгарэты бегае, то бялізну ў пральню заносіць. А то проста перад тэлевізарам у сямейным коле вечарамі выседжвае. І галоўнае, ненавязліва так у яе выходзіла, само сабой неяк. Факт яе прысутнасці зусім на Антона не ціснуў. Акрамя таго, калі праблема якая — з Наташай можна было, як з сябрам, дзяліцца. Усё выслухае. Скажа добрае слова, суцешыць. Не тое што іншыя дзяўчаты Антона, з якімі ён у той час амуры круціў. З тымі сустракацца — як на поле бітвы ішоў. Пастаянна хацелася выглядаць нейкім героем, за ўчынкамі сваімі сачыць, словы абдумваць. І яшчэ — асцерагацца, каб які залётнік яго чарговую каханку не адбіў. Бо ж прыгожая. На непрыгожых Антон ніколі ўвагі не звяртаў. Сам ён хлопец высокі, з рысамі твару выразнымі, карацей, сабе цану ведаў. Але нечакана заўважыў, што красуні яму адны пакуты прыносяць. За ноч кахання — пяццю бяссоннымі начамі заплаціш, рэўнасцю пакутуючы. Жарсці пачалі жыццю замінаць, а трэба было працаваць, па кар'ернай лесвіцы рухацца, зарабляць грошы. Без грошай які ты мужчына? Тылу надзейнага захацелася. А тыл гэты вось тут, побач, у выглядзе

Наташы з суседняга двара, якая ці не штодня ў іх дома бывае. Пагладзіш яе па галоўцы — аж млее. А рэдкім пацалункам адорыш — трапеча ўся, бедная. Азарыла неяк Антона: кахае яго Наташа страшэнна, проста-такі самаадданa кахае. Што, як менавіта яе ў жонкі ўзяць? Удзячна за такое будзе да смерці. Не прыгажуня яна, канешне. (Праўда, неяк прыгледзеўся — і ўбачыў, што фігурка ў яе нядрэнная, можна нават сказаць, зграбненькая.) Во хто будзе кахаць, служыць, даглядаць, а галоўнае, не пярэчыць аніколі. Муж — цэнтр сям'і, усе вакол яго круціцца павінны. Так думаў тады Антон, у свае дваццаць два гады кемлівы ён быў мужычок. Хоць у іхняй сям'і, паміж бацькам з маці, як быццам раўнапраўе заўсёды віталася. Ніхто ні на каго не пакрыкваў, не кажучы ўжо, каб ваўкамі адно на аднаго глядзець. За жыццё, можа, разы тры пасварыліся трошкі.

Аднак бацькі бацькамі, а кожны чалавек пражывае свой лёс сам. І Антон памятаў прымаўку, што прыгожая жонка — чужая жонка. Ведаў, што на красунь не можа іначай глядзець, як на аб'ект свайго жадання. Ведаў, якія размовы пра такіх вядуцца ў падлеткавых, юначых і мужчынскіх кампаніях: сальныя, з абмеркаваннем пэўных частак цела, з пахабнымі прыхіхікваннямі. Словам, не хацелася, каб і пра яго жонку нехта такім чынам выказваўся. Ганарлівы быў Антон чалавек, самалюбны і сябелюбны. І галава яго, акрамя прыродных інстынктаў, магла на розум пераключацца. А розум пільным вартавым стаяў ля брамы жыцця, перасцерагаў, не даваў слепа аддацца жарсцям, але і не дазваляў атрымліваць суцэльную асалоду ад маладога жыцця, як гэта рабіла большасць равеснікаў.

І тым не менш з год раздумваў Антон, ці браць у жонкі Наташу. Узважваў, паралельна перабіраў варыянты з іншымі кандыдаткамі. Круціў раманы з дзяўчатамі, праўда, ужо ад Наташы тайком. А з ёй у тэатры хадзіў, пад ручку, паважна. Дома ж, улучыўшы момант, і мілаваліся яны ў пэўных межах прыстойнасці. Да крайняй блізкасці не даходзіла. Тут зноў жа Антон хітраваў, ролю разыгрываў.

Цягнуў ён, адным словам, з Наташай, марудзіў. І невядома, да якога б рашэння прыйшоў, каб не няшчасце. Няшчасці, як вядома, збліжаюць.

У траўні, вярнуўшыся з маці з дачы ў добрым гуморы, Антонаў бацька, здаравяк і аптыміст, пайшоў прыняць душ, і там яго падсцярог апаплексічны ўдар. З-за цурчання вады маці не пачула, як асядае мужава цела ў ванну. Толькі хвілін праз трыццаць яна ўламалася туды, устрывожаная, што Ванечка (як яна любоўна называла яго гадоў трыццаць) доўга не выходзіць і не адказвае. Муж сядзеў у ванне з ненатуральна адкінутай назад галавой, з жахліва скошанай шыяй. Душ, што вісеў на сценцы, працягваў паліваць яго цела…

Цела Івана Аркадзевіча жыло яшчэ пару дзён, свядомасць, відаць, знікла практычна адразу, як лямпачку пагасілі там, на нябёсах.

Антон амаль не памятае пахавання. Яму і цяпер сорамна за свой слязлівы, бяспамятны стан, у якім ён праводзіў любімага бацьку ў апошні шлях. Усім кіравала маці, якой гэтае няшчасце надало нечаканыя сілы. І яшчэ з імі побач была Наташа, якая паклікала на дапамогу сясцёр, каб рыхтавалі памінкі… Потым на працягу двух месяцаў, калі Антон знаходзіўся ў глыбокай дэпрэсіі, яна практычна не адыходзіла ад яго, амаль перасялілася да іх жыць, толькі начаваць дадому сыходзіла. Сустракала Антона з працы з заўсёднай усмешкаю, прыдумвала сумесныя справы па доме, цягала гуляць па горадзе.

Антон, які дагэтуль ішоў па жыцці, як нож праз кавалак масла, аказаўся зусім не падрыхтаваны да раптоўнага скону роднага чалавека. І зразумеў ён, што з Наташай не толькі добра ў бядзе, а і ўвогуле надзейна, спакойна, бяспечна. Увосень яны пажа-

ніліся, а палюбоўнікамі сталі з сярэдзіны лета, у Наташынай кватэры спраўдзіўся гэты факт, у момант, калі дома нікога, апроч іх, не было. Што, дарэчы, здаралася крайне рэдка, паколькі ў трохпакаёўцы туліліся бацькі, малодшы брат і сястра. Яшчэ адна Наташына сястра, замужняя, пражывала асобна. Адным словам, нават не ўзнікала пытанняў, дзе атабарыцца маладым — у Антонавай двухпакаёўцы, разам з маці, Галінай Яўгенаўнай

Праз два гады маладыя пераехалі ў новую кватэру, якую купілі сумеснымі намаганнямі. Працэнтаў дваццаць унёс сам Антон, працэнтаў восемдзесят дадаў Наташын бацька, галоўны бухгалтар аднаго прадпрыемства. Дарэчы, ён гэтак і старэйшую дачку кватэраю забяспечыў.

Але цяпер у тую кватэру, што на праспекце Пушкіна, Антон Вашнін і нагой не ступіць.

### 3

Нарэшце таксі дабралася да дальняга краю Уручча, дзе ў дванаццаціпавярховым доме заўчора зняў пакойчык Антон.

Снег ужо валіў сцяною, і па прыпаркаваных ля дома аўтамабілях было зразумела, якія з іх колькі тут прастаялі. Некаторыя машыны нагадвалі снегавікоў, а некаторыя былі ледзь прыбелены.

На дзіцячай пляцоўцы гуртавалася некалькі жанчын. Яны даглядалі сваіх малых, што бегалі вакол ды шпурляліся снежкамі. Сярод малечы азартна скакаў шэры пудзель.

Непадалёку дзве мажныя чырванатварыя кабеты ў дворніцкіх робах гаманілі ля прыхіленых да слупа ліхтара шуфляў і венікаў.

Антон, шчодра расплаціўшыся з таксістам, пакіраваў да пад’езда № 3. Ён яшчэ слаба тут арыентаваўся, таму дастаў з кішэні цыдулку і звяраўся па ёй. Там, акрамя дома і пад’езда, быў указаны паверх (адзінаццаты) і кватэра (сто чацвёртая).

Ліфт працаваў скрыпуча, звяглівa, механізмы, відаць, яшчэ не прыцёрліся. Гэта моцна цвяліла Антонавы нервы, якія за апошні месяц прыйшлі ў поўную непрыгоднасць.

Ніякавата пачуваўся хлопец і на цёмнай пляцоўцы сярод чатырох аднастайных дзвярэй, калі тыцкаў ключамі ў замочную шчыліну. Зайшоўшы ў кватэру, ён паспешліва замкнуў дзверы і ўключыў святло. Пустая прыхожая, непрыгожыя шпалеры. Нават люстэрка гаспадар на сцяну не павесіў. Гэты пажылы дзядзька, з якім Антон доўга і пакутліва дамаўляўся пра цану і ўмовы пражывання, пэўна набыў кватэру з мэтай гешэфту. Праўда, барыш ён займее толькі праз шмат гадоў, і тое калі перапрадасць. Кватэры ў Мінску даражэюць шалёна.

Антон адамкнуў свой пакой, замок якога, варта адзначыць, быў нейкі сімвалічны, дэкаратыўны. Яго трэба неадкладна памяняць.

Запёрся, агледзеўся. Тут панаваў вэрхал нядаўняга пераезду. Антон з’язджаў ад маці паспешліва, хапаючы толькі самыя неабходныя рэчы. Стол, камп’ютар, крэсла і табурэт. Учора, пасля ночы на падлозе, на надзіманым матрацы, ён набыў раскладушку апошняй мадэлі. Лёгкую, нерыпучую, кампактную. Але і пасля яе сёння балела спіна. Пад акном стаяў вялізны дарожны чамадан, так і не разабраны. На табурэце — сляды паспешлівага сняданку. Талерка з яечнымі шкарлупінамі і скарынкай чорнага хлеба. Фольга ад плаўленага сырка. Ад такой сухамяціны яго гадзіны чатыры даймала пякотка.

Нічога, побыт з цягам часу наладзіцца. Антон сеў на раскладушку, на якой, дарэчы, спаў ноччу без бялізны, накрыўшыся вярблюджай коўдраю, і потым, калі адчуў начны холад, — сваім кажушком.

Цела вымагала спачыну. Хацелася легчы на якую гадзіну і, калі не драмануць, то хоць даць перадышку касцям. Цэлы дзень прагойсаў у грамадскім транспарце. Машыну на стаянцы блізу бацькоўскага дома паставіў, баяўся пакідаць яе на незнаёмым двары. Ну а потым закруцілі справы, так і не забраў сваё «аўдзі».

Дарэчы, к пяці трэба спяшацца ў офіс, працу паказваць. Начальнік нярвуецца. Колькі разоў ужо на мабільнік званіў. І так ён паблажку Антону даў, дазволіў працаваць дома апошні тыдзень. Антон трохі адкрыў яму пра свае сямейныя праблемы, пра разлад з жонкай, пра пераезд. Праўдзівей, прыйшлося гэта сказаць, — пасля той жахлівай сцэны, якую наладзіла Наташа ў офісе. «Паскудніца!» — ад успаміну пра гэта Антона перасмыкнула.

Дастаў цыгарэту, падкурыў, дым хутка запоўніў пакой. Устаць і адчыніць фортку паленаваўся. Нылі ногі. Закалыхвала кватэрнае цяпло, па кантрасце з надворнай непагаддзю, дзе ён сёння зяб гадзін пяць.

Эх, драмануць бы. Бо наступную ноч Антон наўрад ці паспіць. Давядзецца сядзець за камп’ютарам. Праграма, што ён распрацоўваў, знаходзілася ў няпэўным стане, а тэрміны падціскалі, гэта па меншай меры. А па вялікім рахунку, Антон не ведаў, як і якімі словамі будзе сёння выкручвацца перад начальнікам. Што ён мог зрабіць, калі апошні тыдзень жыў так, нібы па лязе брытвы скакаў? Ані хвіліны спакою — так дапякла законная сваімі прыходамі, начнымі званкамі, істэрычнымі сцэнамі. Прыйшлося з’ехаць ад маці. На рабочым месцы не мог працаваць, баючыся, што Наташа ў любую хвіліну заявіцца. З’явілася і так абняславіла... Апошні вахцёр цяпер глумліва хіхікае яму ўслед, пасля таго, як… Не, не, не трэба пра гэта. Хлопец паклаў недакурак на падлогу і тут жа падпаліў другую цыгарэту. Пальцы трымцелі. Сэрца білася з пагрозлівымі перабоямі.

Антон такі падняўся, падышоў да акна, адчыніў фортку. Зірнуў на заснежаны двор. Белізна снегу супакойвала. Да зямлі далёка-далёка, і галасы людзей, сабачы брэх і тарахценне машын — чуліся слаба. Ён нездарма выбіраў такі высокі паверх. Бо на першым, на якім кватэра яго маці, ён сябе не адчуваў у бяспецы. Тры тыдні шторы не рассоўваў, святло вечарамі не ўключаў, толькі тэлевізар, камп’ютар. Часам здавалася, што Наташа стаіць пад вокнамі і пільнуе. Вызіраў жа Антон на двор толькі праз шчылінку, сцярожка, на які сантыметр адхінаў фіранкі. Тыдзень таму ён зразумеў, што так жыць немагчыма. Захварэеш, зляжаш. Падумваў нават узяць адпачынак ды злятаць на тры тыдні ў Егіпет, пад сонца. Гэта доктар, прыватны псіхолаг, яму раіў настойліва. Аднак начальнік на Антона з мацюкамі і ледзьве не з кулакамі кінуўся — я табе, маўляў, пакажу адпачынак, ты мне праект да канца давядзі, а тады раскашуй. Праекту таму канца не бачна, а патрабуюць з яго, Антона, да Новага года. Жыўцом за гэта з’ядуць. Ужо прыязджала тры дні таму высокае начальства, з галаўной фірмы, з самога Бостана. Антона «на дыван» выклікалі. Не забудзе, як ганебна, нібы злодзей, прабіраўся ён у офіс заднім дваром, а потым, падчас нарады, як на іголках сядзеў, амаль не слухаючы, як яго праект распякалі. Настолькі баяўся, што жонка са сваім скандалам прыпрэцца.

З пакутлівых успамінаў Антона вырваў званок. Не тэлефонны, не, а ў уваходныя дзверы. Ён здрыгануўся так, што ледзь не падскочыў на месцы і перакусіў цыгарэту. Антон, спалатнелы, замёр. Ён чакаў, ці паўторыцца той раптоўны званок, ці не прытрызніўся ён яму. Аднак званок паўтарыўся: працягла, звонка, настойліва.

Справа ў тым, што гаспадар кватэры наўрад ці званіў бы, ён адамкне дзверы сваімі ключамі. Адрас жа Антон даваў толькі маці, але яна без папярэдняга званка да яго дакладна не паедзе. Не з яе нагамі. Хто б гэта мог быць?

Ён асцярожліва зрушыў засаўку, ціхутка прачыніў дзверы ў калідор. Званок болей не паўтараўся. Але ў той момант, калі Антон наблізіўся да дзвярэй, у замку заскрыгатала. Нехта загадкавы адмыкаў ужо яго…

— Хто?! — Антон не пазнаў свайго голасу, калі выкрыкнуў гэтае пытанне. Выгук атрымаўся тонкі, баязлівы і ў той жа час дзёрзкі.

— Адчыні, дарагі ты мой чалавек! — голас таго, хто стаяў за дзвярыма, быў, наадварот, самаўпэўнены, вясёлы, з прыкметным каўказскім акцэнтам.

— Хто?! Хто вы такі?.. — пралепятаў Антон, учапіўшыся ў ручку спацелымі пальцамі.

— Кватарант я, новы кватарант, — тлумачыў чалавек за дзвярыма.

Антон зірнуў у «вочка»: цьмяны абрыс невысокага чалавека.

— Вы знялі тут пакой? А ў каго, хто вам яго здаваў? Прозвішча назавіце.

— Ды што ты хвалюешся, мой дарагі!

— Адказвайце, хто вам здаваў! А то выклікаю міліцыю! — амаль завішчаў Антон, ліхаманкава сціскаючы ручку. Ён меркаваў, што незнаёмец ужо адамкнуў замок і цяпер толькі паварот ручкі стрымлівае, каб ён не ўварваўся ў кватэру.

Насамрэч жа Антон сам, замкнуўшыся па прыходзе, спусціў і «сабачку». Таму ніхто ключамі адамкнуць кватэру не мог.

— Ох, што за народ. Ну што за народ! Шайтан вас вазьмі! — абураўся голас за дзвярыма. — Сямён Маркавіч тут гаспадар. Ён мяне ўзяў.

— Прозвішча!

— Ардашнік. Ну адчыні, мужык ты ці не! Што ты, як баба, за дзвярыма хаваешся! — нарэшце нежартоўна раззлаваўся голас з каўказскім акцэнтам.

Аднак Антон ужо набіраў па мабільніку нумар гаспадара.

— Сямён Маркавіч? Гэта Антон Вашнін, жыхар ваш новы. Сямён… Маркавіч, вы здавалі другі пакой? А? Тут чалавек у кватэру ломіцца… Давалі ключы? А чаму мяне не папярэдзілі?!. Як — якая справа! Прабачце, мне з ім жыць, а не вам… Сямён Маркавіч, адкуль я магу ведаць, хто там ключамі ў замку шкрабе! Я наступны раз буду міліцыю выклікаць! Нахабства якое… — Далей з хвіліну Антон толькі маўчаў, слухаючы. За гэты час нецярплівы госць за дзвярыма гукаў ды пастукваў у дзверы кулаком. — Добра, як ягонае прозвішча? — нарэшце ўзяў слова Антон. — Прозвішча ваша! — нервова крыкнуў ён праз тоўшчу дзвярэй незнаёмцу.

— Махметаў! — злосна адказаў той.

— Махметаў? — працягваў свой допыт Вашнін. — Ці вы сказалі «Махмутаў»?

Скончылася тым, што ён уведаў па мабільніку і даволі складанае імя каўказца, якое сам Сямён Маркавіч не памятаў (для чаго яму спатрэбілася зверыцца па нататніку).

Праз колькі хвілін новы кватэраздымшчык прарваўся ў жытло. Ён абрынуўся на Антона з лаянкай. Быў госць невысокага росту і неверагоднай таўшчыні, гадоў сарака. У дарагім кажуху, без шапкі, пляшывы, з двума чамаданамі, ручкі якіх учэпіста сціскалі яго тоўстыя пальцы, увешаныя пярсцёнкамі. Яго крыкі і мармытанне яшчэ доўга раздаваліся пад дзвярыма: Антон, не даўшы сабе клопату пазнаёміцца, адразу запёрся ў сваім пакоі і зацята курыў. Цыгарэты не дапамаглі зняць раздражненне, і таму ён палез у чамадан, дзе, клапатліва ўпакаваныя, знаходзіліся тры трыстаграмовыя плоскія пляшкі малдаўскага каньяку. Антон узяў распачатую. Сеў на табурэт і зрабіў тры мерныя глыткі.

Ён пачаў скарыстоўваць каньяк для супакаення пару тыдняў таму, пасля бурнай сцэны з Наташай. Тады яна ўварвалася ў кватэру да Антонавай маці, куды ён пераехаў. Уварвалася, каб яго вярнуць. Ідыётка! Ды ён не вернецца да яе нават пад пагрозай расстрэлу.

### 4

Чатыры гады таму, праз паўгода пасля рэгістрацыі ў загсе, Наташы закарцела вянчацца ў праваслаўнай царкве. Дакладней, гэта яе маці такую геніяльную ідэю падкінула. Сама ж цешча — за савецкім часам камуністкай была. Смехата. Але мода цяпер такая — вянчацца. Бо прыгожа, велічна, урачыста. Да таго ж на відэа можна цырымонію запісаць, а потым усім знаёмым паказваць. Ці самім наталяцца сваёй святочнай выяваю. Веры тут увогуле няма. Адно славалюбства. Цьфу. Антон заўсёды моршчыцца, калі ўспамінае, што на гэта пайшоў, не моцна супраціўляючыся. Хоць ведаў прыклад са сваім сябрам, Паўлам Ганцарэвічам. Таго аж у каталіцтва перавялі, каб вянчацца і ўвайсці ў сям’ю нібыта адданых вернікаў. А папраўдзе — багатых людзей, барахольшчыкаў, якія ўсёй сям’ёй на рэчавым рынку ў выхадныя шчыруюць. Дык Паўла тыя каталікі праз паўгода ад вянчання з сям’і выставілі. Не дагадзіў. Па чутках — падалося цешчы, што той па яе шуфлядах палазіў. А па словах самога Ганцарэвіча, не ўпісаўся ён у іх жлобскі асяродак, не праявіў камерцыйных здольнасцей. А праўда, думаў Антон, недзе пасярэдзіне, як заўсёды. Але галоўнае, што ён уцяміў: вянчанне шчасця не гарантуе. Толькі адказнасць на сябе бярэш залішнюю. Перад нейкай вышэйшай сілаю. У якую, трэба прызнацца, Антон Вашнін зроду не верыў, толькі пасмейваўся, чытаючы пра Адама, Еву, Каіна, Авеля ды іншых персанажаў, якія здаваліся яму казачнымі. Перад Новым жа Запаветам ён адчуваў невытлумачальны страх. Адольваў пару старонак — і закрываў кніжку.

…Калі ў першыя паўгода жылі яны з Наташай у поўным паразуменні, то затым, якраз-такі пасля вянчання, намеціўся разлад. Адбываўся ён у душы Антона, вонкава доўга не праяўляючыся, і заключаўся ў нейкай насцярозе, у жаданні змяніць сваё стаўленне да жонкі, аддзяліць яе душу ад сваёй, калі так можна сказаць. Бо пасля смерці бацькі ён настолькі зблізіўся з Наташай, што амаль не аддзяляў яе ад сябе. Гэта, як потым зразумеў Вашнін, была ахоўная рэакцыя псіхікі, боязь застацца на адзіноце, у вакууме, які непазбежна запаўнялі маркотныя думкі пра бацьку, пра ягоны раптоўны скон, пра хісткасць, нетрываласць, смяротнасць усяго зямнога.

Але прайшоў час, і чалавечая натура ўзяла сваё. Захацелася самасці, пэўнай незалежнасці ў паводзінах, мысленні. Хацелася часам пабыць аднаму, без жонкі, займець нейкія толькі свае інтарэсы. І тут Антон сутыкнуўся з тым, што Наташа ўпарта не хоча яго адпускаць. Ён адчуў, што за дзевяць месяцаў нібы павуціннем яна аблытала яго, узяла ўладу над душою і целам. Ці нейкімі танюткімі ніткамі прывязала — як Гулівера, які ачуўся ў краіне ліліпутаў і ўбачыў сябе спутаным. Гэтаксама пачуваўся пасля дэпрэсіі Антон. Убачыў сябе жанатым і са спутанай воляй, побач з чалавекам, якога ён у нармальным, здаровым стане наўрад ці б калі пакахаў.

Не, тады Антон зусім не думаў ісці на разрыў. Ён успрымаў сваё становішча як непазбежнасць, мерыўся распрацаваць стратэгію ўзаемаадносін з Наташай і яе шматлікай раднёй. Такую стратэгію, якая б выключала звады, рабіла б сямейнае жыццё выгадным абодвум бакам і нават прыемным яму, Антону. Але ва ўсіх сваіх

дзеяннях, у жаданні дагадзіць маладой жонцы, ці ў жаданні быць абыходлівым з цешчай і цесцем, ён адчуваў нейкую няшчырасць, змушанасць. Быццам выслужваўся перад імі. А гэта гняло, псавала настрой, абмяжоўвала самае дарагое, што дадзена чалавеку прыродай, — дагаджаць уласнаму эгаізму. Антон, адзінае дзіця ў сям'і, ды што там хаваць — дзіця бязмерна любае і пешчанае, — вельмі цяжка звыкаўся з сямейным становішчам, з ускладзенымі на яго абавязкамі, пераважна маральнымі. І міжволі іх унікаў.

Але чым большыя прыкладаў намаганні Антон, каб вярнуць страчаную свабоду, тым большае адчуваў супраціўленне з боку Наташы. Прычым супраціўленне гэтае было маўклівым і ад таго яшчэ больш невыносным.

Здавалася, Наташа нічым у жыцці не займаецца акрамя таго, каб яго ўтрымаць. Яе не цікавіла ні ўласная праца (зрэшты, рабіла яна бухгалтарам), ні хатнія клопаты, якія выконвала з адзінай мэтай — каб мужу было выгодна. Яе перасталі хваляваць нават родзічы, не кажучы ўжо пра Антонавых. Да чытва ж і тэлевізара яна як быццам ніколі не мела цікавасці. Глядзіць Антон фільм — і яна побач усядзецца. Ён смяецца — і яна падхіхіквае. Пераключыць муж на навіны — жонка і не пярэчыць. Антон колькі разоў яе правяраў: пераключаў у самы кульмінацыйны момант вострасюжэтнага фільма на прымітыўнае ток-шоу, і жонка як быццам гэтага не заўважала. Сядзела з такім жа тупавата-лагодным выразам твару, цешачыся адно тым, што ён, Антон, побач.

А то прынясе ён Наташы кніжку займальную, дасць прачытаць — яна нічога, чытае. Ды толькі ўсё гэта — без цікавасці неяк. Механічна ў старонкі ўнурвалася, а сама праз кожныя паўхвіліны крадком на мужа паглядвала. Як на бясцэнную каштоўнасць, якая не прывядзі Бог трэсне і на аскепкі разляціцца без яе закаханага позірку. Антон узненавідзеў яе за гэта. Акрамя таго, папросту страшна рабілася. І гэта не жарты. Уявіце, што за вамі нехта няспынна віжуе, кантралюе не тое што крок, нават кожны ўздых і поцяг паветра праз ноздры. У туалет нават няёмка было пайсці пасядзець, калі жонка дома. Так і здавалася, што яна наўмысна на кухню разоў дзесяць міма прашмыгне. Усё гэта падалося б здароваму чалавеку лухтой, але ж каб гэтак сцвярджаць, трэба спярша ў Антонаву шкуру залезці, у яго арганізм з напятымі нервамі, з яго псіхалагічнымі комплексамі.

А на рабоце, думаеце, ён адпачываў ад яе? Ніколькі не адпачываў, яшчэ горш пачуваўся. Хаця б таму, што ведаў — вечарам прыцягнецца дадому, і ўсё паўторыцца з агорклай дакладнасцю: гэты адданы, жывёльна-закаханы позірк, адны і тыя ж словы недалёкага чалавека. Дый непрыгожага яшчэ да таго ж! Вунь колькі каля Вашніна на працы дзяўчат бегае. Прычым большасць незамужніх, хоць і палюбоўнікаў маюць, сужыцеляў. Норавы цяпер вольныя. Сёння сужыцель, а заўтра ў адстаўку пойдзеш. Хаця і адстаўкі ніякай не трэба, можна проста ўлучыць час ды разок-другі сустрэцца. Напрыклад, Марынка, сакратарка ў суседнім аддзеле, яму пастаянна навязваецца. А дзяўчына — уга! Самы сок. Пастава гнуткая, высокая, валасы выбеленыя доўгія і прамыя, а галоўнае, клубы яе маюць такі адмысловы, толькі Антону зразумелы выгін, што аж кроў закіпае! А ён стрымліваецца, абмяжоўваецца дзяжурным пустапарожнім фліртам, бо жонкі баіцца, якая невысокая, нефігурыстая і з валасамі не такімі шыкоўнымі…

А Наташа разоў па дзесяць на дні яму на працу званіла. Усё па нейкай лухце. Як наркаманцы, голас ягоны трэба, бач ты, а то ломка скруціць. Цярпеў, месяцамі цярпеў, хоць так і свярбела на яе накрычаць пры ўсім народзе: «Ды што ты мяне, апастылая, правяраеш! Адстань, выклятая!»

Ну выкрыкнуць, канешне, не выкрыкнуў, але неяк дома сабраўся з духам і папрасіў, каб званіла яму толькі па пільнай справе. Схлусіў таксама, што па мабільніках ім начальнік забараніў размаўляць. А таму, калі вельмі трэба, хай Наташа тэлефануе на ўнутраны камутатар. Тэлефаністак жа на камутатары Антон папрасіў жонку з ім не злучаць, казаць, што выйшаў кудысьці. Так вось ён прывучаў яе да парадку, дрэсіраваў пакрыху. Але жонка атакавала яго праз мабільны, пасылаючы эсэмэскі і надыктоўваючы паведамленні і просьбы перазваніць. Божа мой, псіхаваў Антон, ды навошта ж мне табе перазвоньваць, калі мы толькі дзве гадзіны таму рассталіся, а потым будзем увесь вечар адно на аднаго вытрэшчвацца! Не памрэ ж, нябось, без яго голасу за гэты час. А калі памрэ, то ён нічым не дапаможа. Жывая ж неяк перацерпіць да вечара, каб атрымаць аб’ект сваёй хваравітай любові. Псіхапатка! Але самае цікавае, што спаць з ёй Антону падабалася вельмі, чаго там таіць. Ніхто так са шматлікіх яго жанчын, што былі да Наташы, яго не задавальняў. Ніхто так тонка не адчуваў яго цела, ніхто не патураў яго самым смелым жаданням. Ніхто так не мог прынізіцца перад ім… Бо ніхто так аддана яго не кахаў. Ніхто. І ў гэтым таксама Антон бачыў нешта жахлівае, небяспечнае.

**5**

Каля пяці гадзін вечара Антон прабіраўся да праспекта Пераможцаў, дзе знаходзіўся офіс яго фірмы. Літаральна прабіраўся, а не ішоў: заднімі дварамі, а не да галоўнага ўвахода, краўся, вылузаўшыся з аўтобуса на два прыпынкі раней. Ён і мінулым разам так уваходзіў — праз пад’езд жылога дома, дзе адна кватэра першага паверха з’яўлялася прахадной і выкарыстоўвалася пад гаспадарчы склад ЖЭКа. Тады яна была адчынена, і на здзіўленае запытанне дворніка, які аказаўся ўнутры, Вашнін блытана і сарамліва тлумачыў, што спазняецца на важную нараду. Нават прад’яўляў дакументы.

На гэты раз узгаданая кватэра была замкнёна і на патрабавальны грукат Антона не адгукнулася. Давялося пабегаць па двары, праз завіруху і ўжо прыкметныя сумёты, папытацца ў нешматлікіх стрэчных жыльцоў, дзе знайсці дворніка «дзядзьку Славу».

Дзядзька Слава, каржакаваты пажылы мужычок з кірпатым чырвоным носам, знайшоўся хвілін праз дзесяць — сам выруліў з-за дома з зашмальцаваным пакункам пад пахай. Ён пазнаў Вашніна, але прасякся да яго яшчэ большым падазрэннем, чым мінулым разам. Давялося тлумачыць некаторыя інтымныя падрабязнасці са свайго жыцця, робячы ўпор на тое, што баіцца раўнівай жонкі. Пасля такіх тлумачэнняў недаверлівы твар дворніка крыху пацяплеў, але ж пускаць маладога чалавека пажарным ходам ён не наважваўся, спасылаючыся на тое, што баіцца начальства. Дый часу, маўляў, няма, спраў сёння па макаўку. Толькі калі Антон сарамліва сунуў дзесяць тысяч ва ўчэпістую руку, дзядзька Слава ўспомніў, што яму самому трэба на склад па адну забытую рэч, дык заадно хай і Антон з ім ідзе (толькі апошні раз!).

Прабраўшыся такім чынам у звілісты калідор першага паверха, Вашнін у паўзмроку прамінуў некалькі паваротаў у поўным бязлюддзі, перш чым выйшаў у асветленае запоўненае фае. Спыніўшыся па звычцы перад люстэркам, ён заўважыў, што правае плячо яго новага паліто ў пабелцы. Таропка абцёрся, аднак след пабелкі цалкам не знік. Таму па дарозе на свой пяты паверх, у ліфце і затым у калідорах,

Антон стараўся паварочвацца да людзей левым бокам, асабліва да знаёмцаў, што з ім па-свойску рукаліся і намагаліся навязацца з размовамі.

У офісе фірмы, з самага парога, высветлілася, што начальнік раптоўна з'ехаў у аэрапорт — некага там сустракаць, і сёння больш не паявіцца. Гэта прынесла Вашніну палёгку: ён не быў гатовы даваць справаздачу начальніку, і лішнія суткі працы над праграмай зусім не пашкодзяць. Але папраўдзе, Антон не надта спадзяваўся, што яго распрацоўка да заўтра нашмат прасунецца. Стала шкада дарэмнага прыніжэння перад п'янюгам дворнікам.

Антон для прыліку забег на рабочае месца, перакінуўся некалькімі словамі з супрацоўнікамі, зрабіў заўвагу сакратарцы Ніне, што нехта атрос попел на яго стол і паставіў гарачы кубак, ад чаго ўтварыўся след. Зрэшты, рабіў усё мімаходзь, незласліва, усім выглядам выдаючы, што дужа спяшаецца.

Затым прайшоў пятнаццаць метраў да мужчынскай прыбіральні, пранік у кабінку і там, зачынены, перакурыў. Ужо на выхадзе яго заспеў званок па мабільніку. Па тым мабільніку, што ў правай кішэні, па новым, які ён набыў тры дні таму, каб жонка не даймала званкамі. Стары ж тэлефон ляжаў у яго левай кішэні з адключаным званком і працаваў толькі на прыём эсэмэсак. Наташыны нумары — хатні, працоўны, мабільны і шматлікіх яе родзічаў — ён даўно ўнёс у чорны спіс. Не рэагаваў апошнім часам і на званкі з нумарамі, якія не вызначаліся, бо жонка пачала даставаць яго з вулічных аўтаматаў.

Антон па ўстойлівай звычцы, перш чым адказаць, зірнуў на экранчык — тэлефанавала маці. Ён вярнуўся назад, адышоўся да сценкі, далей ад уваходных дзвярэй, і там меў наступную размову.

— Сынок! — слязлівы ўскрык маці адразу разануў па нацятых нервах. — Разбярыся з Наташай! Напраміласць Бог, разбярыся. Я ўжо баюся з дому выходзіць, яна... — Тут голас перарваўся, пачуўся ўсхліп.

— Што — яна, мама! Што такое! — хрыпата выдыхнуў у мініяцюрны апарат Антон.

— Ты ведаеш, што яна мяне ля кватэры падпільнавала? Накінулася знянацку...

— Што яна хацела, мам? Я ж сёння ўдзень з ёй сустракаўся і, здаецца, усё растлумачыў.

— Не ведаю, што ты растлумачыў, Антося, але яна зусім ненармальная стала. Хапала мяне за футра, лаялася, вочы вар'яцкія... Я нічога не зразумела з яе слоў. Добра, што людзі ў пад'езд увайшлі.

— А што ты ёй казала?

— Нічога я не казала... ледзьве адбілася. Заляцела ў кватэру, замкнулася і табе вось званю. Ох, адправіце вы мяне на той свет!

— Мама, я хутка прыеду. Выпі пакуль карвалолу і нізашто, чуеш, нізашто ёй не адчыняй. І па тэлефоне не размаўляй. Наогул не падымай трубку. Я табе, калі што, на мабільны патэлефаную.

— А калі ты прыедзеш?

— Ужо выязджаю.

...Антон не памятаў, як пакідаў будынак, як ішоў да праспекта і садзіўся ў тралейбус. У галаву нібы ўлілі пякучага волава. Да вуліцы Адоеўскага, дзе ў пяціпавярховай «хрушчоўцы» жыла маці, Галіна Яўгенаўна, дабраўся хвілін за трыццаць. Да дома, схаванага ў глыбіні квартала, ён падыходзіў, калі звечарэла. Але было светлавата: уключаныя ліхтары адбіваліся ад чысцюткага, няходжанага пакуль снежнага покрыва. Гарэзна круціла завея. У суседнім двары нехта залівае са шланга каток. Ад

вады валіла пара. За гэтым дзействам назірала чалавек дваццаць хлопчыкаў і дзяўчатак, што нецярпліва стоўпіліся вакол будучага катка. Каток на гэтым месцы заліваўся здаўна, гадоў дваццаць пяць, мусіць. Усё зімовае дзяцінства Антона прайшло на ім і ў недалёкім скверыку, дзе невялікія лыжныя горкі. Чымсьці цёплым павеяла ад гэтага відовішча, ад выкліканых ім успамінаў. І адразу пасвятлела на душы, і ўжо не такім змрочным падыходзіў Антон да бацькоўскага дома.

Калі перад самым яго носам рэзка адчыніліся дзверы пад'езда, ён здрыгануўся і адступіў. Не, то была не Наташа, а парачка закаханых: студэнт Колька з другога паверха пад ручку з дзяўчынай у дарагім футры. Яны са смехам пранесліся паўз Антона, як бы яго не заўважыўшы. І калі толькі гэты Колька паспеў вымахаць пад два метры! Вашнін памятае яго падшыванцам, што ганяў летам мяч і хуліганіў з рагаткай. Як жа ляціць час! І як бесталкова праходзіць жыццё… Дзе яго, Антонавы, дзеці, пра якіх ён марыць апошнія чатыры гады? А ўжо, на добры лад, мог бы свайго гіпатэтычнага нашчадка ў школу адправіць. Ад такіх думак зноў зрабілася пагана. Антон у тры скачкі адолеў лесвічны пралёт і даў звыклы, вядомы толькі яму і маці званок: працяглы, паўза, і два вельмі кароткіх сігналы.

## 6

Праз два гады сямейнага жыцця Антона Вашніна азарыла, што яго жонка — чалавек нездаровы. Прычым, што самае страшнае, нездаровы псіхічна. І вось з гэтым псіхам ён мусіць дзяліць хлеб і дах, спаць у адным ложку і трываць яго дурату ўсё астатняе жыццё, гадоў пяцьдзясят, да скону. Так прынамсі вымагаюць каноны рэлігіі, праваслаўнай царквы, у якой яны з Наташай вянчаліся.

Канешне, гэта быў не звычайны сямейны разлад, а справа нашмат горшая і жахлівейшая. Дапамагчы жонцы, вылечыць яе душэўную хваробу мажлівым не ўяўлялася. Такія хваробы не лечацца. А працягваць з ёй жыць — значыць пусціць свой лёс пад адхон і плюнуць наўздагон. Не іначай.

Адметна, што прычынай яе хваробы з'яўляўся сам Антон Вашнін, не тое, добры ён ці благі чалавек, а сам факт яго наяўнасці, прысутнасці на нашай зямлі. І чым даўжэй Наташа знаходзілася побач з ім, тым хвароба яе рабілася ўсё больш яўнай.

Антон і раней заўважаў празмерную засяроджанасць Наташы на ім, нейкую апантанасць яго асобай. Але гэта можна было прыпісаць палкаму маладому каханню, калі людзі губляюць галаву і робяцца ненармальнымі. Да таго ж Вашнін браўся шлюбам упершыню, вопыту адпаведна не меў, не было з кім і з чым параўноўваць.

Як, напрыклад, ацаніць тое, што Наташа ці не з першых жа дзён стала мыць яго ў ваннай? Проста зайшла, калі ён там ляжаў, узяла мачалку і стала пяшчотна церці. Не, то была не проста ласка, не проста гульні кахання, а грунтоўнае і любоўнае вымыванне яго цела. І так кожны раз, на працягу двух гадоў. Цікава, што і не памятае ён, калі пераступіў псіхалагічны парог ад крайняй прыемнасці ад такога мыцця да поўнай агіды. Але нешта ў ім перашчоўкнула, і ўжо з насцярогай чакаў Антон у ваннай, калі адчыняцца дзверы і ўвойдзе Наташа. Недзе з год не мог адужаць сябе, каб сказаць, што яе паслугі яму не патрэбны, што цудоўна можа памыцца сам… Баяўся пакрыўдзіць? Але баяцца пакрыўдзіць тых, каго паважаюць. Ён жа Наташу ад пачатку не паважаў.

Падстава ўсё гэта закончыць з’явілася нечакана: пасля вечаровай сваркі на кухні, дробязнай, побытавай, якую Антон сам жа справакаваў. Пасля гэтага зачыніўся ў ваннай, упершыню за два гады, і не пусціў да сябе Наташу, хоць яна і грукала ў дзверы, як кошка скрэблася. Антон жа ляжаў у лагоднай пене і змагаўся з лютай нянавісцю, ледзь стрымліваўся, каб не выскачыць і не надаваць жонцы аплявух. І адначасова зазнаў нейкую садысцкую асалоду, а таксама радасць, што адбыўся ў іхніх узаемаадносінах перalом.

З таго часу і пачаліся гэтыя бясконцыя слёзы, затоеныя крыўды, вечна надзьмуты жончын твар за сняданкам, які псаваў настрой на цэлы працоўны дзень, з-за якога вяртацца дамоў не хацелася. Антон затрымліваўся на рабоце дапазна, сустракаўся з прыяцелямі, імкліва адваёўваючы тэрыторыю ўласнай свабоды. Але насамрэч рабіўся яшчэ больш несвабодны, бо такія паводзіны спараджалі жончыну рэўнасць, шалёныя хатнія сцэны ці зацятае, шматдзённае маўчанне, што з’яўлялася як бы платай за тое, што ён хоць на дзесяць гадзін у суткі ад яе адлепліваецца.

Цяжка было апошнія два гады. Цяжэй з кожным месяцам. Даходзіла да таго, што прастудзіцца баяўся Антон, каб не застацца дома пад наглядам заклапочанай яго здароўем Наташы. Раней бывала: як толькі чхне — яна аж уся ажыўляецца: выпі тое, прымі тую таблетку, з градуснікам прыстае, уначы не спіць, да яго дыхання прыслухоўваючыся, навісае над самым тварам… Дамоў па два разы на дзень прыбягала з працы, каб яго праведаць, пакарміць, нібы ён немаўляці. Не кажучы ўжо, што тэлефон абрывала званкамі. Толькі ўладкуешся перад тэлевізарам хакей паглядзець — званок: як ты, мой любы, не кашляў, як соплі, як тэмпература? А голас такі ўстрывожаны, утрапёны, быццам, калі чхне лішні раз, то вада ў кранах замерзне і лопнуць каналізацыйныя трубы… Во надакучыла! Таму апошнія два гады, нават са страшным кашлем і тэмпературай за трыццаць восем, Антон бюлетэні не браў і на работу хворы цягаўся. Абы не даваць ёй падстаў пра яго клапаціцца. Ды дзе там кашаль утоіш, калі ты дома! А кашлянеш — падскочыць, нялюбая, дапытваецца, дакарае, што не лечыцца, каб ёй насаліць; зноў жа слёзы, крыўды, папрокі ў тым, што ён яе не кахае… Як быццам пачуцці нашы ад нас залежаць наўпрост. Так, не кахае, дык што цяпер — зямному шару перакуліцца?

Не, пекла такое жыццё сямейнае. Халастым пазайздросціш. Неяк увечары прынесла Наташа таз у залу, ля тэлевізара яму ногі парыць. Дык Антон так раз’юшыўся, што шпульнуў той таз аб сцяну, заліў шпалеры, якія потым сам жа мяняў. Гэта самы балючы выпадак, з тых, што прыгадваюцца. Тады Наташа парывалася з дому бегчы — «пад трамвай лягу!» крычала. Ён спалохаўся не на жарт. Ужо ў калідоры яе нагнаў, схапіў за фалду зімовай курткі, перахапіў за каўнер, паваліў на падлогу… А яна драпалася, білася ў жудаснай істэрыцы. Завалок у спальню, дзве гадзіны супакойваў, думаў «хуткую» выклікаць. Не прывык Антон да такіх выхадак. У яго родзе ўсе псіхічна здаровыя. Як Наташа апрытомнела, ён такую палёгку адчуў, такую нечаканую злагаду з усім светам, што скончылася тая ноч у пяшчотных абдымках. Так, на плячы яго, і прачнулася жонка.

З тыдзень усё хораша ў іх было. Затым — зноў абвастрэнне сямейнай хваробы, якая ўжо ў жылы ўвайшла, зраслася з плоццю. Эх, каб толькі ў жончынай беспадстаўнай рэўнасці і ў хваравітай засяроджанасці на мужу справа была! Уся бяда зайшла значна глыбей…

## 7

Маці адчыніла не хутка. Антон чуў за дзвярыма яе цяжкія крокі.

— Прывітанне, — увайшоўшы, сын па завядзёнцы пацалаваў Галіну Яўгенаўну ў шчаку.

Маці цмокнула яго ў лоб.

— Ты, Антоша, на кухню адразу праходзь, — старая нехлямяжа завіхалася, стараючыся перахапіць у яго паліто, каб павесіць.

— Я сам, мама. Во як цёпла ў цябе. У мяне дык на кватэры халаднавата.

— Ты сёння абедаў?

— Канешне, абедаў.

— Ну дык вячэраць будзем тады. Мый рукі.

Антон адразу па прыходзе адчуў апетытны пах смажаніны, што даносіўся з кухні. Ад гэтага галодны страўнік пачаў сутаргава сцінацца.

Ён пакіраваў у ванную. Міма ног шуснуў адзін з трох катоў Галіны Яўгенаўны — рыжы Барсік, гэты асабліва недалюбліваў Антона, і нелюбоў гэтая вызначалася ўзаемнасцю.

Пасля смерці бацькі маці паступова здавала свае пазіцыі. Сышла на пенсію, хоць яе ніхто з работы не гнаў, пачала мала рухацца і шмат есці, асабліва салодкага і мучнога, ад чаго набрала вагу ды прыдбала гіпертанію і праблемы з суставам бядра. Сустаў вымагаў аперацыі, у адваротным выпадку пагражаў інваліднай каляскаю. Але Галіна Яўгенаўна панічна баялася аперацыі, бо нехта з яе знаёмых зрабіў падобнае і зусім знерухомеў. Хадзіць ёй з кожным месяцам станавілася ўсё цяжэй. На прагулкі ці ў краму выпраўлялася няйначай, як з кульбай. «О Божа, — іншым разам думаў Антон, — ну за што ўсё на мяне разам абрынулася!»

Сваю адзінокую старасць Галіна Яўгенаўна запоўніла новым захапленнем — катамі. Аднаго ўзяла ў знаёмых яшчэ кацянём, адразу пасля таго, як сын з нявесткай з’ехалі ад яе на ўласную кватэру. Двух другіх падабрала на вуліцы цягам апошняга года. Каты, дакладней — два каты і адна котка, — не вельмі мірыліся між сабою. Аднаго давялося кастрыраваць. Котцы Зосі маці хацела зрабіць аперацыю, але спазнілася — котка ўжо зацяжарала ад некастрыраванага Барсіка. Цяпер маці пакутліва разважала пра тое, куды падзець будучых кацянят. Ахвотнікаў на іх не знаходзілася. Антон рашуча прапаноўваў тапіць. Маці называла гэты ўчынак бесчалавечным. Сын з жахам уяўляў, што ў бацькоўскай кватэры пачнецца праз пару месяцаў, калі Зося акоціцца. Супакойваў сябе толькі тым, што маці з катамі не так адзінока, што клопатам пра іх яна адсланяецца ад маркотлівых думак. І гэта была праўда. Галіна Яўгенаўна апошнія два гады ўсё больш сыходзіла ў свой маласвет, аддалялася ад горкай рэальнасці. Яна нават на сынаву сямейную драму глядзела не так трагічна, як магло быць раней, яшчэ пры жывым бацьку.

На кухні Антон накінуўся на смажаную свініну з грэчкавай кашай.

— Чайнік сам падагрэеш, — маці грузна апусцілася на табурэт, што стаяў блізу акна. — Ці, можа, кавы табе зварыць?

— Не. Чаю вып’ю, — прагугнявіў сын з набітым ротам.

На кухню забегла котка і ўскочыла Галіне Яўгенаўне на калені, пачала церціся аб яе твар сваёй пысай. Маці тут жа з замілаваннем пусцілася распавядаць пра апошнія выпадкі з катамі: хто каго пакрыўдзіў, хто што з’еў і падобнае.

«Зусім яна дзяцінее, — з прыкрасцю падумаў Антон, — пра Наташу ўжо ні слова».

— Слухай, мам, дык што яна гаварыла? Раскажы падрабязней, — ён падняўся, каб уключыць агонь пад пузатым эмаліраваным чайнікам.

— Патрабавала твой адрас. Я сказала, што ты не дазволіў яго даваць. Тады яна схапіла мяне за футра. Проста на лесвічнай клетцы прыстала. Ледзьве не паваліла. Пагражала, што ляжа тут, пад дзвярыма, і будзе цябе чакаць. Я прасіла яе супакоіцца…

— Вось жа поскудзь мярзотная! — скрывіўся Антон. — Я б ёй за гэта… — Ён ажно скрыгатнуў зубамі.

— Не, сынку, ты з ёй асцярожней. Далібог, яна нейкая… ненармальная.

— А то я не ведаю! — ускрыкнуў Антон, адвярнуўшыся да акна. — Чорт яго разбярэ, як цяпер быць! Мяне яна не знойдзе, дык табе пячонкі ад'есць. І закону ж у нас няма на такіх! Ты б не выходзіла, мам, у бліжэйшыя дні. Ад грэху далей. Я табе прадукты заўтра завязу, завалю халадзільнік на пару тыдняў.

— Во прыдумаў! А свежае паветра? А малако для катоў?

— О Божа! — ускінуў рукі Антон. — Ды пераб'юцца твае каты! Не памруць. Тут сын не ведае, як сваю кашу рассёрбаць, а ты…

— Антося, а я табе гаварыла, што так справы не вырашаюцца. Я табе казала, што трэба прыйсці да цесця дамоў і…

— Ну што, што б змянілася, мама! Анічога, павер майму вопыту, калі сама нічога не разумееш. Каб я пайшоў да гэтага старога ганарлівага пня! — (Так Антон любоўна велічаў цесця, Андрэя Сяргеевіча.) — Гэта ж сямейка дэгенератаў!

— Дарэчы, ён толькі што мне званіў. Цябе пытаўся.

— Дулю яму! — Антонаў твар сказіла роспачная грымаса. — Мяне ён захацеў! Дачцэ сваёй любай цацку вярнуць. Не атрымаецца!

Антон у гневе забыўся на чайнік, які даўно закіпеў і пыхкаў як паравоз.

— Ды не псіхуй так, сынок. Ён устрывожаны быў. Не такі, як звычайна…

— «Не такі»! — перадражніў сын. — Гад ён! Ён мне жыццё паламаў. Каб менш лез са сваімі заўвагамі, можа, нічога б такога не адбылося.

— Паслухай, Антося, — маці ўзяла яго за руку, — Наташку яны не могуць знайсці. Кватэра не адказвае. Мабільны таксама.

— А я чым дапамагу, калі ў чалавека дах з'ехаў! — ускрыкнуў Антон. Тут ён нарэшце звярнуў увагу на чайнік, падскочыў да яго і выключыў агонь.

— У чалавека глузды пазварочваліся, — працягваў ён, — дык што, усім астатнім не жыць?! Я ёй не бацька, не маці…

— Ты муж… — прагаварыла Галіна Яўгенаўна і сама пашкадавала пра гэта.

— Муж! — закрычаў Антон, барвянеючы. — Пасля таго, што яна натварыла, я ёй не муж! Чуеш! Ніколі гэтае слова не прамаўляй!

— Антося… — маці напалохана глядзела на сына.

Нават Зоська, застрашаная Антонавым выгукам, саскочыла з яе рук і выбегла з кухні.

— Пасля таго, як яна зрабіла аборт без майго ведама, яна мне не жонка, а я ёй не муж, — гэтую фразу Антон прамовіў знарок ціха, намагаючыся ўзяць сябе ў рукі. Ён прысеў на табурэт і апусціў галаву, нервова пераплёў пальцы рук.

— Ну, ладна, ладна… — супакойлівым голасам пачала маці.

— Ды не, мама, не ладна, — Антон падняў на яе твар. — Усё не ладна, а вельмі бязладна. І таму я цябе прашу ніколі гэтую тэму не ўзнімаць. Адрэзана. Назад дарогі няма. Я не збіраюся жыць з забойцай майго сына ці дачкі. О! Я нават не ведаю, кім яна тады зацяжарала!

— Я ўсё разумею, сынок…

— Не, мам, ніхто мяне не разумее. Ніхто наогул нікога ніколі не можа зразумець.

У вітальні патрабавальна зазваніў тэлефон.

— Не бяры! — знячэўку гаркнуў Антон на маці, якая не падымацца хацела, а проста саўганулася на табурэце. — Гэта цесць, сволач!

Галіна Яўгенаўна пазірала на сына. У таго дрыжаў падбародак.

— Ды што ты, Антося… — пралепятала яна. — Нельга ж так, сынок, хвалявацца.

Хлопец узрушана затупаў па кухні, ад акна да дзвярэй, нібы апечаны.

А тэлефон мерна і настойліва працягваў выводзіць рулады.

— Я яго разаб'ю! — ускрыкнуў нарэшце Антон, калі раздаўся недзе дванаццаты па ліку званок.

Ён рыўком расчыніў дзверы і рынуўся ў калідор.

## 8

Сын, зрэшты, апамятаўся і не стаў ламаць апарат. Проста вышмаргнуў тэлефонны шнур з міні-разеткі.

— А цяпер звані да апупення! — са смакам паказаў ён дулю ў пустую сцяну, быццам цесць стаіўся за гэтым мурам.

Вярнуўся Антон на кухню ўжо не бледны, а чырвоны. Ён у маўклівай злосці расчыніў фортку і высунуў туды галаву. Ахалоджваўся пару хвілін. За каўнер прыемна траплялі сняжынкі. Завіруха, што пачалася пасярод дня, сціхаць і не думала.

Аддыхаўшыся, Антон дастаў цыгарэту, падпаліў і апусціўся на табурэт насупраць маці, якая ўсё не асмельвалася раскрыць рот.

У такім тамлівым маўчанні прайшла хвіліна, а то і дзве.

За гэты час у кухню сунулася рыжая пыса ката. Але жывёліна, мусіць, адчула, што Антон, яе нядобразычлівец, не ў гуморы, і абачліва рэціравалася.

— Мама, давай нарэшце расставім кропкі над «і», — сказаў Антон, атрасаючы попел у шклянку на падаконніку, якая здаўна служыла дзяжурнай попельніцай. — Ты бачыш, да чаго яны мяне давялі.

— Ой, сынок, я так за цябе баюся, — поўны твар маці тарганууўся, як перад плачам.

— Я сам за сябе баюся, мам. Я баюся нервовага зрыву, баюся, што не змагу працаваць, што мяне звольняць… Бо нармальна працаваць мне апошнія тыдні не дазваляюць. Гэтая ўрода дастала мяне і на рабоце. Нават у бацькоўскім доме я жыць не магу.

— Таму што ты дужа перажываеш. Вельмі зацыкліваешся. Плюнь. Яны ж табе нічога не зробяць…

— Ой, ды кінь ты — не зробяць. Што значыць — не зробяць? — Антон падняўся і шпульнуў недакурак у фортку. Ён стукнуўся аб раму і заляцеў назад у кухню, упаў на падлогу. Хлопец са злосцю раструшчыў яго тапкам.

— Не зробяць — у сэнсе не заб'юць, ты гэта хочаш сказаць? — спытаў сын.

— Не, ну навошта… — Галіна Яўгенаўна зусім гублялася і не магла параіць нічога ўцямнага.

Але Антону, падобна, і не патрэбны былі яе парады. Ён прагнуў выгаварыцца, выплюхнуць тое, што накіпела ў ім цягам апошніх дзён.

— Пра скандал, што Наташка ўчыніла ў офісе, я табе гаварыў. Але не ўдакладніў, шкадуючы твае нервы, што гэта быў не проста скандал. То быў жахлівы прыпадак, калі яна дэманстратыўна разлеглася перад дзвярыма, а як сталі яе падымаць, учыніла істэрыку са слязьмі, соплямі, слінаю, што расцякліся па яе брыдкім твары…

— Ой! — толькі і змагла вымавіць Галіна Яўгенаўна.

— Зразумела, як пасля гэтага на мяне глядзяць саслужыўцы, — сын наліў з чайніка, што стаяў на пліце, кіпеню ў кубак, зрабіў пару кароткіх глыткоў. — А я чалавек даткліві, мне балюча і невыносна цяпер. І я баюся яе чарговага фортэлю. Таму і працу ўзяў на дом. Але праца не зрушваецца. Бо звар'яцелая жонка мяне выбіла з каляіны. Не ведаю, як перад начальнікам буду заўтра выкручвацца… Так што, мам, давай… — Антон няпэўна махнуў рукой над сталом, — давай неяк… гэта ўладжваць.

— Я ўсё разумею, сынок. Ты толькі скажы, чым мне… што ад мяне патрабуецца…

— Пакуль — толькі не выходзіць некалькі дзён з дому. У гэтым ужо вялікая мне ад цябе дапамога. Гэта каб я хаця б не хваляваўся, што яна накінецца на цябе, як сёння. Ад псіхапаткі ўсяго можна чакаць. Пацярпі, мам, некалькі дзён. Тым больш зіма — не лета.

— Ды я пасяджу…

Антон расчыніў халадзільнік і пільна яго даследаваў.

— Ага, выдатна. Каўбаса, сыры, смятана, во, і малако для катоў… Карацей, да заўтрашняга вечара хопіць. А заўтра, пасля работы, я на машыне падскочу і загружу прадуктамі пад завязку.

Ён сеў, сербануў з кубка. Узяў у рукі сталовы нож і пачаў бяздумна перакідваць яго ў траслівых пальцах.

— З тыдзень пажадана б табе не выходзіць, мамуля. Павер, пытанне сур'ёзнае. За гэты час я паспрабую ўсё вырашыць канчаткова. Ці хаця б наладжу свой побыт на новым месцы.

— А, сынок, ты мяса і кашу вазьмі, — успомніла маці. — Я табе загарну. І далей буду табе гатаваць… Толькі супчык у мяне, шкада, скончыўся. Заўтра буду варыць…

— Добра-добра, мамуля, — Антон падышоў да яе і цмокнуў у шчаку. — Ты даруй, што я тут шумеў, але нервы мае на мяжы. Каб закончыць работу, я павінен хаця б тры дні нават слова не чуць пра жонку і яе шызанутага бацьку. Ні слова! — выкрыкнуў ён, не стрымаўшыся.

Вобраз цесця здаўна выклікаў у Антона выключна адмоўныя пачуцці.

Праз некаторы час Вашнін, з цвёрдай рабочай папкай у адной руцэ і пакетам у другой, выйшаў з пад'езда на завірушны, светлы ад акон і ліхтароў начны двор.

Твар прыемна халадзіў вільготны вятрыска. Лёгкі марозік, градусы тры, не болей. Свежы снег пад нагамі. Імпэтныя хмары ў паветры. Ідэальнае для зімы надвор'е. Людзей амаль не відаць.

Антон выйшаў са свайго двара. Леваруч, на невялікім пагорку, высіўся шэры пяціпавярховы дом, які хлопец, ідучы да аўтобуснага прыпынку, абавязаны быў прамінуць. То быў дом бацькоў яго жонкі. Ужо некалькі месяцаў Вашнін стараўся наогул не глядзець у той бок, калі праязджаў міма на машыне ці ішоў пехам.

Але сёння Антон, выдатна ўсведамляючы, што Наташа рэальна можа знаходзіцца ў бацькоў і выйсці з пад'езда ці нават пільнаваць яго недзе паблізу, наважыў адолець свой агідны страх ды прайсці па дарожцы, што побач з домам.

Ён знарок запавольваў хаду, хоць уся яго істота яе прыспорвала. Карцела не тое што дадаць шпаркасці сваім крокам, а проста-такі сарвацца і бегчы на скрут галавы.

Дом стаяў тарцом да дарожкі, крыху наўскос. Роўна пасярод гэтай шэрай будыніны, на трэцім паверсе — Антону было трохі відаць праз голыя дрэвы, — гарэлі два акны злашчаснай кватэры. Адно — спальні, дзе жыве цяпер Наташына сястра, другое — агульнай залы, дзе спяць яе бацькі. Калі жонка начавала ў бацькоў, а такое апошнім часам нярэдка здаралася з-за скандалаў, то спала ў пакоі сястры, там і канапа стаіць для яе.

«Як жа я ненавіджу гэтую сям'ю ідыётаў! — узвыў Антонаў унутраны голас. Узвыў так, што хлопцу здалося, быццам ён насамрэч пракрычаў фразу на ўсё наваколле. — Я з глуздоў так з'еду… Давялі, давялі… Цікава, там яна ці не там… І чаго званіў цесць?..» — прарываліся ў свядомасць неадчэпныя, дакучныя думкі.

Ён спыніўся далекавата ад бліжэйшага ліхтара, насцярожана азірнуўся, а тады дастаў з кішэні стары свой мабільнік і праверыў званкі. На экране высвецілася цэлая чарада званкоў ад цесця. За апошнюю гадзіну ён намагаўся звязацца з Антонам разоў дзесяць. Але, што самае дзіўнае, за чарадой гэтых званкоў не было сігналаў ні з мабільніка жонкі, ні з яе хатняга тэлефона. Выходзіць, як яны тады рассталіся ў скверы, Наташа больш яму не тэлефанавала? Не можа такога быць. Вашнін яшчэ раз уважліва прагледзеў паведамленні на экране. Няма званка ад Наташы. Дзіўна. Не стасуецца такое з яе паводзінамі ў апошнія дні. Хаця, можа, да яе нарэшце дайшло, што гэта бессэнсоўна, што адказу з яго боку ўсё роўна не будзе… І тады яна пабегла ў бяссільнай злосці сюды, накінулася на яго маці… А потым бясследна знікла. Нават не сказала сваім бацькам. Цесць нездарма яго, Антона, вышуквае… Задумала, задумала яна нешта жахлівае… Няўжо…

На яго плячо, са спіны, легла рука. Дрэвы, ліхтар, дом, дарожка захісталіся перад вачыма. Вашніну здалося, што ён памірае…

— Прабачце, агеньчыку не дасце? — перад ім стаяў высокі малады чалавек з усмешлівым тварам, без шапкі, з доўгімі светлымі валасамі.

— Агеньчыку? — прамармытаў Антон.

— Ага, падкурыць, — малады чалавек круціў у пальцах цыгарэту і зябка пацепваў плячыма.

Сэрца, што спынілася на хвіліну ад страху, радасна і таропка затахкала, кроў кінулася Антону ў галаву.

— Падкурыць… канешне, канешне… — залепятаў ён, паспешліва дастаючы з кішэні запальніцу.

Калі пстрыкнуў ёй і падносіў да рота незнаёмца, то пальцы па-здрадніцку дрыжалі, як ні намагаўся Антон суняць нерваванне.

Зрэшты, незнаёмец безуважна кіўнуў, вымавіў дзяжурнае «дзякуй» і пашыбаваў наперад размашыстым крокам, сутулячыся ад стрэчнага ветру.

Вашнін яшчэ пастаяў у цемры, тупа разглядаючы мабільнік з пагаслым экранам. Затым сам падкурыў і пакіраваў следам за маладым чалавекам, які ўжо знік за будынкам дзіцячага садка.

Дадому Антон дабраўся пасля дзесяці гадзін вечара. А то і пазней. Бо спачатку заехаў на стаянку, узяў машыну, а пасля яшчэ даў ладны крук у гіпермаркет «BIGZZ», дзе разам з прадуктамі прыкупіў сякія-такія гаспадарчыя прылады. А галоўнае, набыў ЗВЧ-печ, каб разаграваць стравы ў пакоі, а не на кухні, дзе можна сутыкнуцца з новым сужыцелем, тым самым бесцырымонным каўказцам, з якім

яны сёння заеліся. Харчы вырашыў трымаць не ў халадзільніку, а вывесіць у авосьцы праз фортку.

«Вось жа паслаў чорт суседа», — злаваўся Антон. Зрэшты, гэтае жытло ён зняў адно на бліжэйшыя пару тыдняў, максімум на месяц, пакуль падбярэ нешта выгаднейшае. Для такіх пошукаў патрэбны час і спакой. Антон жа з'язджаў з кватэры маці так, нібы пакідаў карабель, што тоне ў штармавым моры.

## 9

Балюча ўбіўся ў памяць той жнівеньскі дзень мінулага лета, калі раздаўся тэлефонны званок і спакойны афіцыйны голас папрасіў мужа Наталлі Вашнінай. Званілі з прыватнай гінекалогіі. Знячэўлены Антон доўга не цяміў, што яны ад яго хочуць, пакуль маланкай не працяло: Наташа зрабіла аборт, адчувае сябе блага і занепакоены ўрач просіць мужа за ёй сачыць і званіць у клініку, калі што…

Вашнін не памятае, што мармытаў у адказ урачу. Ён яшчэ доўга стаяў з трубкай ля вуха. Справа ў тым, што ён не толькі не ведаў пра гэты жончын намер, але наогул не меў звестак, што яна цяжарная.

Потым Вашнін амаль вобмацкам, са слязьмі і туманам уваччу, шукаў у бары гарэлку. Залпам асушыў шклянку, потым другую. Паваліўся на тахту, выцяўшыся патыліцай аб сцяну.

Тэлефонная трубка валялася на падлозе пад апаратам.

Хацелася задушыцца. А ўжо б калі Наташка была пад рукой, то здарылася б, магчыма, рукапрыкладства з жудаснымі наступствамі.

Антон не стрываў, пачаў тэлефанаваць цесцю, лаяць яго дачку… І з жахам зразумеў, што свайму бацьку яна *адкрылася*. Прычым не цяпер — зараз яна знаходзілася ў бацькоў, — а раней, значна раней. Змоўшчыкі! Яны ўсё даўно ведалі, уся сямейка…

Абмацюкаўшы цесця, Антон памкнуўся на кухню, сунуў галаву пад кран халоднай вады, потым похапкам апрануўся і выскачыў з кватэры на двор. Вечаровае, але яшчэ высокае сонца, помніцца, здзекліва ўсміхалася яму ў твар.

Першы Антонаў парыў быў — ехаць да цесця, патрабаваць Наташку і скандаліць да пасінення. Але па дарозе Вашнін астыў. Дапамаглі і тыя трыста грамаў гарэлкі, што ён выжлукціў дома. Ён стаў бяздумна блукаць па горадзе. Наведаў некалькі піўнушак. Гарэлкі болей не спажываў, толькі халоднае піва. Таму вярнуўся дамоў хоць далёка за поўнач, але ў блізкім да людскага стане.

Жонка, вядома ж, адсутнічала. Хавался ад жахлівага мужа. Рыдала на грудзях у матулькі.

Страшэнна хацелася спаць. Помніцца, усё ж прымусіў сябе распрануцца і заслаць канапу.

Ужо наступным днём, на рабоце, у душным офісе за экранам камп'ютара, вярнуўся боль ад перажытага, з новай моцай навалiліся думкі і ўспаміны.

Пытанне «як яна пасмела!» хутка змянілася разважлівымі, смачнымі планамі помсты. А самая страшная адплата — гэта стаць ёй чужым, разысціся. Ужо значна пазней дапяў Вашнін, што насамрэч гэты таемны аборт, гэтая замоўчаная цяжарнасць прыдаліся яму вельмі дарэчы. Што ён, па вялікім рахунку, толькі таго і чакаў. З'явілася важкая нагода ўсё разам закончыць. Разарваць, прыпыніць гэты здзек з яго датклівай асобы, з самой ідэі сямейнага жыцця, якое па вызначэнні мусіць рабіць

чалавека шчаслівым. О, ён хоча быць шчаслівым, вельмі хоча! А таму забудзе Наташку.

«На волю, неадкладна на волю!» — трыумфальны крык, які нарадзіўся ў ім, так і рваўся з вуснаў. Хацелася спяваць гэтыя запаветныя словы, каб усе чулі.

Аднак не ўсё так проста ў жыцці. Спатрэбіліся яшчэ два месяцы, перш чым Антон канчаткова наважыўся з жонкай разарваць. Бо, варта прызнацца, па прыродзе Вашнін быў чалавек мяккі, калі не сказаць — маладушны. У маленстве яго дражнілі мямлем, між іншым.

Ён саступіў яе галашэнням, умольным просьбам, пакаянным качанням ля яго ног, — тады ўвечар, калі праз два дні Наташка з'явілася ў кватэры. Змарнелая, жаўтушная. З сіняватымі кругамі вакол вачэй. Страшная. Цяпер думаецца, што ён проста спужаўся яе тады.

Але рэальна аборт з'явіўся мяжой, пасля якой жонка зрабілася для яго канчатковым і беспаваротным ворагам. Чужародным элементам на нашай блакітнай планеце. Страшнай казкай на ноч.

Забіць сваё дзіця! Чаму? Гэтае пытанне ён проста не наважыўся ёй задаць. І толькі прыглядаючыся да яе паводзін наступныя два месяцы, калі яшчэ жылі разам, Антон паступова адкрываў для сябе тую прычыну. Так бывае, калі мы назіраем нейкую жахлівую сцэну на тэлеэкране і, нягледзячы на ўсю агіду, не ў змозе ад яе адарвацца. А дастаткова адно націснуць клыпажок пульта і перайсці на іншы канал.

Канешне, развесціся — гэта не зусім націснуць на клыпажок. Але, па вялікім рахунку, нешта падобнае. Касуецца ці не палова афіцыйных шлюбаў. І большасць людзей наладжваюць новыя сем'і, зусім не цікавячыся ранейшым сужыцелем. Памры ён з голаду або стань кіназоркай, алігархам — усё, як кажуць, да лямпачкі. Цікавяцца толькі дзецьмі ад ранейшага шлюбу, сваімі нашчадкамі, дый то не кожны.

Наташа не хацела ад яго дзяцей. Бо ў яе мозгу патэнцыйнай пацыенткі Навінак дзіцём быў… муж, так, сам Вашнін, яе «Антончык», «Антосечак», «Антосік» — і яшчэ шэраг памяншальна-ласкавых мянушак, за якія часам хацелася даць поўху.

Праз паўтара года бяздзетнага жыцця ўстурбаваны Антон наведаў з жонкай спецыялістаў. І заўважных адхіленняў ад нормы ў іх не выявілася. Урачы супакоілі, параілі з'ездзіць улетку на курорт, дзе ў лагоднай экзатычнай абстаноўцы аддацца каханню. Праз два тыдні яны паляцелі ў Турцыю… А ўжо ўвосень, калі цяжарнасцю і не пахла, Антон выпадкова знайшоў у Наташынай шафе, пад стосам бялізны, таблеткі для прадухілення цяжарнасці. Распачаты, апалавінены пачак.

Не, ён не выпадкова туды палез, а па ўнутраным падазрэнні, якое не тое што ўслых, а нават у думках, сабе самому агучыць баяўся.

Увечары, калі ён прад'явіў Наташцы тыя таблеткі, яна разрумзалася і клялася, што ў яе лёгкае запаленне маткі, што яна нібыта звярталася да гінеколага і ён параіў перасцерагчыся на пару месяцаў.

«Як ты магла гэта мне не сказаць?!» — крычаў Антон, трасучы Наташу за худыя плечы. Вартая жалю, смарката-слязлівая… Ён не змог падняць на яе руку. Толькі штурхнуў на канапу.

Зноў качанне на падлозе ў нагах, маленні даравацць, клятвы ў тым, што яна больш не будзе таіцца… А затым, як заўсёды, ноч прымірэння.

Нейкае бясконцае кола пакут. І жыць было магчыма, толькі з яго вырваўшыся.

Антон ужо не верыў ніводнаму яе слову. І амаль год, роўна да таго выпадку з таемным абортам, жылі яны разам насцярожанымі, чуйнымі, недаверлівымі крывадушнікамі.

Ён доўга заседжваўся на працы, шукаў кампаній вясёлых прыяцеляў, а то проста хадзіў кругамі па горадзе пасля работы, каб збавіць час. Хадзіў і думаў адну і тую ж назойлівую, безвыходную думу — як быць?

Аднаго разу вяртаўся ён дадому ў добрым гуморы — з прычыны вялікай грашовай прэміі, якой узнагародзіла яго фірма за паспяховую распрацоўку. Была вясна. Красавік. Ясны сонечны вечар. Некаторыя вербы пачалі выпускаць танюсенькія лісточкі. У паветры, калі падыходзіў да дома, луналі водары цёплай зямлі, маладой травы і новай лістоты. Шчабяталі нябачныя птушкі… Антон, з тортам у руках, у расшпіленай куртцы заходзіў у пад’езд. І раптам, як толькі ўзяўся за ручку дзвярэй, нешта мярзотна-калючае кранула яго душу, і ўвесь святочны настрой знік, як не было. Ён стаяў, нібы прырослы да ручкі дзвярэй, не ў сілах зварухнуцца. Так доўга, што ззаду нехта падышоў і незадаволена буркнуў, каб Антон не займаў праход. Гэта вывела Вашніна са здранцвення. Ён адступіў і, пануранаы, з недарэчным цяпер тортам у руках пацёгся па горадзе. Дайшоў ажно да цэнтра, да самага Палаца Рэспублікі. Торт пакінуў недзе на паўдарогі, паставіўшы на пустую лаўку аўтобуснага прыпынку.

У той вечар ён адключыў мабільнік, завітаў у дарагі рэстаран і прабаляваў там да поўначы. Адтуль сазваніўся з даўняй, прызабытай прыяцелькай, з якой сустракаўся яшчэ да Наташы. З нахабствам п’яніцы напрасіўся дамоў.

Дзяўчына была яшчэ не замужам (а можа, і ў разводзе), жыла з бабуляй у двухпакаёвай кватэры. Вашнін ледзь не з парога палез абдымацца. Па-свойску заначаваў.

Ужо а палове пятай, прачнуўшыся ў ложку з палюбоўніцай, Антон адчуў нечаканы страх і згрызоты сумлення. Ён шпарка і амаль без тлумачэнняў апрануўся ды выйшаў на двор. Пашыбаваў дамоў пехатою. Праз кіламетр пашчасціла злавіць таксоўку, што ішла паражняком.

Калі адамкнуў дзверы і зайшоў у кватэру, жонка стаяла ў вітальні. Апранутая. Яна не клалася яшчэ спаць.

Натуральна: скандал, соплі, галашэнні, праклёны, пагрозы. І ўсё гэта наклалася на пахмельны галаўны боль. Антонаў бедны мозг не вытрымаў усяго гэтага. Той ноччу ён упершыню за жыццё, разважліва і бязлітасна, пабіў Наташу. Дзіўна, але, як аказалася, то быў самы надзейны сродак яе ўціхамірыць.

Але то было апошняе і самае кароткае прымірэнне. Праз два дні знаёмая непрыязнасць і недавер да Наташы авалодалі Вашніным. Ён зноў перастаў адказваць на яе званкі па мабільніку, стараўся як мага прыпазніцца на працы.

А аднойчы, у абедзенны перапынак, Антон заўважыў яе ў гіпермаркеце, куды звыкла завітаў пашвэндацца, каб размяцца. Знаёмая постаць у зялёнай куртачцы мільганула ў трыццаці метрах ад яго і знікла ў натоўпе. Сумненняў быць не магло. Ён бы пазнаў тую постаць і ў цемрадзі — так уелася яму ў пячонкі, так зраслася з балеснай псіхікай.

«Значыць, яна прыехала сюды за пяць кіламетраў, сарваўшыся з працы, адно каб за мною сачыць… Гэта ўжо нейкі пачварны спектакль, — думаў Вашнін, адшукваючы вачыма ў людской цісканіне Наташу. — Подлая!»

А пасля — яшчэ месяц пакутлівага сумеснага пражывання з нялюбай. Затым, праўда, дваццаць ліпеньскіх дзён, праведзеных на чарнагорскім курорце ў адзіноце. Падлечаныя нервы, вяртанне на радзіму нават з нейкім спадзевам на лепшае. І праз пару дзён — «сюрпрыз» ад Наташкі, калі яна забіла яго ненароджанае дзіця.

## 10

Прайшоўшы ў вітальню, Антон перш-наперш падскочыў да тэлефона і яго адключыў. Новы мабільнік ён паставіў на рэжым аўтапрыёму яшчэ па выхадзе з дома маці. Не хацелася нікога чуць да сярэдзіны наступнага дня. Машынальна ўспомніўся скандальны, галасісты сусед, што можа абурыцца такім Антонавым самавольствам з тэлефонам для агульнага карыстання.

Кватэра падазрона маўчала. Было незразумела, дома неспакойны сужыцель ці не. Колькі разоў, праходзячы па калідоры на кухню і ў ванную, Антон запыняў хаду перад дзвярыма другога пакоя, сцішаўся і прыслухоўваўся. Аднаго разу здалося, што ўнутры нешта скрыпнула, зварухнулася. Другі ж раз пачуліся слабыя гукі мелодыі, нібы нехта ўключыў FM-радыё. Антон наблізіўся да дзвярэй суседа, прыпаў да іх вухам. Аднак гукі не паўтарыліся. Прагучалі яны ў адной з суседніх кватэр ці толькі ў галаве Вашніна — заставалася невядомым. Свярбела пастукацца да каўказца з нейкім пытаннем. Уявіўся яго твар з вялізнымі, грэбліва скрыўленымі губамі, валасатыя рухавыя кісці рук з тоўстымі пальцамі, звяглівы, нібы нязмазаны, голас. «Ну яго ў падзямелле», — паморшчыўся Вашнін і пакіраваў у ванную з ручніком на плячы.

Пад гарачым душам ён не пераставаў насцярожана прыслухоўвацца. Здавалася, што за шумам вады хаваецца ад яго поступ кагосьці па калідоры, бразганне посуду на кухні, ляпанне фортки, дзвярэй. Антон рэзка выключаў ваду і напружана, баязліва слухаў цішыню.

Зноў уключаў душ. І тут жа чарговая бязглуздзіца прыйшла ў галаву: быццам вось-вось нехта паверне ручку дзвярэй, пачне торгаць іх, тузаць, пакуль не сарве дэкаратыўную засаўку. Арганізм Вашніна ператварыўся ў адзін напяты нерв, які пагражае лопнуць.

Гарачы душ не зняў напругу тамлівага дня. Антон адчуваў, што сёння не зможа сесці за працу, як планаваў. Кава, якой ён меркаваў напіцца для ўзняцця бадзёрасці, толькі канчаткова растузае нервы. У гэтым стане можна такога напартачыць, што адным наганяем не адкараскаешся — выганяць з працы. Уявіўся начальнік, гэты развязны, самаўпэўнены Рыгор Анатольевіч. Дарэчы, ледзь не Антонаў равеснік, на пару гадоў толькі старэйшы. Нізкі, хударлявы, жвавы халерык, ён умеў застрашыць сваіх падначаленых. Перад Рыгорам трапяталі і даўганогія сакратаркі, і пажылыя бухгалтары. А маладых праграмістаў кшталту Антона ён, будучы не ў гуморы, выстройваў як шкаляроў. Але саслужыўцы любілі свайго начальніка, які дасканала валодаў прынцыпам дзягі і перніка. Расцёршы ў парашок, умеў і суцешыць, і задобрыць грашыма. Умеў не таіць зла, і ўжо праз якую гадзіну пасля жорсткай «разборкі» мог гаманіць з табой у курыльні запанібрата.

І тым не менш, перспектыва заўтрашняга прачуханца Антона не радавала. Найхутчэйшай рэакцыяй Анатольевіча за нявыкананае заданне будзе тое, што ён засадзіць Антона за камп’ютар у офісе і будзе вісець над душой гадзін па дванаццаць у суткі, пакуль не даб’ецца свайго. Такія штурмавыя захады рэдкасцю не з’яўляліся, і Вашнін з дрыготкай іх згадвае.

Не, без каньяку гэтай ноччу не абысціся. Па-старэчы ўздыхнуўшы, Антон палез у свой вялізны чамадан па дзяжурную пляшку. Адкруціў жалезны корак. Прысеў на табурэт, аблакаціўшыся правай рукой на падаконнік. Зрабіў першы глыток.

Ён ведаў, што каньяк трэба патрымаць у роце колькі хвілін, першы чым ён апусціцца ў страўнік. З гэтых хвілін напой пачынаў сваё заспакаяльнае дзеянне.

У Вашніна, як у даволі звыкла пітушчага, была выпрацавана пэўная тэхналогія. Пяць глыткоў за адзін прысест цягам дня, калі нервы разладжваліся. І тры глыткі перад самым сном. Большая доза вяла да таго, што хоць і засыналася лягчэй, але пасярод ночы адбывалася непрыемнае і пакутлівае абуджэнне. Тады даводзілася варочацца з боку на бок гадзінамі, пакуль зноўку заснеш. А то і зусім падымацца, хадзіць, курыць ці ўключаць камп'ютар і працаваць.

Сёння, Антон адчуваў, і тры, і нават пяць глыткоў будзе замала. Прасцейшым уяўлялася налізацца дашчэнту, каб гарантавана заснуць. Але ў такім выпадку заўтра за руль сядаць нельга. Дый у офіс пазней за дзесяць гадзін прыходзіць непажадана. Начальнік за спазненне павесіць. І тым больш нельга паўстаць перад ім з бадуна.

Вашнін скрывіўся ад адной думкі пра заўтрашні дзень. Глынуў з плоскай пляшкі другі раз. У вантробах, у сэрцы Антонавага шматпакутнага арганізма панавала звыклая боязь…

Мікрараён бялеў свежым снегам. Свяціўся шматлікімі вокнамі, чародамі ліхтароў. І на ўсё гэта — на бетонныя гмахі, дарожкі і вуліцы, на прыпаркаваныя машыны, на рэдкіх запозненых пешаходаў — валіў густы несціханы снег.

Якая дабрадаць, падумаў Антон. І як жа яна дысануе з яго ўнутраным светам! Быццам пастаўлена паміж горадам, усімі людзьмі і яго чалавечай адзінкай празрыстая, але трывалая і непераадольная агароджа. Як гэтая шыба акна.

Трэці глыток. Чацвёрты. За ім амаль без перапынку — пяты. А ў грудзях усё той жа мароз. І заваблівая спакуса залпам асушыць гэтую невялікую пляшку. І дастаць з чамадана другую. Тады напэўна заснеш. Антон стрымаўся, знарок шчыльна закруціў корак, устаў і вярнуў каньяк у чамадан. Зашмаргнуў жалезную маланку. Нават засунуў чамадан паміж сталом і сцяною.

У наступныя колькі гадзін ён, як і баяўся, месца сабе не знаходзіў. Спачатку лёг на раскладушку: апрануты, толькі памяняў рабочы касцюм на спартыўны. Накрыўся зверху кажухом. Пагасіў таршэр. Але ў цемры, пры татальным бяссонні, з нейкай зларадннай бязлітаснасцю яго апанавалі дзённыя страхі. Кожны начны гук, які даносіўся з глыбінь шматпавярховага дома або з двара, шматкроць узмацняўся ў свядомасці, палохаў, прымушаў варочацца на мулкім ложку, а то і садзіцца, ці ўключаць святло. Некалькі разоў Антон, з непрыемна потнай спінай, адчыняючы дрыготкімі пальцамі дзверы, выглядваў у калідор. Пару разоў праверыў, ці сапраўды адключаны тэлефон, ці насамрэч замкнёны на «сабачку» ўваходныя дзверы, ці не даносіцца якіх гукаў з пакоя суседа. Ён прыпадаў вухам да дзвярнога шчыта, і тады здавалася, што яны раптам адчыняцца ўнутр і кароткая валасатая рука каўказца схопіць яго за шываpат.

У свой пакой Антон вяртаўся ў тупой безвыходнай роспачы. Замыкаўся. Садзіўся перад акном і курыў, выдыхаючы ў расчыненую фортку. На цела то накочвалі хвалі задушлівай гарачыні, то пранізлівага холаду. Часам станавілася так зябка, што ляскалі зубы. Тады Антон зачыняў фортку, мераў невялікі пакой жвавай хадой, прысядаў, нават адціскаўся ад падлогі, каб суняць дакучлівую дрыготку. Сагрэўшыся, лез пад кажух на раскладушку, гасіў таршэр. Аднак праз якія дзесяць хвілін станавілася душна і горача. Ускокваў, адчыняў фортку, хапкам глытаў свежае паветра. Затым выкурваў некалькі цыгарэт. Кароткі перыяд цялеснага камфорту спакваля змяняўся чарговым прыступам холаду. Усё паўтаралася нанова…

Антон з тугой пазіраў на гадзіннік, што «зжыраў» гадзіны выратавальнай ночы, якія павінны б прыносіць законны спачын душы, аднаўляць патрачаныя сілы, а замест гэтага мардавалі, вымотвалі.

Тры гадзіны ночы… Палова чацвёртай. Вонкавых гукаў ужо амаль не даносілася. Адзінока гарэлі вокны навакольных дамоў. Толькі на нябачнай адсюль вуліцы зрэдку пратарахціць машына.

Страх, напяты і самотны, нарастаў у грудзях. Здавалася, што ён разапрэ, разарве Антона знутры. Хлопец чарговы раз ускочыў на ногі, уваткнуў камп'ютарны шнур у разетку, стаў перабіраць DVD-дыскі, якія стаялі тут жа, на стале, у адмысловай падстаўцы. Хацелася ўключыць любы музычны кліп, пабачыць чалавечы твар, пачуць чалавечы голас…

Вашнін ужо прасунуў дыск у дыскавод, паклаў пальцы на клавіятуру, як раздаўся званок у дзверы. Нібы не званок гэта быў, а грымнуў у пад'ездзе мяшок тратылу, і ад гэтага захісталіся сцены, трэснулі падлога і столь… Не, гэта закружылася галава ў Антона. Ён пахіснуўся і абавязкова ўпаў бы, каб не схапіўся за спінку крэсла. Ці не сніцца яму ўвесь гэты кашмар? Хто? Хто можа званіць сюды пасярод ночы?!

Званок паўтарыўся. Не проста паўтарыўся — ён стаў нейкай незмаўкальнай дрыллю ў Антонавым мозгу. Той, хто званіў, націснуў і па-садысцку не адпускаў кнопку нават на долю хвіліны.

Бледны, змізарнелы і пастарэлы, на кволых нагах Вашнін выбраўся ў калідор. Паспешліва намацаў пераключальнік святла. Шэрыя ўваходныя дзверы, за якімі нехта ўпарты стаяў і званіў, уявіліся Антону жывой істотай. На хвіліну здалося, што яны зрушыліся з месца і грозна «едуць» насустрач.

А званок не змаўкаў.

Антон на дыбачках прайшоў да дзвярэй. Зірнуў у «вочка»…

У напаўасветленым калідорчыку, вычварна скрыўленая оптыкай, стаяла нізкая мажная постаць мужчыны. Твару разгледзець не ўдавалася, ён быў чорны, бо кволае святло падала са спіны начнога госця.

«Сусед? Але чаму не спрабуе ключом?..» — імгненна падумаў Антон. І тут жа прамовіў як не сваім голасам:

— Хто? Хто там?

Маўчанне. І бесперапыннае трэньканне немілагучнага дзвярнога званка. Рука мужчыны працягнута ўверх і направа. Лысая галава, з кропелькамі поту на макаўцы, нахілена тварам долу.

Антон яшчэ раз хацеў прамовіць «Хто там?», але з рота ўжо не выплыла ні шэпту, ні нават сыкання. Галасавыя звязкі як перарэзала.

Ён палахліва шарахнуўся ад дзвярэй, падбег да пакоя суседа, нясмела, а затым усё настойлівей стаў туды стукацца. Адказу не было. Затое званок упарта выводзіў сваю злавесную трэль.

Зноў Вашнін ля ўваходных дзвярэй. Зноў пазірае ў «вочка». Страшны мужчына, не паднімаючы галавы, застыў па той бок. Лысая шарападобная галава. Навіслыя над тварам вялізныя бровы…

Антон, нібы абвараны гэтым бесперапынным званком, забегаў па кватэры. Ён то кідаўся на раскладушку і накрываўся кажухом з галавой, то імчаўся ў ванную і пускаў ваду, спрабуючы яе пошумам прыглушыць жахлівую трэль. Адчыніў на кухні акно, высунуўся аж па грудзі, бездапаможна пазіраючы на абязлюдзелы двор… А праз дзясятак хвілін зноў разглядаў незнаёмца праз «вочка».

А галоўнае, Антон знямеў. Страх поўнасцю адняў яму голас. Немагчыма было скарыстацца тэлефонам, каб пазваніць у міліцыю.

Чалавек за дзвярыма доўжыў шкуматаць яго нервы. Прычым не гарлаў, не грукаў у дзверы. Проста безупынку званіў.

І вось, інтуітыўна разрываючы кола кашмару, Антон пацягнуўся адчыняць дзверы… Так, не вытрымаўшы болю, паступаюць усе самагубцы. Боль бывае страшнейшы за смерць.

Пракруціўшы баранок замка, Вашнін разнасцежыў дзверы.

За парогам, у адной белай кашулі, расшпіленай да самага жывата, стаяў цесць. Нізкі, мажны і лысы, ён, па іроніі лёсу, быў дужа падобны да Антонавага сужыцеля, каўказца, які цяпер знаходзіўся немаведама дзе.

Андрэй Сяргеевіч пазіраў спадылба чырвонымі, налітымі крывёю вачыма. Іх бялкі амаль зліваліся па колеры з шэра-барвовай скураю твару. Сам твар быў жахлівы. Заўсёдная яго азызласць павялічылася ўтрая. Шчокі бязвольна звісалі ніжэй падбародка. Тоўстая ніжняя губа вывернулася і таксама абвісла, быццам у паралітыка. З яе агідна сцякала сліна.

Гэтая губа тарганулася, папаўзла ўверх, і раптам пачуўся амаль незнаёмы, нібы скажоны электронікай голас:

— Ты забіў яе, вылюдак! — цесць рушыў цераз парог.

Больш ён нічога не казаў. Толькі дзейнічаў.

Вашнін стаў адступаць.

Андрэй Сяргеевіч узмахнуў кароткай тоўстай рукой, і Антон паляцеў праз увесь калідор, цюкнуўся патыліцай аб сцяну. Агаломшаны, ён намагаўся ўстаць, але цесць з нечаканым для свaёй камплекцыі імпэтам падскочыў і зрынуў хлопца на падлогу штурхалём нагі, накіраваным у грудзі. А пасля Вашнін, які перыядычна губляў прытомнасць, адчуваў цупкія пальцы на сваёй шыі, бачыў перад вачыма збуракавелы, скажоны нянавісцю твар, чуў кіслы пах старэчага поту.

Воля да жыцця канчаткова пакідала яго, калі раптам Андрэя Сергеевіча не стала перад Антонавым тварам. Замест яго мільгалі незнаёмыя абліччы, чуліся чужыя галасы. Нехта далёкі крычаў, усхліпваў, рыдаў немым голасам.

Правал. Новае абуджэнне — ужо ў машыне «хуткай дапамогі», што неслася праз начны забелены горад. Імклівыя чароды ліхтароў за шыбай акна… Зноў затуманенасць позірку. Ляскат металу. Рашучыя галасы. Мерныя гукі крокаў. Калідор з шэрагам лямпачак.

Канчаткова ён апрытомнеў толькі ў бальнічнай палаце…

**11**

У заключнай частцы рызыкнём даць слова галоўнаму герою. Бо аповесць стваралася непасрэдна з гісторыі жыцця Антона Вашніна, якую ён распавёў аўтару ў асабістай перапісцы, выпадкова пазнаёміўшыся праз эміграцкі сайт. Антон ужо амаль тры гады, што прамінулі з той страшнай снежаньскай ночы, пражывае ў ЗША, у Каліфорніі, на яе поўдні. Канкрэтны горад герой адмовіўся называць. Не таму, што ён кагосьці баіцца. Проста хоча, каб гэты аповед стаўся толькі фактам літаратуры, не болей. З той жа прычыны ён не раскрыў нам свайго сапраўднага прозвішча.

Ніжэйпрыведзеныя радкі, гэта амаль поўны тэкст яго апошняга інтэрнэт-паслання, праўда, апрацаваны ў адпаведнасці з канонамі мастацкай прозы. Дарэчы, пасля гэтага ліста абарвалася наша трохмесячная перапіска з Антонам. Нават не ведаю, ці прачытае ён гэта калі. Прынамсі, я змяшчу аповесць на сваім сайце і вышлю на яго анямелую паштовую скрыню паведамленне.

А цяпер паслухаем галоўнага героя.

«Хвалі акіяна накочваюць на пусты пляж. Раніцай, выпраўляючыся сюды, залез у інтэрнэт і паглядзеў, якая тэмпература вады. Плюс 12 градусаў па нашым "беларускім" Цэльсіі. Але гэта далёка не Беларусь, а зусім іншы край зямнога шара, дзе ў снежні тэрмометр паказвае плюс 19, а то і болей.

Трэці год запар я бяру ў гэты дзень адгул, купляю ўпакоўку піва і адпраўляюся сюды пехатою. Гэта чатыры кіламетры ад дома. Узімку тут даволі пуста. Свежае сырое паветра супакойвае мае нервы. Гляджу на бязмежны абшар вады, на мерны бег шырачэзных зеленаватых хваль, падфарбаваных нізкім лагодным сонцам. Я саджуся на скалу, метрах у трыццаці ад берагавой паласы. Тут не так ветрана і сыра, як каля самай вады, не так шумяць хвалі. Зрэдку, уздоўж лініі вады, прабяжыць якісьці фізкультурнік-аматар, бывае, у суправаджэнні сабакі. Амерыканцы завернуты на здаровым ладзе жыцця.

Я ж даўно не займаюся ўласным здароўем. Усміхаючыся крыху засмужанаму сонцу, адкаркоўваю чарговую бляшанку піва Budweiser і пацэджваю гэты дабрадатны напой. Ніякі крос яго не заменіць. У піве ёсць гармон шчасця. Выпіць бляшанку — што з'есці вялікую плітку чорнага шакаладу. Я ж не аматар салодкага.

Наперадзе акіян. А за спінай маёй — аграмадзіна кантынента, за ім — яшчэ большая прастора вады, за вадой — амаль цэлая Еўропа і толькі потым маленечкая краіна, дзе я нарадзіўся трыццаць з лішкам гадоў таму, дзе спазнаў столькі гора.

Спрабуючы разабрацца ў сваім лёсе, я не знаходжу дакладнейшага слова, як проста — наканаванне. Нічога нельга было змяніць. І ад гэтага робіцца ніякавата. Нібы ўцягнулі мяне ў добра пастаўлены спектакль, дзе можна было дзейнічаць толькі па задумцы ўладарнага рэжысёра. Як балюча адчуваць сябе марыянеткай у нейчых руках. Але ад болю ратуе пакора.

Хацеў бы я перажыць тое, што здарылася паміж мной і Наташай? Не хацеў, гэта бясспрэчны факт. Але перажыў, нягледзячы на ўсе мае жахлівыя прадчуванні, нягледзячы на жаданне любым коштам пазбегнуць самага страшнага. Не ўдалося. Тады ў чым жа я вінаваты? У тым, што нарадзіўся на свет? Але не мая ў гэтым ініцыятыва. А нарадзіўшыся, я мог вырасці толькі такім, якім стаўся: бесхарактарным, бязвольным, эгаістычным. Вось і лічыце, ці быў у мяне выбар. Родавыя гены і ўмовы выхавання мне выбару не пакінулі.

Збег выпадковасцей?.. Няўжо камусьці незразумела, што гэта хады нябачнага рэжысёра. Інакш бы чаму так сталася, што цесць зняў Наташу з пятлі за колькі хвілін да смерці? Якіх пяток хвілін — і яна б не ляжала паралізаваная, з паламаным шыйным пазванком, пры поўнай памяці. Як гэта жахліва — не зварухнуць ні рукой, ні нагой, будучы маладою. Ці вінаватая яна, што наважыла развітацца з жыццём, даведзеная да адчаю сваёй хваробай? Ці вінаваты я, што не захацеў жыць з вар'яткай? А мо, вінаваты цесць, што спазніўся на некалькі хвілін? Некалькі хвілін раней — і яна б не стала інвалідам, магчыма, ужо завяла б новую сям'ю і зазнала шчасце… А прымчыся ён пазней — дык ужо б і адмучылася, небарака. Усё лепей, чым так…

Горка ўсведамляць, што яна жыве ў такім бездапаможным стане, а я, адносна здаровы, уцёк ад іх за дваццаць тысяч кіламетраў. Уцёк і хаджу сваімі нагамі, прыстойна зарабляю, на добрым рахунку ў дырэкцыі фірмы; паўтара года жыву з жанчынай, якая цяпер цяжарная і не збіраецца, як Наташка, рабіць таемны аборт. Яна любіць дзяцей. Праз два месяцы я стану татам. Мой сын будзе шчаслівы. Прынамсі, я зраблю для гэтага ўсё, што змагу.

Маці нарэшце дала згоду сюды пераехаць, будзе сядзець з унукам. Але спачатку ляжа тут на аперацыю. Мне ўдалося яе і на гэта ўгаварыць. Зусім яна, бедная, не выходзіць з кватэры апошні год. Пад каліфарнійскім сонцам яна акрыяе.

Нават не верыцца, што ў Мінску, на процілеглым баку зямлі, цяпер ідзе снег і дзесяць градусаў марозу. Як жа хутка звыкае чалавек да добрага клімату. І ўвогуле, як хутка ён да ўсяго прызвычайваецца. Я даўно і размаўляю, і нават думаю па-англійску. Надоечы злавіў сябе на тым, што і ў снах маіх персанажы гавораць на гэтай мове. Нават маці, цесць і Наташа, якія сняцца мне вельмі часта. Наташа чамусьці жыве са мной у снах мірна і палюбоўна. Мы кахаемся, як легкадумныя галубкі. А вось цесць праяўляецца там агрэсіўна. Я страшэнна баюся гэтага чалавека. Ён душыць мяне ў снах — як у тую ноч, калі зламаў мне хрэшч кадыка, і толькі міліцыя, што прыехала ўслед, не дала мне заўчасна перайсці ў краіну нябожчыкаў.

Ён ненавідзіць мяне па-ранейшаму. Хоць я і напісаў тады заяву, якая пазбавіла яго ад суда. Зрэшты, любіць яму мяне няма за што. Стары перанёс тады інфаркт на нагах. А затым яшчэ адзін, з якім патрапіў ужо ў бальніцу. Цяпер працуе на знос, верыць, што падыме дачку на ногі. Толькі ж не ўсё вырашаюць грошы.

Наташа паўгода таму стала праяўляць цікавасць да жыцця. Яе саджаюць у каляску і возяць кожную нядзелю ў царкву. А то два з паловай гады нават адмаўлялася ежу прымаць, не размаўляла ні з кім — за тое, што змушаюць яе жыць інвалідам. Але як могуць бацькі дазволіць роднай дачцэ памерці? Хоць бы ў такім жудасным стане яны прагнуць яе жыцця. У гэтым праява бацькоўскага эгаізму.

Першы год, калі перабраўся сюды, мне было вельмі самотна. Я наведваў псіхолага некалькі месяцаў. Адно з самых важных правілаў, якія засвоіў тады, — не шкадаваць пра страчананае, якога не вернеш. Не трэба займацца самаедствам. Гэта счарняе душу, якой і без таго дасталася. Трэба ісці наперад, як бы пагана ні было раней. Уласцівасць нашай светабудовы такая, што ўсе працэсы адбываюцца беззваротна. Зразумеўшы гэта, я адчуў сябе лепш, а неўзабаве адшукаў сяброўку жыцця, якая хутка падорыць мне сына.

Што ж, вось і апошняя бляшанка піва з упакоўкі. Яе па завядзёнцы дацаджу па дарозе і выкіну ў сметніцу, што на прыпынку аўтобуса.

Планую сёння падстрыгчы вакол дома газон і пабяліць столь у кладоўцы. А яшчэ трэба завезці машыну на аўтасэрвіс, нешта карданны вал барахліць.

Вышэе мяккае сонца над пустым пляжам. Ліжуць хвалі чысты пясок. Будзе лагодны дзень. Вітаю цябе, зіма Каліфорніі.

Бывайце, здані мінулага».

***«Ціхая» лірыка адпушчана на волю лёсу. Хто і чаму звяртаецца да яе? Відаць, той чалавек больш засяроджаны, больш спакойны па тэмпераменце, і бытнае непакоіць яго часцей, чым нейкія знешнія раздражняльнікі. Падобным людзям хапае паўсядзённасці і звычнага наваколля, каб адшукваць паэтычную эмоцыю.***

***Эдуарду Зубрыцкаму неймаверна пашчасціла нарадзіцца і жыць у Прыдзвінні. Суворы паўночны край Беларусі. Старадаўнія лясы і пушчы, разрэзаныя водамі азёр і рэк. Прыроды тут больш чым людзей. Нездарма «ціхія лірыкі» якраз часцей і нараджаліся ў падобных мясцінах — Сібіры, Валагодчыне...***

***Гэты Прыдзвінскі край штораз паўставаў у вершах Эдуарда Зубрыцкага, чыё 70-годдзе адзначаецца сёлета ў красавіку. На жаль, сам юбіляр не зможа на яго патраціць — у маі 2008 года паэта не стала.***

***Але слова яго засталося. Доказам таму — гэтыя вершы з архіва часопіса «Маладосць».***

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*



*Эдуард ЗУБРЫЦКІ*

# МОЙ ЗЯМНЫ САМЫ ЧЫСТЫ ЎСПАМІН

## САСНА ВЕЙМУТАВА

Сар’янскі парк атулен цішынёй,
Ад холаду прыгорбіўся масток.
Прысеўшы пад рыпучаю сасной,
Вылічваюць стагоддзі свой выток.

Яна сваіх не ведае гадоў,
Яны гадоў не ведаюць сваіх.
Ссівелы мох іх памяць пераплёў
Ад каранёў да шатаў векавых.

Быць можа, ім раскажуць Курганы,
Што прад Сар’янкай палі ніц,
Якія сёння бачацца ім сны,
Раскрыюць таямніцу з таямніц?
Ізноў маўчыць пад снегам цішыня,
Ад холаду прыгорбіўся масток.
І ўсё скрыпіць ахрыплая сасна,
Вылічваюць стагоддзі свой выток...

## НА ЎСХОДЗЕ БЯРОЗ І РАБІН

*Ірыне Лебедзевай*

**1**

Усход бяроз асвенціць ранак,
Успырхне жаўранак з рукі.
Я, безнадзейна закаханы,
Спяшаю лёсам напрамкі.

Шапчу тваё святое імя,
Што ў сэрцы б’ецца і баліць.
Нічога больш, адно б тваімі
Мне толькі сцежкамі хадзіць.

Рабіны ліст пад ветрам б’ецца.
Іду, а крокі ўсё цішэй:
Цябе так боязна сустрэць мне,
А не сустрэць — яшчэ страшней…

**2**

Мілыя картавінкі твае,
Нашых рук нязбытныя сустрэчы.
Як мне вас заўсёды не стае,
Як без вас журботна кожны вечар!

Што маркоціць, думкі ці снягі
У халоднай прывіднай завеі?
Атулілі воблік дарагі
Спуджаныя казачныя веі.

Заблудзіцца гэтак бы у іх,
Каб ужо не выбрацца, не выйсці.
Мілая, картавінак тваіх
Не хапае мне, як дрэву лісця…

**3**

За лясамі, за гаем, за рэхам
Сцежак сходжаных сцелецца дым.
Зноў душою на іх уваскрэсну,
Зноў адчую сябе маладым.

Не пусцеюць палі і дубровы,
Не журыцца рабінавы гай,
Хоць у далях згубіліся словы
«Прыязджай, любы мой, прыязджай…»
І шапчу табе:
«Дзякуй, што ёсць ты,
Мой зямны самы чысты ўспамін
На сцяжынках маёй маладосці,
На ўсходзе бяроз і рабін…»

**ПЫТАННІ**

Шуміць трава у чыстым полі,
Палын-травы гусцее цень.
Што мне рыхтуе заўтра доля,
Што прынясе мне новы дзень?

Плывуць высокія аблокі,
Валошак сінь паміж жытоў.
Што там, за далеччу шырокай,
Што там, за навіссю дажджоў?

Па вастрыі іду маланак
З адкрытай, чыстаю душой.
Што за усмешкаю каханай?
Што за ухмылкаю чужой?

Гарыць чырвоная рабіна
Халодным восеньскім агнём.
Што мне пражыты дзень пакіне,
Што заўтра ляжа пад сярпом?

Світае дзень марудны, золкі,
Яшчэ адзін лісток апаў.
Шкада апошняй перапёлкі,
Што у жытах каршун задраў…

* * *

Па зямлі, што асвечана хлебам,
Я іду са збалелай душой.
Мо таму, што не так, як патрэбна,
Я зрабіў у разладзе з сабой.

Сенажаць п’е з крыніцы сцюдзёнай,
Ды няма ў ёй святой чысціні.
Што я змог, што зрабіў я сягоння,
Каб вірыла яна ў глыбіні?!

Над лугамі натомлены бусел
Ўсё часцей размыкае кругі.
І стаю, і гляджу, і баюся
За яго пад усплёскі смугі.

Над жытамі змарнелыя сосны.
Перапёлка трывожыцца «піць».
У дубровах дачасная восень
Жаўталісцем завейна шасціць.

Замятае шляхі і дарогі.
Каб душу не вярэдзіць сваю,
З абмялелай крыніцы хоць трохі
Перапёлку ў жытах напаю…

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*
## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга трэцяя*

Аўгуст, дзяржавы айцец, ганаровай высокай пасадай
Подзвіг адзначыў яго: пасля смерці шаноўнага брата[1]
Віленскім стаў ваяводам герой Радзівіл па заслугах.
Цэлых трынаццаць гадоў ён насіў гэты велічны тытул,
Годна пасаду займаў, а ў той час каралеўскую ўладу
Стэфан здабыў у сармацкай краіне, вялікі Баторый, —
Мудрасць, аздоба й хвала неспакойнага нашага веку.
Радасна хвалі свае Мэатыйскія воды[2] ўздымалі,
Плешчучы ў гонар яго, а Масковія ў роспачы моцнай
Аж затрымцела ад страху. Набожнасць высокага неба
Іх, баязліўцаў, пужала, бо ў свеце настала суладдзе.
Неба давала знаменні — а неба ніхто не пасмее
Зманным лічыць! Спакваля наліваліся хмары крывёю,
Часта агніста-крывава палалі ў вышынях каметы,
Полымя ж — сімвал вайны і прыкмета смяротнае сечы.
Здані дрыготкіх слупоў ды пачварныя сполахі ў небе
Раілі ўсім пазбягаць неразумных ваенных сутычак,
Жудасць і смерць прадракалі... О ясныя светачы неба!
Дзень дабрадатны для нас вылучаючы з цемры, здалёку
Горка аплакалі вы непазбежную злую паразу.
Сам Усявышні Айцец, пасылаючы часта знаменні
Як на зямлі, так і ў небе прадказваў жахлівыя смерці.
Страшнае нейкае Сонца азмрочыла неба сабою,
Бледным святлом атуліўшы трывожныя землі навокал.
Сёння ж Латоніна[3] ноч патанула ў блішчастым палацы —
Гонар бяссмертны свяшчэннае цноты сусвет атуляе.
Грукат ваенны пачула Масковія ў небе высокім,

---

* *Працяг. Кніга трэцяя, пачатак у № 6—12 м. г., № 1, 2, 3 г. г.*

[1] *Пасля смерці шаноўнага брата...* — маецца на ўвазе Віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны, які памёр у 1565 годзе. З 1566 па 1579 год ваяводам Віленскім быў Мікалай Радзівіл Руды.

[2] Мэатыйскія воды — Азоўскае мора.

[3] Латона — паводле антычнай міфалогіі маці Апалона і Дыяны (Артэміды), якія ў паэзіі эпохі позняга Рэнесансу і Барока служылі паэтычнай алегорыяй Месяца.

Потым убачыла дзідаў жахлівых сутычку, і ўрэшце
Зораў, прасякнутых чырванню, шэраг пурпурны.
Безліч знаменняў было, часам нават пры ціхім надвор'і
Там, пад абсягам Мядзведзіц, іх лік памнажаўся; маланкі
Пырскалі ў небе з заходніх краін, навальніцы грымелі —
Яўна й бясспрэчна яны прадвяшчалі вялікія беды[1].
Толькі ліхі валадар не палохаўся гэтых выяваў.
Нават злавесныя птушкі (даюць часам веру й крылатым)[2],
Совы-сіпухі, пачварныя здані дрымучае пушчы,
Ліха прадказвалі — толькі нячулай душа засталася.
Зрэшты, і маці-зямля, што на смерць аддавалася здрадна,
Гора сваё абвясціла ды ў гневе за безліч забойстваў
Выдала гэткі пратэст: па гарах і лясістых прасторах
Раптам прайшлі землятрусы з нязвыклым глухім грукатаннем.
З могілак, ціхіх гаёў, са свяцілішчаў нават нярэдка
Чуліся дзікія гукі, выццё, а таксама, як кажуць,
Горка святы Мікалай праліваў свае слёзы, а горад
Поўніўся брэхам сабак у жахлівых начных завываннях.
Колькі разоў аквілоны ламалі лясоў вяршаліны,
З посвістам грозным вятры праз гушчар разбуральна ляцелі.
Мноства відзенняў і з'явішчаў стукала ў сэрца тырана,
Толькі яго не каранала нішто — ні грымоты, ні зоры;
Ён не глядзеў і не слухаў, нячулы да вешчага неба.
Сэрца каменнае ў гэтых грудзях — і дакладна такое,
Быццам парогі Дняпра, перашкода для ўсіх мараходаў[3].
Іншыя ўсе напаміны не мелі карысці: тырану
Гэткая ж прага вайны хвалявала нячулае сэрца.
Трэба асобна яшчэ расказаць пра найбольшае дзіва[4].
(Боязна нават пісаць!..) Раз маскоўцы зімовай парою
З жонкамі ў горад ішлі, у Маскву; тут для ўсіх нечакана
Стала круціць завіруха, страшэнная бура ўзнялася,
Неба прапала з вачэй... І тады мармуровая глыба
Формы квадратнай зляцела, на ёй — таямнічыя знакі,
Пырскі пурпурнай крыві... Падавіла нямала маскоўцаў...
Жах ахапіў іх — і вось, пра сябе ды пра неба забыўшы,
Ледзьве сабраліся з духам ад гэткай жахлівай падзеі,
Потым напоўнілі горад гаротнымі крыкамі, плачам.
Літары, кроў, Боскі знак... Так карціць падысці, падзівіцца.
Грубыя душы людзей страх дрыготкі наскрозь працінае.
«Бог-Адкупіцель, — гамоняць, — не хоча больш іхняе смерці.

---

[1] Глоса: «Усё гэта ў рымскіх вешчуноў было знакам няўдачы або паразы».

[2] Глоса: «Марудныя ліхія птушкі, якія прадвяшчаюць няшчасце». У «Фастах» Авідзія (VI, 131—140) сіпухі апісваюцца як драпежныя птушкі, якія нападаюць на людзей; паэт мяркуе, што яны маглі паходзіць ад вядзьмарак.

[3] Глоса: «Парогі ў вусці Дняпра, дзе жывуць нізоўцы». Гэтую заўвагу Ян Радван дапоўніў словам «Porohi».

[4] Глоса: «Сапраўдны і незвычайны цуд».

Годзе забойстваў!..» Іван не прамовіў ніводнага слова,
Толькі на камень зірнуў — шчэ больш злосным адразу зрабіўся.
Потым заўважылі людзі: ахоплены страхам пабожным
Першы масковец, бо кажа: «Не нейкі абрад забабонны
Тут перад намі, не з'ява прыроды, не выпадак марны,
Хітрай Фартуны падман... Гэта Бог, гэта Бог учыняе!
Гэй, паспяшайце сюды, да злавеснага страшнага знака,
Кожны, хто мае кантакт альбо доступ да душаў памерых,
Кожны, хто Боскім натхненнем свой дух наталяе, хто можа
Будучы лёс адгадаць, растлумачыць прароцтвы... Што гэта?
Што там за зманныя словы на камені гэтым вандроўным?»
Кажа яму патрыярх: «Гэты надпіс магу я спасцігнуць.
Дадзена мне зразумець, што гаворыцца ў словах таемных.
Ведаю: страшны канец нам прадказаны ў гэтых скрыжалях.
Гібель народу твайму ды страшэннае кровапраліцце
Лёс прадракае — і нас, нас прынамсі знаменне датычыць.
Хмары навіслі цяпер над літоўскай мяжою. О Божа!
Лепш бы Ты даў гэткі лёс нашым ворагам!..» Так ён прамовіў —
Тут жа паўсюдна народ падхапіў яго вешчыя словы.
Тут пачынае Іван, спакушаючы Бога бясконца,
Кпіць з патрыярха: «Ну й што, у мяне ёсць сваё прызначэнне:
Нішчыць народы жалезнаю зброяй, і гэтыя байкі,
Гэтыя монстры, страшыдлы не спыняць мяне, не павернуць!
Гэй, не марудзьце ж цяпер, люд маскоўскі, загад аддаю вам:
Разам са мною — гайда! — выпраўляйцеся ў землі лівонцаў!»
О, надарма ўладарам прадказанні, прароцтвы ды цуды:
Лёс накіроўвае ўсё, і за лёсам ідуць паслухмяна[1].
Горад, што ў Данцыгскай бухце, у вусці прыгожае Віслы,
Гданьскам завецца[2], яго насялялі мужы лехіяды,
Потым валодалі ім і нашчадкі германцаў; прыдатны
Быў для жыцця ён усім, меў бяспечныя порты. Тым часам
Доўгай аблогаю горад сармацкі кароль прыціскае.
Сэнсу няма ваяваць, бо няроўныя сілы; дарэмна
Гданьскі трываў гарнізон пад напорам суровага Марса.
Раптам з'явіўся ганец з навіной нешчаслівaю: вораг
Новы напад учыніў, захапіўшы памежныя землі,
Зноў распаляе вайну ды плюндруе лівонскія замкі.
Гэтак раз'ятрыўся вораг — нічым не стрымаць ненажэру.
Плач раздаецца паўсюль, у Літве — разбурэнні й рабункі,
Землі ж лівонцаў цяпер зноў ахоплены роспачным страхам.
Што ж тут рабіць? Як Айчыну ізноў ратаваць ад чужынцаў?
Кінуць здабытыя землі?.. «Ідзі, Радзівіл, выпраўляйся;
Сёння задача твая — зацугляць гэтых лютых пачвараў».

[1] Глоса: «Таго, што прызначыў лёс, нават даведаўшыся, немагчыма пазбегнуць» (Тацыт, Гісторыя I); «Нас вядзе лёс — ідзіце ж за лёсам» (Сен[эка] Траг[едыя]).

[2] Глоса: «Гданьск, гандлёвы горад у Данцыгскім заліве, быў узяты ў аблогу каралём Стэфанам, а тым часам масковец уварваўся ў Лівонію ў 1576 г.».

Хутка на Сельбарк[1] тады павярнуў князь адборнае войска,
Кінуўся ў збройную бітву для славы й свабоды Айчыны.
Вось ён да Дуны дайшоў, што шумлівымі хвалямі плешча.
Тут жа спалохаўся вораг (што, можа, няпраўда, маскоўцы?)[2],
Нават на гонар забыўся ды колішніх зрокся пагрозаў,
Пырснуў наўцёкі (бо — ясна! — прывык нападаць па-зладзейску),
Кінуўшы нават гарматы, бо з імі ўцякаць не занадта...
Толькі адно ў галаве: каб пазбегнуць суровай дзясніцы!
Што, можа, гэта табе, найлюцейшы, найгоршы тыране,
Гонар зрабіла ці мо ўзвялічыла годнасць манарха?
Ты, пераможца жанчын, развітаўся ўжо сёння з душою,
Здатны адно, каб вайскоўцаў адправіць на смерць ды каб ратнік
З ганьбай наўцёкі ляцеў па прасторах дрымучага лесу!..
Тут прыгадаю цяпер каралевіча дацкага: Магнус[3]
Быў забіяка й выгнаннік з бацькоўскіх сядзібаў, аднак жа
Мірных сваіх грамадзян да вайны падбухторваў упарта.
Што тут сказаць? Рабаваў, небарака, з раз'ятраным Марсам
Крэпасці і гарады, ды ў манарха Лівоніі меціў.
Кажуць, для гэтага ён на такое пускаўся, што проста
Ганьбай было для мужчыны; ён здрадніцтвам цешыў тырана,
Церпячы ўсё ад яго — пахвалу, прыніжэнне, пагарду[4];
Кідаўся, бедны, не раз то ў вайну, то ў інтрыгі... Як сябру,
Кажа яму Радзівіл уцякаць найхутчэй ад маскоўца,
Раіць пакінуць яго — і паслухаўся Магнус героя;
Потым, як Стэфан прыйшоў, жыў спакойна ў ягонай краіне.
Зноў атакуюць маскоўцы — цяпер нападаюць на Вендэн[5],
Вежам аблогу зрабілі — грунтоўна ды з войскам вялікім,
Нават па зломах муроў пачалі ўжо караскацца спрытна...
Смелай задумай тады Марс напоўніў Сапегава сэрца,
Планам выдатным натхніў ды на большую бітву паклікаў:
Раіць яму павярнуць да варожага стану, і з войскам
Крэпасць хутчэй штурмаваць, бо маскоўцы таго і баяцца!..
Кліча Сапега да зброі вайскоўцаў усіх без затрымкі[6].

---

[1] Сельбарк (па-лац. castrum Selonum, па-літ. Sėlpilis) — колішні ваенны і палітычны цэнтр гістарычнай вобласці Селонія ў Прыбалтыцы, на тэрыторыі сённяшняй паўночнай Літвы і паўднёвай Латвіі, на левым беразе Дзвіны.

[2] Глоса: «Як толькі прыйшоў Радзівіл, масковец пабег наўцёкі, кінуўшы гарматы».

[3] Глоса: «Магнус, брат караля Даніі; лівонскі Парыс». Магнус (1540—1583) — дацкі прынц, удзельнік Лівонскай вайны. У 1559 годзе стаў курляндскім і эзельскім біскупам. У 1570-м быў абвешчаны ў Маскве каралём Лівоніі пад вярхоўнай уладай Івана IV; у 1573 годзе ажаніўся з яго пляменніцай Марыяй. Ва ўсіх ваенных мерапрыемствах пацярпеў няўдачу. У 1578-м перайшоў на службу да караля Стэфана Баторыя.

[4] Глоса: «Малітоўна поўзаў на каленях перад маскоўцам».

[5] Глоса: «Венда ў Эстляндыі; у ліцвінаў — Кесь, там 24 000 маскоўцаў былі разбіты невялікім войскам літоўскай шляхты, пры гэтым захоплены гарматы ў вялізнай колькасці».

[6] Глоса: «Андрэй Сапега, староста Аршанскі, пасол Мікалая Радзівіла, разбіў маскоўцаў». Разгром маскоўскага войска атрадамі Андрэя Сапегі пад Вендэнам (Кессю) адбыўся 21 кастрычніка 1578 года.

***Пераклад з лацінскай і каментарыі Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

Ігар ЖУК

# ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНЫ АКТ «ЗОРНАГА НЕБА»: НАТАТКІ НА ПАЛЯХ АДНОЙ КНІГІ ПРА ЛІТАРАТУРУ

У Івана Штэйнера ўяўленне пра літаратуру як пра адну з найважнейшых праяў цывілізацыі, па ўсім відаць, не толькі ад адукацыі і інтэлекту, але яшчэ і ад прыроднай інтуіцыі. На такую думку наводзіць гуллівая і дзёрзкая цяга вядомага даследчыка спецыяльна распачаць чысты аркуш паперы загалоўкам на лацінскай мове, што традыцыйна лічыцца моваю ўніверсальных цывілізацыйных кантактаў. Такая ўжо якасць цэлага шэрагу кніг, паасобных выпускаў эсэ ці літаратуразнаўчых зборнікаў, што за апошні час адно за адным літаральна сарваліся з рабочага стала гэтага таленавітага аўтара.

Якасць надзвычай паказальная. Бо загаловак — не толькі вонкавы «пашпарт» створанага тэксту ці нейкая важнейшая праблема, падкрэслена вынесеная аўтарам у пачатковую тэкставую пазіцыю. Загаловак найпершым чынам і ёсць сам тэкст, толькі згорнуты ў сціслую ёмкую слоўную формулу. Як «згорнуты тэкст», ён нясе тую ж прагу мыслення і тую ж яго інтэлектуальна-духоўную тэмпературу, што і сама субстанцыя тэксту, так бы мовіць, першасная, асноўная.

Кніга Івана Штэйнера, якая служыць прадметам для дадзеных нататак, сумарны тэкст таксама згарнула характэрным творчым жэстам — лацінамоўнай формулай загалоўка «Ex promtu — ex proposito». Пад яе вокладкай сышліся матэрыялы, ужо друкаваныя ў беларускай літаратурна-мастацкай і навуковай перыёдыцы. Сабраныя разам, яны атрымалі некаторую новую якасць, своеасаблівы ўказальны аўтарскі вектар усталяваных правілаў чытання, вызначаных сутнасцю аб'яднальнага загалоўкавага жэста. *Ex promtu* азначае не толькі звыкла будзённае «экспромтавае», г. зн., нешта ўчыненае без папярэдняй падрыхтоўкі, але і тое, што ёсць у наяўнасці, падрыхтаванае, але яшчэ да канца не сфарміраванае і не да канца ўстойлівае. А *ex proposito* можа быць патлумачана як нешта, што створана мэтаскіравана, з загадзя абдуманым заданнем. У распараджэнні І. Штэйнера былі «лятучыя» (як далікатна і трапна назваў іх у прадмове да кнігі М. Тычына) брашуры, эсэ, артыкулы, але іх разрозненая, эксклюзіўная, экспромтавая якасць патрабавала нечага злучальнага. Патрабавала новага статуса — знятасці з мімалётнага стэнда выпадковасці. У іх было закладзена іманентнае самаўдасканаленне даследчай думкі, яе рух ад чагосьці выключна інтуітыўнага, калі так можна сказаць, аднаразовага — і аж да асноватворна ўгрунтаванага ведання і асабістага сведчання пра лёс і статус беларускай пісьмовай культуры.

Загаловак сваю тэкстастваральную функцыю выконвае. І, падобна на тое, дасканала. Літаратура выяўляе не прыватную прыроду, а анталагічную, уласцівую ёй спрадвечна — як з'ява цывілізацыі, як яе вербальнае замяшчэнне, як той неабходны цывілізацыйны аспект, што ў тэарэтычным навуковым доследзе мае назву «нацыянальны дух». *Ex proposito* кіруецца высакароднай і справядлівай думкай пра тое, што духоўныя каштоўнасці, створаныя этнасам — непаўторныя і непаўтаральныя, як непаўторным і непаўтаральным, а галоўнае неўзнаўляльным з'яўляецца каштоўнасны нацыянальны вопыт, набыты цягам доўгага гістарычнага жыцця. Набыць яго наноў — значыць неверагодным чынам прымусіць этнас прайсці этапы свайго развіцця яшчэ раз, у тым жа парадку. А гэта немагчыма.

*Каму без чалавека патрэбна слова?* — Іван Штэйнер, азіраючыся на пройдзенае чалавецтвам, адрасуе нам пытанне на парозе новага тысячагоддзя. Я не ведаю і не ўпэўнены, ці так менавіта трэба ставіць пытанне, бо ёсць нешта дагматычнае ў глыбе гэтай праблемы. Але гэта пытанні літаратуразнаўства, прынцыпы якога актыўна выспавядае даследчык: філасафічнага літаратуразнаўства, дзе літаратура паўстае аб'ектам бесперапыннай інтэлектуальнай рэфлексіі. Літаратура

тут — матэрыялізаванае «цела», працэс і вынік эстэтычнага ўвасаблення назапашаных маральных, валявых, грамадскіх памкненняў незлічонага мноства як цэлых людскіх пакаленняў, так і асобных індывідуальных чалавечых лёсаў. Літаратура не заканчваецца толькі актам аўтарскага счаплення слоў у мастацкі тэкст. Яна адсюль хіба што акурат пачынаецца — як вяртанне творчай асобай нябачанай пазыкі той інтэлектуальнай сіле, якую дагэтуль змог укласці ў кожнае вытруджанае слова і ў кожны агранены гук супольны шматвяковы этнічны інтэлект. «Літаратуру хаваць яшчэ дачасна», — лічыць І. Штэйнер. І лічыць справядліва.

Аднак пытанне з «запеўнага» артыкула можна пераадрасаваць нашай рэальнасці і ў адваротным парадку: ужо не слова без чалавека, а чалавек без мастацкага слова — ці ёсць у ім якая-небудзь патрэба разумнаму сусветнаму існаванню? Калі яно, слова прыўкраснага пісьменства, страціцца, што будзе тады? Што з яго стратай станецца з чалавекам, этнасам? Бо сакрэт невялікі: беларуская слоўная культура, якая і дагэтуль хадзіла ў пастаянных абдымках з пагібеллю, на пачатку трэцяга тысячагоддзя свой жыццёвы інтарэс ніяк не можа пашырыць у катастрафічнай прасторы грамадскай раўнадушнасці. Няма каму чытаць, сцвярджае І. Штэйнер. І спасылаецца на балеснае прызнанне таленавітага беларускага празаіка, у чыёй творчасці, бадай што, і закончыўся сучасны беларускі раман, Віктара Казько, — пра тое, што для яго, пісьменніка, было б за шчасце, каб ягоны твор прачытаў хаця б адзін чалавек.

Так, беларускую літаратуру паступова скрадвае цень факультатыўнага існавання. Цяпер, на сённяшні дзень, гэта клопат невялікай колькасці тых, хто яе творыць. Грамадства толькі вяла і летаргічна-сузіральна паводзіць вокам. Яно ў такім стане, калі можна і не заўважыць знікнення нацыянальнай літаратуры. Дапускаю, што страты можа не заўважыць нават і наступнае пакаленне. Але — што далей, што за гарызонтам страты? За яе парогам? Што будзе з народам, імя якога таўравана фактам безлітаратурнага існавання? Які то будзе народ з таўром добраахвотна страчанай літаратуры?

Прадбачыць не цяжка: першаму пакаленню любая страта даецца няўзнак. Яно можа нават яшчэ нічога і не прыкмеціць. Як не прыкмячаем мы сённяшнія (за выключэннем спецыялізаванага чытача) яе, літаратуры, катастрафічнага свядомаснага звужэння. Але час пройдзе. Няхай не другое, дык трэцяе пакаленне беларусаў гляне ў сваю культурную гісторыю «ўсмешкай гораснай падманенага сына» — і страта выкрыецца. Выкрыецца «зрухнутасць», анамальнасць цывілізацыйных працэсаў, у эпіцэнтры якіх знаходзіліся мы сённяшнія. Далёкія нашы наступнікі зазірнуць у адкрытую духоўную «дзіру», здзіўленапатрабавальным позіркам упруцца ў яе далёкае сляпое дно, шукаючы там хаця б цьмяныя абрысы нашых ценяў — ці ўбачаць?

Як засцерагчыся ад падобнага ці прыблізна такога роду разважанняў? І. Штэйнер іранізуе: «Пракам стаць надзвычай лёгка. Асабліва ў наш час. Проста неабходна заўсёды заставацца песімістам і з разумным выглядам прарочыць: “Ці тое яшчэ будзе”». Аднак іронія гэтая са знакам трывожнай горычы. Сам жа аўтар піша: «Класічная літаратура ці літаратура ў класічнай традыцыі не хацела (...) і не хоча заўважаць зрушанасці свету, хоць намёкаў, алюзій было больш, чым дастаткова. Яна за лепшае палічыла зажмурыць вочы, як дзіця, якое імкнецца пазбегнуць небяспекі, або як неразумны валюхасты дыназаўр, які змагаецца з сабе падобным у той час, калі шаблязубыя тыгры ўжо грызуць ягоны хвост. Яна (літаратура) яшчэ люляе-песціць спадзяванне вярнуцца назад, адшукаць віртуальную дарогу ці хаця б сцяжынку да ціхага мінулага, бо наперадзе — нябыт».

«Нябыт» класічнага варыянта літаратуры, які, магчыма, наперадзе, і ў той жа час «літаратуру рана хаваць» — два вонкава супярэчлівыя тэзісы, закручаныя ў адмысловы парадокс, займальна справакавалі інтрыгу, віртуозна і захапляльна расказаную даследчыкам у творчых асобах, літаратурных тэндэнцыях, гісторыях эстэтычнага бытавання ідэй з розных літаратур, цэнтрам прыцягнення якіх стала беларуская літаратура. Без перабольшання, кніга іскрыцца залацінкамі трапных і дакладных назіранняў, афарыстычных выказванняў, якім месца не толькі ў канспектах студэнтаў ці ў навуковых працах наступнікаў, але і ў любой інтэлектуальнай гутарцы. І нават у побыце. Кніга падкупляе арганічнай і якойсьці зухаватай, размашыстай свабодай перамяшчэння аўтарскай думкі праз крэатыўную прастору розных, найперш славянскіх, літаратур.

Прычым «узор», які тчэцца з markdown рознакаляровых нітак іншанацыянальных літаратур, як у знакамітых шаўковых слуцкіх паясах — з двайным угрунтаваннем асновы: ці нацыянальная «нітка», ці «нітка» сумежнай літаратуры — абодва бакі малюнка «правыя», роўнакаштоўныя, усё тут і фон і асноўны матэрыял адначасова.

Непрадказальны даследчык ужо з самага першага выказвання. Разгортванне сэнсаў у І. Штэйнера нагадвае яркія, імпульсіўныя і ў той жа час вынашаныя і ўнутрана забяспечаныя нечаканасці. Выказванне разлічана на эфект нечаканасці ад першага ж судакранання з ім. Здараецца — праз непрыхаваны парадокс эсэйнай завязкі (прыкладам, як не наструніцца чытачоўскай ўвазе ад такога: «Беларускае мастацкае слова як культурнаэстэтычная з’ява практычна ва ўсе часы і эпохі развівалася выключна пад зоркаю выпадковасці, а падчас нават і пад сузор’ем зусімнай неабавязковасці яе з’яўлення, выразнай незапатрабаванасці, а то і канчатковай непатрэбнасці»). Здараецца — знарокавай сэнсавай інтрыгаю («Ён самы небеларускі паэт у нацыянальнай літаратуры» — і гэта пра аўтара «Машэкі» і «Беларускай песні» У. Караткевіча!). Здараецца — імітацыяй філасофскіх імператываў як у выпадку з прыведзенай крыху вышэй цытатай пра прарока-песіміста. А то і наогул алегарычнай показкай — пра адмысловыя функцыянальныя асаблівасці камянёў егіпецкіх пірамід і народнасці майя.

Але гэта — вонкавыя паказчыкі парадокса, чаму, урэшце, можна навучыцца і не надта валодаючы талентам. Больш істотнае палягае ў іншым. Кніга надае ўвагу пытанню, у чым жа выяўляецца наш, беларускі, мастацкі погляд на рэчы, што былі прадметам асэнсавання Гётэ і Байрана, Міцкевіча і Прэшэрна, Лесьмяна і Пшыбышэўскага, Буніна і Цютчава, Верлена, Уайльда, Бранта. І так — аж да вытокавага кантэксту Бібліі. Іншымі словамі, беларуская літаратура «суглядаецца», перафразуючы Адама Бабарэку, «вялікімі мастацкімі вокнамі», якімі ёсць знакавыя фігуры мастацкага вопыту чалавецтва. Я не ведаю ў беларускім літаратуразнаўстве індывідуальнай аўтарскай працы на сённяшні дзень, дзе б гэтыя пытанні займелі свабоду даследчай думкі і грацыёзную раскаванасць яе энергіі большую, чым тут, пад вокладкай «Ex promtu — ex proposito». Бадай, беларуская кампаратывістыка — дый літаратуразнаўства наогул — можа павіншаваць сябе: адзін з важнейшых напрамкаў літаратурнага ведання арганічна сустрэўся з годным даследчыкам, калі самі супастаўленні растварающца ў далёкім фонавым гарызонце тэксту, а з тэкставай цэласнасці паўстае пазнавальная, знаёмая, але істотна абноўленая беларуская літаратура. Літаратура як цывілізацыйны факт.

Усцешна думаць, што не надта марнай здаецца выказаная калісьці аўтарам гэтых радкоў думка пра тое, што цэласнае аблічча нацыянальнага літаратурна-мастацкага мыслення гістарычна фарміравалася да ўсяго і вельмі адмысловым эмацыйным тонам — уменнем, як казаў Янка Купала, «смяяцца там, дзе кроўю плакаў бы другі»; што смяшлівая і трагічная «ардынаты» разгортвання ў прасторы мастацкіх сэнсаў беларускай літаратуры, іх «праросласць» адна ў адно складаюць важнейшы чыннік яе ўнутранай канстытуцыі. Да блізкіх назіранняў, прычым цалкам аўтаномна, прыходзіць і І. Штэйнер. Толькі ўжо не ў кантэксце асобнай літаратуры, а ў кантэксце шырокага славянскага светаўспрымання.

Ва ўмелых руках кантэкст творыць сапраўдныя эўрыстычныя дзівосы. У шуканнях уласнага жэрабя, якое выпала ёй на долю, беларуская літаратура прамаўляе высокім стылем сусветнай кніжна-мастацкай эстэтыкі. І нам не выпадае прыбядняцца: кожны яе каштоўнасны артэфакт складае найперш канкрэтны і пэўна вызначаны беларускі адказ на запыты, што сусветная літаратура ў розныя часы і з розных прычын ставіла перад сабой. Так, І. Штэйнер здолеў нават у «Сказе пра Лысую гару» вызначыць праявы, характэрныя для так званай дыдактычнай літаратуры. Гэта і сапраўды нечаканы кантэкст, нейкае шматсільнае чароўнае люстра, здольнае «адкруціць» самую найноўшую літаратурную сучаснасць аж на пяць стагоддзяў назад — да «Карабля дурняў» Себасцьяна Бранта. Чаго ў такім разе вартая цяперашняя, як бы нават і несапраўдная мітрэнга вакол аўтарства паэмы, калі відавочным становіцца: сам час — вялікі і вялікасны — некалькі стагоддзяў упарта шчыраваў над выспельваннем культурнай з’явы!

І, як аказалася, не намарна. Даследчык упэўнены, што літаратура — «не птушыны шчэбет», што яна павінна прамаўляць

«чалавечым голасам», што такіх мастацкіх фактаў, якія б не мелі эстэтычнай перадгісторыі, няма. Важна толькі «развярнуць карабель (літаратуры. — **І. Ж.**) і плыць не па фальклорна-сацыялагізаваным рэчышчы стылізацыі, а ў адкрытым акіяне сусветнай культуры, арыентуючыся па агульным зорным небе чалавечнасці». Вось чаму, з арыентацыяй на «зорнае неба чалавечнасці», так вольна і зайздросна хараша, з размашыстай свабодай неабходных аргументаў перакідваюцца даследчыкам масткі ад літаратуры да літаратуры, ад аўтара да аўтара, ад твора да твора.

Калі і сапраўды «карабельныя рулі» накіроўваць па карце такіх высокіх літаратурных арыенціраў, як «зорнае неба чалавечнасці», мы зможам выразна і па-новаму шмат што ўсвядоміць у гісторыі нацыянальнай мастацкай творчасці. Прыняць, напрыклад, версію, чаму ж такі У. Караткевіч стаўся «самым небеларускім пісьменнікам». Яно, па сутнасці, так і ёсць: рэдкасны для Беларусі выпадак да канца рэалізаванага ў творчасці паэта-рамантыка. Кантэкст яшчэ двух вялікіх рамантыкаў, Міцкевіча і Байрана (ад першага ў факталагічную базу доказаў увайшла легенда пра дату 26 лістапада — дзень смерці Міцкевіча і дзень нараджэння Караткевіча), аказаўся ў дадзеным выпадку вельмі дарэчы.

Мы зможам усвядоміць і тое, што беларуская літаратура праз усё XX стагоддзе, вонкава будучы літаратурай эмпірычнага рэалізму, па ўнутраных рухальных інтэнцыях складала факт пастаяннага змагання і супраціву строгай бытавізаванай «цягамоціннай» рэалістычнасці. «Кароткі паўтарыцельны курс», якім бачылася М. Багдановічу наша маладая пісьмова-мастацкая культура ў перыяд «нашаніўства», разгарнуўся неўзабаве ў паўнавартасную самастойную самабытную плынь унутранага эстэтычнага шукання сувязі з кантэкстам сучаснага сусветнага літаратурнага працэсу. Мы і цяпер можам паўтарыць следам за бессмяротнай «скрыдлатай» літаратурнай легендай М. Багдановіча: усе асноўныя свае праявы, ад строга рэалістычных да вытанчана мадэрновых, сусветны літаратурны рух можа, як у люстэрку, пазнаць у абрысах беларускай мастацкай практыкі прамінулага стагоддзя. Варта толькі надта ўважліва і непрадузята зірнуць у твар уласнай мастацкай спадчыны, каб заўважыць яе альтэрнатыўны запас бачання. Але, слушна заўважае І. Штэйнер, «спадчына для нас — усё яшчэ мерапрыемства». Так, нейкае рытуальнае мерапрыемства, дзе стомлена і надта ўпарта нясём мы сцягі і партрэты, выцвілыя ад спрошчаных і недасканалых, аднабаковых і аднаскіраваных уяўленняў пра выключны «рэалізм» беларускай літаратуры, не пранікаючыся тым, што пад сцягамі і партрэтамі вірue і жыве інакшы эстэтычны код беларускага літаратурнага развіцця. «Каштоўнасць спадчыны, — яшчэ раз з задавальненнем цытую даследчыка, — не ў суме экспанатаў, а ў здольнасці гэтых экспанатаў адгукацца, у рэху, якое звяртаецца да сучаснікаў іх жа галасамі; калі заціхае рэха — заціхае і спадчына». «Аднакалёрны слой» (у Штэйнера гэтае Багдановічава азначэнне чамусьці двойчы прапісана як «аднакаляровы фон») не для гісторыі беларускай літаратуры — ані ў «нашаніўскі» перыяд, ані цягам дваццатага стагоддзя, ані на яго злёце.

І кніга гомельскага даследчыка якраз пра гэта — пра вызначальнае бярэмя выклікаў, што прад'яўляе агульначалавечая духоўнасць да літаратуры, і тыя адказы, якія атрымлівае гэтая ж духоўнасць ад вопыту і практыкі беларускага мастацкага слова. Тут І. Штэйнер, што называецца, па-за канкурэнцыяй. І вось чаму.

«Адказ» у варыянце беларускай літаратуры атрымліваецца не менш арыгінальны і гаваркі, не менш красамоўны, чым сам «выклік». Так, паводле І. Штэйнера, пакліканне біблейскіх матываў у паэзіі Рыгора Барадуліна ў тым, каб «перанесці на беларускі грунт вялікую біблейскую філасофію, якая павінна спрыяць свайму народу выстаяць у хвіліны роспачы, якія бываюць ва ўсе стагоддзі і эпохі». Вось ён, адзін з найвастрэйшых выклікаў сучаснасці. І вось адказ: паэтычны — у асобе Р. Барадуліна, і літаратуразнаўча-філасофскі — у асобе даследчыка. Бо, вядома ж, добра і нават утульна любіць Бацькаўшчыну, калі яна ў росквіце і заспакаяльным дабрабыце. А вы паспрабуйце, як ставіў пытанне знаны расійскі філосаф Р. Фядотаў, любіць яе тады, калі яна загнаная і абылганая, паніжаная, абадраная, знясіленая, ляжыць, як п'яная маці, у брудзе пад плотам. О, як спатрэбіцца ў такім разе загартаваная літаратурная якасць «спрыяць свайму народу выстаяць».

Прызнаюся, даўно не даводзілася сустракацца з літаратурна-крытычнымі працамі, дзе б смела, напорыста і доказна выяўлялася адна з галоўных рухальных установак: у імя чаго, якой вялікай ідэяй апладнена калі не ўся творчасць, то хаця б тое ці іншае змястоўнае адгалінаванне літаратурнага факта.

А сам факт у «зорным небе чалавечнасці» становіцца літаратурным не ў апошнюю чаргу тады, калі яго даверху напаўняе цывілізацыйная якасць. У гэтым сэнсе кніга, як на тое і належыць сапраўднай кнізе любога жанру, абазначае і спрабуе вырашыць нейкі канфлікт. Я б сказаў, канфлікт паміж неабходнасцю і немагчымасцю — самы зацяты гістарычны канфлікт беларускай літаратуры. Літаратура паўстае, вынікае як наша супольная духоўная біяграфія, з яе малымі і вялікімі трагедыямі. Хаця хто асмеліцца сцвярджаць, што, прыкладам, трагедыя самотнага адзінотніка Анатоля Сыса (эсэ пра яго мне ўяўляецца самым прачулым і дакладна акцэнтаваным — лепшым з таго, што наогул напісана пра гэтага паэта) ёсць трагедыяй «малою»?

Інтэлектуальнае задавальненне атрымліваеш ад кнігі І. Штэйнера шмат з якіх прычын. Ад агульнай устаноўкі на эсэйнае даследаванне. Ад вынайдзеных і «агучаных» цытат — паэтычных і не толькі, — якімі шчодра насычаны эсэ і на ўзроўні якіх упэўнена знаходзіцца сам аўтар. Ад свабоднай, нязмушанай і разам з тым культурна-далікатнай, часам злёгку іранічнай манеры апавядання. Ад таго, нарэшце, што літаратура тут не з'яўляецца прадметам вывучэння — і толькі. Яна яшчэ і пэўны, творча пераўвасоблены асабісты жыццёвы вопыт, яго аб'ём і яго каштоўнасная арыентацыя. Лаўлю сябе на думцы, як многа дало І. Штэйнеру вывучэнне нацыянальнага эстэтычнага коду балады. Лепшыя старонкі артыкулаў і эсэ, якія і па змесце, і фармальным чынам нагадваюць самастойныя міні-манаграфіі, а сама кніга — вянок такіх міні-манаграфій, якраз і звязаны з адмысловай асаблівасцю даследчага зроку, які ўнутраным канцэптуальным апірышчам мае гістарычны шлях славянскай балады. І гэта надта паказальна. Аказваецца, не толькі літаратура глядзіць на свет «вачыма жанру», але і сама рэчаіснасць з не меншай пільнасцю ўзіраецца ў далікатную тканку мастацкага слова і вяртаецца ў нашу свядомасць тым жа спосабам — праз жанр.

Нататкі пра «праднамеранае» і «мэтаімкнёнае» меркавалася завяршыць абагульненнем пра тое, што азначае ў сучаснай літаратуразнаўчай сітуацыі від літаратуразнаўства, які выспавядаецца Іванам Штэйнерам. Я назваў бы яго «асветніцкім» літаратуразнаўствам. З моцным уплывам Алеся Адамовіча. Як яго школа, яго працяг. Мне ўяўлялася нават, што гэта, па сутнасці, адзін з развітальных акордаў той добрай літаратуразнаўчай традыцыі Беларусі, якая была заснавана на энцыклапедычнай засвоенасці факта. Такой фактылагічнай забяспечанасці, калі ісціннасць назіранняў вынікае з бясспрэчнасці іх агульнага зместу. Нават больш: кніга агаляе сучасны стан літаратурна-крытычнай думкі. Стан, які варта назваць станам нясмачнай бясчасавасці. З аднаго боку, падкрэсленая рэлятыўнасць у разуменні ісціны, а адсюль і вычурны, паказны інтэлектуалізм, чым адбалела літаратурная еўрапейская грамадскасць каля паўстагоддзя таму. А з другога — яўны брак рэальнага, энцыклапедычнага інтэлектуалізму.

Іншымі словамі, «Ex promtu — ex proposito» ўспрымаецца нейкім настальгічным развітальным кругам над класічным варыянтам нацыянальнай літаратуразнаўчай школы. Нават агаворкі і недакладнасці даследчыка складаюць адбітак-працяг лёгкага шарму ад разняволенага палёту склейкі ў адно цэлае разрозненых «пастановачных кадраў». Так, М. Багдановіч ніколі не гаварыў, што беларускай літаратуры «не трэба трымацца народных прынцыпаў так, як п'яны трымаецца плоту». У яго было інакш: акурат трымацца народнай песні, як сляпы трымаецца плоту. Скарынава параўнанне ісціны, якая знаходзіцца не на паверхні, а хаваецца, як «ядро ув ореху», у кнізе атрымлівае два іншыя варыянты напісання, самы пацешны з якіх — «яко ... ядро у во греху». Да таго ж, Буало ніколі не пісаў трактат «Лаакаон», і нявартa здзейсненае Лесінгам прыпісваць каму іншаму, нават вялікаму папярэдніку.

Аднак падумалася: усё ж гэта кніга пераважна гіпотэз і ўласных перакананняў, а не дэклараваных завучаных сцверджэнняў. І як кніга гіпотэз, яна жыццядайная ў значна большай ступені. Яе круг не звужаецца панікла над арэалам літаратуры, а наадварот пашыраецца ўдалеч, у перспектыву, у бясконцасць зорнага неба чалавечых цывілізацыйных каштоўнасцей. І трэба спадзявацца, што мастацкая практыка, як і само жыццё, слушнасць гіпотэз пацвердзіць.

Сяргей ЧЫГРЫН

# НАШАНІВЕЦ ЯНУК ДАРАШКЕВІЧ



На старонках беларускай газеты «Наша Ніва» за 1909 год пад псеўданімам В. Каршун з'явіліся першыя вершы невядомага паэта з вёскі Меляшкі, якая знаходзіцца непадалёк ад Гарадка, што на Беласточчыне. Гэты творца рэгулярна друкуецца ў «Нашай Ніве» ў 1910—1914 гадах, але пад іншымі псеўданімамі — Янук Д., Янук Д-іч. З «лёгкай» рукі Яўхіма Карскага (Карский Е. Ф. Белорусы. Петроград, 1921. Т. III. С. 337) яго творы былі прыпісаны другому паэту з Гарадка М. Арлу (Сцяпану Пятэльскаму). Пазней памылка гэтая была «ўзаконена» нават у акадэмічнай хрэстаматыі «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (Мн., 1967). Доўгі час ніхто не звяртаў увагі на адрознасць у стылі паэтаў: на тое, што М. Арол друкаваў у «Нашай Ніве» вершы-прысвячэнні Януку Д., а Янук Д., прысвячаў свае вершы М. Арлу; на рукапісы паэтаў, якія знаходзяцца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і сведчаць пра прыналежнасць розным аўтарам. І толькі дзякуючы намаганням даследчыка гісторыі літаратуры Арсеня Ліса, гісторыка Юры Туронка і іншых навукоўцаў, паэту з Меляшкі было вернута імя. Імя беларускага паэта-нашаніўца Янука Дарашкевіча. А сёння настаў час вярнуць і вершы паэта, большая частка якіх захоўваецца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

Янук Дарашкевіч нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Меляшкі ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Яго бацькі Кастусь і Настасся мелі 8 гектараў зямлі. Але хлопчыку Януку, у ліку нямногіх сялянскіх дзяцей, пашчасціла прабіцца да навукі. Спачатку ён скончыў царкоўна-настаўніцкае вучылішча ў Ялоўцы, а потым Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Настаўнічаў у Сямёнаўцы і ў Кулях, а калі ажаніўся з Кацярынай Буцько — пераехаў настаўнічаць у вёску Даўкшы каля Панявежыса.

Працуючы ў школе, адначасна Янук Дарашкевіч збіраў беларускія народныя песні і разам з нотамі дасылаў Антону Грыневічу ў Пецярбург. Большасць народных песень Януком Дарашкевічам была запісана ў роднай вёсцы Меляшкі. Вось адна з гэтых пранікнёных і ўзвышаных песень пра тое, як развітваецца хлопец з роднымі і каханай перад адыходам на вайну:

Ой, там на гарэ, ой, там на крутой
Сівы конь разгуляўся,
Малады хлапец, маладзюсенькі
На вайну прыбіраўся.
Як выбіраўся, то ўсім скланяўся, —
Айцу і матулі,
А сваёй мілай, наймілюсенькай
То найніжай скланяўся…

Акрамя фальклору, наш зямляк захапіўся літаратурай, пачаў пісаць вершы і дасылаць іх у «Нашу Ніву». Лепшыя творы былі там надрукаваны. Пра некаторыя з іх напісаў у сваіх «Белорусах» Яўхім Карскі. Вось адзін з прыкладаў: *«Верш “Доля” адлюстроўвае гора мужыка, які пахаваў сваю жонку. Прымірэнне яго з лёсам. Як літаратурная навіна — плач каня»*. А Максім Багдановіч у сваім артыкуле «За тры гады» аднёс Янука Дарашкевіча да тых аўтараў, *«што маюць палёт і талент»*.

Увосень Янука Дарашкевіча мабілізавалі ў царскую армію і накіравалі ў школу прапаршчыкаў пад Петраград. Але перад мабілізацыяй паэт перапісаў усе свае вершы ў асобны сшытак, назваў яго «Абразкі» і даслаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» з надзеяй, што супрацоўнікі газеты выдадуць вершы асобным зборнічкам. Але зборнічак так і не пабачыў свет. Пачалася Першая сусветная вайна, а Янук Дарашкевіч на «штык замяняе пяро» і становіцца кадравым вайскоўцам. Ён прыхільна сустракае рэвалюцыю ў Расіі, служыць у Чырвонай Арміі. Праўда, пісаць вершы беларус не пакідае, хоць і жыве ў Варонежы ў Расіі. Паводле ўспамінаў блізкіх яму людзей, як піша Юры Туронак у «Ніве» ад 2 жніўня 1981 года: «Наш зямляк быў чалавекам шырокіх зацікаўленняў, захапляўся паляваннем, рыбалоўствам, радыётэхнікай, разьбой па дрэве і г. д.».

Падчас Другой сусветнай вайны Янук Дарашкевіч пайшоў на фронт, дзе і загінуў у ноч з 23 на 24 лютага 1943 года пад вёскай Фецішчава Балхоўскага раёна Арлоўскай вобласці ў Расіі. А ўся рукапісная спадчына беларускага паэта-нашаніўца згарэла разам з домам у Варонежы. На шчасце, захаваўся ў Вільні той сшытак вершаў «Абразкі», які ў 1914 годзе быў дасланы ў «Нашу Ніву». Нядаўна мне пашанцавала яго адшукаць у рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і патрымаць у руках, прачытаць і перапісаць усе творы. У старой тэчцы, апрача сшытка з вершамі, знаходзіцца яшчэ пісьмо з вершамі ў «Нашу Ніву» і некалькі выразак вершаў з гэтай газеты.

Чытачам часопіса «Маладосць» прапаную некаторыя вершы Янука Дарашкевіча з рукапіснага аддзела Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83).

## Янук ДАРАШКЕВІЧ
## (1890—1943)

* * *

Ва што гарачым сэрцам верыў,
Чым жыў, чым буду далей жыць —
То запісаў тут на паперы
Разумным людзям абсудзіць.

### ЛЕГЕНДА

Скажы нам, дзядуля, — раз дзеці гавораць, —
Адкуль гэта песні бяруцца?
І хто іх спявае, хто піша, хто творыць?
Адкуль яны вечна так льюцца?
Ігнат засмяяўся, занюхаў табакі,
Ды кажа: «Паслухайце, дзеці
Вы йшчэ маладыя, а я, небарака,
Шмат бачыў усяго ўжо на свеце.
У далёкай старонцы, за тым вунь лясочкам,
Ёсць мора, вялікае мора.
Вада ў ім чырвона, а бераг пясочкам
Пасыпан. Ў шырокім прасторы
Пад сонцам гарачым, на глыбі па хвалі
І буры, і ветры гуляюць.
А зоры ў ім разам з высокае далі,
Як ў люстры, свой блеск адбіваюць.
Калісь праз то мора, так кнігі тлумачаць,
І людзі дзівуюцца чуду,
Жыды, як ўцякалі з егіпецкай, значыць,
Зямлі, а жыдоўскаму люду
Не смачна жылося ў егіпцян у няволі,
Пяхотай, без човен, заўчэсня
Прайшлі яны суха па дне, як па полі,
І Бога праслвавілі песняй.
А людзі з Егіпту з дзяцьмі ды жанкамі,
Што беглі па следу жыдоўскім,
Каб зноў іх ў няволю вярнуць, ды рабамі
Зрабіць, — па жаданні, знаць Боскім.
За мукі, за здзекі, за цяжкае гора,
Што боскаму люду ўчынілі —
У хвалях гарачых чырвонага мора
На вечныя векі пачылі.

Прайшло многа часу і што нам здаецца?
Тры дочкі цара Фараона
На дне таго мора, як здаўна вядзецца
Па Божаму, значыць, закону,
Знайшлі сабе ў хвалях не смерць, не магілу —
Было ім адзначана Богам.
Не гэта — ён ў большым з'явіў сваю сілу —
Ён даў ім, быць рыбам бязногім,
Хвасты, каб маглі яны плаваць бяспечна,
І даў ім вялікую здольнасць навечна
Да песняў — разводнікаў гора.
І так ўжо вядзецца: як месяц прагляне —
На бераг яны выплываюць,
І з болем сардэчным, з пламенем кахання
Чароўныя песні спяваюць.
А вецер ды пташкі разносяць па свеце
Маркотныя зыкі з трывогай:
І мы іх спяваем, і вы, дзеткі, глядзеця
Шануйце іх у сэрцы, як Бога!».

**ВЯСНА**

Прайшлі ўжо зімовы забавы,
Мінулі і цяжкія сны.
І сонца усмешкай ласкавай
Глядзіць на зямлю з вышыны.
Няма ўжо і снегу на полі,
На небе паменшылась хмар,
І моцна душою на волі
Цяпер размахнецца пясняр.
Тут ліпа ў лісточкі адзета,
Абсыпана свежай расой.
І вадзіць, і кліча паэта,
Ківая яму галавой.
А тут і кудравы бярозы,
Ласкава пытаюць: «Аб чым
Ты плачаш? На што гэты слёзы?
Глядзі, што за радасць кругом?..».

**МАЛІТВА**

***(З Лермантава)***

У часіну трудную жыцця,
У смутную пару
Я, бы нявіннае дзіця,
Малітву гавару.
Ёсць сіла дзіўная, як Бог,
І шэпту маладым,
І аддаецца чыста ўздох
Ў грудзях агнём святым.
З душы трывога многіх лет,
Як ноч, як цень, збяжыць,
І сэрца просіцца на свет,
І хочацца любіць.

* * *

Мы прасціліся, помніш, без слёз,
Хоць душа разрывалась ад болю…
Буйны вецер развеяў, разнёс
Нашы думкі па чыстаму полю.
Ты маўчала. Я доўга глядзеў
Ў твае вечна задуманы вочы…
О, як моцна я сэрцам хацеў,
Каб канца не было гэтай ночы!
Але час наш прабіў… Ты ўзяла
Маю руку ды ціха сказала:
«Не гаруй! Дзе бы я ні была,
Я це буду кахаць, як кахала!
Загародак для сэрца няма:
Яно свет праляціць, як салоўка, —
Пацалуй жа мяне!». І сама
Ты ка мне нахіліла галоўку.
Як ва сне, я абняў це рукой
(Ты забыла сказаць: адхіліся!),
Нашы вусны бы самі сабой
У пацалунак прашчальны зліліся.

* * *

Цярпець малых я не магу,
Ну, проста, а ні дваня!
Прад імі гнуся ўсё ў дугу…
Другая справа — Маня.
Высока, стройна — як ні глянь!
А вочы… Што ноч?! Зоры?!
Як у кошкі — гібкі яе стан,
А грудзі — снегу горы.
Яе каса блішчыць у кветках,
Праменні сходзяць з зубкаў.
І цягне нейкі страстны пах
З чырвоных пухлых губкаў.
Люблю хоць дваццаць я такіх,
Яны ўсе сэрцу мілы.
Ў іх ласках і славах жывых
Бяру жыцця я сілы.

* * *

Што рок так дзіўна зблізіў нас, —
Я ў тым бяру жыцця страду,
Напомні і лепей капля яду,
Чым шклянка піва за адказ.

### М. АРЛУ

О, брат мой, прыяцель сардэчны,
Ты выбраў слаўны шлях жыцця.
Глядзі ж, бяздольнае дзіця,
Не ўпаць ў канаву злосці вечнай.
Твой шлях няроўны, хоць шырокі,
На ім йшчэ шмат каменняў, ям.
Вучы! Працуй. Хай славы крокі
Твайго жыцця ўжо будуць там.
Гдзе так галосна, так праўдзіва
Пяюць браты душы твае.
Гдзе травамі заросша ніва
Калоссяў праўды не дае.
Зірні наўкол — мужыцка поле
Гдзе недзе траўка зеляніць…
Працуй, браце! Ёсць сэрцу воля
Вучы, каб ведалі, як жыць.
Будзь цвёрды духам да магілы,
Ідзі за Коласам услед.
Спяшы ўпярод, што маеш сілы,
Там ты агледзіш праўды свет!

* * *

***К. М. К.***

Вецер свішча, вецер вые,
Гнуцца вербы над вадой.
Сэрца стогне, сэрца ные
Па дзяўчыне маладой.
Ные сэрца, плачуць вочы,
Думкі роем мелькацяць…
Дзе прапалі ясны ночы?
І калі іх прычакаць?..
Як бывала, месяц поўны
Шле праменні нам праз клён.
Позна ўжо, а нам ўсё роўна!
Што спачынак нам, што сон?..
Мы ўдваіх, нам сон не трэба,
Воля ў нас была свая.
Наша хата — сіне неба,
А хлеб — песні салаўя!..
А цяпер? Цяпер ўсё іначай:
Лісці сыплюцца з дрэўя…
І адзін я сохну, плачу
Без цябе, ды салаўя.

### З РОДНЫХ АБРАЗКОЎ

Тракцір. За сталом мужык песні пяе,
Знаць, доля яго ўжо такая.
Ён пот свой крывавы з казёнкаю п’е,
Ды ў песнях нуду вылівае.

### МАЛІТВА БЕЛАРУСА

Божэ! Божэ! Дай нам сілу,
Дай нам моц, дай розум нам,
Дай нам свет, навуку мілу,
Палажы канец слязам!
Разгані туман няпраўды,
Што уеўся ў вочы мглой…
Хай засвеціць сонца праўды
Над забытай старaной.

* * *

Гляджу я з таскою ўпярод і назад,
Вакол толькі смутак ды рабства вітае:
І гора, і ўстыд мне душу раз’ядае
За це, мой забыты, зніштожаны брат!..

### З ПЕСЕНЬ АДЗІНОКАГА

***Прысвячаю П. А. Крачэўскаму***

І нудна, і цяжка на сэрцы,
Прывету нідзе не відаць.
Здаецца б, нястрашна і ўмерці,
Благое жыццё скаратаць.
Як вецер мятлічку лістая,
Як лес непагодай шуміць
Так смутак душу мне з’ядае,
Так сэрца без сэрца баліць.
Зірну я на яснае неба,
Зірну на сяло пад гарой,
Я чую: цябе нам не трэба —
Ты будзеш жыць век сіратой.

# СЁЕ-ТОЕ ПРА ПЕРСПЕКТЫВЫ МІНУЛАГА

***«Доўгія лісты, якія я так часта шлю табе без аніякай упэўненасці ў тым, што яны будуць мець уздзеянне, нагадваюць мне стужкі паперы, якія ты яшчэ не так даўно — а я калісьці даўно — пускаў на нітцы да паветраных змеяў. Мы звалі іх “кур’ерамі”; некаторыя з іх вецер адносіў прэч, іншыя рваліся аб вяроўку, і толькі нямногія падымаліся ўгору і прыляпляліся да змея. Але цяпер, як і тады, я буду рады, нават калі нямногія з маіх “кур’ераў” змогуць прыляпіцца да цябе. Бывай».***

Філіп Дормер Стэнхоп Чэстэрфілд. З «Лістоў да сына»

***У жыцці і творчасці многае часам спляляецца. Гэты «Дыялог» — першы матэрыял новай рубрыкі — з'явіўся прысвячэннем яшчэ аднаму пачынанню — рубрыцы пад назвай «Эпісталярый». Суразмоўца галоўнага рэдактара «Маладосці» — з аднаго боку, калега, рэдактар, які шмат гадоў супрацоўнічае з рознымі рэдакцыямі і выдавецтвамі, з другога — практыкуючы псіхолаг і нават астрапсіхолаг.***

***«У нас няма іншай рэальнасці акрамя нашай унутранай. Мы, што б ні пісалі, пішам пра сябе, — гаворыць Аляксей Селянінаў. — Чытаючы радкі чужых лістоў, мы таксама даведваемся пра сябе. Часам нават не падазраючы гэтага».***

***Пра што яшчэ мы не здагадваемся!***

## ЧАМУ ЦІКАВА ЧЫТАЦЬ ЛІСТЫ

**С. Д.** — Як на вашу думку, чаму людзям цікава чытаць лісты, якія пісаліся, папросту кажучы, некалі? Што рухае жаданнем чытаць перапіску знакамітых людзей?

**А. С.** — Калі гаварыць жартам, то словамі Байрана: «Чытаць старыя лісты прыемна хаця б з-за таго, што на іх ужо не трэба адказваць». А калі сур’ёзна, то матывы, па якіх людзі цікавяцца ліставаннямі пісьменнікаў, кампазітараў і іншых дзеячаў мастацтва і навукі, могуць быць рознымі. Калі пакінуць у баку відавочную чалавечую цікаўнасць, то ў такіх выпадках спрацоўвае, перадусім, вядомы кожнаму псіхолагу механізм ідэнтыфікацыі. Лісты чытаюцца ледзь не як старонкі прыгодніцкага рамана, бо на месцы аўтара чытач уяўляе сябе самога, ён атаясамліваецца з героем. Болей за тое, часам лісты, дзённікі і ўспаміны вядомых людзей падаюцца нам нікольki не менш цікавымі, чым іх творчасць. Нездарма ж яны заўсёды ўваходзяць у поўныя зборы твораў вядомых аўтараў, займаючы часам нават некалькі тамоў. Мастацкі твор — гэта што? Маска, роля, псіхалагічнае ўтварэнне. Мы ж хочам зразумець матывы ўчынкаў і адчуць дух часу, эпохі. У лістах, дзённіках, мемуарах чалавек прадстае перад намі сапраўдным.

**С. Д.** — Так, ніякай іншай магчымасці пазнаёміцца з творцам у большасці выпадкаў няма. З іншага боку, мы чытаем толькі перапіску любімых аўтараў, тых, хто нам цікавы. Бо чытаць пра астатніх — гэта ўсё роўна што ў выпадковых гасцях разглядаць альбом з фотакарткамі чужых, малавядомых асоб.

**А. С.** — Але тут можа мець месца і проста акадэмічная цікавасць. Напрыклад, чытаючы перапіску імператрыцы Кацярыны Другой з прадстаўнікамі эпохі Асветніцтва, асабліва з Дзідро і Вальтэрам, мы маем магчымасць даведацца пра падзеі, якія адбываліся ў XVIII стагоддзі, ніяк не менш, чым з сухога, маркотнага падручніка гісторыі.

**С. Д.** — Я б сказала, нават больш, улічваючы, што інфармацыя ў такім выпадку

прапускаецца праз уласную матывацыю. Усё ж гісторыю па лістах і дзённіках вывучаць можна. Так мы робімся сведкамі сапраўднага мінулага, няхай нават яно ў нейкай ступені эмацыйна афарбаванае, у пэўным сэнсе суб'ектыўнае і часам прадстаўлена даволі тэндэнцыйна. Гэта, тым не менш, яшчэ адзін пункт гледжання на гістарычны працэс, на падзеі, якія адбываліся. Жывая інфармацыя замест афіцыйнай хронікі.



*Фота Кастуся Дробава.*

**А. С.** — Тым больш, што хроніка часта бывае «прычэсанай» — з мэтай дагадзіць таму ці іншаму рэжыму. Нездарма ж існуе такі афарызм: Расія — краіна з самым непрадказальным мінулым. Толькі з лістоў мы здольны даведацца пра нешта такое, пра што маглі нават і не здагадвацца.

## ПРЫНЦЫП ГІСТАРЫЧНЫХ ПАРАЛЕЛЕЙ

**А. С.** — Усе ведаюць, што Моцарт — геніяльны кампазітар, але мала каму вядома, што ён быў віртуознейшым майстрам эпісталярнага жанру. Яго лісты да бацькі, жонкі, сяброў і заступнікаў — гэта цудоўнае сведчанне, крыніца інфармацыі не толькі пра асаблівасці гістарычных момантаў, але і пра душэўны стан кампазітара. Суадносячы даты лістоў з датамі напісання тых ці іншых твораў, мы можам зразумець, чаму ён напісаў менавіта гэта і менавіта так. Мы нашмат больш даведваемся не толькі з гісторыі адпаведнага перыяду, але і з біяграфіі чалавека. Перапіска ў гэтым сэнсе куды больш багатая глеба, чым запісы актаў грамадзянскага стану.

Цікавы прыклад. У маёй дамашняй бібліятэцы ёсць важкі фаліянт «Русские писатели», выдадзены на мяжы 60-х і 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Не без здзіўлення я знайшоў у ім Івана Жахлівага. Вы мяркуеце, што грозны манарх пісаў трагедыі і санеты, нібыта Шэкспір? Зусім не. Аказваецца, ён увайшоў у рускую літаратуру менавіта ў якасці выдатнага публіцыста і сапраўднага майстра эпісталярнага жанру. У прыватнасці, важнае значэнне маюць яго гнеўныя інвектывы ў адрас князя Андрэя Курбскага, які збег, як вядома, у Літву ад манаршай апалы. Вельмі цікавай з'яўляецца таксама яго дыпламатычная перапіска з такімі прадстаўнікамі яго эпохі, як Стэфан Баторый і англійская каралева Елізавета Цюдор, якая, дарэчы, лічылася адной з самых адукаваных жанчын свайго часу. Вось вам, калі ласка, прыклад гістарычных паралелей.

**С. Д.** — Але ж гісторыя поўніцца прыкладамі жорсткай цэнзуры, і тое, што нам на першы погляд можа падацца «адкрытым тэкстам», на самай справе часам утрымлівае «тонкія намёкі». Што вы скажаце пра магчымасць чытання паміж радкоў?

**А. С.** — Я лічу, што гэта не проста магчыма — гэта трэба спецыяльна практыкаваць. Сапраўдныя ўзоры эпісталярнай літаратуры якраз і прадугледжваюць чытанне паміж радкоў. Але каб належным чынам зразумець Франсуа Мары Вальтэра, аднаго з віртуозаў жанру, трэба знаходзіцца як мінімум на яго культурным і інтэлектуальным узроўні. Каб зразумець сэнс маральных лістоў Сенэкі да Луцылія, трэба разважаць прыкладна так, як Сенэка.

**С. Д.** — Мы падышлі да думкі, што адсутнасць практыкі напісання лістоў адбі-

ваецца на інтэлектуальных магчымасцях чалавека. Самая відавочная праява такой акалічнасці — почырк. Цяпер кожны ведае, што дробная маторыка пальцаў і развіццё моўных цэнтраў непасрэдна звязаны паміж сабой. Раней гэтага не ведалі, але ў тыя часы лічылася, што пісаць «карава» — mauvais ton. Прыгожа напісаны ліст быў прыкметай павагі аўтара да адрасата, а ўрэшце — і да самога сябе.

Мне ўспомніўся ліст Катажыны Радзівіл да Марыі д'Аркен. Дакладней, знешні яго выгляд. Бог мой, як ён пачынаецца! Якім адмысловым М у слове «Madame»! І гэта пісала сястра караля да яго жонкі, сваёй нявесткі…

## АПАРАТ МЫСЛЕННЯ І ПРАДМЕТЫ ГУМАНІТАРНАГА ЦЫКЛА

**А. С.** — Прынята лічыць, што апарат мыслення фарміруецца дакладнымі навукамі: матэматыкай або фізікай. Зусім не. Яго фарміруюць прадметы гуманітарнага цыкла, асабліва мова і літаратура. Здольнасць чалавека правільна думаць і прыгожа гаварыць звязана з яго здольнасцю чытаць і пісаць. Вядомы факт: да пісарчука некалі хадзілі на паклон. Той, хто умеў выкладаць свае думкі на паперы, прыгожа і складна, ва ўсе часы быў абкружаны нейкім містычным арэолам. А выразам «гаворыць, як піша» заўсёды падкрэсліваўся прыярытэт пісьмовага слова над вусным. Да апошняга правілы менш строгія, і тое, што можна сказаць, часам увогуле недапушчальна пісаць. Яшчэ нядаўна было недапушчальна. У наш час сітуацыя, на жаль, змянілася. Наўмыснае, падкрэсленае грэбаванне моўнымі нормамі спарадзілі сваім распаўсюджваннем твітэр, скайп, фэйсбук і іншыя сродкі хуткасных зносін. Хуткая камунікацыя — радня хуткаму харчаванню. І тут і там мы атрымліваем сурагат, які не мае ніякай каштоўнасці, а толькі фармальна задавольвае патрэбы. Яшчэ і шкоду пры гэтым наносіць. Хуткае інфармаванне, не заўсёды граматнае, часам вядзе да дэгенерацыі, дэградацыі, выраджэння культуры слова.

**С. Д.** — Мне аднойчы падумалася, што інтэрнэт-слэнг, мова блогераў — гэта не «фішка». Што першапачаткова гэта было прыдумана спецыяльна для таго, каб маскіраваць непісьменнасць.

**А. С.** — Я дапускаю такі варыянт. У апошнія дзесяцігоддзі людзі мала чытаюць добрай літаратуры. Я доўгі час займаюся рэдагаваннем і з жахам заўважаю, што і кніжныя выдавецтвы, і электронныя СМІ, і друкаваныя, каб скараціць выдаткі, выпускаюць прадукцыю, багатую на грубыя памылкі — стылістычныя, сінтаксічныя і нават арфаграфічныя. Рэдактар і карэктар — сёння гэта ўжо раскоша. Адышлі у мінулае вялізныя тыражы тоўстых часопісаў. Гэта не карыстаецца попытам, бо не прапісана ў сістэме каштоўнасцей сённяшняга чалавека. Шырокае кола ведаў? Ведаць цяпер трэба толькі тое, што запатрабавана рынкам, што можна прадаць ці выкарыстаць у вузкапрактычным сэнсе. Літаратура стала забаўляльнай, яна выконвае ілюзорна-кампенсаторную функцыю. Фантастыка, любоўны раман, нешта псеўдагістарычнае — тое, што адцягвае ад рэальнасці і дазваляе, як кажуць, разгрузіць мазгі. А літаратура ж заўсёды іграла выхаваўчую ролю, яна прымушала думаць. Згодна з японскай пагаворкай, мудры не той, хто шмат чытае, а той, хто шмат разважае пра прачытанае. На жаль, сучасная літаратура амаль не дае падстаў для роздуму, і праблема якраз у гэтым. Калі чалавек не можа разважаць пра прачытанае, то ён не здольны і фарміраваць у сябе адпаведны апарат мыслення. Многія сучасныя творы — гэта відавочныя перапевы чужых ідэй, нешта разарванае, фрагментарнае, бессістэмнае, несамастойнае. Перапісванне артыкулаў адзін у аднаго — шырока распаўсюджаная практыка. Рэрайтар — самы запатрабаваны ў некаторых рэдакцыях чалавек. На маю думку, адбылася сапраўдная дэсакралізацыя друкаванага слова. Чытаючы опусы некаторых пісьменнікаў і журналістаў, кожны раз узгадваю словы Фаіны Ранеўскай: «Зняцца ў дрэннай карціне — гэта ўсё роўна што плюнуць у вечнасць. Грошы праедзены, а сорам застаўся». На мой погляд, дэсакралізацыя друкаванага слова — гэта таксама плявок у вечнасць.

**С. Д.** — Камень у бок інтэрнэту кідаць не хочацца, гэта ўсё роўна што абвінавачваць у

злачынствах свінец або лязо. Але ж у сувязі з распаўсюджваннем рэсурсаў кшталту livejournal цяпер пісьменнікам і журналістам можа аб'явіць сябе ледзь не кожны. У наш час модна быць блогерам: паміж словамі «блогер» і «пісьменнік» ледзь не ставіцца знак роўнасці. І людзі ў большасці не разумеюць, як адрозніць сапраўдную літаратуру ад сурагату. Праблема, мне здаецца, яшчэ і ў гэтым.

### ГРАФЫ МАНІІ

**С. Д.** — Апошнім часам нярэдка даводзіцца чуць слова «графаман», што робіцца неяк не па сабе. Хто ён такі, гэты графаман? Ці не кідаемся мы словам дзе трэба і дзе не трэба?

**А. С.** — Каб адказаць на гэта пытанне, правядзём этымалагічны аналіз. «Графа» — пішу, чарчу, малюю, «манія» — неадчэпны, хваравіты стан, апантанасць, у нейкім сэнсе вар'яцтва.

У класічным варыянце, то бок у падручніках па псіхіятрыі і клінічнай псіхалогіі, графаманія трактуецца не проста як жаданне, дакучлівая патрэба пісаць, але і жаданне быць апублікаваным. Чалавек, які піша ў стол, для сябе, наўрад ці можа быць названы графаманам: ён ні на што не прэтэндуе. А ў графамана ёсць даволі моцнае жаданне навязаць асяроддзю свой пункт гледжання — ён, як правіла, абвяшчае сябе непрызнаным геніем і лічыць сваім доўгам азнаёміць як мага большую колькасць людзей з вынікамі сваёй, з дазволу сказаць, творчасці. Кожны графаман упэўнены, што менавіта ён скажа новае слова, і гэта датычыць не толькі літаратуры, але і навукі, музыкі, жывапісу, бо і кампазітары, і мастакі таксама могуць быць графаманамі.

**С. Д.** — Але ж на практыцы розніца паміж графаманам і пісьменнікам, асабліва вельмі прадуктыўным, умоўная. Тое, што выдаецца мільённымі тыражамі і запоем чытаецца, у многім больш падобна да графаманства. А ці не прыклад тэатральнай графаманіі некаторыя пастаноўкі, што прадстаўляюцца гледачам як авангардныя, як новае слова ў драматургіі або рэжысуры, як «новае прачытанне»? А гэта безліч мастацкіх і фотавыставак. Ці ўсё там хаця б на таленавітае цягне, не кажучы пра геніяльнае?

Давайце лепш пойдзем ад адваротнага: хто такі пісьменнік?

**А. С.** — Вы прапануеце правесці дыферэнцыйную дыягностыку? Пачнём здалёк.

Няма пад Месяцам, як вядома, нічога новага. Адказ быў дадзены амаль сто гадоў таму Карлам Густавам Юнгам і яго паслядоўнікамі — прадстаўнікамі аналітычнай псіхалогіі. Ёсць цэлы шэраг эсэ пра адносіны гэтай дысцыпліны да мастацтва. У прыватнасці, вельмі тонка прааналізаваны Юнгам раман Джэймса Джойса «Уліс». Юнг жорсткі ў сваіх высновах *(«...нуда і манатоннасць дасягаюць эпічнай велічы, якая робіць кнігу "Махабхаратай" сусветнай марнасці і мярзоты»* — вытрымка з працы Юнга, дапаўненне рэдактара). Гэтак жа крытычна, дарэчы, вялікі швейцарскі псіхолаг ставіцца і да творчасці такога знакамітага мастака, як Пабла Пікаса. У Юнга ёсць вельмі каштоўная думка пра тое, як адрозніць сапраўднае мастацтва ад эрзацпрадукта. Ён грунтуе гэта на ўведзеным ім паняцці калектыўнага несвядомага, якое можна лічыць агульным энерга-інфармацыйным полем, адзіным для ўсяго чалавецтва, нашай псіхалагічнай спадчынай. Паводле Юнга, сапраўдныя ўзоры мастацтва грунтуюцца на так званых архетыпах — універсаліях калектыўнага несвядомага. Іншымі словамі, яны заўсёды з'яўляюцца прадуктам апошняга. Геній і графаман, часам аднолькава апантаныя, адрозніваюцца тым, што першым кіруюць архетыпы калектыўнага несвядомага, а другі імкнецца вывернуць на гледачоў, чытачоў і слухачоў змест... таксама несвядомага, але свайго асабістага. Часам ён пачварны, гэты змест, але ўвогуле мяжа тут сапраўды ўмоўная. І тым не менш, на інтуітыўным узроўні розніца адчуваецца лёгка: мы заўсёды адрознім добрае ад дрэннага.

**С. Д.** — Значыць, «падабаецца — не падабаецца» — гэта не пытанне асабістага густу. Мы ўсе валодаем універсальным механізмам распазнавання, трэба яго толькі развіваць і падтрымліваць.

## ШМАТКРОП'Е І ІНШЫЯ ЗНАКІ

**С. Д.** — Што вы скажаце пра такія «арыгінальныя» прыёмы, як грэбаванне знакамі прыпынку і вялікімі літарамі? Зразумела, што некаторыя ўзоры паэзіі ствараюцца менавіта такімі свядома, спецыяльна: аўтар прапануе чытачу самому паставіць кропкі і лагічныя націскі. Але калі перад намі ўзор прозы?

**А. С.** — Безумоўна, вершы і проза — рэчы розныя, у іх, як казала вялікая руская паэтка Марына Цвятаева, адрозная фізіка. У вершах паэту дазволена значна большае. Гэта акт сутворчасці з чытачом, а значыць, тое, пра што вы гаворыце, — да некаторай ступені апраўданы ход. У выпадку з прозай такога апраўдання няма, у яе іншы пасыл — яна заўсёды інфарматыўная. Калі такая проза публікуецца, то гэта якраз і ёсць адна з прыкмет дэсакралізацыі друкаванага слова. Не вельмі падрыхтаванаму чытачу гэта дае санкцыю на памылкі, якія толькі на першы погляд падаюцца свавольствам. На самай жа справе фарміруецца «мода» на непісьменнасць.

**С. Д.** — Або вось яшчэ «хвароба» — ставіць ледзь не пасля кожнага сказа шматкроп'е. Ствараецца ўражанне, што чалавеку або няма чаго сказаць увогуле, або ён хоча сказаць так шмат, што сам у сваіх словах згубіўся.

**А. С.** — Шматкроп'і — гэта сімвалічна і нават дыягнастычна, як, дарэчы, згаданае вышэй наўмыснае грэбаванне знакамі прыпынку: проста паспрабуйце ўключыць, як кажуць нейрапсіхолагі, іншую мадальнасць — не візуальную, а аудыяльную. Уявіце, як будзе гучаць тэкст без лагічных націскаў, паўз, абертонаў, артыкуляцыі. Гэта будзе мова псіхічна нездаровага чалавека або, у лепшым выпадку, глуханямога, якога дзякуючы дасягненням дэфекталогіі і тытанічным высілкам педагогаў удалося навучыць гаварыць.

На жаль, гэта хвароба — заразная. Спрацоўвае вядомы эфект натоўпа. Многім людзям прыносіць радасць капіраванне дрэнных узораў. Яны такім чынам атрымліваюць знешнюю санкцыю на праяўленне сваіх горшых якасцей. А самае страшнае хаваецца ў тым, што такія нaваўвядзенні ўплываюць не толькі на мову, але і на лад жыцця. Псіхалінгвістам добра вядомы так званы прынцып лінгвістычнай адноснасці, згодна з якім мова не толькі — і нават не столькі адлюстроўвае рэальнасць, колькі стварае яе. Як чалавек думае, як ён гаворыць, так і жыве. А не наадварот. Людзі, якія пачынаюць грэбаваць нормамі, што фарміраваліся гадамі і стагоддзямі, наўрад ці маюць права скардзіцца на тое, што акаляючая рэальнасць не супадае з іх чаканнямі. Як казаў класік, разруха не ў клазетах, а ў галовах. Дарэчы, вось вам вельмі яскравы прыклад: у лонданскім метро па настаянні псіхолагаў і сацыёлагаў надпіс «Няма выйсця» замянілі на «Выйсце побач». У выніку рэзка скарацілася колькасць самагубстваў. Слова аказвае на нас уздзеянне незалежна ад таго, хочам мы гэтага ці не. Яно лёгка праходзіць скрозь фільтры свядомага і пранікае непасрэдна ў падсвядомасць, мінаючы цэнзуру. Вы ж ведаеце, што такая структура, як цэнзура, згодна з уяўленнямі псіхааналітыкаў, змяшчаецца паміж свядомым і несвядомым. Няхай чытач падумае, да чаго прыводзіць наўмыснае ўжыванне нецэнзурнай лексікі.

## РОДНАЯ МОВА І РОЗНЫЯ ШТАМПЫ

**С. Д.** — Мне здаецца, што ў гэтым сэнсе, як і ў многіх іншых, у беларускай мовы больш шанцаў на захаванне чысціні. Прыкра толькі, што прычына гэтых шанцаў не можа разглядацца як станоўчая. Менавіта з-за меншай распаўсюджанасці — не такая заношаная і зацяганая — беларуская мова не такая засмечаная.

**А. С.** — Дык і не сакрэт, што сапраўдная беларуская мова — гэта мова адукаванай часткі нашага грамадства. На беларускай мове размаўляе культурная і інтэлектуальная эліта. І ў гэтых адносінах беларуская мова аказалася ў больш выйгрышным становішчы, чым руская. Хочацца закансерваваць гэта становішча. Бо тое, што адбываецца з рускай, на мой погляд, мае ўжо незваротны характар. Аднак хачу асабліва падкрэсліць:

гэта ні ў якім разе не павінна быць для беларускамоўнай эліты падставай для местачковага снабізму і культурнага ізаляцыянізму. Руская класіка па-ранейшаму з'яўляецца невычэрпнай крыніцай творчых і духоўных знаходак.

**С. Д.** — Ці заўважаеце вы шматлікія «узаконеныя» памылкі? Як вы ставіцеся да выразу «сегодняшний день»? Гэта ж гучыць як «дзень гэтага дня». А «патриот своей Родины»? Lapsus linguae!

**А. С.** — А «профессионал своего дела»? А такія «вытанчаныя» звароты як «главный лейтмотив» і «ложные иллюзии»? А «мы движемся в правильном направлении»? Ніхто нават не задумваецца, што побач стаяць два аднакарэнныя словы. Спрашчэнне, агрубенне мовы, выкарыстанне зашмальцаваных штампаў вядзе да дэзінтэлектуалізацыі грамадства, прымітывізацыі мыслення. Адбываецца тое, што Юнг і яго паслядоўнікі яшчэ сто гадоў таму называлі вельмі сімвалічным французскім словазлучэннем abaissement du niveau mental — зніжэнне ментальнага, інтэлектуальнага, а значыць, і культурнага ўзроўню.

**С. Д.** — На вялікі жаль, гэта тэндэнцыя ўжо характэрна і для беларускай мовы. Памылкі пераcталі заўважацца, бо сталі звычайнай справай. А адбылося гэта тады, калі яны пачалі гучаць з вуснаў журналістаў. Увогуле, тое, што стварае большасць нашых калег, складаецца з нагрувашчвання моўных штампаў. Зразумела ж, што гэта шырма, спроба пазбегнуць дэманстрацыі малапісьменнасці. А адначасова і «шлях найменшага супраціўлення».

**А. С.** — І вы хочаце, каб людзі пісалі лісты? Не валодаючы мовай і не даючы сабе працы?

**С. Д.** — Вось скажыце, памкненні некаторых блогераў апісваць падзеі кожнага дня і асабістыя перажыванні — гэта не можа быць ад жадання ўзнавіць практыку перапіскі?

**А. С.** — Магчыма, але гэта, хутчэй за ўсё, некалькі ідэалістычны падыход. Мне здаецца, што блогерская графаманія — гэта ўяўная прыкмета дэманстратыўнага складу асобы. Давайце ўзгадаем геніяльную п'есу Гогаля «Рэвізор». Калі Хлестакоў у адной з фінальных сцэн пытаецца ў Добчынскага, што сказаць Яго Вялікасці, Добчынскі адказвае: «Перадайце Яго Вялікасці, што ў горадзе N жыве Петр Іванавіч Добчынскі». Дык вось, назойлівае блогерства мае менавіта гэту мэту: паведаміць усяму свету, што недзе ў горадзе N жыве нейкі Петр Іванавіч Добчынскі.

**С. Д.** — Гэта можа мець апраўданні: як вядома, страх непрызнання і адзіноты — самы, бадай, галоўны чалавечы страх. Страх небыцця — яшчэ большая праблема. І ў гэтым сэнсе блогерства можна лічыць ахоўнай рэакцыяй. Усе чалавечыя ўчынкі і дзеянні можна апраўдаць, на ўсё ёсць прычына, не ў свядомасці, дык у падсвядомасці.

**А. С.** — Славуты прынцып, які агучваецца камерцыйнымі структурамі: калі цябе няма ў сеціве, цябе няма нідзе. Але назойлівае блогерства існуе яшчэ і таму, што на яго ёсць попыт. Вялізная маса людзей гатова марнатравіць свой час на чытанне опусаў кшталту «Як я правёў дзень». У гэтым дачыненні хачу адзначыць адну глыбокую псіхалагічную памылку: пераблытванне прычыны і следства. Калі вы хочаце прааналізаваць той ці іншы феномен, то часта самае разумнае — проста памяняць месцамі прычыну і следства. Напрыклад, адна з маіх знаёмых, гаворачы пра сваю прыяцельку, зазначыла, што ў той мала жаноцкасці — відавочна, з-за таго, што тая працуе ў мужчынскім калектыве. На што я адказаў: усё з дакладнасцю ды наадварот. Гэта з'явілася для яе сапраўдным адкрыццём. Мы нават не задумваемся, што на праблемы можна глядзець такім чынам — перавярнуўшы прычыну і следства. Гэта таксама ў пэўным сэнсе штамп — штамп мыслення.

## ШТО ТАКОЕ ЭПІСТАЛЯРНЫ ЖАНР

**А. С.** — Строгае, навуковае, акадэмічнае азначэнне трактуе эпісталярную літаратуру як перапіску, якая задумана першапачаткова або асэнсавана пазней як мастацкая і пуб-

лiцыстычная проза, разлiчаная на дастаткова шырокае кола чытачоў. Такiм чынам, эпiсталярная лiтаратура абавязкова павiнна быць разлiчанай на нейкага дакладнага адрасата — i менавiта ў гэтым яе прынцыповае адрозненне ад мемуараў i дзённiкаў. Але само слова «эпiсталярый» азначае «пасланне». Пасланне ў самым шырокiм сэнсе. I адрасатам гэтага паслання можа быць хто заўгодна, у тым лiку i сам аўтар. Акрамя таго, iснуе шэраг публiцыстычных твораў, дзе адрасат з’яўляецца прыдуманым. Класiчны прыклад — «Персiдскiя лiсты» Мантэск’ё.

**С. Д.** — Ёсць i навуковыя прыклады. «Лiсты да нямецкай прынцэсы» Леанарда Эйлера на самай справе ўтрымлiвалi ледзь не ўсе веды па прыродазнаўстве i фiласофii таго часу. Напiсаны яны па-навуковаму строга, але пры гэтым вельмi проста.

**А. С.** — «Маралii» Плутарха, разважаннi Марка Аўрэлiя «Сам-насам з сабою» — гэта нельга назваць эпiсталярнай лiтаратурай у вузкiм сэнсе: гэта не тое, што мы бачым у Эразма Ратэрдамскага, Чэстэрфiлда або Вальтэра — класiчных прадстаўнiкоў эпiсталярнага жанру. Яны пiсалi выдатныя лiсты, яркiя, вельмi вобразныя, i гэта нават хутчэй не эпiсталярная лiтаратура, а мастацкая лiтаратура, якая займела эпiсталярныя абрысы. Гэта ў нейкiм сэнсе творчы трук, якi, дарэчы, пазбаўляў ад вельмi многiх праблем i дазваляў выказваць некаторыя рэчы, якiя нельга было выказаць у адкрытай форме ў мастацкiм творы. Эпiсталярны жанр у шырокiм сэнсе — важнейшая частка лiтаратурнай спадчыны. Для мяне як для чалавека, якi заўсёды цiкавiўся псiхалогiяй, такая лiтаратура не меней (i нават болей) важная i цiкавая, чым мастацкая проза. Яна больш паказальная, бо дае ўяўленне пра псiхалагiчны стан i матывацыю аўтара.

**С. Д.** — Як вы лiчыце, чаму чалавецтва адмовiлася ад лiставання? Справа ж не толькi ў распаўсюджваннi iнтэрнэту. Працэс пачаўся раней: тыя лiсты, якiя папярэднiчалi электронным варыянтам, таксама далёкiя ад узораў, пра якiя iдзе гаворка.

**А. С.** — Працэс гэты сапраўды пачаўся раней. I прычынай гэтаму нават не тэлефон i тэлеграф. Грамадства ўсё больш арыентуецца на бытавы, зямны поспех. У большасцi людзей ужо няма на лiставаннi або вядзенне дзённiкаў нi часу, нi жадання, нi магчымасцей: няма дастойнага адрасата i культуры лiставання. Не сакрэт, што большасць людзей сёння не толькi не пiша, але i не чытае. А каб добра пiсаць, трэба шмат чытаць. Найбольш яркiя ўзоры эпiсталярнага жанру напоўнены прыгожымi цытатамi, вытанчанымi зваротамi, цiкавымi прыкладамi з жыцця i спасылкамi на лiтаратурныя творы.

## ЯК НАПIСАЦЬ ЛIСТ

**А. С.** — Наколькi мне вядома, у Маскве аднымi з самых запатрабаваных з’яўляюцца цяпер не трэнiнгi асабiстага росту i курсы замежнай мовы, а заняткi па лiтаратурнай рускай мове. Непiсьменныя лiставаннi на ўзроўнi генеральных дырэктараў цi топ-менеджараў вядучых кампанiй — гэта сорам у свядомасцi некаторых дзеячаў буйнога бiзнесу. Яны i пачалi бiць трывогу. Многiя бiзнесмены цяпер ужо лiчаць патрэбным (i нават абавязковым) карыстацца паслугамi рэдактараў i карэктараў, нават трымаючы iх у штаце. Дарэчы, пра эпiсталярны жанр. Лiставанне памiж суб’ектамi гаспадарання — гэта таксама важна. Трэба падаць сваю думку ясна i складна, iнакш што пра цябе падумае партнёр? Цi захоча ён супрацоўнiчаць з бессiстэмна, нелагiчна i не творча мыслячым апанентам? Як нi дзiўна, сам бiзнес, якi некалi паспрыяў дэградацыi мовы, цяпер у нейкай ступенi выступае ў ролi крынiцы адраджэння. Працэс зайшоў занадта далёка. Гаворачы медыцынскай мовай, хворы ў рэанiмацыi. Але яшчэ не памёр. I iнтэнсiўная тэрапiя яшчэ можа ўзрадзiць культуру, а разам з ёю i эпiсталярны жанр у яго найлепшых, канструктыўных праявах. Але для гэтага патрэбна мэтанакiраваная дзейнасць.

**С. Д.** — Напэўна ж ёсць правiлы напiсання лiстоў i ўвогуле лiставання. Якiя яны?

**А. С.** — Мы будзем гаварыць пра ліст у належным разуменні — той, які можа лічыцца годным узорам жанру. На мой погляд, кожнае пісьмо трэба разглядаць як невялікае эсэ, маленькі мастацкі твор. І таму правілы тут такія самыя. Тры складнікі: экспазіцыя, распрацоўка, рэпрыза. Тры этапы: рост, стабілізацыя, згасанне (што, дарэчы кажучы, шырока выкарыстоўваецца ў астрапсіхалогіі). Усё наша жыццё падпарадкавана гэтым прынцыпам. Гэта як раніца, дзень і вечар. Ёсць яшчэ, праўда, чацвёрты складнік — ноч, але ноч — гэта замысел: яшчэ нічога няма, яшчэ толькі ўзнікла жаданне напісаць ліст. Мне прыходзіць на розум фізіялагічная аналогія: сняданак, абед, вячэра. Свет, як бачым, поўніцца аналогіямі. Такім чынам, уступная частка, зварот да адрасата, павінна быць энергічнай (дыетолагі рэкамендуюць сняданак не надта цяжкі, але даволі каларыйны). Мы вітаем адрасата і заяўляем тэму ліста. Пасля ідзе зона афармлення. Абед. Як вядома, гэта асноўная частка рацыёну. Тут мы выказваем думкі ў той ці іншай паслядоўнасці, расстаўляем акцэнты. Абедаць жа можна як заўгодна — выкарыстоўваючы самыя розныя соусы і закускі. Салат можа быць з'едзены перад супам або пасля «другога». Тут мы вольныя, гэта — творчасць. Ну, і як раяць дыетолагі, вячэра не павінна быць занадта сытнай. Усё добра ў меру, каб не выйшла так, як жартаваў Блез Паскаль: «Мой ліст атрымаўся занадта доўгім, таму што ў мяне не было часу напісаць яго каратка». Завяршэнне не трэба перагружаць, усё, што вы хацелі сказаць, вы павінны былі сфармуляваць у цэнтральнай частцы.

**С. Д.** — А што вы скажаце пра пастскрыптум? Можна ж было і ў лісце ўсё напісаць. Гэта дэсерт?

**А. С.** — Ёсць людзі, якія не могуць легчы спаць на пусты страўнік. І ім рэкамендуецца з'есці яблык або выпіць шклянку кефіру. Пастскрыптум не заўсёды сведчыць пра тое, што нейкая думка ўзнікла позна. Часта ў пастскрыптуме, наадварот, утрымліваецца ключавая думка, тое, на што рэкамендуецца звярнуць асаблівую ўвагу. Гэта па правілах. Але калі чалавек раз за разам кідаецца пастскрыптумамі, а то і пастпостскрыптумамі, гэта таксама дыягнастычны крытэрый. Гэта ўжо няздольнасць сфармуліраваць думку. Або гэта ідзе ад жадання звярнуць на сябе ўвагу, прыдаць сабе арэол асабліва адукаванай, вытанчанай, творчай, нават надзвычайнай асобы. Пра гэта ж, дарэчы, можа сведчыць і злоўжыванне вылучальнымі знакамі прыпынку, якія, нібыта з рога дастатку, расстаўляюцца ў лісце дзе трэба і не трэба. Тут будзе да месца ўзгадаць словы Шапэнгаўэра: «Чым больш у тэксце ўсялякіх працяжнікаў, тым менш у ім цікавых думак».

### ЛІСТ ДА СЯБЕ

— З пункту гледжання псіхолагаў і псіхааналітыкаў ліст да сябе — гэта адзін з найлепшых інструментаў самапазнання і самааналізу, — *гаворыць Аляксей Селянінаў.* — Чалавек, які піша да самога сябе, як ні парадаксальна прагучыць, атрымлівае цудоўную магчымасць паглядзець на сябе збоку. Гаворка не ідзе пра раздваенне асобы: проста гэта той рэдкі выпадак, калі чалавек можа заняць больш ці менш аб'ектыўную пазіцыю. Гэта асаблівасць, дарэчы, характэрная для адукаваных людзей, схільных да рэфлексіі. Гэта вышэйшы тып рэфлексіі, як я лічу. Думкі, выкладзеныя на паперу, — гэта ў нейкім сэнсе ўзгаданая намі матэрыялізацыя слова. Болей за тое, псіхолагі рэкамендуюць адкладваць гэтыя лісты, каб потым прачытваць іх наноў. Гэта дазваляе стварыць максімальна аб'ектыўны погляд на сітуацыю.

Дарэчы, добрыя рэдактары рэкамендуюць не несці толькі што напісаны артыкул у рэдакцыю, не націскаць адразу «адправіць», а адкласці на некалькі дзён, каб потым прачытаць, нібыта чужое, і ацаніць найбольш аб'ектыўна — «збоку». Трэба адзначыць, што гэта рэкамендацыя мае ўяўнае астрапсіхалагічнае абгрунтаванне: па заканчэнні трох дзён Месяц, галоўны кіроўца нашага ўнутранага жыцця, гарантавана пяройдзе ў наступны знак задыякальнага цыкла — і наш эмацыянальны стан, а таксама некаторыя нюансы светаўяўлення абавязкова зменяцца, няхай нават гэта і не будзе відавочным на свядомым узроўні.

***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА***

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ ЯК ПРЫНЦЫП ВЫЖЫВАННЯ

***Летась Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт святкаваў 90-годдзе свайго існавання. Цяпер гэтая ўстанова знаная, багатая і шматпрофільная. Зусім не так ішлі справы напачатку, у тыя далёкія 1920-я гады, што сёння лічацца «залатым векам» для беларускай навукі, культуры, літаратуры.***

Лічацца, бо сапраўды так і было. Старая акадэмічная навука Расіі знаходзілася на даволі высокім узроўні, прынамсі гуманітарыстыка. Менавіта гэтымі «старымі кадрамі» пераважна і камплектавалася новая навучальная ўстанова. Таму фонд № 205 Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (фонд БДУ) пачатку 1920-х гадоў — амаль цалкам рускамоўны. Нацыянальна арыентаваныя дзеячы з'явіліся ва ўніверсітэце не адразу.

Умовы ў 1921 годзе былі ў Беларусі шмат у чым лепшыя, чым нават у Маскве і Петраградзе. У апошнім наогул лютаваў голад, і многія з навукоўцаў спяшаліся пакінуць свае кватэры і перабрацца ў цішэйшае месца. На поўдні ж працягвалася грамадзянская вайна. Менавіта гэта і абумовіла прыток навукоўцаў Данскога (былога Варшаўскага) і Маскоўскага ўніверсітэтаў у БДУ. Вядома, усім ім хацелася змяніць сваё становішча да лепшага. І галоўным чынам — сацыяльна-побытавае. Нішчымніца, голад і беспрытульнасць моцна надакучылі. Разам з тым, нават «святцілы» еўрапейскага ўзроўню прызвычайваліся да часу і невясёлага стану рэчаў.

Кожны з іх меў свае запатрабаванні, рабіў саступкі, але да пэўнай мяжы. Лісты, якія я прапаную да друку, выдатна адлюстроўваюць іх статус ва ўніверсітэце, асвятляюць некаторыя моманты побыту 1920-х гадоў.

Уся прафесура, прадстаўленая ў дакументах, — выдатныя гуманітарысты. Аляксандр Яўлахаў — прафесар замежнай літаратуры, спецыяліст па метадалогіі мастацкай творчасці, аўтар фундаментальных «Уводзінаў у філасофію мастацкай творчасці». Іван Замоцін — вядомы русіст, даследчык гісторыі рускай літаратуры 1820-х гадоў, рамантычнай плыні, Мікалай Дурнаво — адзін з лепшых дыялектолагаў таго часу. Дакументы друкуюцца паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў фондзе БДУ ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

### АЛЯКСАНДР ЯЎЛАХАЎ — У ПРАЎЛЕННЕ БДУ

Пятигорск
Крайняя 12
25 / 7 1923

Вашу телеграмму я получил перед отъездом в Пятигорск, и тогда же ответил на нее краткой телеграммой же, так как подробней решил написать Вам письмом. Обстоятельства сложились так, что, не получая утверждения до 20-го июля и не зная, когда могу надеяться получить его, я решил, что держать семью все лето в душном большом городе нецелесообразно и отправил ее в Ейск Куб.[анской] обл.[асти]; сам же хотел переехать из Пятигорска, после отдыха, в Баку, куда меня усиленно звал Университет и где утверждаться не нужно. Ваша телеграмма, полученная накануне отъезда, этот последний план изменила, так как лично мне хотелось переехать именно в Минск, и вопрос о Баку, т.[аким] обр.[азом] отпал. Теперь, имея телеграмму Вашу об утверждении, я, соответственным образом, изменил и все остальные свои планы. Прошу Вас, по получении этого письма, выслать подъёмные (червонцами) на имя жены моей: Ростов

н[а] / Д[ону] Никольская, 102 Эрмионии Николаевне Евлаховой[1]. Числа 15-20 августа я выеду в Москву, где пребуду несколько дней, и, самое позднее, в конце августа буду в Минске, где сам займусь вопросом о квартире, а тогда уже переедет моя семья.

Меня смущает лишь одно: что мне делать с роялем и на какие средства перевозить его? Постановление Правления об отпуске мне средств на перевозку 10 пудов багажа, кроме книг, ставит меня в почти безвыходное, в этом отношении, положение. У меня двое детей учатся в консерватории, и быть без рояля мы не можем. Не будете ли Вы так любезны придумать что-нибудь для перевозки еще рояля?

Прошу вас также выслать на имя жены мандат на следование до Минска на 7 лиц с поименованием всех: Александру Михайловичу Евлахову, жене его Эрмионии Николаевне, и детям: Александру[2], Эрмионии[3], Ариадне[4], Оресту[5], Иринию[6].

С почтением А. Евлахов

## ІВАН ЗАМОЦІН — У ПРАЎЛЕННІ БДУ

В Правление Белорусского Государственного Ун[иверсите]та

В средине октября мес[яца] по распоряжению Правления Б.Г.У. я был (в числе других жильцов дома № 14 по Интернациональной ул.) спешно выселен из занимаемой мной квартиры. Выселяя меня и моего соседа по квартире проф. С. М. Мелких, Правление предоставило нам квартиру № 3 в доме № 33 по Советской улице. Эта квартира однако оказалась свободной лишь отчасти; две комнаты, как раз те именно, которые, по соглашению с проф. Мелких, должен занять я, до сих пор остаются в распоряжении проф. С.[ельско]-Х.[озяйственного] Института Яржемского. Не имея, таким образом, пока никакой квартиры, я помещаюсь с своею семьею и имуществом в одной небольшой (около 4-х кв. саж.) комнате, уступленной мне временно проф. С. М. Мелких. Переезжая сюда я, правда, выразил согласие на то, чтобы некоторое время потесниться в ожидании, пока освободится вся квартира, но это «некоторое время» определялось тогда лишь двумя неделями, т.е. до первых чисел ноября, когда предполагал выехать и проф. Яржемский; теперь я живу, не имея своей квартиры, уже около месяца и не имею никакой уверенности в том, что такое положение не продлится еще месяц или даже два.

Занимая в течение месяца вместе с семьею и всеми вещами площадь в четыре квадратные сажени, я испытываю ряд неудобств, которые тяжело отзываются как на моей личной жизни и жизни моей семьи, так в особенности на всей обстановке моей научной и педагогической работы: 1) Небольшая комната, где я помещаюсь, по необходимости так заставлена вещами, что едва остается проход от одной стены до другой; вещами, главным образом — ящиками с книгами, пришлось заставить и переднюю и часть еще одной комнаты проф. Мелких и тем самым стеснить жильцов квартиры. 2) Расставить свою кровать на день я не имею возможности за отсутствием места; приходится ее расставлять вечером и каждый раз убирать утром, что отнимает много времени и непроизводительно усложняет трудовой день. 3) Так как приходится за теснотою

---

[1] Яўлахава Эрміёнія Мікалаеўна (1882 — пасля 1964) — жонка А. М. Яўлахава. Таленавітая піяністка, вучылася ў Маскоўскай кансерваторыі, але пасля нараджэння старэйшага сына пакінула прафесійную сцэну.

[2] Старэйшы сын А. М. Яўлахава, у далейшым кадравы ваенны, загінуў у званні палкоўніка ў 1941 годзе ў дэсантнай аперацыі пад Харкавам.

[3] Дачка А. М. Яўлахава, у далейшым выкладчык, кандыдат педагагічных навук. Жыла ў Маскве.

[4] Дачка А. М. Яўлахава, у далейшым вучоны, кандыдат біялагічных навук. Жыла ў Ленінградзе.

[5] Сын А. М. Яўлахава (1912—1971) — у будучым вядомы кампазітар, педагог, вучань Д. Шастаковіча, аўтар дзясяткаў музычных твораў — балета, сімфоній, канцэртаў, рамансаў. Дарэчы, першы выступ Арэста Яўлахава адбыўся ў Мінску. Пад уражаннем ад смерці Леніна 12-гадовы хлопчык напісаў п’есу для фартэпіяна ў 4 рукі, якую і выканаў разам з сястрой на гарадскім канцэрце. Гл.: Гусин И. Л. Орест Евлахов. Л.: Музыка, 1964. С. 5—7.

[6] Сын А. М. Яўлахава, у далейшым архітэктар, жыў у Ленінградзе.

по необходимости спать близко к окну и балконной двери, то я давно уже сильно простужен и вследствие сильного кашля с трудом читаю лекции и веду групповые занятия. 4) Мой ребенок[1], вынужденный за теснотою постоянно толкаться в передней и на кухне, заболел и слег в постель и в настоящее время с трудом поправляется; жена тоже начинает хворать в этой необычной обстановке, при которой у целой семьи нет в сущности достаточного, в смысле даже минимальной площади, домашнего угла. 5) Так как небольшая кухня не может разом обслужить трех семейств, то мы вынуждены лишь изредка, когда удается, готовить себе обед, а когда это не удается, питаемся кое-как, т.е. обходимся без горячей пищи. 6) комната, в которой мы помещаемся, непосредственно примыкает к передней, и потому постоянные звонки и посетители других квартирантов не только лишают меня возможности отдохнуть хотя бы полчаса в промежуток между утренней (Педфак, Рабфак, Инбелкульт[2]) и вечерней работой (Педфак), но и не дают спокойно выполнить самую минимальную работу; приходя вечером после лекций и заседаний домой, я по той же причине, именно благодаря соседству с комнатой, занятой проф. Яржемским, откуда нередко до полночи и даже позже слышны разговоры, долго не могу заснуть, несмотря на усталость. 7) Наконец — и это самое главное — я лишен всякой возможности развернуть свою обычную научную работу (доклады, статьи для печати, книга по методике для издания в Минске, подготовительные работы по изданию белор[усских] писателей для Инбелкульта) и нормальную подготовку к лекциям и групповым занятиям, потому что все мои книги и рукописи по необходимости вот уже около 1,5 мес[яцев][3] лежат в передней в ящиках, разобрать которые не представляется возможным за отсутствием места вне занимаемой мною комнаты и за теснотою самой комнаты, не вмещающей не только письменного стола, но даже и кроватей.

Указывая на эти неудобства, я, конечно, учитываю, что Правление может совершенно не интересоваться тем, как живет и питается моя семья, и тем, может ли проф. Замотин поставить для себя кровать на отведенной ему жилищной площади; я даже допускаю и то, что Правление не обязано интересовать, на чем проф. Замотин пишет свои программы, конспекты и очередные доклады для предметных комиссий по Педфаку и Рабфаку — на столе или на ящике. Но я думаю, что Правлению не безразлично, что квалифицированный научный работник, уже четвертый год работающий в Белорусском Государственном Университете поставлен в самом начале учебного года в такие условия, что целых полтора месяца (а, может быть, еще и больше) должен вычеркнуть из своей текущей научной работы. Кроме того я полагаю, что Правление, взявши на себя спешное выселение меня из прежней квартиры, тем самым взяло на себя и труд срочно подыскать соответствующее для меня помещение. Между тем с момента моего выселения из прежней квартиры интерес ко мне со стороны университетского хозяйства выразился только в том, что за октябрь месяц с меня взяли за квартиру попрежнему 30 руб[лей], хотя я половину октября просидел на прежней квартире с наполовину упакованным имуществом и, следовательно, вполне квартирой, можно сказать, не пользовался, а вторую половину месяца прожил уже в небольшой комнате (4 кв[адратных] саж[еней]), которую вряд ли следует облагать 30-ю рублями, — да, к тому же, в октябре месяце я на вынужденный спешный переезд израсходовал около 40 рублей. Ту же плату предполагалось удержать из моего содержания и за ноябрь месяц, и мне пришлось лично объяснять и доказывать, что я все еще не имею квартиры и живу в комнате, предназначенной для проф. С.М. Мелких.

Описывая создавшееся для меня неблагоприятное квартирное положение, я не могу не отметить резкой разницы, которая в данном случае проводится между научными работниками. Три года тому назад я вынужден был занять отведенную мне университетом квартиру в грязном виде без всякого ремонта и прожил в ней в такой обстановке три года (отремонтирована была в конце концов только одна комната и то лишь потому, что в

[1] Таццяна Замоціна — дачка І. І. Замоціна.

[2] Скарачэнні: Педагагічны факультэт, Рабочы факультэт, Інстытут беларускай культуры.

[3] «Книги пришлось упаковать еще на прежней квартире для переезда» (Заўв. І. І. Замоціна).

ней грозил падением потолок) и в настоящее время мне пришлось вселиться в другую квартиру так спешно, что не удалось заблаговременно даже вымыть пол в той комнате, которая сейчас сплошь заставлена вещами и не может быть вымыта и приведена в порядок. И вот в то время, как для меня почему-то обязательна спешность и срочность для выселения и вселения, лишающая меня возможности позаботиться даже о санитарной стороне своего жилища — другой научный работник имеет привилегию оставаться в отведенной мне квартире сколько угодно времени, пока в его будущей квартире не произведут ремонт во всех деталях, и тем самым ставит меня в тяжелое положение.

Ввиду вышеизложенного прошу Правление принять срочные меры к освобождению предназначенных мне 2-х комнат в квартире № 3. Так как выезд проф. Яржемского зависит от ремонта, который должны произвести в его будущей квартире в Горках, то не найдет ли возможным Правление ходатайствовать перед Наркомпросом об ускорении этого несложного, повидимому, ремонта (оклейка обоями комнат, окраска окон и т.п.), требующего всего несколько дней работы, с тем, чтобы проф. Яржемский мог в ближайшее время освободить занимаемое им помещение в доме № 33.

17 ноября 1925 г.

Проф. И. Замотин

## МІКАЛАЙ ДУРНАВО — У ПРАЎЛЕННЕ БДУ

В Правление Государственного
Белорусского Университета
Профессора
Николая Николаевича Дурново

ЗАЯВЛЕНИЕ

Прошу Правление предоставить мне небольшую квартиру или комнату, так как я до сих пор не могу найти себе подходящее помещение. В настоящее время я снимаю крошечную комнатку, не более 8 квадр[атных] метров, в которой трудно было бы поставить письменный стол и полку для книг. Книги приходится держать в саквояже, а заниматься за маленьким столиком, на котором нельзя разложить все книги, нужные для занятий. Моя комнатка отделена от соседней комнаты, где помещаются хозяйка с мужем и малолетним сыном, другой комнаты не имеющие, лишь тоненькой фанерочной перегородкой, через которую слышны все разговоры, что очень мешает занятиям и часто совсем не дает возможности заниматься. В комнатке нет штепселя для настольной лампы и есть только лампочка в потолке; поэтому я лишён возможности заниматься по вечерам, а в зимние дни и утром, когда все учреждения, куда я мог бы уходить заниматься, закрыты; не могу даже читать. Я хотел купить шнур со штепселем и патроном, чтобы пристроить лампочку ближе к столу, но во всём Минске не нашлось соответствующего штепселя. У меня в Москве осталась семья, но никто из членов моей семьи не может ко мне приехать хотя бы погостить на несколько дней, потому что в моей комнатке негде поместиться второму человеку. Вдобавок моя комнатка настолько сырая, что бумага становится влажною, а книги от сырости портятся. Для моего здоровья эта сырость очень вредна, потому что я еще в 1921 году в Саратове[1] схватил малярию, и весной этого года у меня в Минске приступы малярии возобновились. В случае, если комната мне не будет предоставлена в ближайшем будущем, я совершенно не могу себе представить, буду ли я в состоянии исполнять свои обязанности по званию профессора Белорусского Государственного Университета и действительного члена Института Белорусской Культуры.

Профессор Николай Дурново

Минск, 6.10.1928

[1] У 1920—1921 гг. М. Дурнаво выкладаў у Саратаўскім дзяржаўным універсітэце.

*Нэлі КСЯНЕВІЧ*

# КРЫЎДЫ

***Дзіўна, вельмі дзіўна: усё, што датычыцца крыўды, мы арганізуем самі, а прэтэнзіі прад'яўляем іншым людзям. Ёсць такая прыпавесць, з сучасных. Адна кабета звярнулася ў паліцыю з прычыны гвалтавання. У яе, натуральна, імкнуцца даведацца пра прыкметы злачынцы.***

***— О! Ён такі ідыёт! — усклікнула няшчасная. — Мне нават прыйшлося яму дапамагаць.***

## АДКРЫЦЦЁ

— Няўжо вы ні на кога не крыўдуеце?

— Не.

— А як вам гэта ўдаецца?

— Выпадковасць. Аднойчы мне здалося, што «пакрыўдзіцца» — гэта пакрыўдзіць сябе, пакрыўдзіць — зрабіць сябе крывой! А потым задумалася — так і ёсць. Перада мной адкрыліся парадаксальныя рэчы. Калі павесці сябе парадаксальна — пачаць меркаваць, што крыўдзім мы сябе самі, і тут жа засумнявацца ў гэтым, то гэтакім самым парадаксальным чынам знойдзецца процьма пацверджанняў правільнасці першапачатковай здагадкі. Калі вы крыўдуеце? Калі недаацэньваюць, прыніжаюць, не дапамагаюць, забываюцца павіншаваць са святам, ды ці мала калі! Усё можна спрасціць: калі рэальнасць не адпавядае ВАШЫМ чаканням. ВЫ сабе нечага наўяўлялі, а жыццё ўзяло ды пайшло міма вашага сцэнарыя. За гэта вы на яго раззлаваліся, надзьмуліся, замкнуліся і сябе шкадуеце. Проста купаецеся ў адмоўных эмоцыях, як, прашу прабачэння, свінюшка ў гразі. Вам не спадабалася такое параўнанне? Пакрыўдзіліся? А гэта таму, бо чакалі, што атрымаеце чарадзейную псіхалагічную тэхніку, а атрымалі па носе. Тэхніку, між іншым, я ўжо пачала прапаноўваць. Першы этап: усвядоміць несупадзенне асабістых чаканняў з тым, што адбываецца, і расцаніць гэта СТАНОЎЧА. Ёсць у мяне на гэту тэму анекдот, з любімых. Ён адпавядае тым старасвецкім часам, калі мы жылі ў іншай краіне — з пустымі паліцамі ў крамах і талонамі на прадукты. Цікавы, між іншым, быў час. І невыязны. Але ў анекдоце магчыма ўсё. І таму сустракаюцца неяк у пачатку васьмідзясятых мінулага стагоддзя амерыканка, француженка і беларуска, вядуць свецкую размову.



— У мяне такое гора, — пакутуе амерыканка, — такое гора. Муж абяцаў падарыць на гадавіну вяселля ружовы лімузін, а падарыў белы.

— Гэта не так і страшна, — суцяшае яе француженка. — Сапраўднае гора ў мяне. Я такая няшчасная. Палюбоўнік абяцаў завушніцы з дыяментаў, а падарыў смарагдавыя.

— А я — такая шчаслівая! Такая шчаслівая! — радуецца наша суайчынніца. — Учора алей купляла, а талон выразаць забыліся!

Значыцца, першае адкрыццё: чым менш прэтэнзій, тым менш крыўды. Але праверым гэта.

## ПРАВЕРКА

Разумных шмат, шчаслівых мала. У мяне ёсць жалезнае правіла: правяраць усе свае адкрыцці на практыцы. Калі я разумная і спасцігла механіку крыўды, дай я гэты механізм разбуру! І тут узнікае дзіўная рэч: як толькі я пачала чакаць сітуацыю крыўды для эксперымента, яна знікла! Ніхто мяне не абазваў, не прынізіў, нават дзеці мылі за сабою посуд і начальства не лаялася. На дапамогу прыйшлі сябры. Яны пасварыліся і згадзіліся абмеркаваць сваю сварку са мной.

Справа была даўнейшая, Дзень Святога Валянціна яшчэ толькі ўкараняўся ў нашым жыцці, прыводзячы ў захапленне жанчын, а мужчын — у стан безвыходнасці. Карацей, мая сяброўка празрыста намякнула мужу, што дакладна зробіць яе шчаслівай 14 лютага. А ў яго дзень выдаўся такім напружаным, што ўсе намёкі з галавы павыляталі, засталося адно толькі жаданне — схавацца ад службовых праблем дома.

— Уяўляеш, прыйшоў як хмара, злосны, ад вячэры адмовіўся і плюхнуўся на канапу перад тэлевізарам. Я цяпер з ім не размаўляю.

Гэта адзін бок падзяліўся ўражаннямі.

— Прыходжу дадому ледзьве жывы, проста хачу паваляцца і аднавіцца, а яна: вячэра пры свячах, пераапранайся! Дзень закаханых, ты ж паглядзі! Але калі кахае, то мусіць жа зразумець, што менавіта цяпер не трэба мяне турбаваць.

Гэта пункт гледжання іншага боку.

— Скажы, Антон, а ў звычайныя дні Ліза разумее, што трэба зняць тваю стомленасць ад працы?

— У тым-та і справа, што разумее. Ды з-за гэтага дурнога свята ўжо тыдзень не размаўляе.

— Ліза, а каханне толькі з вячэрай пры свячах можна адчуць?

— Не, канешне, але ж хацелася нечага асаблівага.

— Хто выйграе ад твайго маўчання?

— Ды ніхто! Але мне, што, прабачэння прасіць?

— А давай зробім так. Я запрашу вас на гарбату, з цябе — гумарыстычны аповед пра



тое, як ты ўкараняла новае свята. Разам і пасмяёмся.

Ужо шмат гадоў запар на Дзень Святога Валянціна Ліза і Антон ладзяць адно аднаму розыгрышы…

## АЛГАРЫТМ

Калі ўзяць за аснову сцвярджэнне, што «мяне нельга пакрыўдзіць, толькі я сама магу пакрыўдзіцца», то просяцца наступныя дзеянні:

► усвядоміць розніцу паміж «хачу» і «атрымліваю» і пасмяяцца над ёй;

► у сітуацыі крытыкі выкарыстаць правіла дваццаці хвілін: дваццаць хвілін крыўдзіцель гаворыць пра цябе, а потым — пра сябе, паколькі ў іншых мы заўважаем свае асабістыя недахопы;

► тое, над чым нельга пасмяяцца, прабачыць, адпусціць, і чым хутчэй, тым лепш. Прабачаць будзем сябе — за тое, што прыцягнулі ў сваё жыццё несправядлівага і агрэсіўнага чалавека;

► калі не атрымліваецца прабачыць адразу, можна спачатку пакараць, напрыклад, расслабіць рукі і пабіць сябе імі па плячах. Пакараны — памілаваны, крыўда забываецца, радуемся свету;

► пажыць без крыўды і параўнаць якасць жыцця.

Ірына БАГДАНОВІЧ

# МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

***Свядомая беларуска, асветніца, мецэнатка, на грошы якой друкаваліся першыя беларускія газеты і кнігі, пашыралася выдавецкая дзейнасць, адкрываліся беларускія школы для вясковых дзяцей, прытулкі для сірот, шпіталі для параненых і хворых падчас Першай сусветнай вайны. Магдалену Радзівіл даследчыкі і мемуарысты лічаць «адной з найбольш маляўнічых фігураў навейшай беларускай гісторыі».***

## З РОДУ ЗАВІШАЎ

Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 года ў Варшаве. Яе бацька, Ян Казімір Завіша, паходзіў са знакамітага шляхецкага роду герба Лебедзь. У свой час быў вядомым навукоўцам-гісторыкам, археолагам, які рабіў раскопкі на Ігуменшчыне і Навагрудчыне, даследаваў каменны век, удзельнічаў у міжнародных сімпозіумах. Маці Марыя Кванецкая была свядомай патомнай полькаю. Любоў да Беларусі перадалася Магдалене ад бацькі. Ян Завіша ў жончынай сям'і лічыўся «правінцыялам» з роду, які саступае арыстакратызмам і заможнасцю перад варшаўскай арыстакратыяй. Толькі Магдалена пераняла ад бацькі беларускую нацыянальную свядомасць.

Высокаадукаваная, свецкі выхаваная і прыгожая Магдалена скарыла сэрца багатага і ці не самага зайздроснага на той час польскага кавалера графа Людвіка Красінскага, удаўца па першым шлюбе і значна старэйшага за Магдалену. У 1882 годзе (па іншых крыніцах у 1881) яна выйшла за яго замуж. Праз год нарадзілася дачка Людвіка. У 1895-м Магдалена застаецца ўдавой, а дачка па тэстаменце Красінскага становіцца спадкаемніцай усіх бацькавых багаццяў. Яе ж маці атрымлівае толькі сціплае ўтрыманне. Магдалена і так пачувалася чужой у варшаўскім свецкім асяроддзі, а чулыя адносіны з бацькам, які менавіта ў Магдалене бачыў прадаўжальніка сваіх беларускіх спраў, спрычыніліся да таго, што па бацькавым тэстаменце яна стала ўладаркай маёнткаў Кухцічы і Жорнаўка на Міншчыне. Пасля смерці мужа Магдалена без жалю пакідае Варшаву і стала пасяляецца на бацькавай радзіме. Яна не аддаляецца ад свету, зусім не! Наадварот, яна вандруе, наведвае слынныя еўрапейскія сталіцы, варшаўскую радню. Але сэрца яе належыць Беларусі, і пройдзе зусім не шмат часу, калі яе служэнне гэтай зямлі зробіцца рэальнай паўсядзённай справай.

## КНЯЗЬ МІКАЛАЙ

У 1904 годзе, падчас чарговай еўрапейскай вандроўкі, у Англіі Магдалена знаёміцца з Мікалаем Радзівілам — прадстаўніком берлінскай галіны найвядомейшага беларускага магнацкага роду. Па бацькавай лініі Мікалай быў праўнукам знакамітага Антонія Радзівіла — аўтара музыкі да оперы «Фаўст» паводле вядомага твора Гётэ. Маці Кацярына з роду Жавускіх была пляменніцай пісьменніка Генрыка Жавускага і яго сясцёр, слынных у свой час прыгажунь Эвеліны Ганскай і Караліны Сабанскай. Мікалай быў збяднелым прадстаўніком роду, да таго ж бацькі яго развяліся, што прычыняла таксама душэўны дыскамфорт. Але гэта быў неардынарны чалавек — смелы ваяр, кавалер ордэна Святога Уладзіміра, сапраўдны рыцар краю. Сваімі беларускімі прыхільнасцямі ён нагадваў Магдалене яе бацьку.

Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце (Магдалена была старэйшая за Мікалая

на 19 гадоў), у 1906 годзе ў Лондане адбываецца шлюб, з асуджэннем прыняты ў польскіх арыстакратычных колах. Перад маладымі літаральна зачыняюцца дзверы прэстыжных дамоў і клубаў. Але гэта не спалохала нарачоных: у іх была Беларусь, былі землі і маёнткі, якія чакалі гаспадароў. Магдалена аформіла ў валоданне Мікалая родавы маёнтак у Кухцічах, а ён — не толькі смелы ваяр, але і дбайны гаспадарнік — найперш заняўся пабудовай чыгункі, каб злучыць беларускую глыбінку з цэлым светам. Дбаў ён і пра лясную гаспадарку, і ў цэлым рупіўся пра тое, каб прымяняць новыя на той час тэхналогіі для вядзення сельскагаспадарчых работ і развіцця прамысловасці.



*Па меркаванні некаторых даследчыкаў, верагодны партрэт княгіні Магдалены з дачкой магчыма работы Альфрэда Ромера.*

Пачатак Першай сусветнай вайны перапыніў гэтую плённую дзейнасць. 17 (30) лістапада 1914 года Мікалай Радзівіл быў забіты ў баі ва Усходняй Прусіі. Яго хавалі ў склепе маёнткавага касцёла ў Кухцічах. Жалобнае набажэнства праводзіў ксёндз Аляксандр Астрамовіч, ён жа паэт Андрэй Зязюля, які блізка сябраваў з Магдаленай і Мікалаем Радзівіламі. У сваёй прамове ён адзначыў і надзвычайную ваярскую смеласць князя, і яго руплівае гаспадаранне, і адданасць беларускай справе: «Як верны сын свайго краю і бацькаўшчыны <…> пасьпешае на поля бітвы і кладзе галаву сваю, як багатыр-мучанік у абароне ўсяго славянства <…> Але нябошчык князь быў ня толькі добрым ваякам. Ён быў і разумным грамадзянінам. Гаспадарачы ў свабодным ад вайны часе ў сваім маёнтку, ён зрабіў многа ўляпшэньняў і паставіў яго на даходным ступені. На полі, на лузе і ў лясох пакінуў сляды сваёй разумнай, стараннай працы. Шмат заработку і хлеба даў бедным людзям, каторых шанаваў і любіў шчыра. Дбаў для іх і аб хлеб духоўны, будаваў касьцёлы і школы. <…> Ён любіў і простую беларускую мову і прычыніўся да яе пад'ему і да адраджэньня беларускага народу <…> У асобе нябошчыка Князя беларусы трацяць шчыраго абаронцу справы іх адраджэння, трацяць яго ў тым часе, калі займаіцца зара новага лепшага жыцьця, калі заглядае слонцэ і ў іх ваконцэ». Так з «сынам зямлі беларускай», як было напісана на вянку, развітваліся беларусы…

**Пасля смерці мужа Магдалена без жалю пакідае Варшаву і стала пасяляецца на бацькавай радзіме. Яна не аддаляецца ад свету, зусім не!**

## МЕЦЭНАТКА

Сужэнства з Мікалаем Радзівілам было шчаслівым для Магдалены. Гэтыя два сэрцы знайшліся ў адным інтарэсе. Справа беларускага адраджэння стала справай жыцця Магдалены і Мікалая. Яны не пісалі ўласных твораў, а таму не былі пісьменнікамі; не ўдзельнічалі ў адкрытай палітычнай (пар-

**Маці Мікалая была пляменніцай пісьменніка Генрыка Жавускага і яго сясцёр, слынных у свой час прыгажунь Эвеліны Ганскай і Караліны Сабанскай**

тыйнай) дзейнасці, а таму не былі палітыкамі таго часу. Але іх дзейнасць датычыла і пісьменства, і палітыкі. Гэта была дзейнасць дзеля Бога і Айчыны, дзеля яе нацыянальнага і духоўнага адраджэння. Маёнткі Магдалены прыносілі не малы даход, добрая частка якога ішла на фінансаванне выдавецкай дзейнасці.

Віктар Хурсік у сваім гістарычным нарысе пра Магдалену Радзівіл згадвае, што знаёмства княгіні з беларускім пісьменніцкім і выдавецкім колам адбылося ў часе, калі яна пераехала ў Беларусь па смерці першага мужа і жыла ў Кухцічах, Жорнаўцы, Мінску. Яна аднавіла кола ранейшых сяброўскіх зносін, у якім важную ролю адыгрываў мінскі лекар Ян Офенберг, родавае гняздо якога было недалёка ад Завішавай Жорнаўкі. Менавіта ён «пазнаёміў Магдалену з цэлай плеядай пісьменніцкіх зорак будучай Беларусі». Магчыма, што не толькі праз асобу мінскага лекара Магдалена ўвайшла ў кола беларускіх адраджэнцаў, але і дзякуючы Мікалаю Радзівілу, які вучыўся ў Пецярбургу, і там мог пазнаёміцца з беларускім асяродкам, у якім былі чынныя Браніслаў Эпімах-Шыпіла, браты Луцкевічы, Цётка, а таксама будучыя беларускія святары, што навучаліся ў Духоўнай акадэміі пад апекай таго ж Эпімаха-Шыпілы.

Як бы там ні было, а з легалізацыяй і паўстаннем беларускага перыядычнага друку і выдавецкіх суполак пастаянную фінансавую дапамогу ім аказвала менавіта Магдалена Радзівіл пры поўнай падтрымцы свайго мужа. Гэта была на першы погляд не заўважная (не афішаваная) чыннасць людзей, якія не шукалі сабе тут аніякай славы, але шчырай душой беларусаў служылі культурнаму адраджэнню Айчыны. З дапамогай кухціцкай княгіні развівалі сваю дзейнасць выдавецкія таварыствы ў Вільні і суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбургу, выдавалася газета «Наша Ніва». З 1913 года ў Вільні пачынае выходзіць каталіцкая беларуская газета «Biełarus». Справам духоўнага адраджэння Беларусі служыла і віленская друкарня «Зьніч», у якой пры падтрымцы Магдалены быў гожа выдадзены першы беларускі малітоўнік «Бог з намі». У ліпені 1915 года газета змясціла ліст Магдалены, у якім яна дзякавала за прысланую ёй кніжку для набажэнства для беларусаў і ўхваляла яе: «Друк дасканалы, абразкі пекныя, а збор малітваў такі, як трэба. Гэтакая кніжка пачынае новую эру ў нашай народнай гісторыі і памятка яе і аўтара яе пройдзе да патомкаў».

Знакам падзякі Магдалене за яе мецэнацкую дзейнасць была выява Лебедзя — герба роду Завішаў, — якую ставілі выдаўцы на шмуцтытулах кніг, выдадзеных на грошы княгіні. А гэта, заўважым, кнігі, без якіх немагчыма ўявіць беларускае літаратурнае адраджэнне: «Вянок» Максіма Багдановіча (1913), «Рунь» Максіма Гарэцкага (1914), «Родныя з'явы» Тараса Гушчы (Якуба Коласа, 1914), «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло (1914), «Васількі» Ядвігіна Ш. (1914).

І яшчэ на адной кнізе знайшлася памятка мужа і жонкі Радзівілаў: гэта першае выданне паэтычнай кнігі згаданага раней паэта Андрэя Зязюлі, каталіцкага святара Аляксандра Астрамовіча, «З роднага загону». Кніга была выдадзена лацінскім шрыфтам



*Выява лебедзя са зборніка «Вянок».*

у Вільні друкарняй «Зьніч» у 1913 годзе, а на вокладцы было пазначана: «фундацыі Радзівілаў (Мікалая і Магдалены з Завішаў)». У гэтай кнізе быў змешчаны верш «Лірнік», які меў пазнаку «пасьвячаю М. Р.». Загадка гэтага прысвячэння разгадваецца дваяка: як Магдалене або Мікалаю Радзівіл. Аднак на карысць Магдалены сведчыць змест твора, у якім згадваецца чулая «пані», што выйшла паслухаць беднага лірніка, тады як усе астатнія «паны» «доўга спалі» і не жадалі адчыніць лірніку дзверы. На жаль, гэтае красамоўнае прысвячэнне знікла пры наступным, больш поўным выданні кнігі ў 1931 годзе, ужо пасля смерці аўтара. Трэба дадаць, што ў жніўні 1917 года Андрэй Зязюля быў капеланам хатняй капліцы Магдалены ў Жорнаўцы.

Дабрачынную дзейнасць Магдалены не перапынілі ані Першая сусветная вайна, ані заўчасная гібель яе каханага мужа. Памяць пра яго, відаць, таксама натхняла. Вайна прынесла народу новыя выпрабаванні і пакуты. Магдалена спрыяла адкрыццю дзіцячых прытулкаў і шпіталяў. Яна заснавала ў Мінску дабрачыннае таварыства «Літасць» для дапамогі сем'ям пакліканых у войска. У сваіх уладаннях княгіня адчыніла некалькі беларускіх пачатковых школ для сялянскіх дзяцей, выкладалі ў іх, між іншым, сёстры Канстанцыі Буйло. Яшчэ ў даваенны час яна шчодра выдаткоўвала сродкі на стыпендыі для студэнтаў-беларусаў, асабліва для тых, хто ішоў вучыцца ў духоўныя семінарыі. Справа духоўнага адраджэння Беларусі была таксама адной з найважнейшых для Магдалены Радзівіл. Яна рупілася пра пабудову грэка-каталіцкай царквы ў Мінску, але не атрымала на тое дазволу гарадскіх улад. Пасылала беларускія кнігі для Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, дзе вучылася цэлая плеяда будучых беларускіх святароў. На пабудову Беларускага калегіума ў Рыме ёю было ахвяравана ў 1918 годзе перад выездам за мяжу каштоўнае ўпрыгожванне — брыльянтавае кальё, аднак здзейсніць гэтую задуму княгіні беларускім дзеячам, на жаль, не ўдалося.

Магдалена Радзівіл уласным загадам перавяла ўсё справаводства ў сваіх маёнтках на беларускую мову, што было натуральным вынікам той паслядоўнай беларусізацыі, якой спрыяла яна ўсёй сваёй дабрачыннай дзейнасцю. «Я грошай для маіх беларусаў не шкадую», — па ўспамінах сучаснікаў, так не раз казала Магдалена.

**Знакам падзякі Магдалене за яе мецэнацкую дзейнасць была выява Лебедзя — герба роду Завішаў, — якую ставілі выдаўцы на шмуцтытулах кніг, выдадзеных на грошы княгіні**

## РУЖАНЦЫ

У 1918 годзе перад прыходам бальшавікоў Магдалена Радзівіл вымушана была пакінуць родную Беларусь. Некаторы час яна жыла ў Варшаве, пасля ў Коўна. Там ёй спрыяў Вацлаў Ластоўскі. Менавіта яго, «Власта», стараннямі выдаваліся тыя самыя кніжкі з выяваю герба Лебедзь. Магдалена паспела спрычыніцца і да адраджэння літоўскага народа, за што была ўзнагароджана ад літоўскага ўрада вялікім крыжам ордэна Гедыміна. Далейшы шлях прывёў Магдалену ў Германію, але ў гэтай краіне з пачатку трыццатых гадоў набірае моцы фашызм, і Магдалена пераязджае ў Швейцарыю.

Яе зямное жыццё скончылася ў 1945 годзе ў доме-прытулку ў Фрыбуры, дзе яна пражывала пад апекаю сясцёр-дамініканак. Пра позні перыяд жыцця княгіні пісаў у лонданскім часопісе «Божым шляхам» Г. Піхура (Гай Пікарда) са спасылкай, што атрымаў гэтыя звесткі ад графіні Ст. Замойскай (сваячкі княгіні): «Магдалена Радзівіл была сярэдняга ўзросту. Яе фігура была поўная павагі і нават маестату. Нават у старасьці захавала вялікую прыгожасьць, з клясычным прафілям, шэрымі вачамі і белымі валасамі. Яна любіла падарожнічаць і чытаць, але найлепш ёй падабалася вязаньне каронак, у чым выказвала нямала мастацкага таленту». Гэтае «вязаньне каронак» — ружанцаў для набажэнстваў — было нібы працягам той справы духоўнага адраджэння, да якой Магдалена Радзівіл спрычынілася яшчэ ў Беларусі. На гэтых ружанцах, магчыма, яна і малілася за Беларусь...

Іван САВЕРЧАНКА

**Да 455-годдзя Льва САПЕГІ**

# КАНЦЛЕР

## *Гістарычнае эсэ*

### I

*Увосень 1583 года, калі Леў Сапега знаходзіўся ў Кракаве пры каралеўскім двары, орды Асманскай імперыі напалі на паўднёвыя землі федэрацыі. «Ад пана старосты камянецкага, — паведамляў Леў Сапега ў Вільню Крыштофу Радзівілу, — прымчаў ганец з весткай, што туркі пераправіліся цераз Дунай і сталі лагерам каля Камянца».*

Вялікае Княства Літоўскае і Польшча распачалі тэрміновую падрыхтоўку да абароны. Каб засцерагчы краіну ад небяспекі з Усходу на час вайны з паўднёвым ворагам, урад ВКЛ прыняў рашэнне падпісаць мір з Маскоўскім княствам. Было накіравана аўтарытэтнае пасольства да Івана IV Грознага.

Менавіта Леў Сапега, якому яшчэ не споўнілася і 27 год, узначаліў адказную пасольскую місію ў Маскву, з тым каб заключыць мір з усходнім суседам. Дыпламатычная місія аказалася, аднак, зусім не лёгкай справай.

Дэлегацыя выехала з Вільні ўвесну 1584 года. У склад пасольскай місіі ВКЛ уваходзілі 275 чалавек. Апрача Льва Сапегі і пяці галоўных шляхцічаў, у Маскву накіроўваліся 29 беларускіх купцоў, што на 177 вазах везлі свае тавары.

Паводле тагачаснага звычаю, Леў Сапега вёз каштоўныя падарункі, або «памінкі», да гаспадара Маскоўскага княства — пародзістых коней, упрыгожаную золатам збрую, пістолі, срэбныя кубкі, аздобленую карэту ды іншае багацце.

У дарозе, пад Мажайскам, паслоў сустрэў ганец з Масквы і перадаў раптоўны і незразумелы напачатку загад — спыніцца і чакаць далейшых распараджэнняў. Прычыну затрымкі Льву Сапегу не растлумачылі. Да пасольства прыставілі ахову і не дазвалялі нічога паведамляць у Вільню.

Паступова сярод паслоў расла трывога. Шырыліся супярэчлівыя чуткі. Усе хваляваліся, адчуваючы, што здарылася нешта надзвычайнае. Паслоў трымалі ў няведанні. Нарэшце, адзін з ахоўнікаў выпадкова прагаварыўся пра смерць манарха Івана IV. Праз пэўны час у Мажайск да Льва Сапегі прыйшоў новы загад — ехаць далей у Маскву.

Каля Масквы-ракі пасольства сустрэлі два царскія прыставы з некалькімі сотнямі коннікаў і афіцыйна паведамілі Сапегу пра смерць 28 сакавіка 1584 года іх гаспадара і пра ўзыход на маскоўскі трон яго сына — Фёдара Іванавіча, блаславёнага на царства бацькам перад адыходам у лепшы свет.

Па прыездзе ў Маскву Льва Сапегу пад ганаровым эскортам праводзілі да пасольскай рэзідэнцыі, дзе некалькі дзён, нібы злачынцу, трымалі пад вартай. Пра жахлівыя ўмовы, у якіх кіраўнік пасольства ВКЛ апынуўся ў Маскве, ён паведамляў 26 красавіка 1584 года ў сваім «Допісе да Крыштофа Радзівіла, падканцлера і польнага гетмана». Вось толькі некалькі радкоў з яго: «Тыя прыставы суправаджалі мяне да пасольскага двара. Там мяне хавалі, не раўнуючы як нейкага вязня: усе дзіркі ў плоце пазатыкалі, наўкол двара выставілі стражнікаў, якія ахоўвалі мяне ўдзень і ўначы. Усё гэта зусім не дзіўна, бо, як я пачуў, іх новы гаспадар мае не шмат розуму і да таго ж часта хварэе на цяжкую хваробу. Паміж маскоўскімі дваранамі няма згоды і паразумення, яны ўвесь час спрачаюцца і высвятляюць міжсобку, хто з іх важнейшы…»

Першая афіцыйная аўдыенцыя ў Крамлі адбылася толькі 12 красавіка. Леў Сапега атрымаў магчымасць выказаць незадаволенасць стаўленнем да яго. Але на пратэсты і абурэнні пасла ніхто не звяртаў асаблівай увагі.

Леў Сапега ўвачавідкі пазнаёміўся з норавамі, што панавалі ў Крамлі, ды паводзінамі

баяр, паміж якімі, з узыходам на пасад новага валадара, яшчэ больш узрасла ўзаемная непрыязнасць. У сваім «Допісе…» ён адзначаў: «12 красавіка паводле новага календара я быў запрошаны ў замак дзеля спаткання з думнымі баярамі вялікага князя маскоўскага. Яны павінны былі сустрэцца са мной ў поўным складзе. Але паміж імі пачаўся вэрхал з-за месцаў. Перад самым маім прыездам яны ледзвьве не перарэзалі адзін другога. З усіх думных баяр засталіся толькі чатыры: князь Фёдар Міхайлавіч Трубяцкі, Фёдар Барысавіч Гадуноў, Андрэй і Васіль Шчаўкалавы. З імі я сустракаўся і прасіў іх аб тым, каб яны адпусцілі мяне назад да яго каралеўскай міласці, паколькі той гаспадар, да якога мяне накіроўвалі, памёр».

Сапраўды, ад самага пачатку перамоў Леў Сапега апынуўся ў экстраардынарным становішчы: усе граматы і лісты, падпісаныя Стэфанам Баторыем і замацаваныя пячаткамі Кароны і Княства, адрасаваліся Івану IV. Цяпер жа, пасля яго раптоўнай смерці, усё належала перарабіць ды перапісаць нанава. Гэта, пэўна ж, вымагала часу. Узнікла складаная, а як для Льва Сапегі дык нават драматычная сітуацыя. Надзеі на хуткае падпісанне мірнага пагаднення рухнулі. Горш за тое, паўстала пагроза поўнага зрыву перамоў. Але вяртацца ні з чым, не падпісаўшы пагаднення з Масквой, калі над Айчызнай навісла страшная бяда, Леў Сапега не мог. Ён адчуваў асабістую адказнасць за лёс краіны, выдатна ўсведамляючы, што ад вынікаў яго перамоў шмат у чым залежыць яе будучыня.

Крытычная сітуацыя вымагала ад кіраўніка пасольства выключна абачлівых крокаў. Таму, калі маскоўскія баяры пачалі ўльтыматыўна патрабаваць ад яго «справіць пасольства» да цара Фёдара, Леў Сапега мусіў адмовіцца ад сустрэчы з ім, настойліва дамагаючыся дазволу накіраваць пасыльных да вялікага князя і караля па новыя распараджэнні і граматы. Пасля доўгай цяганіны, хоць і без вялікай ахвоты, баяры ўсё ж такі далі яму магчымасць выправіць пасыльных у ВКЛ. Пачаліся доўгія дні чакання, трывожныя і небяспечныя.

У Маскве тым часам успыхнулі ўнутраныя забурэнні, пра што Леў Сапега падрабязна паведамляў у Вільню: «Калі я ад’ехаў



***Леў Сапега нарадзіўся 4 красавіка 1557 года ў Астроўне, што на Віцебшчыне. Там, у маляўнічым кутку Беларусі, на ўзгорку каля цудоўнага возера, стаяў некалі палац старадаўняга магнацкага роду Сапегаў. Пачатковую адукацыю атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе. У 13-гадовым узросце паступіў у Лейпцыгскі ўніверсітэт, дзе некалькі гадоў вывучаў права. Па вяртанні на радзіму трапіў на службу да вялікага князя Стэфана Баторыя. У 1579—1582 гадах Леў Сапега са зброяй у руках адстойваў незалежнасць Бацькаўшчыны. На чале гусарскай харугвы ён ваяваў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалачам, вызваляў беларускія землі ад маскоўскіх войскаў. Мусіць, за вайсковыя заслугі 4 лютага 1580 года Леў Сапега атрымаў прэстыжную і надзвычай перспектыўную пасаду сакратара Вялікага Княства Літоўскага.***

***У 1581 годзе Леў Сапега заняў новую пасаду — найвышэйшага пісара. З гэтага моманту яму становяцца даступнымі практычна ўсе дзяржаўныя таямніцы. Леў Сапега прыклаў шмат намаганняў, каб удасканаліць дзейнасць дзяржаўных інстытутаў, узняць аўтарытэт судовай і выканаўчай улады краіны. Ужо ў 1581-м ён спрычыніўся да ўтварэння Трыбунала — найвышэйшага апеляцыйнага суда Княства. Мяркуючы па ўсім, дасведчаны ў юрыспрудэнцыі пісар асабіста падрыхтаваў яго прававое абгрунтаванне з аднайменным назовам — «Трыбунал» (Вільня, 1581).***

з замка, а баяры таксама накіраваліся абедаць да сваіх палацаў, Бельскі са стральцамі акружыў замак. Бельскі пайшоў да вялікага князя і запатрабаваў ад яго, каб ён вярнуў апрыччыну і ўсе парадкі, якія існавалі ў часы папярэдняга князя.

Звесткі пра ўчынак Бельскага дайшлі да баяр. Яны хутка вярнуліся да галоўнага замку. Але стральцы не пускалі іх у замак. Тады слугі Мсціслаўскага і Мікіты Рамановіча распачалі бойку са стральцамі, але стральцы пабілі іх. Неўзабаве ўсе астатнія баяры з іх людзьмі аб'ядналіся і разам пачалі прабівацца да замка. Стральцы стралялі па іх з ручніц, забілі каля 20 чалавек і вельмі многіх паранілі.

Баяры з іх людзьмі акружылі замак, падрыхтавалі вялізную гармату, каб біць па замку. Але адтуль выбег Андрэй Шчаўкалаў і адгаварыў іх ад штурму замка.

Пазней, калі людзей запыталі ад імя вялікага князя, чаму яны распачалі гвалт, яны патлумачылі, што Бельскі знішчыў князя Мсціслаўскага і князя Шуйскага, а таксама іншых баяр пазабіваў, а сам прысягае на вернасць вялікаму князю.

Бельскі быў выдалены з Думы. Яго хочуць саслаць у Казань. Супраць Бельскага паўсталі ўсе, яны ў адзін голас заявілі, што гатовыя закалоць або зарэзаць яго нажамі.

У Маскве турбуюцца, каб у гэтакі час супраць іх не выступілі татары. Але яны больш за ўсё баяцца яго міласці нашага караля».

Па вяртанні пасыльных з новымі граматамі доўгачаканыя перамовы ўзнавіліся. Леў Сапега сустрэўся з царом Фёдарам. Галоўнае для яго цяпер было — пераканаць нейкім чынам маскоўскага манарха ды баяр у неабходнасці і ўзаеманай карысці міру. Каб павялічыць свае шанцы на поспех, Леў Сапега скарыстаў стары, але надзвычай дзейсны ў дыпламатыі сродак, наўмысна паведаміўшы цару, што туркі нібыта рыхтуюцца да вайны з Масковіяй і султан шукае ў ВКЛ падтрымкі. Аргументы Льва Сапегі прынеслі плён. Праз некалькі дзён, нягледзячы на нявырашаныя пытанні вакол Інфлянцкіх земляў, паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масквой быў падпісаны 10-гадовы мір.

Апрача пагаднення пра мір Леў Сапега дамогся ад Фёдара Іванавіча вызвалення з палону, без аніякага выкупу, каля 900 беларусаў. Не цяжка ўявіць радасць вялікага пасла, бо крыху раней ён прасіў урадоўцаў Княства, каб яны звярнуліся да манарха па дазвол узняць на перагаворах пытанне пра вызваленне палонных суайчыннікаў: «Ласкава прашу вас звярнуцца да караля, каб ён дазволіў мне паклапаціцца пра ўсіх іх. Сапраўды, трэба над імі злітасцівіцца. Я кожны дзень абліваюся слязьмі, калі чую іх стогны, хаця і далёка ад іх стаю. Усіх вязняў тут у Маскве налічваецца 614 чалавек, а ў іншых замках — яшэ каля трохсот».

Нечуваны поспех пасольства ўзняў аўтарытэт Льва Сапегі ў вачах суайчыннікаў. За паспяховае завяршэнне перамоў ён атрымаў шчодрыя ўзнагароды — Слонімскае староства, а 2 лютага 1585 года, цалкам справядліва і заслужана, — уплывовую пасаду падканцлера Вялікага Княства Літоўскага.

## II

*Новая дзяржаўная пасада адкрыла перад Львом Сапегам шырокія магчымасці па ўмацаванні Вялікага Княства, захаванні яго палітычнага і эканамічнага суверэнітэту. Аднак на гэтым шляху падканцлера чакалі сур'ёзныя выпрабаванні.*

Ужо ў сакавіку 1585 года польскія магнаты пачалі атрымліваць каралеўскія прывілеі на землі Вялікага Княства Літоўскага, вернутыя беларускім рыцарствам падчас баталій з Маскоўскай дзяржавай. Абураны дзеяннямі нахабных суседзяў і, як усё больш пераконваўся, не надта надзейных і шчырых хаўруснікаў, Леў Сапега з гневам асуджаў беспадстаўныя прэтэнзіі палякаў і даказваў абсалютнае права беларускага гаспадарства на набытыя тэрыторыі. «Ад таго часу як пачалася вайна за Інфлянты, — пісаў падканцлер, — палякі і гарэлага шэлега не далі нам у дапамогу. А цяпер, калі ўсё ідзе пад канец, дык паны палякі імкнуцца аваладаць Вялікімі Лукамі, Завалачам, Холмам... Яны нас хочуць адпіхнуць ня толькі ад заваяванага намі цяпер, але і ад таго, што мы трымалі раней».

Як бачна, Леў Сапега быў далёкі ад таго, каб бараніць інтарэсы Польшчы. Наадварот,

клапоцячыся пра беларускі народ, пашыраючы тэрыторыю Княства, умацоўваючы яго межы, падканцлер кожны раз стрымліваў парыванні палякаў падпарадкаваць вялікакняскія землі. Праўда, і падчас канфліктаў з палякамі ў 1585 годзе Леў Сапега, займаючыся міжнароднымі справамі, улічваючы канкрэтныя гістарычныя абставіны, нярэдка выступаў як прадстаўнік усёй федэрацыі. Але ён пры гэтым заўсёды зыходзіў найперш з інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага, прымяраючы важнейшыя рашэнні да палітычных мэт свайго гаспадарства, узгадняючы іх з памкненнямі беларускай шляхты. Разнастайныя гістарычныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю Льва Сапегі, дазваляюць адназначна сцвярджаць, што ва ўсёй яго шматгадовай палітычнай чыннасці не было ніводнага выпадку, каб інтарэсы Польшчы, ці нават усёй федэрацыі ён ставіў вышэй за вялікакняскія.

Пасада падканцлера вымагала ад Льва Сапегі штодзённага аналізу не толькі ўнутранага становішча Княства, але і міжнародных стасункаў. Кожны зрух, кожны паварот у палітыцы еўрапейскіх і бліжэйшых азіяцкіх краін натуральна патрабаваў адпаведных крокаў ад выканаўчых улад Вялікага Княства Літоўскага.

Так, у 1585 годзе падканцлера вельмі насцярожылі звесткі, што паступілі ў Вялікую Канцылярыю, пра намеры Максімільяна, брата імператара Святой Рымскай імперыі Рудольфа, заняць маскоўскі трон замест Фёдара Іванавіча. Хаўрус Святой Рымскай імперыі з Масковіяй нічога добрага не абяцаў.

Каб перашкодзіць новаму небяспечнаму для Бацькаўшчыны альянсу, Леў Сапега неадкладна накіраваў у Маскву пасольства Гарабурды, які, пераняўшы дыпламатычны досвед падканцлера, змог пераканаць маскоўскіх баяр у немэтазгоднасці паяднання з каталіцкім светам.

1 верасня 1586 года ў асабістым жыцці Льва Сапегі адбыліся перамены. Ён ажаніўся з Даротай Фірліёўнай, якая засталася ўдавой пасля смерці князя Стэфана Збаражскага. Матэрыяльнае становішча падканцлера ў гэты час выглядала не надта добра. Каб справіць вяселле, ён мусіў прадаць адзін са сваіх маёнткаў за 500 коп грошаў. Дакументы судовай справы Льва Сапегі з панамі Гарнастаем ды Цеханавецкім за 1586 год, занесеныя ў кнігі Метрыкі Вялікага Княства, таксама сведчаць пра цяжкасці ў яго гаспадарцы.

Пабраўшыся з заможнай удавой, спадчынніцай вялікіх багаццяў, падканцлер істотна павялічыў свой капітал. Аднак нельга думаць, што шлюб Льва Сапегі і Дароты Фірліёўны — вынік меркантыльнага разліку. Іх паяднала каханне. Праз усё нядоўгае сужэнства Леў Сапега і Дарота Фірліёўна пранеслі трапяткое і чыстае пачуццё замілаванасці адно адным, нягледзячы на плёткі, што няспынна распускалі зайздроснікі.

## III

*12 снежня 1586 года ў Гародні нечакана памёр Стэфан Баторый (паводле гістарычнай легенды, ён быў атручаны некім з ворагаў). З прычыны адсутнасці манарха ў ВКЛ і Польшчы ўзнік грамадскі крызіс. Канвакацыйны (перадвыбарчы) Вальны сойм, скліканы 1 лютага 1587 года, засведчыў, што федэрацыю чакаюць новыя беспарадкі.*

Сваю задачу падчас элекцыі падканцлер, перадусім, бачыў у тым, каб абараніць інтарэсы Княства, і, не заўважаючы на ўсеагульны ўпадак ды звычайныя для гэтакіх момантаў свавольствы і анархію, дамагчыся ўзвышэння Бацькаўшчыны. І ён, як паказалі пазнейшыя падзеі, дасягнуў пастаўленай мэты. Найперш, дзякуючы разважлівым крокам, неймавернай вытрымцы, моцнаму аналітычнаму розуму і той палітычнай прадбачлівасці, якой прырода надзяліла яго напоўніцу.

Абранне манарха еўрапейскай краіны ў тыя часы не было толькі ўнутранай справай гаспадарства. У ВКЛ і Польшчы, да таго ж, гаспадарскі трон быў выбарны, а не дынастычны. Неўзабаве аб'явіліся галоўныя прэтэндэнты на каралеўскі і вялікакняскі прастол: аўстрыйскі эрцгерцаг Максімільян, маскоўскі цар Фёдар Іванавіч і прадстаўнік дынастыі Ягайлавічаў па жаночай лініі — Жыгімонт III Ваза.

Магутныя польскія паны Збароўскія падтрымлівалі кандыдатуру Максімільяна. За

Жыгімонта, сына шведскага караля Іаана III і Кацярыны з Ягайлавічаў, унука знакамітага Густава Вазы, стаяла «Чорная Рада»[1] Замойскіх. Каралева Ганна, удава Стэфана Баторыя, таксама лічыла свайго пляменніка Жыгімонта III Вазу найлепшай кандыдатурай. Паны-Рада Вялікага Княства Літоўскага, а разам з імі і Леў Сапега, прапаноўвалі абраць каралём і вялікім князем маскоўскага цара Фёдара.

На элекцыйным (выбарчым) Вальным сойме, прызначаным на канец чэрвеня 1587 года, павінна была наступіць развязка. Леў Сапега, як і большая частка шляхты Вялікага Княства Літоўскага, рабіў усё, каб кандыдатура Фёдара атрымала большасць галасоў. Недзе ў студзені-лютым ён разам з Фёдарам Скуміным, Крыштофам Радзівілам Перуном ды Лукашом Мамонічам прымае ў Вільні маскоўскае пасольства на чале з баярынам Ржэўскім. Звяртаючыся да Паноў-Рады, маскоўскі князь заклікаў іх: «Вы б, Паны-Рада, свецкія і духоўныя, параіўшыся між сабою і з усімі сваімі землямі, паклапаціліся б пра дабро хрысціянскае і нас гаспадаром на Карону Польскую ды Вялікае Княства пажадалі б...»

У Маскве выдатна разумелі адмоўныя вынікі абрання каралём і вялікім князем Жыгімонта III Вазы ці Максімільяна. Каб перашкодзіць утварэнню новых небяспечных для Маскоўскага княства паяднанняў, маскоўскі манарх згаджаўся, асабліва напачатку, на ўсе ўмовы магнатаў Вялікага Княства Літоўскага.

Са свайго боку Леў Сапега, імкнучыся скарыстаць зручны момант для ўзмацнення Княства, паабяцаў Фёдару праз яго паслоў усялякую падтрымку.

У красавіку 1587 года па ініцыятыве Льва Сапегі ў Маскву выпраўляецца пасольства Агінскага і Чарнікоўскага, каб яшчэ раз абмеркаваць умовы, на якіх Княства згаджалася на абранне Фёдара Іванавіча вялікім князем і каралём. З пасольствам падканцлер перадаў цару запрашэнне на элекцыйны Вальны сойм. Аднак той, ведаючы, што выбары ў ВКЛ і Польшчы, як правіла, заканчваюцца бойкамі, а то і сапраўднымі войнамі, сам ехаць не наважыўся, а накіраваў у Варшаву баярына Сцяпана Гадунова, князя Фёдара Траякурава і дзяка Васіля Шчалкалава.

4 жніўня на Варшаўскім элекцыйным сойме, куды Леў Сапега прыбыў з уласнай узброенай харугвай (як, дарэчы, і ўсе астатнія, хто рыхтаваўся адстойваць сваіх кандыдатаў), адбылася яго сустрэча з маскоўскімі пасламі, якіх ён неўзабаве запрасіў для гутаркі з усім «рыцарскім колам». Царскія паслы выявілі поўную інфантыльнасць і сваімі бязглуздымі дзеяннямі адштурхнулі шмат каго з прыхільнікаў кандыдатуры Фёдара, сярод якіх, дарэчы, было нямала і палякаў. Прывучаныя слепа, па-лакейску выконваць волю гаспадара, баяры яшчэ і саманадзейна не пагаджаліся ледзьве не з усімі ўмовамі, на якіх настойвала рыцарства.

Нават далёка не прынцыповае патрабаванне шляхты, каб цар пасля абрання каралём і вялікім князем праз дзесяць тыдняў, а ў выпадку ваеннай неабходнасці і раней прыехаў у ВКЛ і Польшчу, выклікала пярэчанні з іх боку. З фанабэрыяй паслы адказвалі: «У Варшаву цар прыедзе тады, калі пажадае». Пры такіх паводзінах паслоў Фёдару цяжка было разлічваць на поспех. Тым больш, што ён адмаўляўся даць дзвесце тысяч рублёў на выплату даўгоў і абарону краіны, бо іншыя прэтэндэнты, як небеспадстаўна меркавалася, па завяршэнні элекцыі, пачнуць даказваць сваё права на пасад з дапамогай зброі.

Калі 19 жніўня каронны канцлер Замойскі і яго аднадумцы нарэшце абвясцілі сваім прэтэндэнтам на каралеўскі пасад Жыгімонта III Вазу, а Збароўскія — эрцгерцага Максімільяна, шляхта Вялікага Княства дала яшчэ адзін шанц Маскве. З ведама Льва Сапегі беларускія радныя паны пісалі да паслоў: «Замойскі выбраў шведскага каралевіча.., Збароўскія выбралі цэсарава брата, а мы ўсе — літвіны і большая частка палякаў хочам гаспадара вашага. Але затрымка толькі за вераю і прыездам. Калі б нам быў хутка вядомы прыезд вашага гаспадара, мы б, абраўшы яго, у той жа час рушылі б да Кракава і кароны не далі б ні шведу, ні цэсараваму брату».

[1] Прыхільнікі канцлера Замойскага, смуткуючы з нагоды смерці Стэфана Баторыя, падчас элекцыі апраналіся ў чорнае адзенне, адсюль і назва — «Чорная Рада».

Апошнія словы «Паслання…» — зусім не самаўпэўненасць беларускай шляхты. Вялікае Княства Літоўскае мела дастаткова сіл, каб узвесці на пасад свайго абранніка. Пераканаўчым доказам таму служыць і «Пратэст» супраць абвяшчэння Замойскімі каралём Жыгімонта ІІІ Вазы, падпісаны 31 кастрычніка 1587 года падканцлерам Львом Сапегам, троцкім ваяводам Янам Глябовічам і святаром Бенедыктам Войнам. Толькі непаваротлівасць ды тугадумства маскоўскіх паслоў, а мо, і сапраўды, няздольнасць Фёдара, звялі яго шанцы да нуля.

Нельга, аднак, не ўлічваць і яшчэ адной дэталі: намаганні самога Сапегі ды ўсіх іншых паноў зусім не былі скіраваны на тое, каб, «ададраўшыся ад Польшчы», як пісаў падканцлер, безаглядна кінуцца ў абдымкі да маскоўскага цара. Леў Сапега ды і ўсе беларускія радныя паны выдатна ўсведамлялі, што пагроза з усходу не лепшая за небяспеку з захаду. Падканцлер быў зусім не простай асобай. Жыццё навучыла яго асцярожнасці. Нават залішне мудрагелістыя пасткі ён абыходзіў не параніўшыся, адчуваючы падкопы праціўнікаў на адлегласці.

Логіка дзеянняў падканцлера ў тых абставінах становіцца зразумелай толькі тады, калі ўлічваць асноўную яго мэту: поўная незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага, яго ўзвелічэнне і росквіт.

Леў Сапега, бясспрэчна, добра ведаў пра магчымыя негатыўныя вынікі аб’яднання Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай.

Але, застаючыся палітыкам, ён бачыў і выключнасць становішча, што ўзнікла ў ВКЛ. Цалкам аддадзены ідэі стварэння моцнай дзяржавы, падканцлер і ў дадзенай сітуацыі працаваў менавіта на яе. Добра інфармаваны ў маскоўскім пытанні і ведаючы рэальныя абставіны значна лепей за многіх сучаснікаў, ён разлічваў на адсутнасць у цара Фёдара магчымасці, у выпадку абрання яго вялікім князем, займацца праблемамі Вялікага Княства Літоўскага. Акрамя таго, Леў Сапега, выдатна дасведчаны ў псіхалогіі ўлады, слушна меркаваў, што Фёдар ніколі, ні пры якіх абставінах не пакіне надзейны, спадчынны трон у Маскве і не рызыкне пераехаць у іншую краіну, дзе яму непазбежна давялося б сутыкнуцца са шляхецкай дэмакратыяй. А калі б такое і здарылася, то ўсё роўна хваравіты маскоўскі цар, па цвёрдым перакананні падканцлера, не змог бы сур’ёзна ўплываць на палітыку беларускага ўрада.

Дый пасол Ржэўскі, нібыта выпадкова, а на самай справе наўмысна паведаміў Панам-Радзе: «Вы толькі выберыце сабе ў гаспадары нашага цара, будзьце пад яго царскай рукой, а ўсім кіруйце самі ў Кароне Польскай і Вялікім Княстве па сваіх правах». Гэтыя словы, бясспрэчна, сказаныя паслом знарок, няйначай зыходзілі ад самога цара Фёдара.

Такім чынам, паводле планаў Льва Сапегі, абранне вялікім князем маскоўскага манарха гарантавала б Вялікаму Княству Літоўскаму першынство над Польшчай, бо трываць далей прэтэнцыёзнасць польскіх паноў было немагчыма, а гэтаксама пазбаўляла б гаспадарства ад небяспекі з Усходу.

Ведучы перамовы з пасламі Фёдара, Леў Сапега ўважліва сачыў за дзеяннямі праціўнікаў і расстаноўкай палітычных сіл. А калі сітуацыя абвастрылася і гістарычныя шалі схіліліся на бок Жыгімонта ІІІ Вазы, то ён, прааналізаваўшы ўсе магчымыя вынікі, змяніў тактыку і адмовіўся ад далейшай падтрымкі Фёдара. Затым падканцлер прапанаваў шведскаму каралевічу ўмовы, на якіх Вялікае Княства згаджалася прызнаць вялікім князем менавіта яго.

Жыгімонт ІІІ Ваза, якому яшчэ належала з дапамогаю зброі даказваць сваё права на каралеўскі і вялікакняскі прастол, мусіў пайсці на кампраміс, неабходны Льву Сапегу, ды прыняць умовы, выказаныя беларускай шляхтай.

Паколькі Вялікае Княства, паводле слоў самога ж Льва Сапегі, заўсёды існавала inter Scyllam et Charibdim[2], то пастаяннае лавіраванне паміж хаўруснай Польшчай і суседнім Маскоўскім княствам стала ледзьве не важнейшым элементам ва ўсёй яго тактыцы. Імкнучыся перамагаць з найменшымі стратамі, Леў Сапега лічыў неабходным карыстацца не зброяй, а тонкай дыпламатыяй.

***Працяг у наступным нумары***

[2] Між Сцылы і Харыбды (лацінскае выслоўе). Азначае становішча, калі небяспека пагражае з двух бакоў. У грэчаскай міфалогіі Сцыла і Харыбда — пачвары, што жылі па абодвух баках вузкай пратокі і забівалі мараходаў.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# МЯДЗВЕДЗЮХНА, МОЙ БАЦЮХНА…

***Недзе ў канцы сакавіка, звычайна 24-га, а па новым стылі 6 красавіка, якраз напярэдадні Дабравесту, беларусы ў мінулым адзначалі свята КАМАЕДЗІЦУ. Яно было прысвечана крывалапаму зверу мядзведзю, а ягоны лейтматыў — абуджэнне прыроды, нараджэнне лета. Да таго ж нашы прадзеды лічылі гэтую жывёлу сваім першапродкам, духам-ахоўнікам, увасабленнем душы і, як наступства гэтага — боствам. А яшчэ мядзведзяў у нас настолькі ачалавечвалі, што навучалі іх у спецыяльнай «акадэміі».***

## ШТО ТАКОЕ КАМЫ І З ЧЫМ ІХ ЯДУЦЬ

У гонар мядзведжага свята на стол ставіліся адмысловыя стравы. Па-першае, гатаваўся сушаны рэпнік — знак таго, што мядзведзь ужывае пераважна раслінную ежу. Па-другое, гатавалі аўсяны кісель, які пазней зрабіўся традыцыйнай абрадавай ежай і ўжываўся ў дні памінання продкаў. Нарэшце варылі яшчэ адну рытуальную страву — гарохавую кашу, а каб заручыцца спагадлівасцю мядзведзя, яе адносілі ў лес як пачастунак. Ад таго, што тая каша часта зліпалася ў *камы*, некаторыя даследчыкі міфалогіі лічаць, што гэта і дало назву ўсяму святу — *«Камаедзіца»* — *«камы есці»*.

Але не ўсё так проста. Паводле іншай версіі, *«кам»* — старажытная назва бóства або гаспадара, кім і з’яўляўся мядзведзь для нашых продкаў. Між тым, *Кама* ў ведычнай міфалогіі — бóства кахання. На старых індыйскіх фрэсках ён меў выяву прыгожага юнака, узброенага лукам з цукровага трыснягу і пяццю кветкавымі стрэламі. Свята, прысвечанае бóству, адзначалася ў Індыі вясною ў гонар кахання і асалоды. Да святочных урачыстасцей меў дачыненне і мядзведзь. Па старадаўніх ведыйскіх «Законах Ману» юрлівы мужчына, які скраў жанчыну, пасля сваёй смерці ў знак пакарання ў наступны раз нараджаўся мядзведзем. Дарэчы, у беларускіх казках пашыраны сюжэт пра тое, як мядзведзь выкрадае жанчыну і забірае да сябе ў бярлогу, а яна там нараджае асілка. У некаторых беларускіх легендах гаворыцца пра тое, як Бог за грахі людзей ператварае іх у мядзведзяў. У народаў Ніўхі, якія раней пражывалі на тэрыторыі сучаснай Расіі, мядзведзі ўдзельнічалі ў памінальных цырымоніях, калі згадвалі забітых жаўнераў. У Японіі народы Айну называлі мядзведзя *«камуй»*, што азначае *«бог»*.

У сувязі з Камаедзіцай узгадваецца і Старажытная Грэцыя. Памятаеце дачку багіні Леты і сястру прыгожага Апалона, багіню палявання — Артэміду? Апякунка паляўнічых заўсёды брала з сабой у спадарожнікі мядзведзя, а часам, як кажуць міфы, і сама ператваралася ў мядзведзіцу. Жрыцы, якія здзяйснялі культ Артэміды, прыносілі ёй у ахвяру мядзведзя, пасля чаго апраналіся ў мядзведжыя скуры і выконвалі ў гонар багіні сакральныя танцы. У храме Артэміды заўсёды трымалі прыручанага мядзведзя. Сама ж багіня, як вядома, была цнатлівай і патрабавала таго ж і ад свайго атачэння. Але яе сяброўку, німфу Каліста, спакусіў Зеўс. Калі Артэміда ўбачыла, што Каліста цяжарная, яна са злосці ператварыла тую ў мядзведзіцу і нацкавала сабак. Зеўс выратаваў каханую і пасадзіў на неба ў выглядзе сузор’я Вялікая Мядзведзіца. Між іншым, у беларусаў гэтае сузор’е завецца Возам, у які запрэжаны мядзведзь. Сакавік — месяц, калі мядзведзі прачыналіся ад зімовай спячкі, прысвечаны Артэмідзе і напоўнены рознымі святочнымі абрадамі і рытуаламі. Гэта супадала

з вясновым раўнадзенствам. Мядзвежае свята ў Грэцыі называлася *comoedia,* што па сугуччы вельмі нагадвае нашу камаедзіцу. З цягам часу вясновыя тэатралізаваныя святкаванні сталі для грэкаў асновай для ўзнікнення спектакляў пад назвай *камедыі*.

Вышэй было сказана, што жрыцы Артэміды танчылі падчас рытуалу ў мядзведжых скурах. Але самае цікавае, на старадаўнім беларускім святе Камаедзіца, якое было зафіксавана нават у мінулым стагоддзі ў Бягомльскім раёне на Віцебшчыне, сяляне таксама выварочвалі футры і кажухі такім чынам, каб яны былі падобны да мядзведжых. Пераапранутыя павінны былі быць увесь час на віду, танчыць ды гуляць разам з усімі. Але танчылі яны пасля таго, як паабедалі і «пакачаліся» з боку на бок. Так яны стараліся прыпадобніцца да качання мядзведзя ў бярлозе. Рабілі гэтую працэдуру павольна, на працягу дзвюх гадзін, і дзеля таго, каб цару звяроў было лягчэй прачынацца і ён хутчэй устаў са сваёй зімовай схованкі. Ягонае ўставанне і з'яўленне ў вясновым лесе сімвалізавала хуткае абуджэнне апладняльных сіл прыроды і, як вынік, багаты ўраджай. Пазней качанні ператварыліся ў вясёлыя забавы на свежым паветры, калі моладзь «качала» адно аднаго ў гурбах, кідалася снегам ды каталася з гор.

## ДАЛЁКІ ПРОДАК

Высвятляецца, што галоўным дзеючым героем старажытнага вясновага свята Камаедзіца быў мядзведзь. Чаму ён? Адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у каменным веку, яшчэ ў неаліце, а мо і глыбей. Мядзведзь у тыя часы быў асноўнай здабычай, калі не лічыць, вядома, мамантаў, але іх, як вы памятаеце, хутка ўсіх выбілі. Навукоўцы, якія праводзілі раскопкі ў Баварыі, Сілезіі, Швейцарыі, знаходзілі мноства чарапоў мядзведзяў. На Беларусі амулеты з іклаў мядзведзя знойдзены на многіх гарадзішчах і свяцілішчах жалезнага веку, зуб і кіпцюры мядзведзя знойдзены ў адным з радзіміцкіх курганаў. А яшчэ была знойдзена вялікая гліняная пасудзіна ў выглядзе галавы мядзведзя з шырока разяўленай пашчай. Пасудзіна месцілася каля аднаго з цэнтральных ідалаў багіні.




*Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы.*

Безумоўна, людзі, якія жылі ў гэтых мясцінах, ушаноўвалі мядзведзя. Але, як вядома, на мядзведзя палявалі, і таму з ім звязвалі абрады паляўнічай магіі. Да прыкладу, мансі, калі забівалі і з'ядалі мядзведзя, чэрап ставілі на ганаровае месца, упрыгожвалі стужкамі і каляровымі анучкамі, у спадзяванні атрымаць прабачэнне і ласку. У народаў, якія жывуць па берагах Амура і ў паўночнай частцы выспы Сахалін, звычай святкаваць «мядзведжы дзень» існаваў да канца мінулага стагоддзя. Тут вылоўлівалі маладое медзведзяня, у лесе будавалі яму хатку і на працягу двух гадоў гадавалі яго. Потым, пасля адпаведных абрадаў і танцаў, звера забівалі і калектыўна з'ядалі. Лічылася, што гэта надае чалавеку моц і адвагу. Апроч таго, гэта забяспечвала ў далейшым паспяховае паляванне на мядзведзяў.

Эвенкі таксама паважалі мядзведзя, лічылі яго далёкім продкам і называлі *дзядулем*. І ў той жа час яны палявалі на яго. А, каб якнебудзь выкупіць сваю правіну, каля тушы мядзведзя паляўнічыя здзяйснялі ўрачыстыя абрады, прасілі ў жывёлы прабачэння. Потым мяса з'ядалі, а косткі не выкідвалі, а ўсе да адной збіралі ў анатамічным парадку і закопвалі ў зямлю. Верылі, што мядзведзь адродзіцца. У некаторых плямёнах паўночнаамерыканскіх індзейцаў таксама існаваў



*Мядзведзь як грознае боства.*

***Мядзведзь быў адным з увасабленняў бога Одзіна ў Скандынавіі. А берсеркеры — ягоныя ваяры, якія хадзілі ў мядзведжых скурах і, хутчэй за ўсё, у наркатычным ап'яненні шалелі ў сваёй лютасці. Ад таго іх часам успрымалі як зверападобных істот накшталт пярэваратняў. Дзякуючы гэтаму ўплыву, у беларускім і ўкраінскім фальклоры пашыраны ўяўленні пра мядзведзяў-пярэваратняў, у якіх перакідаюцца ведзьмары або іншыя людзі, зачараваныя ліхімі чараўнікамі. Найчасцей такое перакіданне адбываецца падчас вяселля, калі чалавек, паводле старадаўніх вераванняў, знаходзіцца на мяжы сусветаў.***

звычай прасіць прабачэння ў забітага мядзведзя. Паляўнічы ўстаўляў у пашчу забітага звера запаленую люльку, цярпліва чакаў, пакуль той «папаліць», і прасіў жывёлу не крыўдаваць.

Часткі забітай жывёлы, галава, лапа або кіпцюры і іклы з'яўляліся абярэгамі. У кожнага племені быў свой татэм. Перажыткі такога светапогляду прагледаюцца ў звычцы ўсходніх славян яшчэ напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя вешаць у стайнях галаву мядзведзя, а ў хатах захоўваць ягоную лапу. Нашы продкі ў XIII стагоддзі пры спальванні памерлага разам з ім клалі ў курганны насып мядзведжыя кіпцюры, з дапамогаю якіх нябожчык павінен быў ускараскацца на высокую гару да Бога.

Такім чынам, сутнасць мядзведжага свята была ў калектыўным спажыванні мяса гэтай жывёлы, а таксама ў шэрагу рытуальных цырымоній, якія, з аднаго боку, павінны былі зняць віну з паляўнічага, а з другога — дапамагаць адраджэнню звера. Апроч таго, мядзведзь, як і іншыя крыважэрныя драпежнікі, былі для старажытных паляўнічых боствамі, якія жывуць па сваіх законах. І чалавек разумеў, што звер такі ж самы паляўнічы, як і ён сам. Калі перамагаў чалавек, ён дзякаваў боству лесу, што дазволіў яму пракарміць сябе і сваю сям'ю. А калі перамагаў мядзведзь, і паляўнічы адыходзіў на той свет, супляменнікі таксама ўспрымалі гэта, як волю іх татэма. Безумоўна, з цягам часу, калі культ мядзведзя набыў сваю сілу, павялічылася і святасць у адносінах да гэтай жывёлы, пачала дзейнічаць забарона на ўжыванне мядзведжага мяса ў ежу і пашыў адзення з ягонай скуры.

## МЯДЗВЕДЗЬ ЯК БОСТВА

У некаторых рэгіёнах Беларусі і Расіі мядзведжую лапу называюць «*скоцім богам*». Вядома, што ў міфалогіі ўсходніх славян такое імя меў бог жывёлагадоўлі і багацця Вялес. Навукоўцы лічаць, што сваімі каранямі ўшанаванне Вялеса сыходзіць у старажытны паляўнічы культ мядзведзя. Папершае, сляды такога культу ў выніку раскопак знойдзены ў Расіі непадалёк ад вёскі Воласава. Па-другое, у самым цэнтры расійскага горада Растова, дзе было язычніцкае капішча Вялеса, археолагі знайшлі рытуальную сякеру з выявай галавы мядзведзя. Па-трэцяе, старажытныя славяне па сузор'і Плеяд, якое раней называлася Валасынямі, варажылі на ўдалае паляванне. Да таго ж, тэрмін *«валахаты»,* адносіўся як да самога Вялеса, так і да мядзведзя, і служак ягонага культу, пераапранутых у мядзведжыя *«валахатыя»* скуры. У беларускай міфалогіі Вялес на Каляды ператвараецца ў мядзведзя і разам са зграяй ваўкоў, якія сімвалізуюць мяцеліцу з завірухай, ганяецца за жонкай Перуна, якая павінна нарадзіць саперніка

Вялеса — сонечнае боства. Тут мы бачым, як з часам адбываюцца пэўныя метамарфозы: мядзведзь, чыё абуджэнне сімвалізавала раней для нашых продкаў нараджэнне сонечнага цяпла, паступова ператвараецца ў цёмныя падземныя сілы холаду і змроку.

У гэтай сувязі вельмі цікавым лічыцца тое, што на свята Камаедзіцы ў хрысціянскім календары выпадае дзень Святой Кацярыны. Папярэдніцай гэтай святой у Беларусі была старажытная багіня, жаночая пара Вялеса, яна як і «муж», адказвала за жывёльны свет, асабліва апекавалася мядзведзямі. Безумоўна, такі ж самы характар другой багіні — Артрыа, апякункі жыхароў Бёрна ў Швейцарыі. Некалі ў гэтым горадзе на цэнтральнай плошчы ў клетцы ўтрымліваліся мядзведзі. Магчыма, і сама назва горада — Бёрн паходзіць ад слова *«bar»* — мядзведзь. Між іншым, старадаўні корань *«bar»* захаваўся і ў слове *«бярлога»,* што перакладаецца як логавішча *«бэра»,* дарэчы, як і назва нямецкага горада Берлін, а ўсё разам гучыць так жа, як і скандынаўскае *«бэр»* — мядзведзь і азначае *«буры».*

Тым не менш, сапраўднае імя самага магутнага звера і гаспадара старажытнага лесу назаўсёды згублена, таму што не агучвалася і, бясспрэчна, было вядома толькі жрацам. Гэтым сакральным імем кляліся і замацоўвалі дамовы, а той, хто парушаў клятву, павінен быў памерці ў лесе. Не дапускалася і проста ўзгадваць мядзведзя ў размове. Лічылася, што гэта жывёліна пачуе, як яе клічуць, імгненна адгукнецца і з’явіцца побач. Таму ў гутарковай мове ўладара мясцовых лясоў часцей называлі «*сам*», «*гаспадар*», «*дзядуля*», *«бацюхна»,* «*млынар*», «*лешы*», «*касматы-валахаты*», «*аўсяннік*», «*бортнік*», «*касалапы*». У звычайным жыцці паляўнічыя называлі свайго бога *«мёдаед»,* адкуль пайшла назва *«мядзведзь»*. Беларусы часта называюць мядзведзя і чалавечымі імёнамі: *Мішка*, *Міхаіл*, *Марцін*, а мядзведзіцу — *Маруха*. Румыны называлі гэтага звера «*брат Мікалай*». Магчыма, гэта звязана з тым, што Святы Мікола пасля прыняцця хрысціянства стаў заменнікам Вялеса, а Маруха паходзіць ад імя багіні Мары, хтанічнай багіні нараджэння і смерці.

## МЯДЗВЕДЗЬ ЯК ЧАЛАВЕК

У шмат якіх легендах і паданнях, у тым ліку і беларускіх, паходжанне мядзведзя звязана з чалавекам. Нібыта чалавек быў ператвораны Богам у мядзведзя ў пакаранне за забойства бацькоў; за тое, што, як млынар, ён падманваў людзей, выкарыстоўваючы фальшывую мерку. Беларускае паданне паведамляе, што «*мядзведзь быў чалавекам, як яшчэ бог хадзіў па зямлі. Хадзіў там бог гэдак старэнькім старычком, старцом. Вот другей старац увідзеў яго ды думаець: “Дай-ка я яго спужаю, каб ён не хадзіў тут па маёй акрузе”. Ды ўзяў, ды пад мост і падлез. Толькі бог на мост, а старац зароў і пужаць стаў. А бог кажэць: “Будзеш жа ты раўсці ўвесь свой век”. Так той старац і стаў мядзведзем, толькі ступні чалавечыя*». У іншым паданні гаворыцца пра багатага мужыка, які не захацеў пускаць падарожнага Хрыста да сябе ў хату і схаваўся пад авечую поўсць, за што і стаў мядзведзем.



*Далёкі продак чалавека?*

Яшчэ ў адным паданні мядзведзямі робяцца жыхары цэлай вёскі, пакараныя вандроўным Богам за тое, што таксама не хацелі пускаць яго пераначаваць. Ва ўкраінскай легендзе стары дзед робіць аднаго чалавека спачатку богам, а потым мядзведзем: *«...мядзведзі пайшлі пладзіцца ад таго мужыка, які быў богам»*. Мядзведзямі сталі схаваныя ад Бога ў лес дзеці Адама і Евы. Жаніх-млынар пакрыўдзіў госця на вяселлі і быў ператвораны ім ў мядзведзя.

Сербскія цыгане тлумачаць з'яўленне на свет мядзведзя нараджэннем яго ад дзяўчыны ў выніку беззаганнага зачацця. Лічаць, калі зняць з мядзведзя скуру, ён выглядае як чалавек: самец як мужчына, а мядзведзіца з бюстам, рыхтык у жанчыны. Да таго ж ён не спажывае мерцвякоў і падлу, а ў выпадку небяспекі падымаецца на заднія лапы. У яго чалавечыя ступакі і пальцы, ён мыецца, любіць сваіх дзетак, радуецца і бядуе як чалавек, разумее чалавечую мову і сам часам гаворыць, а таксама пасціцца на Раство — ссе сваю лапу. Як і людзі, ён неабыякавы да мёду і гарэлкі, бывае помслівым і не даруе кпінаў. Доказ чалавечага паходжання мядзведзя паляўнічыя бачаць у тым, што на яго і на чалавека сабака брэша аднолькава, не так, як на іншых звяроў.

Захавалася шмат паданняў пра сужыцельства мядзведзя з жанчынай, якая заблукала ў лесе, або мядзведзіцы з паляўнічым. Як вынік такіх саюзаў у фальклоры розных народаў згадваецца катэгорыя напаўлюдзей або напаўмядзведзяў. Так, *Мядзведжае Вушка*, *Медзведка*, *Бедмедзь*, *Ведмідзь*, *Медведовіч*, *Медведзюк* — героі беларускіх, украінскіх і расійскіх казак, якія нараджаюцца ад сувязі мядзведзя з чалавекам. У такіх выпадках мядзведжы сынок волатаўскіх памераў, да пояса ён чалавек, а ніжэй — мядзведзь або мае звярыную скуру, а твар чалавечы. Часам у яго толькі мядзведжае вуха. Волат гадуецца не па днях, а па гадзінах і яшчэ ў дзяцінстве выварочвае з коранем дубы.

Узгадаем таксама вядомы твор Праспера Мэрыме «Локіс», сюжэт якога абапіраецца на легенду, запісаную аўтарам падчас вандравання па нашай краіне ў канцы XIX стагоддзя. Граф Міхал Шэмет хваліцца сваім паходжаннем ад самога Гедыміна, але здзіўляе ўсіх сваімі мядзведжымі манерамі. Па чутках, маці нарадзіла яго пасля гвалту з боку сапраўднага мядзведзя. У канцы твора апавядаецца пра вяселле графа. У шлюбную ноч усе чуюць, як чыёсьці важкае цела вылятае з акна і з глухім гукам падае ў сад. Калі госці і служкі ўрываюцца ў пакой графа, яны знаходзяць змярцвелую графіню з крывавай ранай на грудзі. Прысутны сярод гасцей доктар вызначае, што гэта след ад зубоў буйнога звера, хутчэй за ўсё мядзведзя. Графа Шэмета з тых часоў ніхто больш не бачыць.

## КАСАЛАПЫЯ «ВУЧНІ»

Пры слове «мядзведзь» у памяці мусіць узнікаць, найперш, вобраз «Смаргонскай акадэміі». У 1687—1689 гадах французскі манах-езуіт Піліп Аўрыль, які падарожнічаў па Рэчы Паспалітай, запісаў: *«...Мне паказалі таксама акадэмію, дзе дрэсіруюць мядзведзяў. Селішча, у якім яны вучацца гэтым вядомым практыкаванням, каб потым паказваць іх з такім спрытам і нават кемлівасцю, завецца Смаргонню...»* Асаблівага росквіту «акадэмія» дасягнула пры Каралі Станіславе Радзівіле па мянушцы Пане Каханку, які валодаў Смаргонню ў 1762—1790 гадах. Ён прызначыў кіраўніком «акадэміі» «барона» літоўскіх цыганоў Яна Марцінкевіча. Той набраў групу з дваццаці цыганоў, якія жылі і працавалі ў школе. У перыяд росквіту ў «акадэміі» дрэсіравалі адначасова да дзесяці мядзведзяў і некалькі малпаў. Малпаў закупляў і дасылаў князь, а мядзведзяў дастаўлялі з мясцовых лясоў, прывозілі з Жупранскай і Налібоцкай пушчаў. Апроч уласных выхаванцаў, «вучыцца» набіралі мядзведзяў і ад старонніх асоб. Тыя павінны былі заплаціць за працу, сілкаванне і пражыванне дрэсіроўшчыка.

«Смаргонская акадэмія» ўяўляла з сябе асаблівую пабудову, дзе каменная падлога другога паверха напальвалася аграмаднай печчу ніжняга паверха. Па другой версіі, школа знаходзілася непадалёк ад Смаргоні, на пагорках, у раёне цяперашняй Смаргонскай раённай бальніцы. На вяршыні пагорка выкопвалі яміну глыбінёй да трох метраў і на палову глыбіні апускалі жалез-

ную клетку з медным дном. Пад клетку падкладалі ламачча і сухое галлё, якія падпальвалі.

Для навучання, што працягвалася каля шасці гадоў, набіралі маладых самцоў. Дрэсіравалі ў некалькі прыёмаў. Спачатку мядзведзянят вучылі «танчыць», для чаго іх па двое-трое змяшчалі ў клетку, металічнае дно якой падагравалася. Каб ратавацца ад апёкаў, няшчасныя жывёлы вымушаны былі станавіцца на заднія лапы і пераступаць з адной на другую. У гэты час дрэсіроўшчык біў у бубен. Так працягвалася штодзень на працягу двух месяцаў. Потым мядзведзянят выводзілі з клетак і працягвалі практыкаванні з бубнам. Пасля ўдалых «танцаў» жывёл частавалі куском хлеба або морквай. Калі «студэнты» навучаліся стаяць на задніх лапах і «танчыць», пачынаўся другі этап дрэсіроўкі: трэба было вучыцца куляцца, спаборнічаць адзін з другім і кланяцца.

Увесну павадыры разам з вучонымі мядзведзямі накіроўваліся на заробкі па кірмашах Еўропы. У нямецкіх, французскіх і іншых крыніцах можна сустрэць указанне, што выхаванцы «Смаргонскай акадэміі» былі частымі гасцямі на кірмашах Прусіі, Баварыі і Эльзаса. Цікава, што ў Венгрыі, дзе мядзведзь з павадыром з'яўляецца неад'емнай часткай кірмашу і сельскага свята, у XIX стагоддзі таксама сустракаліся мядзведзі са «Смаргонскай акадэміі». Увосень, да дня Усіх Святых яны вярталіся назад у Смаргонь. Мядзведзям будаваліся лежні з лісця і яловых лапак, у якіх звяры заставаліся да сярэдзіны лютага. Разам з восеньскім вяртаннем у Смаргонь надыходзіў час выплаты мядзведнікам іх заробку, збор з іх усталяваных «баронам» выплат на ўтрыманне «акадэміі» або плата за страту мядзведзя.

Пасля смерці Караля Станіслава Радзівіла і ўваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі «акадэмія» паступова прыходзіць да заняпаду. Тым не менш, яшчэ ў 30-х гадах XX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі вандроўных цыган з мядзведзем называлі «*смаргонскі вучыцель з вучнем*», а кожную сумнеўную навучальную ўстанову — «*Смаргонскай акадэміяй*».

«Навучаныя мядзведзі» існавалі і ў сярэднявечнай Расіі. Яны ўдзельнічалі ў «*мядзведжых пацехах*», якія, хутчэй за ўсё прыйшлі з часоў крывавых ахвярапрынашэнняў. Такія пацехі былі заснаваны на смяротнай сутычцы чалавека з раз'ятраным мядзведзем і складаліся з трох частак. Спачатку агромністую жывёлу цкавалі сабакамі, а потым ужо раз'юшаны звер уступаў у жорсткую бойку або з чалавекам, або з іншым мядзведзем. І толькі пасля ладзіліся «камеды» — цыркавыя спектаклі, дзе мядзведзі пад ражок або бубен «танчылі» і «білі ў ладкі». З самага пачатку такія пацехі адбываліся ў двары маскоўскага Крамля і служылі забавай для цара і ягоных прыбліжаных. У часы Івана Жахлівага сапернікамі мядзведзю часта выстаўляліся якія-небудзь мяцежнікі, або апальныя людзі. Супраць звера чалавек трымаў у руках рагаціну, і калі пасля бойкі ён заставаўся ў жывых, хаця і знявечаным, ягонай адзінай узнагародай было віно са скляпенняў цара, прычым у неабмежаванай колькасці — як вытрымае. Традыцыя «мядзведжых пацех» на Русі аказалася вельмі ўстойлівай, і змяніць яе было даволі цяжка. Пазней сутычкі паміж чалавекам і зверам ладзіліся ў гарадах і вёсках па ўсёй Расіі, асабліва на кірмашах падчас народных свят. Этнографы зафіксавалі іх яшчэ на пачатку XIX стагоддзя.

Прайшлі стагоддзі, а ў Налібоцкай пушчы і дагэтуль расказваюць паданне, быццам дрэсіраваныя мядзведзі дапамагалі будаваць старыя пушчанскія касцёлы, да прыкладу, касцёл у Дзераўной. Тое самае можна пачуць і пра валожынскі касцёл Святога Юзафа, пабудаваны ў 1816 годзе. Быццам мядзведзяў пасля «заканчэння Смаргонскай акадэміі» накіроўвалі сюды на працу, дзе на спіну ім навязвалі кошык, і яны рахмана цягалі па рыштаваннях на высокія вежы цэглу, якую там падхоплівалі ўжо муляры. Яшчэ кажуць, калі яны чулі сігнал «на абед», дзе б ні былі, кідалі сваю ношу і спяшаліся ў «сталоўку».

Прыгожае паданне і дасціпнае, ці не так? На яго фоне другое — пра мядзведзяў, якія каталі Пане Каханку летам у санях па дарозе, пасыпанай соллю, выглядае не так арыгінальна. Але дзякуючы такой незвычайнай жывёліне, як мядзведзь, і старажытным культам, прысвечаным некалі яму, мы ўзбагацілі нашу культуру і гісторыю.

Мікола КАНДРАТАЎ

# ШЛЯХ ПРАЎДЫ АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА

Старадаўнія арыйцы вучылі сваіх дзяцей у першую чаргу тром рэчам: скакаць на кані, страляць з лука і гаварыць праўду. Але так сталася, што наш сучасны свет у пераважнай большасці схіляецца да меркавання, нібыта ў кожнага чалавека на зямлі свая праўда. Гэта, маўляў, вынікае ўжо з факта прызнання чалавечай унікальнасці, непадобнасці да іншых. Аднак, калі прыгледзецца больш уважліва, у людзей нават знешне больш падобнага, чым адрознага. Апошняе назіранне пацвярджае і Авеста, згодна з якой, у аснову стварэння свету пакладзены закон тоеснасці. Магчыма, біблейская ісціна, што чалавек створаны па вобразе і падабенстве Божаму, мае больш старадаўнія карані. Адсюль і праўда кожнага чалавека павінна быць тоесная тым законам Ісціны і Дабра, па якіх свет быў створаны Богам. Атрымліваецца, што праўда — катэгорыя абсалютная.

Кажуць, вуснамі немаўляці мовіць ісціна. Авен — першы знак Задыяка, з яго, нібы з дзяцінства, пачынаецца кола жыцця. І для кожнага Авена, у большай ці меншай ступені, характэрны такія дзіцячыя рысы, як шчырасць, наіўнасць і непасрэднасць. Яскравым прадстаўніком гэтага знака быў пісьменнік Аляксей Карпюк. Ён нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава каля Гарадка на Беласточчыне, што на той час знаходзілася ў складзе Польшчы. Сялянская сям'я, у якой з'явіўся на свет, рос і гадаваўся Аляксей, была не надта заможная: мела ладны кавалак зямлі, але больш за палову яго складала пясчаная глеба, астатняе — тарфянік. Калі ж глянем на касмаграму Аляксея Карпюка, то пераканаемся, што з сям'ёй яму пашанцавала. Пад знакам Рака (♋), што сімвалізуе дом, сям'ю, радзіму, у яго знаходзіцца Белы Месяц — планета, якая вызначае Божую ласку, ісціну, паказвае шлях святла. Ад бацькоў Аляксей атрымаў першую навуку, разуменне спрадвечнай сялянскай маралі, аснош чалавечай справядлівасці, дабра і праўды.

Паводле ўспамінаў брата Уладзіміра, Аляксей з маленства імкнуўся да друкаванага слова. Напэўна, ён інтуітыўна адчуваў свой комплекс па планеце Меркурый, якая ў знаку Рыб (♓) знаходзіцца адначасова ў *выгнанні* і ў *падзенні*. Але разам з тым гэта давала хлопчыку добрыя здольнасці да навучання, залежнасць ад закладзеных установак у дзяцінстве. Аляксей хадзіў у польскую сямігодку за сем кіламетраў: «Ішлі ў школу толькі тады, калі напасвім кароў. Ды шлі не з аднымі кніжкамі. Кожны дзень мы неслі ў горад па 6—7 літраў малака. А з бутэлькамі гэта паўпуда! Насілі дзень у дзень, зімой і восенню, і гэтак да сёмага класа». Карпюк скончыў сямігодку ў 1934 годзе. Пасля школы працягваў навучанне на падрыхтоўчых курсах, каб потым паступіць у гімназію.

Заканчэнне вучобы супала з падзелам Польшчы савецкай і фашысцкай імперыямі. Адбылося ўз'яднанне беларускага народа, як называўся гэты працэс пазней у савецкіх падручніках гісторыі. Працягваць вучобу хлопцу давялося ўжо ў Навагрудку, куды пераехала беларуская гімназія з Вільні, а затым — у Навагрудскай педагагічнай вучэльні.

У гады нямецкай акупацыі Аляксей выяваў у складзе падпольнай дыверсійнай групы. Падчас адной з дыверсій на чыгунцы ў канцы 1942 года ён быў арыштаваны і адпраўлены ў беластоцкую турму, а адтуль у канцлагер Штутгоф. Увосень 1943 года Аляксей уцёк з лагера і падаўся ў партызаны. Але спачатку трапіў пад глыбокае падазрэнне, што з'яўляецца нямецкім агентам. Каб ратаваць жыццё, вымушаны быў збегчы. Нарэшце знайшоў іншы партызанскі атрад, дзе яму паверылі. У 1944 годзе быў прызначаны камандзірам наваствоpанага партызанскага атрада імя Каліноўскага на Гродзеншчыне.



Пасля вызвалення Беларусі пайшоў на фронт, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Двойчы быў паранены, атрымаў інваліднасць II групы. За баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны I і II ступені, медалямі і залатым крыжам польскага ордэна «Віртуці Мілітары». І нават быў прадстаўлены да прысваення звання Героя Савецкага Саюза, але потым яго выкраслілі са спісу як ураджэнца Заходняй Беларусі.

Што магло быць прычынай шанцавання Карпюка. А быў ён чалавек смелы, дужы і рашучы, шматразова праяўляў мужнасць, ад куль у баі не хаваўся. Напэўна, Аляксея аберагаў Белы Месяц у знаку Рака. Ключом да разумення гэтага была любоў да праўды, выхаваная бацькамі. Яна дала магчымасць праявіць абарону светлых сіл. Бо магчымасць праявы Белага Месяца кожнаму чалавеку трэба яшчэ заслужыць уласнымі намаганнямі, у адрозненне ад Чорнага Месяца (⚸), што сімвалізуе сілы ліха і можа праявіцца ў касмаграме сам па сабе. Варта адзначыць, што і ў далейшым пасляваенным жыцці Карпюк стараўся не здраджваць праўдзе, хоць нагоды для гэтага былі.

Такія паводзіны пісьменніка тлумачацца тым, што пад знак Рака ў ягоным гараскопе патрапіў Плутон, які адказвае за мужнасць на людзях, перад натоўпам, і таму спрыяў імкненню Аляксея да праўды, бо знаходзіўся ў адным знаку з Белым Месяцам. Але анёл-ахоўнік Карпюка меў моц пад знакам Рака, які сімвалізуе дом, сям'ю, маці, Радзіму, і ў выніку даваў абарону і дапамогу светлых сіл толькі на роднай зямлі.

Самотны Чорны Месяц, што паказвае шлях падману і спакусы, у гараскопе будучага пісьменніка трапіў у знак Стральца, які звязаны з ідэялогіяй, традыцыяй, сацыяльным асяродкам, замежжам. Карпюк з юнацтва сімпатызаваў камуністычным поглядам. Спачатку ён уступае ў шэрагі ЛКСМЗБ, а пасля вайны ў 1947 годзе становіцца членам КПСС. На прыкладзе жыцця Аляксея Карпюка можна назіраць, як Дабро і Ліха змагаліся за месца ў ягоным сэрцы.

Пасля вайны ён вучыўся і працаваў на Гродзеншчыне. Скончыў у 1949 годзе аддзяленне англійскай мовы Гродзенскага педінстытута, дзе пазнаёміўся з будучай жонкай Інай Цыгельніцкай — дачкой рэпрэсаванага палітыка Анатоля Альшэўскага. Сям'я стала для Карпюка маленькай айчынай, дзе ён заўсёды адчуваў любоў і падтрымку, — праява Белага Месяца ў знаку Рака.

Вядомасць празаіка Аляксей Карпюк атрымаў, напісаўшы вялікую аповесць пра каханне «Данута» (1960), значная частка дзеяння якой адбываецца спачатку ў перадваеннай, а потым у захопленай немцамі Вільні. Карпюк добра памятаў горад, дзе вучыўся. У вобразе галоўнага героя Янкі Барташэвіча шмат у чым адлюстраваліся рысы самога Аляксея Карпюка. Адчуваецца, што Барташэвіч таксама мог быць Авенам. Ва ўсялякім разе ён павінен быў мець Венеру, што адказвае за каханне, у злучэнні з Хіронам (⚷ — сімвалам партнёрства) у гэтым знаку, як і ў Карпюка. Такое становішча Венеры (*выгнанне*) давала галоўнаму герою рэзкія, вострыя, часам грубаватыя пачуцці, парывістасць, адсутнасць дыпламатыі, тэмпераментнасць і навязлівасць у адносінах з партнёркай. Такія людзі не любяць падпарадкоўвацца, часам праяўляюць захопніцкі інстынкт у адносінах да процілеглага полу. Аляксей Карпюк здолеў творча сублімаваць свае комплексы ў згаданай аповесці і тым самым спрыяў іх выпраўленню. Твор атрымаўся вельмі жывы і рэалістычны, дазволіў нават ва ўмовах савецкай цэнзуры раскрыць некаторыя старонкі нацыянальнай гісторыі (па знаку Рака). Гэта быў крок у бок праўды.

Такія крокі на працягу жыцця пісьменнік і чалавек Карпюк рабіў пастаянна. Доўгі час узначальваў Гродзенскае абласное аддзяленне СП БССР. На гэтай пасадзе ён праяўляў клопат, заступаўся і адстойваў як маладых — Дануту Бічэль-Загнетаву, Вольгу Іпатаву, так і добра вядомых аўтараў — Васіля Быкава і Барыса Клейна, з якімі сябраваў. «Тады модна нас было



*Касмаграма А. Карпюка.*

крытыкаваць. Мяне, напрыклад, кляймілі на ўсіх абласных, раённых сходах і нават у кожнай партыйнай арганізацыі за выданне “Маёй Джамалунгмы”, за выступленні на з’ездах і пленумах СП БССР… А ўжо Быкава не абмінала з крытыкай ні адна газета — ні маскоўская, ні менская, — сведчыў пазней сам Карпюк».

Трэба адзначыць, што мужнага і праўдзівага выступлення на V з’ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Мінску 13 мая 1966 года, у якім ён заступіўся за апальнага Быкава, крытыкаваў не толькі мясцовых партыйных функцыянераў, але нават і супрацоўнікаў КДБ, Аляксею Карпюку не даравалі. Яго тэлефонныя размовы пачалі праслухоўваць, у кватэры пісьменніка рабіліся тайныя вобшукі. 21 красавіка 1972 года ён быў выключаны з партыі на бюро Гродзенскага абкама КПБ па абвінавачванні ў кулацкім паходжанні і хлусні пра сваё мінулае. Карпюка пазбавілі працы, і клопат матэрыяльнага забеспячэння сям’і з пяці чалавек лёг на плечы жонкі Іны, яна працавала настаўніцай, а пазней і старэйшай дачкі Алены.

Кола вакол Карпюка сціскалася. Прадстаўнікамі органаў былі сфабрыкаваны лагерныя дакументы, дзе нібыта сцвярджалася, што Карпюк у час вайны атрымліваў грошы за супрацоўніцтва з немцамі. У час адной сумеснай паездкі з Васілём Быкавым у Маскву, каб выратаваць сябра, Быкаў нават падказаў Карпюку нечаканы выхад. Ён пазнаёміў Аляксея з вядомым маскоўскім псіхіятрам, які прапанаваў зрабіць даведку пра псіхічна ненармальны стан здароўя. Спакуса была вялікая — даведка пазбаўляла ад адказнасці і па партыйнай, і па судовай лініі. «Вядома, прапанова сяброў ішла ад спагады ды чыстага сэрца. Але я ведаў: на такое ніколі не згаджуся», — успамінаў пазней пісьменнік, які падсвядома адчуваў, што праўды трэба дабівацца сумленным шляхам (па Беламу Месяцу). Крыху пазней польскія сябры Карпюка дапамаглі высветліць, што лагерныя грошы ў час вайны былі паштовымі пераводамі ад бацькоў зняволенага. У час вымушанага беспрацоўя Аляксей Карпюк напісаў свой раман «Вершалінскі рай» — пра ўтопію, якая падманула даверлівых людзей.

Неяк на юбілейным вечары аднаго літаратара Карпюку пашанцавала прабіцца да Пятра Машэрава, і той яму дапамог — у красавіку 1973 года Карпюку далі вымову — за выступленні супраць афіцыйнай палітыкі партыі — і вярнулі партыйны білет, хаця назіранні за ім усё адно працягваліся. Але потым пісьменнік напіша ў сваёй споведзі: «Раптам я адчуў, як устрапянулася мая душа. Як кожная клетачка мая напаўняецца сілай. Як вырастаюць у мяне крылы! Гэта была за шмат-шмат гадоў, за тысячагоддзі мая першая перамога над хлуснёй! Гэта быў мой даўночаканы трыумф!»

У канцы 1980-х гадоў Карпюк праявіў сябе як публіцыст — надрукаваў шэраг артыкулаў са сваёй трактоўкай падзей 1939 года. З ініцыятывы бюро Гродзенскага абкама КПБ пісьменнік стаў аб’ектам нападак у часопісе «Политический собеседник», дзе пра яго зноў былі пададзены фальшывыя звесткі. Карпюк падаў у суд на аўтара артыкула і 2 красавіка 1991 года выйграў працэс. Праз тры дні пасля гэтага ён выйшаў з радоў КПСС, матывуючы тым, што «разуверыўся ў прынцыпах марксізму-ленінізму ды прыйшоў да высновы, што ідэі яго ўтапічныя… прыдуманыя бюракратамі ў кабінетах». Напрыканцы пісьменнік зрабіў пераасэнсаванне свайго жыцця, пакінуўшы мемуарную аповесць «Развітанне з ілюзіямі» — пранізлівы дакумент, які ўзрушвае сваёй шчырасцю і самаацэнкай. Гэтым творам праўда ў жыцці Аляксея Карпюка замацавала канчатковую перамогу над маной.

# НАВУМ ГАЛЬПЯРОВІЧ: «ТРЭБА Ў НЕШТА ВЕРЫЦЬ»



***Сёння пісьменніцтва не лічыцца прафесіяй. Ды і слова «пісьменнік» у свядомасці масавага чытача страціла ранейшае значэнне. Збольшага за гэта мы мусім дзякаваць данцовым-шылавым. Але, як ні парадаксальна, на сваім «таленце» яны няблага зарабляюць. Тым жа, хто сапраўды мае што сказаць, і сказаць добра, даводзіцца здабываць штодзённы хлеб іншымі заняткамі.***

***Напрыклад, журналістыкай.***

***Навум Гальпяровіч, паэт і журналіст, упершыню выступіў на старонках «Маладосці» менавіта з публіцыстыкай. У 1976 годзе, у № 11 з'явіўся матэрыял «БВК: пачатак шляху», напісаны сумесна з Юрыем Касцюком. Малады паэт расказваў пра будоўлю завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў.***

***Вершы Навума Гальпяровіча былі надрукаваны ў «Маладосці» толькі праз год, у № 12.***

## «Я НА ЗАВОД УРАНКУ КРОЧУ…»

«Надрукавацца ў “Маладосці” паэту-пачаткоўцу на той час было вельмі складана. Падрыхтаваныя вершы знаходзіліся “на чарзе” год, два, а то і болей. Загадчыкам аддзела паэзіі быў Мікола Аўрамчык. Ён вельмі добра працаваў з маладымі, уважліва ставіўся да іх творчасці. Але час быў іншы, і тэмпы жыцця — таксама. Праца ішла месяцамі. Мікола Якаўлевіч мог прачытаць вершы, зрабіць заўвагі, потым зноў папрасіць іх перарабіць, перапісаць нейкі радок.

Але пачынаў пісаць я на рускай мове. І ўдзельнічаў у семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах з вершамі на рускай. Беларускую заўсёды любіў і добра ведаў, але менавіта семінар у Каралішчавічах, сустрэча з Алесем Разанавым, Віктарам Ярацам, Лёнем Якубовічам пакінула такое ўражанне, што і я павінен…

Свае беларускамоўныя вершы я даслаў на адрас Леаніда Дайнекі, які тады працаваў адказным сакратаром часопіса. Напісаў яму: “Шаноўны Леанід, прапаноўваю свае вершы на беларускай мове, але вельмі хвалююся, як вашае ўражанне…” Я ведаў, што ў яго нават першая кніжка рыхтавалася на рускай мове, а пасля ўжо ён перайшоў на беларускую.

Даслаў. А адказу няма і няма, няма і няма… Я тады жыў у Наваполацку, працаваў на радыёвяшчанні вытворчага аб'яднання “Палімер”, і на міжгародні званок увогуле трэба было ісці ў спецыяльны кабінет. Я доўга вагаўся — тэлефанаваць ці не? А калі ўрэшце патэлефанаваў, Леанід сказаў: “Дык вершы пойдуць!..” І вось я чакаў — калі ж яны “пойдуць”. І дачакаўся: у № 12 1977 года з'явіліся вершы “Ці памятаюць гарады, калі яны былі лясамі…”, “З юнацтва хочацца выключнасці…”, “Сланечнікі”, “Прыносіць восень неспакой…” На той час гэта былі мае лепшыя творы, а іх выхад стаўся для мяне вялікай радасцю. Публікацыя ў “Маладосці” была як знак прызнання таго, што я нечага ўжо варты.

Аднак гэта не першая падборка ў часопісным варыянце. Сапраўдным дэбютам стала публікацыя ў часопісе “Беларусь” (№ 6, 1977). Тады літкансультантам быў вядомы паэт

Многа людзей не верыла ў тое, што нешта з мяне здзейсніцца, ды і сам я сумняваўся. І цяпер сумняюся

Аляксей Русецкі. Як я чакаў шосты нумар! Памятаю, пабег у кіёск купляць некалькі экзэмпляраў. Адкрываю. Гляджу. Першы верш — мой. Чытаю другі верш: "Я на завод уранку крочу, / І сэрца радасцю гарыць, / Бо толькі тут, сярод рабочых, / Я навучылася, як жыць //".

Чырванею. Я такога не пісаў. Што гэта такое?! Чаму ад жаночага імя?.. Я ніколі не пісаў на вытворчыя тэмы!.. "Я на завод уранку крочу…" На які завод?.. І такое прыкрае ўражанне: першая падборка — і паказаць каму няёмка, і падарыць.

А гэта быў верш вельмі актыўнай "паэтэсы", якая не вызначалася высокім талентам, была ўжо ва ўзросце — значна старэйшая за мяне, абівала парогі ўсіх рэдакцый і патрабавала, каб яе друкавалі. Цяпер такіх многа. А тады яна была ледзь не адна такая.

Са мной былі яшчэ падобныя выпадкі. Шанцавала. Аднойчы ў "Звяздзе" апублікавалі падборку вершаў. Падпісана — Навум Гальпяровіч, і нават з невялікай прадмовай пра тое, што вершы вызначаюцца тым-та і тым-та… Гляджу на фота — а там нейкі барадаты дзядзька. І мне людзі тэлефануюць з адным і тым жа пытаннем: "Ты што, бараду адпусціў?"А гэта замест майго паставілі фотаздымак прафесара Крукоўскага.

Праўда, пасля здарэння з часопісам "Беларусь" Русецкі даслаў мне ліст, дзе прасіў прабачэння, але ніякага абвяржэння не было. Можа быць, мае біёграфы і цяпер думаюць, што гэта я "на завод уранку крочу, і сэрца радасцю гарыць". Яшчэ раз заяўляю: гэта не мой верш».

## «МОЙ ШЛЯХ У ЛІТАРАТУРУ НЕ БЫЎ УСЛАНЫ РУЖАМІ»

«У Полацку існавала літаб'яднанне "Крыніца", у якое я ўваходзіў, а пасля публікацыі ў "Маладосці" я пачуў ад сваіх сяброў па аб'яднанні добрыя водгукі. Але, па шчырасці, я быў не спешчаны водгукамі на мае творы. І гэта заўжды трывожыла. Таму што самае страшнае — маўчанне. Не ганяць, не хваляць, не ўспамінаюць… Памятаю, у 1983 годзе выйшаў калектыўны зборнік "Сцяжына". Чытаю водгукі — і недзе там адным радком упамінаецца, што ёсць і вершы Навума Гальпяровіча. І ўсё. Ні слова — ці то добрыя вершы, ці то дрэнныя?.. Пазней адна паэтка не вельмі прыхільна ацаніла тыя вершы, абвінавачвала мяне ў літаратуршчыне. Разумееце, калі ў тыя часы напішаш пра поле ці завод — гэта натуральна. А калі напішаш пра Ван Гога ці перадасі нейкія філасофскія разважанні — гэта літаратуршчына.

Было аднойчы і такое. На семінары ў Каралішчавічах адзін вядомы і паважаны паэт бэсціў нас з Лёнем Якубовічам за тое, што мы з Наваполацка і з Салігорска, а ў вершах нашых не відаць нафтаперапрацоўшчыкаў і шахцёраў. Як жа можна жыць у такіх гарадах і не адгукацца на такія важныя рэчы?!

Мой шлях у літаратуру не быў услану ружамі. Больш за тое: амаль у кожнага маладога таленавітага паэта былі свае "паравозікі" — вядомыя паэты, якія іх, маладых, "цягнулі". Модна было вялікаму паэту адкрываць малады талент, а пасля яго суправаджаць. Майму сябру Алесю Пісьмянкову дапамагаў Аляксей Пысін, у Барадуліна быў шэраг вучняў. А ў мяне нікога не было. І калі цяпер пытаюць: "Хто ваш літаратурны настаўнік, бацька?", неяк няёмка гаварыць, што яго не існавала. Шлях мой быў даволі адзінокі. І дастаткова многа людзей не верыла ў тое, што нешта з мяне здзейсніцца, ды і сам я сумняваўся. І цяпер сумняюся. Асабліва, калі да мяне звяртаюцца: "Вось вы скажыце як паэт…" Я тады прашу казаць "як літаратар". Бо калі называць паэтам, то Караткевіча, Мандэльштама, Пастарнака… А Гальпяровіч-паэт — неяк страшнавата гучыць.

Адносіны ў літаратуры паміж настаўнікамі і маладымі — вельмі тонкая справа. Раней творцы, якія працавалі ў часопісах і выдавалі кніжкі, здаваліся людзьмі з нейкага вышэйшага свету. Калі Быкаў падарыў мне маладому кніжку з аўтографам: "Навуму Гальпяровічу, абаронцу і адвакату

роднай Віцебшчыны", я глядзеў на тую кніжку і думаў: "Няўжо гэта мне?.." Міхась Стральцоў падпісаў мне кнігу "Адзін лапаць, адзін чунь" — "Навуму ад аднаго лапця, аднаго чуня". Я даражу гэтымі аўтографамі. Але ніколі проста так іх не браў. Сёння ж, калі выступаеш у школе, дзеці нават з дзённікамі ідуць па аўтограф».

### ПРА «МАЛАДОСЦЬ»

«Я ніяк не мог дачакацца кожнага нумара, бо ў "Маладосці" друкаваліся Быкаў і Караткевіч. Калектыў быў вельмі паважаны: яго ўзначальваў мой зямляк Генадзь Бураўкін, там працавалі Вячаслаў Адамчык, Леанід Дайнека, Янка Сіпакоў… Калі я заходзіў у рэдакцыю, то проста заміраў: як жа гэта так, вось яны, жывыя класікі — і сядзяць, гуляюць у шахматы. Аднойчы пры мне заходзіў Караткевіч — вяртаў пазыку Уладзіміру Дамашэвічу. Гляджу — гэта ж Караткевіч! "Дзікае паляванне караля Стаха!" І тут, побач, стаю я... Не ведаю, ці ёсць сёння такое пачуццё ў маладых».

### ЖУРНАЛІСТЫКА ЦІ ЛІТАРАТУРА

«Я ніколі не стаяў перад выбарам "журналістыка — літаратура". Гэтыя рэчы ў мяне заўжды ішлі паралельна. Я ведаў, што журналістыка — мая прафесія, гэта тое, што я ўмею рабіць, і ніколі не сумняваўся, што магу быць нармальным журналістам. А вершы — як вера ў Бога — для душы. Гэта — святое. Тое, што я рабіў у журналістыцы, рабіў з жаданнем, ахвотай, і адчуваў сябе ўпэўнена. У адрозненне ад літаратуры. І ўсё ж у першую чаргу я марыў быць пісьменнікам. Часам у журналісцкія матэрыялы траплялa нешта паэтычнае: нестандартныя падыходы да бачання праблемы. Але існавала небяспека з іншага боку: каб журналістыка не ўплывала на літаратуру. Таму я праводзіў мяжу. Гэтым я, можа быць, і захаваў чысціню адносін да літаратуры. Часам, калі мне заказвалі вершы на пэўную тэму ці прывітанне (модна было заказваць прывітанне, скажам, для піянераў), я не з ахвотай ішоў на гэта, а калі і ішоў, не ставіўся да гэтага як да літаратуры. Сёння многія творцы папракаюць адно аднаго, маўляў, вось ты раней пісаў пра партыю, а цяпер такі ўльтрадэмакрат. Я не пісаў ні таго, ні другога. Літаратура была для мяне заўсёды пачуццём чысціні. Я акунаўся ў яе, як у чыстую ваду, якую нічым нельга замуціць».

**Калі мне заказвалі вершы на пэўную тэму ці прывітанне, я не з ахвотай ішоў на гэта, а калі і ішоў, не ставіўся да гэтага як да літаратуры**

### ПРА ВЕРШЫ

«Аднойчы малады чалавек прыйшоў да Максіма Горкага і запытаўся: "Парайце мне, пісаць ці не?" Горкі адказаў: "Калі можаце, то не пішыце". І я схільны да гэтага: калі можаш не пісаць — не пішы. Алесь Пісьмянкоў "думаў вершы". Адзін паэт сказаў: "А вершы пішуць, як жывуць, як дыхаюць, як уміраюць". Еўтушэнка — "стихи не пишутся — случаются". Булат Акуджава — "каждый дышит, как он пишет, каждый пишет, как он дышит". А ў нас цяпер вельмі многа людзей, якія пішуць таму, што яны хочуць пісаць.

Я вершы не прыспешваю. Не магу сказаць, што напішу сёлета пяць вершаў, дзесяць… Можа, ніводнага не напішу. Вось у мяне, напрыклад, нядаўна так здарылася, што я проста на працы напісаў нізку вершаў…

Наш час — час, калі падвяргаецца сумненню ўсё, абсалютна. Трэба ў нешта верыць. Трэба, каб у душы было нешта святое. Для многіх гэта вера ў Бога. Я таксама веруючы чалавек, але гэта крыху… абстрактна. А вось Полацк і беларуская мова — рэчы непахісныя, рэчы, якія мяне ў жыцці трымаюць. У мяне таксама ёсць недахопы. У нечым я памыліўся. Недзе паступіў няправільна. І не ўсё цяпер можна выправіць. Але ў час бязвер'я Полацк, які 1150 гадоў адстаяў, выстаіць. Ён вечны. Ва ўсякім разе, на маё жыццё хопіць».

***Падрыхтавала Анастасія ГРЫШЧУК***

# МАСТАЦТВА МНОГА НЕ БЫВАЕ

## ФІЛАЛОГІЯ ГОМЕЛЬСКАЙ ШКОЛЫ

***Мельнікава А. М. Літаратура і час: постаці, тэндэнцыі, плыні: зб. навук. крыт. арт. / А. М. Мельнікава; М-ва адукацыі РБ; Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны, — Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2011. — 200 с.***

Крытычных кніжак — днём з агнём не знайсці. Рэдкія, вельмі рэдкія выключэнні здараюцца, і тады гэта — цэлае свята. Пастаянна ліюцца нараканні на адсутнасць крытыкі, а да таго ж на яе збядненне і змізарненне. Між іншым, у той, савецкі час, пра які многім уздыхаецца найбольш глыбока, крытычная кніжка выходзіла разоў мо ў дзесяць часцей. І выдавецтвы не ленаваліся пускаць іх у друк, нават калі-нікалі і адсланіўшы чарговага паэта — разумеючы, што гэты самы паэт пасля будзе пакутаваць ад уласнай незаўважанасці і незаангажаванасці. А крытык можа яго гэтых комплексаў пазбавіць.

Дзякаваць Богу, добрыя кнігі цяпер выходзяць не толькі ў Мінску. Прыклад: нядаўні зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў Анжэлы Мельнікавай, што пабачыў свет у выдавецтве Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

Кніга падзелена на тры часткі: «Крытычныя штудыі», «Рэцэнзіі», «Літаратуразнаўства». Пад крытычнымі штудыямі маюцца на ўвазе творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў, а таксама аналіз іх твораў у святле пэўнай праблемы ці тэндэнцыі. У полі зроку крытыка апынуліся Марыя Вайцяшонак, Людміла Рублеўская, Наталля Марціновіч, а таксама Уладзімір Караткевіч, Кастусь Тарасаў, Ян Чыквін і Янка Лайкоў. Даследчыца абірае аб'ектам адлюстравання тыя творы, да якіх доўгія філалагічныя рукі дацягваюцца нячаста. Так, у Караткевіча быў узяты малавядомы твор «Вялікі Шан Ян», які і надрукаваны быў толькі праз дзясятак гадоў пасля смерці аўтара. У большасці выпадкаў Анжэлу Мельнікаву цікавіць «ідэйнае гучанне» твора. Таму невыпадкова, што абраныя аўтары разглядаюцца ў рэчышчы філасофскіх канцэпцый і рэлігійных пастулатаў (гл. артыкул «Хрысціянскі складнік беларускай літаратуры»). Праўда, першы і апошні артыкулы раздзела маюць дужа лаканічны, апісальны характар, а праз гэта выглядаюць хутчэй пралогам і эпілогам раздзела, чым іх паўнавартаснымі складовымі часткамі.

**Даследчыца абірае аб'ектам адлюстравання тыя творы, да якіх доўгія філалагічныя рукі дацягваюцца нячаста. У большасці выпадкаў Анжэлу Мельнікаву цікавіць «ідэйнае гучанне» твора**

У аддзеле «Рэцэнзіі» не змешчаны водгукі на кнігі беларускіх паэтаў, як гэта можна было б падумаць. Тут разглядаюцца крытычныя кнігі, якія выйшлі ў 2000-я гады. Роскід у датах выдання даволі сур'ёзны, аднак, у адрозненне ад пэўных літаратурна-мастацкіх выданняў, беларуская літаратуразнаўчая кніга старэе паволі (пра кунаўскія «навуковыя рэвалюцыі» тут і гаварыць няма як). Таму грунтоўны іх крытычны аналіз і сёння дапаможа вылушчыць зерне з плевелаў.

Трэцяя частка кнігі — «Літаратуразнаўства» — падзяляецца на два «цыклы»: першы прысвечаны аналізу твораў Кузьмы Чорнага, (пра паэтыку якога даследчыца ў свой час напісала асобную манаграфію), другі — аглядныя артыкулы па гісторыі беларускага літаратуразнаўства — важнай, але, на жаль, мала даследаванай галіны айчыннай філалогіі.

Нездарма апошні артыкул зборніка называецца «Гомельская школа ў беларускім літаратуразнаўстве». Мусім прызнаць, што менавіта выпускнікі і выкладчыкі гэтай установы сёння вытрымліваюць сур'ёзныя патрабаванні да філалагічных работ: гэта датычыцца не толькі выкладчыцкіх даследаванняў, але і студэнцкіх навуковых зборнікаў. А значыць, «гомельская школа» — сапраўды існуе, і мае не выпадковы, а рэгулярны характар.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ СТЫЛЬ У РЭТРАСПЕКТЫВЕ

***Харэўскі С. Сто твораў XX стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу / аўт.-укл. С. В. Харэўскі. — Вільня: ЕГУ, 2012. — 432 с., іл.***

Новую кнігу Сяргея Харэўскага склалі эсэ, прысвечаныя творам беларускага мастацтва. Нехта можа паспрачацца, што не кожны народжаны ў Беларусі мастак мусіць машынальна трапляць у шэрагі нацыянальнага Пантэона. Аднак у эсэ Харэўскага гэтыя героі — ад Фердынанда Рушчыца да Уладзіміра Сцяпана — сапраўды ўтвараюць дзіўнае адзінства. Прычыны ўзнікнення гэтага адзінства цяжка патлумачыць яшчэ і таму, што сам аўтар кнігі не асабліва ўпірае на ўласна нацыянальныя пытанні — яго больш цікавіць аналіз, пранікненне ў твор і пранікненне ў эпоху, куды мастак быў закінуты по волі лёсу. Аднак жа эпоха можа тут уважацца і за *стыль*. Сплеценыя ў адно дзясяткі мастакоўскіх лёсаў утвараюць беларускі нацыянальны стыль у мастацтве — збылася мара «ўзвышэнцаў». Трэба адзначыць, што іншым сферам культуры (той жа літаратуры) падобныя кнігі таксама б не зашкодзілі. Думаецца, усё (як заўжды) наперадзе.

Нягледзячы на ўсе прыкметы навуковага выдання — квадратныя дужкі, грыф, рэцэнзаванне і навуковае рэдагаванне — збор не ўваходзіць у традыцыі акадэмічнага «знаўства». Магчыма, таму, што тое знаўства атаясамліваецца з нудотным пералікам, класіфікацыямі, строга зададзенай структурай артыкула. Менавіта гэтай строгасці ў кнізе Харэўскага няма. Тое самае і са структурай: аповед можа лёгка пераходзіць з гісторыі на тэорыю, з твора мастацтва на біяграфію самога мастака. Стыль кнігі вар'іруецца ад мастацкага да навуковага. Агульныя культуралагічныя праблемы злучаюцца ў адным абзацы з пытаннямі захавання нацыянальнай культурнай спадчыны. Падобная полістылістычнасць робіць нарысы захапляльнай чытанкай: немагчыма ўведаць, куды завядзе аўтарская думка на гэты раз; эсэ часам пачынае набываць характар дэтэктыва. Паводле андронікаўска-кісялёўскай традыцыі — «дэтэктыва без забойства».

Нягледзячы на ўсе прыкметы навуковага выдання — квадратныя дужкі, грыф, рэцэнзаванне і навуковае рэдагаванне — збор не ўваходзіць у традыцыі акадэмічнага «знаўства»

Накладае свой адбітак і асоба аўтара — гжэчнага эстэта, энцыклапедыста і выдатнага прамоўцы. Бадай, кожны, хто чуў спадара Харэўскага «жыўцом», падчас чытання «Ста твораў…» будзе змагацца з насланнём: услухоўвацца ў ягоны голас, а не ў сам тэкст.

Усё вышэй сказанае зусім не адмаўляе інфармацыйнай насычанасці кнігі. Багатая фактура яе заснавана на сур'ёзных крыніцах і ўласных эмпірычных доследах. Паспрыяла нарысам Харэўскага і асабістае знаёмства з многімі сучаснымі мастакамі. Кідкая назва таксама не з'яўляецца выключна маркетынгавым ходам, «Сто твораў…» не выключае грунтоўнасці: выданне можа выкарыстоўвацца і як падручнік, і як альбом (каляровая ўкладка з выявамі карцін маецца таксама). Значнасць аўтарскіх знаходак палягае яшчэ і ў сапраўды дэмакратычным гусце Харэўскага: Міхась Савіцкі не пярэчыць Казіміру Малевічу, а ўваходзіць з ім у дыялог.

Фармат кнігі даволі вялікі — творы для яе пісаліся пятнаццаць гадоў. Праўда, на прэзентацыі выдання аўтар адзначыў, што ўключана далёка не ўсё. Гэта азначае адно: корпус тэкстаў будзе пашырацца. Магчыма, праз колькі часу на паліцах кнігарняў мы ўбачым «Двесце твораў беларускага мастацтва». І добра. Яго, мастацтва, многа не бывае.

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

**Вёска Мазуршчына** Доўгаўскага сельсавета

**Аколавай Валянціны** (н. 25.7.1954), паэтэсы, радзіма. Скончыла Полацкае педагагічнае вучылішча імя Ф. Скарыны (1973) і БДУ (1980). Настаўнічала, працавала журналісткай. Друкуецца з 1968 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «За тым лугам зеляненькім» (1987), «Вяртанне ў заўтра» (1990), «Я люблю сваю Белую Русь» (1990), «Случарыны» (1994), фантастычнай паэмы-п'есы «Палачанка Інгрэна, альбо Вяртанне Скарыны» (1990). Перакладае з рускай, украінскай, славацкай моў.

**Вёска Пагост 1,** цэнтр сельсавета

**Цадроўскага Яна** (3.3.1617—1688), пісьменніка-мемуарыста, наваградскага падчашага, радзіма. Пісаў на польскай мове. З 1642 г. служыў чыноўнікам у радзівілаўскім маёнтку Старая Весь на Падляшшы. У час вайны 1654—1667 гг., калі Мінскае ваяводства было захоплена рускімі войскамі (1655), быў пасланы мінскай шляхтай да цара Аляксея са скаргай на ўціск з боку маскоўскага ваяводы. У 1668 г. браў удзел ва ўзброеным выступленні мінскай шляхты супраць рускіх войскаў, няўдалы вынік якога прымусіў ратавацца ў Слуцку. У 1666 г. з'яўляўся членам і сакратаром камісіі, якую прызначыў Б. Радзівіл для рэвізіі Койданава.

**Вёска Прусы** Чапялёўскага сельсавета

**Лужаніна Максіма** (сапр. Аляксандр Каратай; 20.10(2.11).1909—13.10.2001), паэта, празаіка, кінадраматурга, перакладчыка, радзіма. Пачынаў вучобу ў мясцовай школе. Скончыў Мінскі белпедтэхнікум (1928), вучыўся ў БДУ (1928—1930). З'яўляўся членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша». Працаваў у рэдакцыі часопіса «Узвышша» (1930—1931), на беларускім радыё (1931—1933). У 1933 г. быў рэпрэсіраваны. З 1935 па 1941 г. працаваў выдавецкім рэдактарам у Маскве. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў прызваны ў Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі (1944) працаваў у рэдакцыях газеты «Звязда» і часопіса «Вожык», на пасадзе рэферэнта АН БССР. З 1959 г. — член сцэнарнай камісіі кінастудыі «Беларусьфільм», з 1967 па 1971 г. — галоўны рэдактар кінастудыі. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар кніг «Крокі» (1928), «Неаплачаны рахунак» (1930), «Галасуе вясна за вясну», «Кастрычнікам, Ліпенем, Маем!», «Аднагалосна» (усе 1931), «Першамайская вуліца», «Галасы гарадоў» (1932), «Шырокае поле вайны» (1945), «Поступ» (1950), «Святло Радзімы» (1952), «Моваю сэрца» (1955), «Прасторы» ((1958), «Росы на коласе» (1973), «Прага крыла» (1974), «Як нараджаўся новы свет» (1975), «Лявоніха» (1977), «Галасы пад выраем» (1980), «Паразмаўляй са мной, зямля» (1983); збораў твораў у 2-х тамах (1960), у 3-х тамах (1968—1970), у 4-х тамах (1979—1981), «Вярнуся ветрам: Лірыка, гумар, сатыра» (1987). За паэтычныя творы 1998 г. узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя А. Куляшова (2000). Аўтар кніг прозы «Колас расказвае пра сябе» (1964, Літаратурная прэмія імя Якуба Коласа, 1965), «Дванаццаць вячорных вогнішчаў» (1968), «Людзі, птушкі, прастор» (1976), «Трое» (1989); кніг публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі «Вачыма часу»

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г.

(1964), «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» (1973), «З ранку да вечара» (1978); зборніка гумару «Сілівон на дачы» (1958); паэмы-казкі «Хто робіць пагоду» (1959). Аўтар сцэнарыяў фільмаў «Паўлінка» (1951), «Народны паэт» (1952), «Першыя выпрабаванні» (1960), «Запомнім гэты дзень» (1967, з А. Куляшовым). Перакладаў на беларускую мову з рускай і польскай моў. Пахаваны на могілках у в. Паперня Мінскага р-на.

**Вёска Рахавічы** Хорастаўскага сельсавета

**Нядзведскага Уладзіслава** (24.7.1929—17.10.1973), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў школе ў роднай вёсцы. Скончыў БДУ (1955). У 1955—1968 гг. працаваў настаўнікам, на Беларускім тэлебачанні і ў часопісе «Маладосць», з 1972 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1949 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Вясновыя баразны» (1958), «Запрашэнне» (1960), «Размова з адсутнымі» (1969), аповесці «Хлопцы з другога корпуса» (1963), кніг «Вузлы» (1971), «Выбранае» (1976), «Такія думы і словы: кніга паэзіі» (1988). Пісаў для дзяцей (кніга вершаў «Сто братоў і сясцёр», 1960). Аўтар зборнікаў сатырычных і гумарыстычных апавяданняў «Капронавыя галёшы» (1964) і «Начная пагоня» (1966). Пахаваны ў Калодзішчах ля Мінска.

**Вёска Радкава** Краснадворскага сельсавета

**Якубовіча Леаніда** (21.3.1948—8.6.1970), паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Адукацыю атрымаў у Радкаўскай пачатковай школе. Працаваў паштальёнам, аператарам аддзялення сувязі. А пасля заканчэння Любанскай завочнай сярэдняй школы (1965) — машыністам на другім Салігорскім калійным камбінаце. У 1967 г. залічаны ў штат рэдакцыі салігорскай раённай газеты «Шахцёр». Завочна вучыўся ў БДУ. У 1969—1970 гг. зноў працаваў у шахце. Трагічна загінуў. Пахаваны на мясцовых могілках. Друкаваўся з 1965 г. У 1979 г. выйшаў зборнік яго паэзіі «Я з вамі, вёсны...»

**Вёска Сіцянец** Старобінскага пассавета

**Кудраўцава Івана** (28.6.1922—май 2004), пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца, радзіма. Скончыў БДУ (1948). У 1947—1988 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь», Інстытуце педагогікі, Белдзяржфілармоніі, Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Друкуецца з 1947 г. Аўтар манаграфіі «Кузьма Чорны: ідэі і вобразы ў творчасці» (1956), артыкулаў пра творчасць К. Чорнага, Якуба Коласа, З. Бядулі, П. Глебкі, А. Гурло і інш., рамана «Разгневаная зямля» (1984). Суаўтар (з У. Агіевічам) школьных падручнікаў па беларускай літаратуры.

**Вёска Чапялі,** цэнтр сельсавета

**Народны краязнаўчы музей**

Сярод экспанатаў — рукапісы ўраджэнцаў раёна пісьменнікаў М. Лужаніна, А. Чарнышэвіча, Л. Якубовіча, А. Кулакоўскага і інш.

**Баранчыка Віктара** (н. 15.08.1934), рускага пісьменніка, радзіма. Пасля заканчэння Чапялёўскай няпоўнай сярэдняй школы (1952), вучыўся ў Мінскім статыстычным тэхнікуме. У 1962 г. скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў у Гродзенскай аўтатранспартнай канторы эканамістам. У 1968—1992 гг. — выкладчык Гродзенскага хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы для дзяцей «Носорог занемог» (1997), «Вольница» (2000), «Захотелось стать птицей» (2005), «Азбука в картинках» (1999), «От нуля до девяти» (2000), «Скороговорки» (1998—1999, тры зборнікі), «Загадки» (1998, два зборнікі), «Забавные зверята» (2000), «Коса с белым бантом» (2006), «Струны детской души» (2007).

**Гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада,** (да 1923 г. — Вызна), цэнтр сельсавета

У Чырвонаслабадской сярэдняй школе працуе музей «Пісьменнікі Салігоршчыны».

**Залескага Браніслава** (21.6.1820—2.1.1880), польскага і беларускага мастака, пісьменніка, радзіма. За ўдзел у нелегальных студэнцкіх гуртках у час вучобы ў Дэрпцкім універсітэце (1840-я гг.) у 1846 г. арыштаваны, у 1847 г. сасланы ў Арэнбург, потым у Хіву (Туркестан). Разам з Т. Шаўчэнкам (перапісваўся з ім у 1853—1859 гг.) удзельнічаў як мастак у экспедыцыях па Аральскім краі і ў горы Каратау. У 1856 г. вярнуўся на радзіму, у в. Рачкавічы, дзе стварыў шэраг пейзажаў. Жыў у в. Дарава каля Баранавічаў, у Мінску, каля Гродна (1857—1859). Рабіў малюнкі да «Віленскага альбома» Я. Вільчынскага, які выдаваўся ў 1848—1860-я гады. У пачатку 1860-х гадоў эміграваў за мяжу (Дрэздэн, Рым, Парыж). Памагаў паўстанцам у закупцы зброі. Сакратар гісторыка-культурнага таварыства і рэдактар яго «Штогоднікаў» (з 1866, Парыж), выпусціў ілюстраванае (22 афорты) выданне «Жыццё кіргізскіх стэпаў» (1865), «Польскія выгнаннікі ў Арэнбургу» (1866), а таксама ўспаміны пра сучаснікаў. Аўтар прац «Адмена прыгонніцтва ў Літве» (1868), «З жыцця літвінкі» (пра мастачку А. Скірмунт, 1876) і інш. Стварыў шэраг малюнкаў пра паўстанне 1863—1864 гг., пейзажаў.

**Чадовіча Мікалая** (н. 29.10.1948), пісьменніка, радзіма. Закончыў Маскоўскі інстытут сувязі. Працаваў у тралейбусным упраўленні і ў мінскім выдавецтве «Эрыдан». Друкуецца з 1983 г. Піша на рускай мове. Лаўрэат прэміі за лепшую публікацыю года часопіса «Нёман» (1984). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі выдавецтва «Юнацтва» (1987). Аўтар раманаў «Евангелле ад Цімафея» (1991), «Клінкі максараў» (1994), «Бастыёны Дзіта» (1996), «Паміж плахай і сякерай» (1998), «Трэскі плахі, асколкі сякеры» (1999), «Губіцель максараў» (2000), «Дысбат» (2000), «Грамадзянін Перадісподняй» (2000), «Жыццё Косці Жмуркіна, ці Геній дрэннанораўнага кахання» (2001), «Цвік у галаве» (2002), «Вораг за Гімалаямі» (2003), «Першыя крокі па сцежцы: Злы кацёл» (2004), «Гаспадары Астрога» (2004), «Асобы аддзел» (2005), «Асобы аддзел і трынаццаты вопыт» (2005), «Асобы аддзел і вока д'ябла» (2006), «Асобы аддзел і попел каўчэга» (2006), шэраг аповесцей і апавяданняў, зборнікаў. Усе кнігі напісаны ў суаўтарстве з **Юрыем Брайдэрам**, ураджэнцам г. *Дзяржынск*. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Прыднястроўя (1993), лаўрэат жанравых прэмій «Странник» за лепшую публікацыю года (1990 і 2003 гг.).

**Вёска Яскавічы**, цэнтр сельсавета

Сюды ў 1825 г. пераехалі бацькі **Сыракомлі Уладзіслава**, паэта, пісьменніка, ураджэнца в. *Смольгаў* Любанскага р-на, калі будучаму паэту не споўнілася і двух гадоў. «Першая мясціна, якую памятаю, — прыгадваў паэт, — гэта Яскавічы, фальварак на Палессі, які мой бацька тады трымаў — цяжка было не запомніць, бо палескія краявіды гэткія характэрныя... Яшчэ перад маімі вачыма, дакладней, ва ўяўленні стаіць, як мы аднойчы доўга-доўга плылі на чоўне між чаротаў і лазы — пад намі быў залацісты пясок, а побач ляталі смелыя ясназялёныя стракозы».

## СЛУЦКІ РАЁН

### Горад Слуцк

**Слуцкая бібліятэка Радзівілаў**

Яе асновай з'явілася бібліятэка князёў Алелькавічаў, ранейшых уладальнікаў Слуцка. Слуцкая бібліятэка была пакінута ў спадчыну **Багуславам Радзівілам** яго праўнучатаму пляменніку Фрыдрыху-Вільгельму з умовай, што кнігі будуць перададзены ў Кёнігсберскую бібліятэку герцага.

У 1673 г. у Кёнігсбергу ў друкарні Фрыдэрыка Ройзнера надрукавалі ў 2-х тамах каталог кніг Слуцкай бібліятэкі, які дае нам уяўленне пра яе багацце. Склаў каталог і напісаў да яго ўводзіны бібліятэкар герцага доктар тэалогіі Марцін Сільвестр Грабэ.

У 1672 г. з Мітавы (Елгава) сюды была перавезена друкарня, якая належала Радзівілам. У 1673—1687 гг. тут былі выдадзены 23 кнігі агульным тыражом 24 200 экзэмпляраў.

**Слуцкая гімназія (цяпер сярэдняя школа № 1)**

Заснавана ў 1617 г. як кальвінская навучальная ўстанова. Мела шырокую вядомасць.

У пачатку 70-х гадоў XX ст. вядомы лацініст Якаў Парэцкі выявіў «Статут Слуцкага ліцэя», выдадзены на лацінскай мове ў Любчы ў 1628 г. Даследчыца Ю. Прэнская адшукала ў Кракаве «Слуцкі кампендыум па рыторыцы», выдадзены ў Любчы на лацінскай мове прыкладна ў 1629—1631 гг.

Ля калыскі Слуцкай гімназіі стаялі выдатныя педагогі Андрэй Дабранскі, Адам Рэйнгальд і Андрэй Музоній. Гэты педагагічны трыумвірат у 1628 г. склаў «Статут Слуцкага ліцэя», які з'явіўся новым словам у беларускай педагогіцы. У Слуцкай гімназіі вучыліся паэт і філосаф (дакладнае месца нараджэння невядома) **Белабоцкі Андрэй** (пазней ён быў кальвінскім прапаведнікам у Слуцку), асветнік і кнігавыдавец, ураджэнец Міншчыны (дакладнае месца невядома) **Капіевіч Ілья** (яшчэ у час навучання ў школе Ілья заняў тут у 1674 г. пасаду лектара (настаўніка малодшых класаў)), пісьменнік і журналіст, ураджэнец в. *Замосце* сучаснага Слуцкага р-на **Плуг Адам,** пісьменнік, ураджэнец г. *Слуцка* **Дыла Язэп,** біяхімік і паэт, ураджэнец в. *Машчыцы* Слуцкага р-на **Вечар Алесь,** пісьменнік, мовазнавец, ураджэнец в. *Чапліцы* Слуцкага р-на **Лобан Мікола** і інш. Тут вучыўся **Ярэміч А.**, вядомы хірург, галоўны доктар прыватнай бальніцы Елісеевых пад Пецярбургам. Ён надрукаваў на свае сродкі зборнік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця», які аўтар прысвяціў Ярэмічу.

У Слуцкай гімназіі існаваў гурток самаадукацыі. Яго ўдзельнікі выдалі ў Прусіі (Тыльзіт) на гектографе брашуру «Дзядзька Антон» (1-ы слуцкі варыянт называўся «Бацька Шыман»). Летам 1923 г. у будынку школы былі настаўніцкія курсы па беларусазнаўстве. Лекцыі па методыцы выкладання роднай мовы чытаў **Якуб Колас.** Да гэтага паэт быў у Слуцку ў 1921 г. У 1967 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар 350-годдзя гімназіі.

**Слуцкі Траецкі манастыр**

У XIV—XV стст. тут працавалі слуцкія летапісцы, пахаваны ўраджэнец Беларусі епіскап Казачынскі, які шмат рабіў для асветы народаў Югаславіі.

**Сярэдняя школа № 8**

Тут існуе літаратурны музей, прысвечаны творчасці пісьменнікаў-землякоў. Стварыў яго настаўнік беларускай мовы і літаратуры Мікалай Хілько. У музеі ёсць каштоўныя экспанаты — два нідзе дагэтуль не апублікаваныя лісты **Кузьмы Чорнага** да сястры М. Раманоўскай у Цімкавічы (жнівень 1944 г.). Жыў тады пісьменнік у Маскве, па вул. М. Горкага ў гасцініцы «Явар» і вельмі сумаваў па Случчыне.

**Вуліца Вечаркевіча**

Тут размяшчалася 1-я беларуская гімназія. У ёй вучыўся **Скрыган Янка**, пісьменнік, ураджэнец в. *Труханавічы* Клецкага р-на. Апісаў яе ў апавяданні «След гумавых шын».

**Вуліца Леніна, 171**

**Слуцкі краязнаўчы музей**

Тут захоўваецца кніга **Астрэйкі Анатоля,** паэта, перакладчыка, ураджэнца в. *Пясочнае* Капыльскага р-на, «Слуцкі пояс», якая выйшла ў партызанскім падполлі. Ёсць матэрыялы пра **Дылу Язэпа, Шантыра Фабіяна**. Ёсць іх фотаздымкі, рукапіс, зборнік твораў Я. Дылы, асабістыя рэчы пісьменніка.

**Вуліца К. Лібкнехта, 45**

**Слуцкае медычнае вучылішча**

Раней, да 1840 г., тут знаходзілася Мінская духоўная семінарыя. У вучылішчы ў 1837—1843 гг. вучыўся **Шпілеўскі Павел,** этнограф, пісьменнік, публіцыст, перакладчык, ураджэнец в. *Шыпілавічы* Любанскага р-на Мінскай вобл.

**Вуліца Р. Люксембург** (былая Іванаўская), **25**

Тут у доме Федаровічаў жыў на кватэры **Абуховіч Альгерд,** пісьменнік, ураджэнец в. *Калацічы* Бабруйскага павета (цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл.). Ён трапіў у Слуцк, парваўшы з сям'ёй, якая не падзяляла яго дэмакратычныя погляды (хацеў раздаць зямлю сялянам). Спачатку жыў у свайго прыяцеля ў маёнтку Курганы, потым перабраўся ў Слуцк. Даваў прыватныя ўрокі.

**Вуліца Піянерская**

**Масласырбаза** (да 1925 г. — Слуцкі акруговы ваенкамат). Тут у 1921 г. працаваў **Чорны Кузьма,** пісьменнік, ураджэнец в. *Боркі* гэтага ж р-на.

**Вуліца 14 партызан**

На могілках знаходзіцца магіла **Абуховіча Альгерда**.

* * *

Падчас вайны дзейнічала слуцкая падпольная друкарня, дзе выходзіла газета «Патрыёт Радзімы» (потым — «Народны мсцівец»), друкаваліся вершы.

З 1937 па 1939 г. у Слуцкім педагагічным вучылішчы беларускую літаратуру выкладаў **Агіевіч Уладзімір,** крытык і літаратуразнаўца, ураджэнец в. *Пухавічы* Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл.

**Бабарэка Адам,** пісьменнік, ураджэнец в. *Слабада-Кучынка* Капыльскага р-на, вучыўся ў Слуцкай бурсе. У 1920-х гадах загадваў аддзелам народнай асветы. Настаўнічаў у вясковых школах Случчыны.

**Буркін Алег** (н. 17.4.1963), ураджэнец г. Омска, рускі паэт, жыве тут. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. З 1988 г. працуе ў рэдакцыі мясцовай газеты «Капітал». Аўтар зборнікаў «Шлях жыццёвы прайшоўшы да сярэдзіны» (1999), «Горай за вайну» (2008), аповесцей «Сузор'е бульбы» (1988), «У паход на чужую краіну збіраецца кароль» (2000), кінасцэнарыяў.

**Гаўрука Юркі** (23.4(6.5).1905—18.2.1979), перакладчыка і паэта, радзіма. У 1921 г. скончыў у Слуцку школу другой ступені, затым Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя Брусава (1925). З 1925 г. працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, з 1931 г. — у Магілёўскім педінстытуце. Рэпрэсіраваны 8.2.1935 г., высланы з Беларусі. Больш як 20 гадоў працаваў на Поўначы і ва Усходняй Сібіры. Рэабілітаваны ў 1956 г. У 1957—1967 гг. загадваў літаратурнай часткай Беларускага тэатра імя Янкі Купалы. Дэбютаваў перакладамі вершаў Г. Гейнэ і камедыі У. Шэкспіра «Сон у летнюю ноч» (1925, для Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве). Перакладаў на беларускую мову з англійскай, нямецкай, рускай, украінскай моў, на рускую мову творы беларускіх пісьменнікаў. Выступаў як паэт (зборнікі «Іскры з крэмня», 1969; «Узвіхраны ветразь», 1990). У 1924 г. Ю. Гаўрук ездзіў па вёсках Случчыны, запісваючы народныя песні і казкі, праз год выйшла першая кніжка яго падарожных нарысаў «Вясковыя рыскі». Ён — аўтар першай у Беларусі кнігі паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў» (1928), артыкулаў па пытаннях мастацкага перакладу (зборнік «Ступень адказнасці», 1986), кнігі «Агні ў прасторах: Выбраныя пераклады» (1975).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары***

# Бярозка

№ 4/2012(1007)







**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**







# Творы вучняў ліцэя № 1 г. Мінска

## Беларусь — мая Радзіма

Беларусь... Як шмат значыць гэтае слова для нас — яе дзяцей. Гэта і родныя, знаёмыя з дзяцінства краявіды, і прыгожыя, працавітыя, сціплыя людзі. Гэта і родны дом, у якім нарадзіўся, і маміна мова, і сцежка, па якой пайшоў упершыню, і клёкат буслоў...

Жывём мы на гэтай чароўнай, багатай зямлі і за штодзённымі клопатамі не заўважаем яе хараства, прывыкаем да ўсёй гэтай прыгажосці. І па-сапраўднаму адчуваем Радзіму толькі ўдалечыні ад яе. Як хочацца тады пачуць гучанне роднай мовы, удыхнуць роднае паветра.

Радзіма — не толькі тэрыторыя, дзе нарадзіўся і жыве чалавек, а гістарычная, культурная спадчына яго народа. Беларусь — зямля нашых продкаў, багатая на падзеі і імёны. Асновай жа духоўнага скарбу людзей, іх творчасці з'яўляецца мова. Яна не толькі сродак зносін, але і жывая гісторыя, бо ў ёй знайшлі адлюстраванне ўсе падзеі чалавечага жыцця.

*Яна ШЭБЕКА*

* * *

***Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..***

Францішак БАГУШЭВІЧ

Бядота жудасная здарылася з намі:
Мы беларусы толькі напалову.
Жывём у родным сваім краі,
Не ведаючы роднай сваёй мовы.

Не ведаем, як гучна і прыгожа
Гаворка беларуская ліецца,
І не жадаем здзейсніць падарожжа
За ёй ва ўласнае разгубленае сэрца.

Але зрабіць нам неабходна гэта,
Бо нельга жыць без роднай мовы ў свеце.
Такі загад быў дадзены паэтам:
Нам трэба мову ўспомніць, каб не ўмерці.

* * *

Жыццё — бясконцае чаканне.
Чакаюць нечага усе,
І кожны дзень, пачаўшы зрання,
І кожну ноч, нават у сне.
Адзін чакае свайго шчасця,
Здзяйснення сноў, здзяйснення мар.
Ды колькі шчэ яму чакаці?
Ці шчасце — гэта не падман?

А іншы ведае, напэўна:
Даўно прадвызначаны лёс.
Чакае ён падзеі пэўнай.
Чакае радасці і слёз.

Я не жадаю сабе раю,
Яго не здзейсніць на зямлі.
Свайго я лёсу не чакаю —
Я здольны сам усё змяніць!

***Андрэй К.***

* * *

Мне хочацца плыць па жыцці, як па хвалях,
І бачыць бляск зорак у кроплях вады,
Узняцца да неба на сініх скрыжалях,
Не чуць, як ляцяць маладыя гады.

Вось толькі чаму так заўсёды бывае?
Няпроста забыць мне хвіліну адну.
Я бачу, як хваля мая адплывае —
Цягнуся за ёю... Я не патану.

***Сяргей ЗАВАРЫН***

## Роздум

Кожную ноч у небе з'яўляўся Месяц. Ён уважліва сачыў за людзьмі і ніяк не мог зразумець, чаму яны ўвесь час спяшаюцца.

— Людзі проста нічога не ведаюць пра жыццё. Яны не шануюць кожнае імгненне, як мы! — тлумачылі Зоркі ў небе.

Месяцу гэты адказ не спадабаўся. Ён хацеў сам запытацца, але Зямля была так далёка.

А на гэтай зямлі жыла маленькая дзяўчынка. Бацькоў і сяброў у яе не было; дома, у які б яна заўсёды магла прыйсці, таксама не было. І ўвесь свет здаваўся ёй такім няўтульным і халодным. Але кожны вечар яна дзякавала Богу за дзень. І засынала са слязьмі на маленькім бледным тварыку, а вусны дзіцяці шапталі словы малітвы.

У гэты год на Зямлі было вельмі холадна. У адну ноч загінула маленькая дзяўчынка. Але свет не змяніўся: людзі спяшаліся далей.

Неба заплакала.

— Чаму ты плачаш? — запытаўся Месяц.

— Таму, што гэта малая істота загінула і цяпер не будзе адчуваць ні цяпла, ні холаду, ні радасці, ні страху.

Раптам Месяц убачыў нешта падобнае да знічкі, але трошкі большае.

— Хто ты? — спытаў ён.

— Я душа.

— Напэўна, ты ведаеш, чаму людзі заўсёды спяшаюцца! — узрадаваўся Месяц.

— Так, я ведаю. Гэта жыццё. Яно вельмі падобна да зорак. Але бываюць людзі, жыццё якіх больш падобна да Леанідаў або да камет.

— А потым?

— А потым жыццё скончыцца, і ўсе яны паляцяць да неба. Вось і мне ўжо трэба ляцець.

— Затрымайся, калі ласка! Раскажы мне пра жыццё, пра людзей і душы.
Але душа ўжо знікла ў небе.

А Месяц застаўся жыць яшчэ на мільёны гадоў.

*Марта ДЗЯБЁЛА*



# Інстытут незвычайных асоб




## Сядзіба Герцэна

Будынак Літаратурнага інстытута знаходзіцца на сядзібе Герцэна. Гэта самы цэнтр Масквы, Цвярскі бульвар, 25. Пасля аўтамабільных пробак, макдональдсаў, чарговага мітынгу на Пушкінскай плошчы вы трапляеце ў маленькі зялёны двор з помнікам Герцэну, зарослым травой футбольным полем і закрытымі рамонтнай сеткай антычнымі скульптурамі на класіцыстычным франтоне. Інстытут сустракае вас не тое каб парадна, хутчэй як ёсць: савецкай прахласцю, знешняй непрыбранасцю. Дзе-нідзе косяцца прыступкі, электронны гадзіннік пастаянна збіваецца, спрачаючыся з сонечным святлом. Нехта грае на крыху расстроеным фартэпіяна, нехта не прапускае вас у вузкія дзверы, а нехта ўжо вітаецца, таму што ў Літінстытуце прынята вітацца з тымі, каго не ведаеш. Вы бачыце імянную аўдыторыю, уваходзіце і не знаходзіце там нічога асаблівага, акрамя партрэта. Там часта няма нават фіранак, а крэйда толькі рыпіць, але зусім не піша па старой дошцы. У двары ў траўні — таполевы пух, узімку — горы снегу. На ганку і любой лаўцы вас ахіне цыгарэтным дымам, затое вы пачуеце шмат цікавых гутарак: пра тугу Авідзія, аповесць з суседняга семінара, пра берагі Нявы, пра Усясветны сабор чацвёртага стагоддзя...

## Навучанне

У пісьменнікаў «зрэнка ўнутр», і лекцыі тут чытаюць вусна, без праектараў, прэзентацый, хіба што са старажытнай картай на дошцы ці з мноствам кніг, прынесеных з сабою. Гэта часам называюць тут «ад сэрца да сэрца». Калі студэнт сядае за дальнюю парту, то часта для таго, каб пачытаць. І цалкам верагодна, што вы пачуеце такі дыялог:

— Што вы чытаеце на маіх занятках?

— Пушкіна.

— Што ж... Ці можна выгнаць за Пушкіна!

Але бывае і інакш: студэнт сядае «на галёрку» і, калі раптам чуе:

— Усё. Вы вольныя. Зрэшты, як і заўсёды, — няўцямна глядзіць на сваю так і не раскрытую кнігу.



*Творчая атэстацыя студэнтаў.*

Большасць лекцый тут чытаюць лепшыя прафесары ў сваіх галінах — сумленна, з павагаю, з агеньчыкам, за зусім не вялікія грошы.

Канешне, ёсць і сумныя, «мёртвыя» заняткі, на якія хадзіць не хочацца — як у кожнай ВНУ. Але пра іх і пісаць не хочацца. І знойдуцца людзі, якія скажуць вам, што Літінстытут ужо не той, што калісьці быў, што вучаць там хутчэй на чытачоў, чым на пісьменнікаў...

Вам сапраўды ў Літінстытуце ніхто не скажа, «як пісаць». Калі вы спытаеце — адкажуць, што ніхто не ведае і няма такой кнігі, дзе пра гэта можна прачытаць. «Выхоўвайце густ», «вучыцеся на добрых і дрэнных прыкладах», «вывучайце мову» і «пішыце паболей» — хто ж гэтага не ведае? Але менавіта так, крок за крокам, і адбываецца тут навучанне: пачынаючы са старажытных літаратур і латыні, старaславянскай мовы і дыялекталогіі... Вас нібыта ва ўсе бакі развіваюць (ва ўсе непрактычныя бакі, трэба зазначыць), вам сапраўды выхоўваюць густ, і на чацвёртым курсе, калі вы дойдзеце да горача жаданай на першым стылістыкі, вы можаце раптам зразумець, што ўсё гэта ўжо адчуваеце падсвядома.

## Семінары

Па аўторках у Літінстытуце няма звычайных заняткаў, гэта дзень творчых семінараў. Гэтую сістэму можна параўнаць з тэатральнымі ВНУ: ёсць семінар (проза, драматургія, дзіцячая літаратура, крытыка, паэзія, нарыс і публіцыстыка, мастацкі пераклад), і ёсць майстар гэтага семінара. Кожны аўторак вы збіраецеся разам і абмяркоўваеце чыйсьці твор, падборку, эцюд. Абмеркаванні праходзяць па-рознаму, у кожнага семінара тут свой статут. Напрыклад, могуць назначацца галоўныя апаненты, пісацца рэцэнзіі, аўтару можа быць дазволена ці забаронена гаварыць (зыходзячы з таго, што «калі вы выдалі кнігу — вам няма больш чаго дадаць»), на аўтара могуць напісаць пародыю і іншае. Студэнты могуць наведваць не толькі свой семінар, але хадзіць і на любы іншы, хоць увесь аўторак з раніцы да вечара.

У Літаратурным інстытуце няма гучных імёнаў майстроў. Яны не прадаюцца мільённымі тыражамі. З найбольш вядомых аўтараў — Яўген Рэйн, Алеся Нікалаева, Віктар Малягін. Майстры часцей за ўсё старыя, даўно сівыя. І толькі першы, зманлівы погляд сумняваецца ў іх кваліфікацыі. Праз год-другі вучобы ў іх задума інстытута раптам адкрываецца ўнутранаму позірку скрупулёзнага студэнта.

## Інтэрнат

Жывуць іншагароднія (і іншаземныя) студэнты ў інтэрнаце на Дабралюбава, у якім жылі калісьці і Мікалай Рубцоў, і Уладзімір Караткевіч, і Валянцін Акудовіч. У гэтым інтэрнаце ў спартыўнай зале вісіць баксёрская груша і стаіць піяніна, прыбіральшчыца вучыцца на паэзіі, а электрык — на нарысе і публіцыстыцы. У каго ў пакоі партрэт Пушкіна ці Блока — таму пашчасціла. Калі пішуць аб'явы, то з інверсіямі і free вершавана, калі гуляюць, то ў «тайнага анёла» ці ў «тайнага дэмана». У чатыры гадзіны раніцы можа быць адчынена бібліятэка (у інтэрнаце яна свая), можна стаць першым слухачом якой-небудзь новай паэмы ці спрачацца ў курылцы: «Горкі? Ды хто такі Горкі!»

Першакурснікі традыцыйна ад усіх астатніх адрозніваюцца. На першым курсе шмат фрыкаў, нефармалаў любых напрамкаў, рознакаляровых валасоў, дзіўнага адзення, незразумелай мовы. Хлопец з пафарбаванымі пазногцямі і вейкамі можа трымаць у руках томік Гумілёва, а татуіраваная дзяўчына — чытаць антычную літаратуру ў чарзе ў душ. Да другога-трэцяга курса ўсе неяк выроўніваюцца, развіваючы цяпер хутчэй сваю ўнутраную, а не знешнюю арыгінальнасць. Але да любога вобраза выкладчык ставіцца спакойна. Як, жартуючы, тлумачыў гэта былы рэктар: «А раптам геній літаратуры?»

## Паступленне

У Літаратурным інстытуце цяпер няма тых вар'яцкіх конкурсаў, што былі ў часы Савецкага Саюза. І паступаць цяпер можна адразу пасля школы — рэформа адукацыі не ўлічвае творчую спецыфіку ВНУ, таму сярэдні студэнт адчувальна «памаладзеў». Хаця ў Ліце па-ранейшаму можна сустрэць і трыццаці-, і саракагадовых студэнтаў. На іх глядзяць (калі ўсё ж задумаюцца пра іх узрост) з павагай і лёгкай зайздрасцю — бо ў іх і жыццёвы досвед, і куды больш пісьменніцкай практыкі. На завочным аддзяленні вучацца і студэнты з сівізной — гэтым тут нікога не здзівіш. Сюды часцей прыходзяць па адукацыю, а не па спецыяльнасць, згодна з поклічам сэрца, згодна з марай, як бы гэта ні гучала наіўна. Больш перспектыўна, але куды менш творча паступаць на мастацкі пераклад: перакладчыкі і выглядаюць тут інакш, і знаходзяцца «трошкі глыбей у рэальнасці».

Паступленне складаецца з двух этапаў, што вельмі зручна для тых, хто «сумняваецца». Спачатку аўтары дасылаюць свае творы, а майстры і студэнты старэйшых курсаў чытаюць іх і пішуць рэцэнзіі. Вывешваецца спіс — тых, хто прайшоў завочны тур і запрашаецца на іспыты. І толькі пасля — самі іспыты, два з якіх творчыя — эцюд (шмат у чым дзеля таго, каб пацвердзіць, што вы сапраўды аўтар дасланага рукапісу) і творчае сумоўе ў самым канцы. Дасылаць творы можна на некалькі напрамкаў адначасова. Канешне, самы вялікі конкурс у інстытуце на паэзію і прозу, а, напрыклад, на дзіцячую літаратуру ці нарыс і публіцыстыку яго амаль няма.

Ніхто не адмаўляе долі суб'ектыўнасці ў адборы будучых студэнтаў — бо ў кожнага майстра свае густы. Але справа бывае нават не ў гусце, а ў тым, што майстар бачыць, каму ён можа нешта «даць», а каму не. Шмат хто паступае

не з першага разу, і бывае, як і ў тэатральных ВНУ, адзін год — прапаў, другі год — пан.

Беларусы ў Літінстытут паступаюць на агульных падставах і маюць права вучыцца бясплатна. Адзіная розніца: калі ў вас ёсць медаль, яго ўсё роўна не залічаць, плюс, калі вы паступіце, ніхто не зробіць вам медыцынскі поліс, і вам давядзецца ці набыць яго, ці хварэць без даведак.

З беларускіх літаратараў у розны час у Літінстытуце вучыліся Уладзімір Караткевіч, Валянцін Акудовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Людміла Рублеўская, Раіса Баравікова і іншыя.

## Розныя факты

У Ліце ёсць дзве версіі таго, чаму выгналі Пялевіна: афіцыйная версія і версія першакурснікаў.

Абсалютна рэальны тэкст загада былога рэктара Есіна: «Предупредить Малых А., что в случае любовного продолжения той свиной обстановки, которую он создал в комнате общежития, — он будет жить на вокзале». Ці: «За пребывание в институте в нетрезвом виде объявить строгий выговор и предупредить, что в следующий раз за любой проступок они будут отчислены из института. О зеркале пока умолчу».

Інстытут маленькі, хатні — у вас не просяць студэнцкі білет ні ў бібліятэцы, ні нават калі выдаюць стыпендыю.

У Літінстытуце ёсць цудоўная кніжная крамка, маленькая, але сапраўды поўная скарбаў. На ўваходзе вісіць цыдулка: «Не хлопайце дзвярыма, іначай рухне сцяна».

Цяжка знайсці ў гэтым інстытуце хлопца, які змог бы адрамантаваць камп'ютар ці збіць палічку для абутку ў інтэрнаце. У мяне быў такі сусед, яго адлічылі пасля першага курса. А вось дзяўчаты-праграмісты сустракаюцца!

Вельмі часта ў інтэрнаце перастаюць працаваць пральныя машыны. І калі іх доўга не рамантуюць, студэнты пачынаюць насіць тую вопратку, якую звычайна не носяць. Так фрыкі становяцца звычайнымі людзьмі, а звычайныя людзі — фрыкамі.

Студэнты ветраныя і часта «не ад гэтага свету», таму іх тут бясплатна кормяць цёця Тоня і дзядзя Міша. Кожную сераду і пятніцу, асабліва ў пост, у іх ёсць посная ежа.

Першы спектакль, які паставіў тэатр інстытута, быў паводле «Аблокаў» Арыстафана.

Калі я паступала ў Літінстытут, то ўжо на першай кансультацыі пачула тое, чым, думаю, дарэчна было б скончыць гэты артыкул: «Вучыцца ў Літінстытуце — гэта значыць абраць жабрацкую, але цудоўную прафесію. Калі вы паступіце — я віншую вас. Калі не — скажыце сабе: “Як мне пашчасціла ў жыцці”».

*Кацярына ЮРКЕВІЧ*

# Адрозныя малюнкі нашых лёсаў

***Чужы досвед назаўжды застаецца чужым досведам. І паўтарыць яго немагчыма. Але ж гэта цікава: як пражываюць сваё жыццё людзі вакол? І хаця лёс іншага — не твой лёс, падказкі, адказы на ўнутраныя пытанні раскіданы паўсюль.***

***Я звярнулася да людзей свайго пакалення: тых, хто ўжо адолеў не заўжды простыя дзянькі выбару прафесіі. Гарачанькае абітурыенцтва, непаўторнае студэнцтва — успаміны! Дарослае жыццё — з зарплатай, а не са стыпендыяй, без хатніх заданняў, адзнак і іспытаў, з чарадой працоўных дзён падобнай формы распачалося нядаўна. І як жа яно складвалася? Ды па-рознаму!***

## Гісторыя № 1: пра тое, як Ірына стала журналістам. Хаця і не была тым, хто піша...



Аднойчы, у студэнцкія гады, я пачала адчуваць, што мая аднагрупніца Ірына Машэзава захапляльная асоба. Мяне натхнялі яе энергічнасць, смеласць і мэтанакіраванасць. Ну, самі ведаеце такіх людзей! Цяпер Ірына жыве ў Санкт-Пецярбургу і працуе не дзе-небудзь, а па спецыяльнасці — журналістам у піцерскай газеце. І, у цэлым, сваім лёсам задаволена.

— Да ўступнай кампаніі заставаліся два месяцы. Я перажывала, не магла выбраць, чым займацца ў будучыні. Аднойчы ўвечары, седзячы перад тэлевізарам і гартаючы кніжку са спісам ВНУ, я ў адчаі запыталася ў бацькоў: «Ну, і куды ж мне паступаць?» Тата, доўга не думаючы, адказаў: «Паступай на журфак». Я не прыняла гэтую прапанову. Як я магу стаць журналістам? Для мяне гэта было проста нерэальным, да таго ж я не разглядала для сябе перспектыву стаць чалавекам, які нешта піша. Але раніцай я прачнулася з пачуццём, што менавіта ў гэтую прафесію мушу прыйсці. Стала рыхтавацца да іспытаў і друкавацца ў мясцовай прэсе. З першага разу на бюджэтнае я не паступіла. Юнацкі максімалізм мне сказаў: «Як гэта я буду вучыцца на платным?» З’ехала ў родны горад і там паступіла на гісторыка-філалагічны факультэт Полацкага ўніверсітэта. Але, адвучыўшыся крыху больш за тры месяцы, зразумела: не маё гэта. Ды і перспектыва стаць настаўнікам не прываблівала. Я забрала дакументы і стала рыхтавацца да паступлення на журфак. Паралельна супрацоўнічала адразу з некалькімі рэдакцыямі і па іх заданнях пісала матэрыялы. Вось так загарэлася ідэяй,ператварыла мару ў рэальнасць.

А потым мне тата сказаў, што сам калісьці марыў стаць журналістам і што ўва мне рэалізаваў сваё жаданне.

**— Некаторыя кажуць, што атрымліваць вышэйшую адукацыю патрэбна, каб пашыраць светапогляд. Пагодзішся?**

— Навучанне ва ўніверсітэце дае магчымасць раскрыць свае здольнасці: зразумець, ці можаш ты на сябе браць адказнасць, ці можаш прымаць рашэнні ў крытычных сітуацыях. Безумоўна, часам светапогляд не проста пашыраецца, але і цалкам змяняецца. Нават у працэсе навучання ты сутыкаешся з чымсьці новым. І калі падабаецца, то зацягвае. Менавіта ва ўніверсітэце я пазнаёмілася з усходняй філасофіяй, якая мяне вельмі захапіла. І цяпер яна сваімі пастулатамі і адносінамі да жыцця дапамагае мне вырашаць цяжкасці, што непазбежна здараюцца ў журналісцкай дзейнасці.



## Гісторыя № 2: пра тое, як Ганна стала актрысай. Хаця і не марыла...

З Ганнай Шыкуць, якая прыкметна тым, што рыжая, нас звязала школа. Цяпер Ганна здымаецца ў кіно і, скончыўшы Акадэмію мастацтваў, працуе актрысай у Тэатры беларускай драматургіі.

— Я не ведала, кім хачу быць. Ці поварам, ці цырульнікам, ці на мяжы служыць. Але вучылася ў музычным класе. Настаўнікі казалі, што ў мяне добры голас, і накіравалі паступаць у музычнае вучылішча імя Глінкі. Я туды паступіла. Але на платнае. Грошай як не было, так і не з'явілася. Адмовілася. Перажыла жахлівае лета: усе паступілі, а я — ніхто. Што рабіць?! Спрабавала працаваць. Афіцыянткай, сакратаром, яшчэ кімсьці. Нецікава. А ў жніўні мяне запрасілі паздымацца ў масоўцы для кіно. Вось гэта аказалася цікава! І ў вучылішча мяне ўсё ж такі ўзялі бясплатна! Камісія, аказалася, памылілася. Маўляў, яны вельмі хацелі мяне ўзяць, але нейкія невядомыя ім сілы перашкодзілі, чаму яны самі не рады. У гэты ж самы час (ужо нават не памятаю, хто той добры чалавек) мне параілі народны тэатр «Жывая Планета». Прыйшла, абсалютна не ўяўляючы, што такое тэатр. І засталася. Даведалася шмат карыснага і нават неабходнага ў прафесіі, пра што потым, у Акадэміі мастацтваў, нават і не пачула. Так год пасля сканчэння школы і прайшоў: масоўкі ў кіно, тэатр, вакал у вучылішчы.

Актрысай, як і прынцэсай, быць не хацела ніколі. Заўжды думала, што акцёрамі становяцца толькі дзеці мам-актрыс і тат-рэжысёраў. У мяне звычайныя цудоўныя працоўныя бацькі... Ды і ніколі неназіралася ні схільнасцей,

ні прагі да гэтай дзейнасці. Аднак у той час, аналізуючы пражыты пасля школы год і робячы высновы, я зразумела, што ўсе магчымасці, усе сюрпрызы, нават самыя нечаканыя, якія прыносіць лёс, трэба выкарыстоўваць. Былі пакуты выбару: Акадэмія і акцёрства (што мне цьмяна ўяўлялася нават у марах) альбо вучэльня і вакал, дзе я ўжо ўпэўнена сябе адчувала, ведаючы свае здольнасці і магчымасці. Карацей, я паступіла ў Акадэмію — і стала актрысай.

## Гісторыя № 3: пра тое, як гуманітарый Алесь трапіў у тэхнічны ўніверсітэт



З Алесем Герасіменкам мы пазнаёміліся ў сеціве — на форуме беларускамоўнай моладзі. Я захаплялася яго разгорнутымі развažаннямі і разумела, што чалавек ён з творчым мысленнем.

У школе выдатнікам быў: і нават не таму, што трэба добра вучыцца, а таму што — цікава! Салодкай калыханкай сталіся такія прадметы, як геаграфія і гісторыя. Карацей, таленавіты гуманітарый. І з гэткім розумам — у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Вядома, нешта не тое...

— Я паступіў у тэхнічны ўніверсітэт, не пабачыўшы добра, што ў назве будучай спецыяльнасці значыцца «матэматык, сістэмны праграміст». Не тое, каб мне не падабалася ў тэхнічным універсітэце. Проста хацелася нечага гуманітарнага: размоў пра Канта, дыскусій пра будучыню паўночнаатлантычнай супольнасці. Было шмат markнага праграмавання, якое патрабавала багата часу, а мілай сэрцу эканомікі, філасофіі і культуралогіі мала... Таму навучанне часам адбывалася даволі нервова і, бывала, пакутліва.

Алесь недавучыўся да канца на дзённым. І, нягледзячы на супярэчнасці з бацькамі, перавёўся на завочнае. Паступіў на факультэт паліталогіі ў Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт.

— Цяпер я крыху карыстаюся тымі ведамі, што атрымаў у БДУІРы. Дакладней, спалучаю іх з іншымі, якія спазнаю падчас цяперашняга навучання. Атрымалася досыць грымучая сумесь — паліталагічна-матэматычна-праграміcцкая адукацыя. Але і ўнікальная, асабліва калі да яе дадаць яшчэ крыху ведання моў. Бо калі пачынаеш працаваць, то важнымі становяцца не паперкі, дзе напісана, хто ты, а тое, што ты можаш зрабіць і як гэта можаш падаць. У нейкім сэнсе я, канешне, памыліўся. Але памыліцца можна. Галоўнае — здолець потым пераўзысці свае страхі, прызнаць памылку і выправіць яе.



## Гісторыя № 4: пра Дзіму, які кінуў універ і не пашкадаваў

Спачатку я пачытала livejournal Дзімы Бякіна. Асабіста мы пабачыліся на наступны дзень. Мяне ўразілі адкрытасць жыццю і інтарэс да людзей гэтага чалавека.

— Калі я быў абітурыентам, то фанацеў ад «Уладара пярсцёнкаў» і «Хобіта». Мой улюбёны пісьменнік быў лінгвістам. Я таксама вырашыў вывучаць мовы і лінгвістыку: паступіў на аддзяленне сучасных замежных моў факультэта міжнародных зносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Студэнцкія гады былі адначасова і сумнымі, і цікавымі. Існавалі такія дысцыпліны і выкладчыкі, якія мне вельмі падабаліся. Мовазнаўства, замежная літаратура, яўрэйскае Свяшчэннае пісанне Танах і старажытныя літаратуры Усходу. Сучасныя мовы здаваліся сумнымі, а вось іўрыт, лацінская, старажытнагрэчаская — падабаліся. Яны былі «ўваходам» у старажытную культуру.

**— Але ўніверсітэт ты кінуў, так і не атрымаўшы дыплом...**

— Мне не падабалася сістэма ў цэлым. Я такі чалавек, для якога свабода — вышэйшая каштоўнасць. Я ўжо ў школе адчуваў, што мне не хочацца штодзень наведваць заняткі і выконваць хатнія заданні. Мне было цікава вывучаць прадметы самому, займацца па сваёй праграме. Так я дасягаў большых вынікаў. Ва ўніверсітэце адчуваў сябе часткова як за кратамі. Тым больш, што на трэцім курсе старажытныя мовы скончыліся, цікавыя прадметы і выкладчыкі — таксама, і я зразумеў, што мяне тут больш нічога не трымае, і працягваць вучыцца далей было абсалютна сумна і бессэнсоўна. Таму і кінуў універсітэт. Для шкадавання няма часу. Ёсць дзеянне, жыццё...

**Аўтсайдараў не бывае! Бываюць розныя людзі і розныя лёсы. Разгубленасць змяняецца ўпэўненасцю. А той, хто імпэтна шукае, урэшце знаходзіць.**

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*



# Быць альбо не быць рэпетытару ў тваім жыцці?

***Калі я вучылася ў 11 класе, заўжды чула ад сваіх сяброў, што ў наш час без дапамогі рэпетытараў не паступіш, асабліва на бясплатнае навучанне.***

***Бацькі шукаюць для нас найлепшых рэпетытараў, марнуюць велізарную суму грошай, спрабуюць хоць чымсьці дапамагчы. Але, як паказвае практыка, нават тыя дзеці, якія ходзяць да прыватных настаўнікаў, не заўсёды паказваюць добры вынік на ўступных іспытах. І ўзнікае пытанне: ці варта наймаць рэпетытара?***

## Дыктоўкі добра пісала, а тэст «заваліла»

«Рэпетытар — гэта свайго роду трэнер, — кажа **Вольга Шэдрычава**, рэпетытар англійскай мовы. — Яго задача — удасканаліць навыкі вучня, раскласці веды “па палічках”, каб дзіцяці ўсё было зразумела».

У наш час знайсці патрэбнага рэпетытара проста. Існуе мноства агенцтваў і сайтаў, дзе вывешваюць свае абвесткі прыватныя настаўнікі. Іх можна сустрэць у газетах «Из рук в руки», «Работа для вас» і гэтак далей. Усе рэпетытары абяцаюць толькі станоўчы вынік, за добрую плату адпаведна. Але, як я казала раней, не заўсёды бацькі і дзеці застаюцца задаволены вынікамі на цэнтралізаваным тэсціраванні.

Я была абітурыенткай у 2011 годзе. І, вядома, па прыкладзе сваіх аднакласніц, наняла рэпетытара па рускай мове. За ўрок (а ён доўжыўся паўтары гадзіны) я плаціла адносна няшмат — усяго 10 тысяч беларускіх рублёў.

Мне падабалася займацца індывідуальна. Я стала шмат чаго разумець, «лапіла слабыя месцы» ў сваіх ведах, апярэджвала школьную праграму. І самае прыемнае тое, што дыктоўкі пісала на адны дзявяткі і дзясяткі. Карацей, вынік быў відавочны! Але вось толькі цэнтралізаванае тэсціраванне я чамусьці здала на 29 балаў. Вы не падумайце, я вельмі старалася, уважліва рабіла кожнае заданне, але... напісала на нізкі бал!..



## І ўсё-такі метад «тыку» дзейнічае!

Чаму ж так атрымліваецца? Працуеш з рэпетытарам, вучыш, пачынаеш нешта разумець, але ўсё роўна здаеш тэст не на той вынік, які чакаў!

У Пінску ў 2010 годзе праходзіла рэпетыцыйнае тэсціраванне. Яго вынікі здзівілі выкладчыкаў. Педагогі выявілі, што тыя хлопцы і дзяўчаты, якія ўпарта рыхтаваліся да паступлення, правалілі тэсты. Затое троечнікі набралі высокія балы.

Гэты выпадак можна растлумачыць тым, што чалавеку, які думае, уласціва сумненне: пакуль добрыя вучні разважалі над заданнем, троечнікі, хто з дапамогай інтуіцыі, хто метадам «тыку», выбіралі варыянт адказу.

Здаць тэсты няпроста, нават калі за плячыма не толькі сярэдняя школа, але і вышэйшая адукацыя ды немалы жыццёвы вопыт. «Я здавала ЦТ без падрыхтоўкі рэпетытараў і паступіла на бюджэтнае навучанне, — кажа **Іна Разанцава**, студэнтка 1 курса педагагічнага ўніверсітэта. — Але павінна сказаць, што тэсты — гэта фартуна. Часам трапляюцца такія пытанні, на якія ты не толькі не можаш адказаць, але нават не можаш зразумець, чаго ад цябе хочуць!»

## Веды — гэта веды!

Калі на цэнтралізаваным тэсціраванні лепш уключаць не свой мозг, а інтуіцыю, ці варта марнаваць грошы на прыватныя ўрокі?

«Вядома, у цэнтралізаваным тэсціраванні не абыдзешся без фактару "шанцавання", але ж не варта здымаць з рахункаў веды, — распавядае **Галіна Жук**, настаўніца матэматыкі ў школе № 1 г. п. Смілавічы. — Пры цяперашніх умовах паступлення лепш за ўсё наняць рэпетытара, але гэта толькі ў тым выпадку, калі ты не маеш сілы волі, якая, як мы ведаем, ёсць не ва ўсіх вучняў. Калі ты можаш пасадзіць сябе за стол, узяць кнігу і самастойна разабраць матэрыял, то рэпетытар табе не спатрэбіцца. Заняткі ў класе не заўсёды даюць магчымасць настаўніку засяродзіцца на нейкім адным вучні, а прыватныя ўрокі разлічаны толькі на адно дзіця. У такой цеснай атмасферы можна лёгка знайсці слабыя месцы вучня, дапамагчы выправіць яго памылкі і падцягнуць веды».

А яшчэ для таго, каб паразумнець, табе можа дапамагчы не толькі рэпетытар, але і школа. Акрамя звыклых урокаў ёсць яшчэ і факультатывы, на якіх ты можаш задаць любое пытанне па незразумелым табе матэрыяле. Галоўнае — не ленавацца і мацаваць, як спартсмен — цягліцы, сваю ўпартасць здабываць веды!

Жадаю ўсім абітурыентам 2012 года здаць ЦТ на выдатна!

*Марыя СЯЦКО,*
*18 гадоў,*
*фота аўтара*

● **Слоўнік-алоўнік**



# Багоўкі

**Баг*о*ўка** — «божая кароўка: жучок чырвонай, жоўтай або белай афарбоўкі з плямкамі».

**Багоўка** ў тваёй далоні.
Як кропля цёплая крыві.

***Уладзімір КАРАТКЕВІЧ***

Уявім для запамінання: сцяна, а на ёй напісана мелам, вялікімі літарамі — «**БАГ*О*ЎКА**». І багоўкі вакол паўсюдныя…

## Горад акупаваны багоўкамі

Тут рэдка сустрэнеш муху, трохі часцей, матылька, але **багоўкі** напрыканцы ліпеня — яны паўсюдна. На падаконні, на парэнчах, на старонках кніг, на мне: дзве на рукаве, адна ў валасах, яшчэ адна адольвае цяжкі шлях ад прарэху да калена. «Глядзі, **багоўка**!» — кажа дачка, працягваючы раскрытую далонь, і ў голасе дачкі ўжо не чуецца былога захаплення. Часам падаецца, што яны хрумсцяць пад нагамі, тыя **багоўкі**. Сама па сабе **багоўка** выклікае замілаванне, але ў такой колькасці баговак навокал ёсць нешта апакаліптычнае.

Седзячы на лаўцы ў парку, я вырашыў дакурыць рэшткі тытуню, што яшчэ заставаліся, паднёс да люлькі запалку і ў апошні момант заўважыў **багоўку**, якая сядзела ўнутры, бы агеньчык, застылы ў попеле.

***Альгерд БАХАРЭВІЧ***

Як толькі беларускі народ — у розных рэгіёнах нашай краіны, на розных дыялектах — не называе **багоўку**!

**Б*о*гава кар*о*ўка** і **б*о*гава цял*у*шка**, **андрэйка-салав*е*йка**, **андрэйка-бажок**, **каз*у*лька**, **п*о*лік**, **б*о*брык**, **карбач*о*к**, **анц*ю*н-паланц*ю*н**, **п*е*дурка-с*е*дурка**, **ляп*о*шачка**, **хв*е*дар**, **п*е*тра-п*а*ўла**, **п*е*дрык**, **мур*а*шка-пумп*а*шка**, **матр*у*нка…** І шмат іншага!

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

***Малюнак Вольгі АЛЕЙНІКАВАЙ, 7 клас, гімназія № 25 г. Мінска***

● Дынамік

# Дуда ў року

## Стары Вох і ўсе, усе, усе...

**Барабан, дуда, добрая кампанія — вось асноўныя кампаненты, неабходныя сярэднявечнаму музыку і аматару фольку для камфортнага самаадчування і магчымасці хоць штосьці граць. Гэта датычыць як выканаўцаў у старажытныя часы (хоць дакладна мы не можам сёння сцвярджаць, але думаю, так яно і было), так і сучасных акустычных гуртоў, што граюць сярэднявечную музыку. Але, як ні дзіўна, сярод тых, хто захапляецца сярэднявеччам, збірае фальклор у глыбі Палесся, захоўвае пад ложкам наноў зробленыя ідалы Перуна і Вялеса, марыць пра адраджэнне ВКЛ, знаходзяцца «экспанаты», якія ведаюць, як граць на электрагітары, падключаць узмацняльнік і калонкі, а галоўнае — спалучаць элементы паганства, сярэднявечча, фольку з рокавым і электронным гучаннем. Гэтых прадстаўнікоў музычнай фаўны можна класіфікаваць па-рознаму: фольк-мадэрн, фольк-метал, фольк-рок, pagan-метал... Але класіфікуй, не класіфікуй — усё роўна атрымаеш адно: ДУДУ! Гурты Znich, Unia, раннія Weeping Twilight, Vicious Crusade (некаторыя рэчы), Osimira, «Камаедзіца» звяртаюцца да гэтага сакральнага для нас інструмента. Думаецца, з пералічанымі бэндамі няма сэнсу знаёміць чытачоў, таму звярнуся да падрастаючага пакалення гібрыдаў — гуртоў змешанага жанру новай генерацыі. Яны хоць і маладыя, але асноўную ісціну засвоілі добра. То бок, калі іх разбудзіць уночы, яны скажуць: без дуды не было б і нашага гурта.**

## Добры доктар Троль

Калі б музычныя каманды размнажаліся метадам пачкавання, то гурт Litvintroll можна было б смела назваць адпачкаваным дзіцём «Старога Ольсы» (яго стварылі бубначы Андрэй Апановіч і Сяргей Тапчэўскі), па шчырасці, не пашанцавала бацькам — гэтакае складанае дзіця. Ці, можа, дрэннае выхаванне? На сцэне вырабляюць незразумела што, паліваюць публіку вадой падчас фэстаў, выконваюць каверы на песні замежных гуртоў, кшталту Judas Priest, у цэлым, паводзяць сябе як сапраўдныя металісты. Самі хлопцы стыль сваёй музыкі называюць Rock'n'Troll. Пагадзіцеся, гэтакі пералік характарыстык выклікае шмат пытанняў. Каб знайсці на іх адказы, я звярнулася да Васі Верабейчыкава, Троля, які ў гурце грае на жалейцы, флейце, а галоўнае — дудзе.

**— У музыцы гурта сустракаюцца як новыя інтэрпрэтацыі беларускіх народных песень, так і замежныя фальклорныя матывы. Ёсць нейкі прынцып іх выбару?**



*Гурт «Літвінтроль».*
Фота Алега Белавусага.

— Фазы месяца, кірунак ветру, курс ены — шмат фактараў уплывае на гэты выбар. Не так даўно нас штурхнула ўзяцца за польскі фольк — зрабілі сваю версію польскай народнай песні «Ліпка». Хоць, калі браць матэрыял, што мы рыхтуем для новага альбома, большая частка там аўтарская, з народных толькі тая самая «Ліпка» і беларуская песня «Камарова смерць».

**— З надзейных крыніц паступіла інфармацыя, што сярод Троляў ёсць урач, дакладней, паталагаанатам. Гэты факт робіць музыку больш брутальнай?**

— Паталагаанатам увогуле вельмі філасофская прафесія. Увесь час разважаеш пра мізэрнасць існавання і сузіраеш сумны фінал жыцця. Якая тут брутальнасць? Наш добры доктар, хутчэй, прыўносіць у музыку складаную гармонію і ламаныя рытмы.

**— Добра, тады сур’ёзнае пытанне: месца дуды ў музыцы гурта?**

— Галоўнае, канечне! Якое яшчэ, асабліва калі на гэтае пытанне адказвае дудар. Дуда — інструмент, які саліруе, яе вельмі складана загнаць на другі план. Да таго ж гэта магічны інструмент — дуду так проста не заткнеш!

**— Вы зрабілі кавер на знакамітую песню Breaking the Law. Які law хочаце break сваёй музыкай?**

— Усё атрымалася выпадкова. Я ехаў на рэпетыцыю, а ў машыне граў Judas Priest. У студыі я пад уражаннем найграў пачатковы рыф Breaking the Law, а ўсе астатнія падхапілі. Так і атрымаўся кавер. Так што спецыяльна мы ніякіх законаў парушаць не хацелі.

А хаця, калі прыгледзецца, вельмі нават добрыя хлопцы. Адукаваныя, культурныя, можна сказаць, дарма што Тролі. За такіх выхаванцаў можа не саромецца нават іх дырэктар спадар Сасноўскі. Тым больш што на падыходзе — новы альбом. Кружэлка Rock’n’Troll з меладычнымі баладамі, народнымі песнямі і класічным хэві-металам парадавала не толькі беларусаў, але і замежнікаў. Таму чакаем! Можа, не ўсе, я дык дакладна!

## Куцця для козліка Бенедыкта

Іх называюць панкамі, псіха-фольк-гуртом, самі яны сцвярджаюць, што ў іх музыцы ёсць усе гэтыя рысы. Па-панкаўску хваляцца тым, што рэзалі рыбу на газеце, у якой пра іх пісалі, сцвярджаюць, што па духу ім блізкі гурт з сумнеўнай рэпутацыяй Bloodhound Gang. Але, нягледзячы на гэта, вядуць здаровы лад жыцця, вельмі любяць малако (нават падчас размовы са мной Вячка і Васіль



*Надзея Працько, гурт Раша.*
Фота Таццяны Сакаловай.

з задавальненнем, глыток за глытком, папівалі карысную белую вадкасць з літровых пластыкавых бутэлек). Іх, як сапраўдных панкаў, ужо на ўваходзе ў клуб ідэнтыфікуюць: «А, гэта тыя, яны нам сёння зноў устрояць!» Але псіхадэлічны аспект выдае першапачатковая назва гурта — «Куцця святога козліка Бенедыкта».

— Мы нават тэлефанавалі Зміцеру Сасноўскаму, каб сказаць, што пад такой назвай будзем выступаць на Калядным фэсце, — распавёў музыка гурта Васіль Саковіч. — Але ён не ўзяў трубку... Гэта быў ракавы момант. Магчыма, мы і цяпер былі б шырока вядомы як «Куцця святога козліка...», але тады давялося прыдумаць іншую назву. Сёння гурт называецца не менш міфічна і псіхадэлічна — «Кашлаты Вох». З усіх, хто ў нас пытаўся пра сутнасць гэтай назвы, дакладней, тое, хто такі Вох, толькі Дзяніс Сухі ведаў дакладны адказ. Таму, калі будзе цікава, запытайцеся ў яго.

— Мы так назваліся, каб было зручна на танцпляцоўцы скандзіраваць «Каш-ла-ты-вох», — дадае вакаліст і дудар Вячка Красулін.

Хто такі Вох, я ведаю (і сапраўды, калі вам цікава, запытайцеся ў Дзяніса Сухога, або пачытайце ў інтэрнэце), таму распавяду, што дазналася пра каманду з нашай кароткай гутаркі падчас сустрэчы «Дударскага клуба».

Спачатку «Кашлаты Вох» існаваў як акустычны гурт, граў народныя мелодыі, па сутнасці тое, што ўсе гралі. Потым шукалі арыгінальныя кампазіцыі, каб не быць падобнымі да іншых, пачалі граць з гітарай, басам і бубнамі. Некаторыя «старыя» песні перайшлі ў электрычнасць, некаторыя ўжо нарадзіліся самі. Альбома пакуль няма. Але, як сцвярджаюць хлопцы, матэрыял для яго ўжо ёсць. Таму чакаем!

Сапраўды чакаем, бо, па шчырасці, неяк крыўдна было, калі на іх першы сольнік прыйшло толькі 3 (!) слухачы. Дарэчы, у іх ліку была і я. Магчыма, іх сапраўды спужаў «гатычны дождж», ці шырокая публіка не разумее канцэптуальнасці музыкі і адметных паводзін на сцэне саліста гурта. Насцярожаныя гледачы падчас выступленняў нават пытаюцца: ці не ўжывае ён што-небудзь больш эфектыўнае, чым малако і нават піва? Не буду расказваць, у чым фішка, самі як-небудзь пабачыце, але Вячка свае паводзіны тлумачыць так:

— Я нічога амаральнага не раблю. У маіх паводзінах вінавата прапаганда папуляцыі грыбнікоў, таму яны безумоўна канцэптуальныя.

Ну як, заінтрыгавала? Далучайцеся! І дам адну параду, без якой вам складана будзе паразумецца з Вохам, дакладней, адагнаць яго. Калі ў вас з сабою ў момант сустрэчы з музыкам гурта ёсць малако ці хоць якія малочныя прадукты, адразу аддайце ім. Бо ўсё роўна выпрасяць. Ведаю з уласнага вопыту.

## Пава, арбайтэн!

Кіраўнік праекта Pawa дудар Юрась Панкевіч, больш вядомы як музыка з Testamentum Terrae, настойліва мяне запрашаў на рэпетыцыю новага гурта. Іх канцэртаў у Мінску пакуль не было, выйшаў альбом Pawa (дарэчы, даступны для спампоўвання на сайце кампаніі «Будзьма»), і сэнс майго наведвання быў у тым, каб я пачула, што жывое гучанне значна адрозніваецца ад альбомнага. І гэта сапраўды так! Я нават выявіла, што ў іх ёсць электрагітара, якой у альбоме зусім не чутно. А яшчэ (і гэта галоўнае!) — каб я ўпэўнілася, што песні выконваюцца ўжывую і гэта не проста рэміксы з альбома Angleza вышэйзгаданага Testamentum Terrae, а новая версія кампазіцый.

Вы ўжо напэўна здагадаліся, што мы зноў маем справу з «адпачкаваным» дзіцём, але тут нават «двайное адпачкаванне»: не толькі музыкаў, але і музыкі. На пытанне пра мэту стварэння праекта яго «бацька» Юрась Панкевіч адказвае проста:

— Таму што я дабіў. — І толькі потым дадае: — Мы вырашылі не проста «варыцца ў сваім супе», дзе вядомыя ўсе ўдзельнікі працэсу, а на канцэрты прыходзіць моладзь, якая захапляецца народнымі танцамі. Важна, каб музыка была даспадобы ўсім, каб простыя людзі адчувалі, што сучаснасць і мінуўшчына звязаны. Мне даўно хацелася граць такую музыку, а астатніх я ўсіх прымусіў.

Праект пазіцыянуецца як прынцыпова новы ў нашай музыцы. Так, былі рэміксы ў іншых гуртоў, але на гэты раз усё не так. Спачатку Testamentum Terrae грае сярэднявечную мелодыю ў звыклым акустычным гучанні, а ўжо пазней яе апрацоўваюць «электроншчыкі», і новы варыянт выконвае Pawa. І сапраўды, лагічна.

— Мы планавалі граць такую музыку ўжывую, — распавядае Юрась, — гэта была асноўная мэта. Цяпер рыхтуем праграму, рэпеціруем, і ў хуткім часе паспрабуем яе зайграць у «Дударскім клубе».

Нягледзячы на крытыку з боку знаўцаў музыкі, звычайным слухачам усё падабаецца. Крытыкі сцвярджаюць, што новыя варыянты песень — гэта рэміксы і што такое ўжо было. Панкевіч крыўдуе і кажа, што гэта наша беларуская рыса — ганіць сваё, а калі яно стане запатрабаваным за мяжой, наноў успрымаць яго як геніяльнае.

Як бы там ні было, працэс падрыхтоўкі ідзе. І нездарма ж Юрась на рэпетыцыях усіх дысцыплінуе гучным «Арбайтэн!» Думаю, вынік будзе. Станоўчы. Тым больш, што ад жывога выступлення і выпуклага, аб’ёмнага гучання сапраўды складваецца больш яркае ўражанне, чым ад пляскатага альбома. Ну і натуральна, дуда тут таксама на адным з першых месцаў. У прынцыпе, як і заўсёды. Гэта таксама беларуская рыса.

*Марына ВЕСЯЛУХА*

***Льготная падпіска для ўстаноў
Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;
падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.
Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.
Цана на 1 месяц — 8470 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся ДРОБАВА*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.04.2012. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,48. Тыраж 2497 экз. Заказ 1048. Кошт нумара ў розніцу 12 300 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**